№2 (93)
/сакавік-красавік/ 2018

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Ігар Сідарук



...Што ж рабіць цяпер з гэтым болем?
Што ж, каханая, так няўтульна?..

# Калі цябе няма...

* * *

Я цябе правяду, нібы восень,
Да ўскрайку апошняй алеі,
Дзе дубовы лісток вецер носіць
І запозненым паркавым госцем
Ціха гушкаецца на арэлях.

Я цябе пасаджу побач з ветрам
І засыплю калені лістотай,
Той, вільготнай, мядовай, адметнай,
Што звініць скрозь туман і сусветы
Ледзьве чутнай, шчымліваю нотай.

Я цябе пацалую, бы вечар,
Што крадком набліжаецца зноўку.

Ты засмучана, мілая, нечым?
Так нячутна ўздрыгваюць плечы...
..............................................................
І ні следу – на восеньскім золку.

* * *

Лёгкі дотык. Электрычнасць.
Італьянскі тэнар. Вочы.
Погляд, цёплы, фантастычны –
Прападзеш... І зноў захочаш

Вось так шчыра. Як ніколі.
Калі нават і дазволіць
Ты не можаш. Сёння ж воляй –
Адным пульсам б'юцца двое.

Адным рытмам. Да вынятку.
Да апошняй тонкай рэшты.
І духмянаю гарбатай
Ранак выдыхнем нарэшце.

* * *

Падаў снег. Толькі ты – зноў сыходзіла,
Ты знікала ў віхуры святла.
І круціла ў душы, карагодзіла,
Апякала жарынамі тла.

Апякала... аднак – зноў знікала ты,
У завеі аголеных сноў.
Ці чакаць цябе, дзеўчынку шалую?
Што на вусны – сняжынкі расталыя –
Без мяне ловіш зноў ты і зноў.

* * *

Лісце падала, лісце падала...
Днём халодным, у ветраны час –
Так татальна!.. І лёгка ўзгадваў я
Аб цябе... Толькі болей – пра нас.

Аб тых дзіўных, бы прывідных, шпацырах,
Дзе ёсць сонца, і дождж, і туман!..

Дзе ёсць двое, што крыху баяцца
Зблытаць шчырасць і горкі падман.

Толькі праўду з туманам – не зблытаеш;
Як не зблытаеш дотыкі рук –
Бы сшывае суровымі ніткамі
Нашы сэрцы вясёлы хірург.

* * *

*Н.В.С. прысвячаецца*

Я не прызнаюся табе,
У чым даўно бы мог прызнацца,
Чаму кусаю ноччу пальцы,
А днём – так лёгка мне ўсміхацца,
Я не прызнаюся табе.

Я не прызнаюся і ў тым,
Што так няўлоўна вее ветрам
Ад веек, строгасцю адметных,
І вусны пад пячаткай “вета” –
Нікім не чытанай газетай, –
Прызнанняў не пачуеш ты.

Я не прызнаюся ні ў чым!
Ні ў тым, што кожная гадзіна
Сплывае антарктычнай льдзінай,
Калі ты – недзе... І нідзе.
Ні ў тым, што нават колер неба
Мне без карысці і патрэбы,
І што па горла смокча глеба,
Калі сказаць “Як ты ж мне трэба!..” –
Бы расстраляць ўсё тое ж неба.
Прызнаўся. Сёння. Я. Табе.

* * *

А я цябе наяве бачу,
Нават калі цябе няма –
Ні ў снах, ні ў іншых нейкіх знаках;
Калі я сам. І ты – сама.

Так што ж! Мне бачыцца ўсё роўна,
Як мілы твар – цалуе дождж
І подых да цябе няроўны
Хавае ў вільгаці. Так што ж!..

Цалуй, мой восеньскі супернік.
Каб – аж у боль! Каб – аж у крык!
Бо ўсё на свеце так няпэўна:
Ляціць на піку рыцар верны!
Хоць папялушкай каралеўна
Стаць можа зноў. У кожны міг.

* * *

Ты вершы хавала на голае цела,
На скуры пісала рамана старонкі.
Што нельга вось так – разумець не хацела!
І ў неба ляцела – адчайна і звонка.

А потым спускалася зноўку на дахі,
Пакрытыя водарнай кававай пенай.
І казку вяршыла адзіным узмахам,
І вецер люляла ў сябе на каленях.

Я ж проста ў той дзень, праходзячы міма,
Прысеў сярод комінаў побач з табою.
І раптам адчуў, што адзіныя сны мы
Снім гэтай загадкава-горкай зімою.

І ты... нетаропка і так не адразу
Сур'ёзна паклала мне рукі на плечы,
Прамовіўшы ўслых адзіную фразу...
Твой сцішаны шэпт – пачуў толькі вечар.

* * *

Сумаваць па мне – будзеш?
А вершы чытаць – ноччу?
Ці нават пра тое забудзеш,
Як глядзеў я ў твае вочы?..

Неадрыўна... І ў іх – бачыў,
Што пабачыць ужо – немагчыма.
А цяпер, я што-небудзь значу,
Калі змрок і дажджы – за дзвярыма?

Хоць, урэшце, якая справа
Мне да думак тваіх розных?
Лепш звару сабе моцнай кавы,
Бо таксама сяджу позна...

Бо таксама слухаю вецер,
Які свішча самотна-упарта.
Дзе цяпер, на якім свеце
Мне шукаць... Ды толькі – ці варта?

Усё роўна не будзе болей
Ні арэляў, ні зор агульных.
Ні бяскрайняга, чыстага поля,
Ні той фільмы, дзе ў нас – свае ролі.
Ні нябёснага смеху “Даволі!”

Што ж рабіць цяпер з гэтым болем?
Што ж, каханая, так няўтульна?..

* * *

Ты была для мяне – птушкай белай,
А стала – чорным квадратам.
Так былі мы з табой – адным цэлым.
А цяпер – мне й аблок малавата

Без цябе. Без тваіх пацалункаў.
Скрозь траву і шум ветра. Скрозь пальцы.
Пайду ў поле – шукаць ратунку.
Над сабою наўзрыд смяяцца –

Хлапчанём вось такім бесталковым,
Пакахаў што так моцна дзяўчынку.
І дарыў ёй пяшчотныя словы...
І душу ёй дарыў безупынку.

І няхай прагучаць так банальна,
Бы на споведзі, з сэрца прызнанні.
Я прашу: зберажы нашу тайну.
Што самотнаю казкаю стане.
.......................................................
...Крываточыць зноў снег на світанні.

* * *

Прасіць цябе да мяне вярнуцца:
Нібы ўвосень рукамі – спрабаваць утрымаць на дрэвах лістоту,
Зімой у адлігі – прасіць снегу,
А ў сонечны сакавік – ручаі спыніцца.

Прасіць цябе падняць на мяне вочы:
Нібы дажджу загадаць зноў схавацца ў хмары,
Караням расці скрозь шкло ў цяпліцы,
Каршуну не падаць каменем у полі.

Прасіць цябе працягнуць рукі:
Нібы абрубленым канатам падпярэзваць кашулю,
Прарошчваць зерне на пякельнай патэльні,
Галоднаму малятку – замест вады даць ваты.

Прасіць цябе... Проста застацца.
Проста застацца і быць!
Як застаецца жыццё і сутнасць,
Якім толькі можа быць подых,
Якой можа быць наша еднасць,
І якім не можа быць наша расстанне –
Разагнаць цягнік і пусціць па смале без рэек,
Вадаспады маліць – адно пырскамі абярнуцца,
Сэрцам, кінутым на пагорку,
Загадаць пераліцца адно ў адно
Нашых іскрыстых вачэй азярынамі...
Азярынамі, якім – без нас з табой,
Холадна, бы на абледзянелым кітабойчым судне...

* * *

Я хацеў дастаць табе месяц з неба,
Разаслаць дзіўны ложак зорны.
Ты сказала ціха: “Не трэба.
Гэта толькі вобраз умоўны”.

Я гатоў быў кінуць пад ногі
Табе белых аблокаў квецень.
Ты ж узняла вочы так строга:
“Гэта казка. А мы ўжо не дзеці”.

Я хацеў табе ад свайго сэрца
Перадаць ўсе ключы і паролі.
Прапанову маю – пагрэцца
Адвяла ты: “Прыняць не дазволю”.

Я чытаў табе лепшыя вершы,
Ствараў мора – сярод пустыні.
Плакала ты: “Мілы мой! Ну, канечне!
Толькі ты – ані ў чым не вінен!..”

Я трымаю ў руках – дзве жарыны.
Гэта вочы твае. Што вуголлямі стынуць.

* * *

Ты вярнулася. Я заплакаў.
Ты пайшла... А я – засмяяўся.
Зноў Сусвет дасылае нам знакі,
Кружыць нас у загадкавым вальсе.

Растлумачыць якi немагчыма
Нi аракулам, нi гадалкам.
Зноўку коле нам пальцы шыпшына
Сярод дотыкаў, такiх палкiх!..

I абдымкаў, такiх пяшчотных –
Да трымцення, да зорнага звону,
Да дрыжання раскрытых аортаў,
Да падзення ў каньён бяздонны.

У бясконцую, ясную бездань,
Дзе па згодзе ўзаемнай – тонем,
Бы па згодзе на крыж сумесны,
Што яднае чароўнаю песняй –
Пад цвiкамi – нашы далонi.

* * *

Мы з табой патанаем ў тумане
Нашых лёгкiх, няўмольных пачуццяў,
Што нiбыта прыйшлi да нас самi,
Толькi мы iм сказалi: “Будзьце...

Заставайцеся. Пажывiце!..”
Як жыве на траве гэты iней –
Серабрыстыя, тонкiя нiцi
Тумановага павуцiння.

Як у лесе калышуцца дрэвы –
Так нячутна i так урачыста;
Нiбы наша адчайная вера
У туман, з яго подыхам чыстым.

Вера ў дотыкi нашы i словы
I ва ўсё, што сказаць – немагчыма.
Мы з табой патанаем нанова
У цалуючым нас светлым дыме...

* * *

Мы з табою зноў размінемся
Сярод снегу і вузенькіх вулак,
Сярод нот недапісанай песні,
Сярод крокаў сцішана-гулкіх.

Мы з табою зноў разбяжымся:
Ты – на поўнач, а я – на поўдзень.
Ты – за градам, а я – за лісцем,
Патанаючы ў карагодзе

Дробных спраў і сустрэч нязначных,
Мілых клопатаў шэра-будзённых.
Вось маляты гуляюць у мячык,
Вось у возеры – прыцемак тоне...

Вось бабулька збірае ў кошык
Дробнай жменькай – першыя зоры.
Размінемся мы зноў, харошая!..
І сустрэнемся ўжо – не скора.



Сяргей Рублеўскі



...да чаго рыхталіся,

тое і адбылося...

# Возны*

***Апавяданне***

Напрыканцы жніўня возны Віцебскага земскага суда Фёдар Альфяровіч трусіў на сваім кані па вузкай пясчанай дарозе, якая вілася сярод хмызоў уздоўж добра абмялелай гэтым летам Касплі. Учора ён атрымаў загад суддзі з'ездзіць ва ўрочышча Масілоўшчына ды наведаць Матыса Кізіка і Ганну Камар, паміж якімі колькі тыдняў таму ўсчаліся жорсткія звадкі і нават адбылася бойка паміж іх дваровымі людзьмі. Ганна падала на невыноснага суседа позву ў суд, а праз тыдзень у адказ гэта ж зрабіў

*Возны — судовая асоба ў судах Вялікага Княства Літоўскага. Выконваў функцыі судовага вестуна, пасланца, дазнаўцы, судовага выканаўцы і прыстава. Як дазнаўца возны сведчыў пабоі, крадзяжы, згвалтаванні і г.д. Яго запісы («рэляцыі») рэгістраваліся ў судовых кнігах, а на судовых пасяджэннях ён сведчыў аб убачаным і пачутым. Гэтыя рэляцыі і сведчанні вознага лічыліся важкімі судовымі доказамі. Як судовы прыстаў возны сачыў за парадкам у зале падчас судовага пасяджэння. За сваю працу атрымліваў узнагароджанне ў памеры, вызначаным законам.

і Матыс, і суддзя Багдан Гурскі, які добра ведаў жанчыну праз яе мужа, вырашыў даручыць вознаму папярэдне вывучыць справу на месцы, а калі патрапіць, дык і прымірыць незгаворлівых суседзяў.

Такі быў наказ суддзі, які меў асаблівую прыязнасць да Ганны Камар. Прыязнасць куды іншую, чым некаторыя знаныя шляхціцы, якія пазіралі на няхай сабе ўжо немаладую жанчыну як на звабную прыўкрасу свету. Вочы ж бачаць: зграбная фігурка, ганарлівая, што яшчэ больш распальвала, пастава, мілая, з гладка прычасанымі пад касцяны грабеньчык валасамі галоўка... А тварык! Роўна выцягнуты носік, з ледзь прыкметна прыўзнятым угору кончыкам – які ўспрымаўся зноў жа як знак калі не ганарлівасці, дык добра ўсвядомленай жаночай годнасці; вялізныя вочы, у блакітнай, з крыху зеленаватым адценнем прасторы якіх немагчыма было не патануць з ускружанай ад захаплення галавой...

Але Багдан на яе вабноты менш за ўсё звяртаў увагу. З нядаўняга часу Ганна стала для яго перш за ўсё непазбыўнай шчымлівай згадкай трагічнага выпадку.

Большасць прамінулага жыцця ён сябраваў з мужам Ганны, паважаным у грамадзе шляхціцам Рыгорам Камаром, які трагічна загінуў два гады таму на яго вачах.

Здарылася гэта на паляванні. Колькі знаных шляхціцаў з шырокага наваколля, апантаных паляваннем на вепрукоў, узялі было ў аблогу надзвычай вялікага секача, якога перад тым доўга высочвалі спрактыкаваныя ў гэтай справе сяляне.

Праз пару гадзін перасследу выкапнёвую зверыну ўрэшце прыціснулі да абрыву... Прымус быў неадольны: гайня ганчакоў, шмат вершнікаў з дзідамі, упартыя загоншчыкі...

Сякач, акружаны з усіх бакоў сабакамі, з глыбока ўвагнанай трапным ударам у карак дзідай, ужо прыкметна аслабеў і не так вёртка, як напачатку, выкручваўся ад іклаў сабак...

І тут Рыгор, які заўсёды быў смелым на паляванні, вырашыў, як потым высветлілася, усё ж дужа зарана, дабіць яго. Порстка, нібы дзяцюк, саскочыў з каня і праз колькі шпаркіх крокаў апынуўся каля звера. Але ўляпіць яму ў лабаціну булавой, якую для пасілення ўдару адчайны шляхціц трымаў аберуч, тым больш дастаць пасля гэтага з пахваў кінжал, каб засадзіць агаломшанаму зверу пад лапатку, ён не змог.

Сякач, узрушаны прадчуваннем смерці, з усяе астатняе сілы шырокім разваротам параскідаў сабак і нечакана кінуўся на Рыгора – увобміг збіў яго з ног і вялізнымі ікламі, як цесаком, распароў паляўнічаму нагу да самай пахвіны, а тады і жывот, дастаўшы да кішак...

Агаломшаныя шляхціцы адразу ж забыліся на паляванне, спешыліся і замітусіліся ў разгубленасці.

У апошнія хвіліны жыцця Рыгора Багдан сядзеў каля яго на зямлі, падклаўшы небараку пад галаву руку, і ў роспачы паціскаў сябраву далонь, якая пакрысе ўжо губляла цеплыню...

Перад паездкай у Масілоўшчыну суддзя не выказаў вознаму якога-небудзь пажадання адносна таго, як ладзіць разбіральніцтва, адно толькі сказаў:

– Вывучай усе абставіны спрэчкі грунтоўна. Не спяшайся, калі трэба, дык і другі дзень прыхапі, заначуй там, з раніцы галава святлейшая... Калі надарыцца, дык прыміры ты іх... Прымірэнне – найперш!

І што важнае сказаў? Усё вядомае.

***

Возны Фёдар Альфяровіч, нягледзячы на якія б там ні было сямейныя ці іншыя турботы, вельмі любіў выязджаць у аддаленыя ад цэнтра ваяводства мясціны і шкадаваў, што такія паездкі надорваюцца не так часта, як хацелася б.

Дарога яго зачароўвала... У няспынным руху неўпрыкмет робішся часцінкай наваколля, забываючы пра ўсё на свеце, нават пра сябе. Гэтаму спрыяў і борздкі конь вознага, які не чакаў панукванння, а сам пераходзіў на рысь, калі спрыяла дарога, а то і на больш шпаркі бег... Вершніку заставалася толькі аддавацца на волю свайго вернага паслугача ды азіраць краявіды.

Такіх паездак у вознага было няшмат – ішоў толькі дзявяты месяц, як яго на сойміку абралі на адказную судовую пасаду.

Яму яшчэ ў падрабязнасцях згадваўся першы выезд для разбіральніцтва на месцы адной, няхай сабе і не вельмі складанай справы. Тая паездка адбылася неўзабаве пасля пострыгу і прыняцця прысягі, і Фёдар быў усё яшчэ пад уражаннем той урачыстай запамінальнай дзеі.

Як было заведзена, пострыг яму ўчыняў сам ваявода Станіслаў Пацей, адмысловымі, добра навостранымі нажніцамі. Ён завіхаўся каля пасаджанага ў цэнтры залы на вялізнае дубовае крэсла Фёдара, нязвыкла нагадваючы сабой якога-небудзь стараннага прыслужніка. Спачатку спераду Фёдара, перад яго тварам, калі выстрыгаў валасы, якія трошкі навісалі над вачыма. Пры гэтым ваявода гучна прыгаворваў: «Каб бачыў кожную драбніцу!» Тады зайшоў з аднаго боку, з другога і выстрыг валасы над вушамі: «Каб чуў кожнае слова!»

Пасмачкі валасоў падалі на разасланае на падносе, які трымаў, падставіўшы пад рукі ваяводы, памочнік, палатно – гэта ж не смецце якое, што вымятаюць венікам, падае з галавы чалавека, які атрымаў высокі давер...

А яшчэ падчас той першай паездкі вознаму згадваліся словы з прысягі, якую ён з хваляваннем прамаўляў па пісанаму перад высокім сходам: «...каждаму патрэбуючаму без жадных змышленых вымоў і правалокі на патрэбы праўные ездзіці. Так мі, Божа, памажы, а еслі несправядліва – Божа, мі убі».

Тады словы тыя ўсё яшчэ стаялі ў вушах і вярэдзілі памяць, а выслоўе «Божа, мі убі» хоць і было прынята душой, усё ж такі трошкі страшыла.

Але гэта падчас першай паездкі. Цяпер усё было інакш.

***

Сялібы Матыса Кізіка і Ганны Камар месціліся непадалёк адна ад адной усцяж невялікай рэчкі Вымнянка. Суседзі ўсё жыццё жылі дружна, даволі часта разам учынялі якое святкаванне ды і проста ахвотна сустракаліся з розных нагодаў.

Усё змянілася пасля смерці Ганулінага Рыгора. Пачакаўшы год, Матыс пачаў настойліва заляцацца да прывабнай жанчыны. Спачатку далікатна: то прынясе рыбы, якую наловяць ягоныя дваровыя ў рэчцы, то прывязе з горада куплены ў заезджых гандляроў падаруначак, то сам прыйдзе пачаставацца смачным пірагом...

Аднойчы за такім пачастункам Матыс, мужчына відны, дужы, сказаў наўпрост, нібы нарэшце вялізны камень з дарогі адсунуў:

– Гануля, а давай прыб'ёмся адно да аднаго, аб'яднаем свае ўладанні

ды будзем жыць разам, як можам... Хіба ж гэта па-людску самотнікамі туліцца... І слоўца некаму сказаць...

У Матыса гадоў пяць таму памерла ад невядомай цяжкой хваробы жонка, дык ён і сапраўды ведаў, які горкі смак у адзіноты.

Ганна здрыганулася, як ад раптоўнага страху, нібы раней зусім не заўважала якой-кольвечы ўвагі да сябе Матыса і нават падумаць не магла пра магчымасць такой прапановы.

– Ну што ты сабе надумаў, пан Матыс! – праз колькі імгненняў схамянулася яна. – Хіба можам мы перад Богам свой лёс перайначваць... Як гэта памяняць сужанца... Я не магу... Мне і пасёння Рыгорка сніцца... Ды і дзеці ў нас, унукі... Не магу!..

Чалавек гарачы, Матыс анямеў, твар яго наліўся чырванню, у грудзях закіпела злосць, якую нельга было і пакрысе выпускаць на волю. Рашучы, упарты, загартаваны вайсковай справай, надзелены ад прыроды вялікай дужасцю, якая, здавалася, зусім непадуладная часу, а ён, дарэчы, гадоў на сем быў старэйшы за Ганну, Матыс не мог паверыць, што яму можна ў чым-небудзь адмовіць – дагэтуль жа дамагаўся ўсяго, што надумае.

Ад слоў Ганны ён перасмыкнуў плячыма, як ад нечаканай, ніколі нязнанай прыкрасці, пацёр далонёй лоб і сказаў:

– Шкада... Глядзі, каб сама не пашкадавала... – і больш ні слова.

Ён наогул не меў звычкі каго-небудзь упрошваць. Устаў з-за стала, паправіў капялюш, абцягнуў свой вузкі каптан, усё адно як красуючыся – паглядзі, які я гожы, і пайшоў.

***

З таго дня ў Ганны пачалося трывожнае жыццё. Матыс зноў і зноў назаляў ёй, нагадваючы пра сябе якімі-небудзь непрыемнымі захадамі, хоць і не самачынна, а праз сваіх падвучаных людзей.

А на сыходзе красавіка ў яго з'явілася, як ён лічыў, відавочная зачэпка для пераследу ўпадабанай жанчыны.

Зямельныя ўладанні суседзяў перасякала Вымнянка, звязваючы іх сваёй вузкай нітачкай. Мяжа паміж уладаннямі адпаведна праходзіла і праз рэчку, але ж бабры межаў не ведаюць! У гэты год яны абралі месцам свайго жыхарства акурат памежжа ўладанняў Ганны Камар і Матыса Кізіка, хутчэй за ўсё таму, што па берагах тут шчодра рос асіннік.

Звяркі зрабілі плаціну для абладжвання сваёй хаткі за які дзясятак крокаў ад мяжы суседзяў, на баку Ганны, і падпёртая вада разлілася, натуральна, вышэй па цячэнні, затапіўшы лапік зямлі Матыса. Апошнім часам даволі часта аглядаючы свае надзелы, асабліва на сутыку з зямлёй Ганны, Матыс неўзабаве заўважыў гэтае «абцісканне» сваёй жыццёвай прасторы.

Іншым разам ён бы і ўвагі не звярнуў на гэтую дробязь, але не цяпер, калі вышукваў розную зачэпку, каб хоць чым дапячы незгаворлівай жанчыне. А можа, ён проста не ўсведамляў, што хоча толькі зачапіць яе хоць якой дробязою, каб распачаць, няхай сабе і прыкрым чынам, змушальную размову. У любым жа выпадку можна будзе крадком паназіраць за ёю, пацешыцца яе вабнай прыгажосцю...

Матыс, з яго рашучасцю і цвёрдасцю, заўсёдным памкненнем да карысці меў у сваім сэрцы і мяккія, як нацваглая гліна, куточкі, дзе магло прытуліцца пяшчотнае пачуццё. Але цяпер ад злосці тыя куточкі зацвярдзелі, як тая самая гліна, толькі падсушаная спякотным сонцам.

Вечарам ён прыйшоў да Ганны і прывітаўся так посна, нібы абмылак праглынуў. Трошкі памаўчаў, ад чаго жанчына аж зніякавела, ды пачаў сваё:

– Ад тваіх баброў у мяне клопат вялікі...

Ганна, якая пасля таго, як адмовіла Матысу і адчула яго зласлівасць ды шкадлівыя намеры, наказала дваровым аглядаць яе ўладанні і дакладваць аб якіх-кольвечы пераменах. Дык пра бабровую плаціну яна таксама ведала, але не падала знаку:

– Якія такія бабры і чаму яны мае, гэтыя Божыя істоты?

– Як быццам не ведаеш... На тваім жа баку рэчку перагарадзілі, прыблуды, а мне шкоду ўчынілі – добры лапік зямлі затапілі, а там я прыгожыя дрэўцы наважваўся пасадзіць... – зманіў Матыс. – Так што загадай сваім людзям, каб разбурылі плаціну. І тэрмінова! Не даводзь мяне да злосці!

Ганна ўвобміг уцяміла, што зусім не бабры сталі прычынай заклапочанасці Матыса. «Гэта ён такім чынам, так па-вычварэнску працягвае дамагацца маёй згоды: за сталом пачаў і цяпер доўжыць... Калі саступлю хоць у якой дробязі, дык і пацягнецца ланцужок... Давядзецца ва ўсім саступаць...»

А Матысу сказала:

– Не будзе па-твойму! Не будзе!..

– Ну тады не наракай... – гэтаксама коратка і зноў з пагрозай адказаў той.

А назаўтра Матыс загадаў сваім людзям разбурыць плаціну.

Але для праніклівай Ганны гэты захад не стаў неспадзяванкай, яна яго, можна сказаць, прадбачыла.

І аднаму свайму ўвішнаму дваровому загадала знайсці сабе якую справу непадалёк ад бабровай плаціны, паціху корпацца там дзень ада дня ды пазіраць, каб не набрылі зламысныя суседзі.

А калі здарыцца тое, дык адразу склікаць людзей і праганяць нахабнікаў з зямлі гаспадыні.

Пры гэтым Ганна звадзіла свайго дваровага Еску на рэчку і паказала, дзе дакладна праходзіць мяжа яе ўладанняў. Свайму ж даверанаму чалавеку Сямёну, таксама з дваровых, яна больш поўна расказала пра магчымае зламысніцкае ўварванне падбухтораных людзей суседняга пана...

***

Да чаго рыхтаваліся, тое і адбылося.

Дваровыя Матыса, якіх здалёк заўважыў Еска, не тоячыся ішлі да плаціны даволі вялікай гаманкой чарадой, штосьці на хаду абмяркоўваючы, смеючыся ды махаючы рукамі... Быў акурат паўдзён, сонца шчодрылася зыркімі промнямі.

Еска, як толькі ўбачыў прыхадняў, бягом кінуўся паведамляць пра іх гаспадыні.

Крутануўся на двары на адной назе і на загад Ганны пабег назад да рэчкі бараніць яе ўладанні, ды не адзін – следам за ім кінуліся дваровыя сяляне на чале са Сцяпанам.

Іх рашучасць красамоўна сведчыла аб ваяўнічасці намераў, да таго ж некаторыя мужчыны беглі з падхопленымі на хаду дрынамі...

Тым часам людзі суседняга пана стоўпіліся на беразе і пакуль што назіралі, як адзін хлопец з іх чарады ўзышоў на плаціну, сагнуўся і, сяк-

так трымаючыся ў раўнавазе, пачаў разграбаць паміж нагамі свежы глейкі бруд, перамешаны з галінкамі і асакою, ды адкідваць яго ў бакі...

Абаронцы ж бабровай пабудовы, якія неўзабаве падаспелі на бераг, не губляючы часу на брахлівыя воклічы, счубіліся з набрыддзю ў гарачай бойцы.

І ўсё б нічога: ну памахаліся паднявольныя людцы за сваіх паню і пана кулакамі, ці ж гэта здарэнне вялікае, калі б не прыкрыя наступствы той сутычкі.

Адзін дваровы Ганны быў так знявечаны, што доўга не мог узняцца з ложка, другі пры хадзе цягнуў пашкоджаную нагу, Еску скасабочылі нос... Не менш жорстка былі пабітыя і некаторыя дваровыя Матыса.

Дзіўна, усё адно як апантаныя воі, сышліся няшчасныя ў жорсткай бойцы...

***

Пра ўсё гэта збольшага ведаў возны Фёдар Альфяровіч з позваў Ганны і Матыса, а таксама з роспытаў знаёмых шляхціцаў.

Пад'язджаючы да Масілоўшчыны, ён зноў згадаў выказанае яму на дарогу пажаданне суддзі як-небудзь прымірыць варагуючых суседдзяў. Возны і сам ведаў, што ў выпадку, калі ў судовую справу ўплецены юр, жарсць кахання ці якое іншае моцнае сардэчнае пачуццё, вузельчык проста не разблытваецца, не развязваецца і нават рассякаецца з цяжкасцю. Развязваецца ён хіба што пры дапамозе і згодлівым удзеле тых, хто яго з усяе сілы зацiснуў. Фёдар ведаў гэта не столькі са свайго возніцкага досведу, колькі з досведу жыццёвага. Ён жа быў ужо сталы мужчына, меў за плячыма амаль сорак гадоў, сцвердзіўся як галава даволі вялікай сям'і, бацька чатырох дзяцей...

Дык і вырашыў дзейнічаць абачліва і як мага больш далікатна.

***

Апоўдні Фёдар Альфяровіч пад'ехаў да дома Ганны Камар, спешыўся каля высокай брамы і прывязаў каня. У акуратна адгароджаным дальнім куце двара Рыгоравы ганчакі, утомленыя бясконца доўгім чаканнем палявання, сустрэлі Фёдара лiслівым завываннем, бо ўнюхалі ў яго вопратцы пахі хмызовых і лясных нетраў.

– Вось зноў паманіліся сваёй неадольнай звабай... – з усмешкай сказала Ганна, якая выйшла на ганак і, як са старым знаёмым, пачала размову з Фёдарам, а потым ужо прывіталася. – Вось такая мая звяглівая і балючая памяць пра мужа... І пазбавіцца ад яе, каму-небудзь перадаць сабак не магу. Гэта ж усё адно як трошкі забыць яго...

– А ты мяне згадала, пані Ганна?

– Як жа не згадаць, у судзе ж сустракаліся. Возны Фёдар... – і яна запнулася, згадваючы прозвішча.

– Альфяровіч...

– Але ж... Ну заходзь у дом, званы госць.

І яны зайшлі. Кухарка сабрала на стол, выставіла на вялізнай талерцы свежы пірог (здаецца, пірагі не пераводзіліся ў гэтым доме) і прыемнага смаку напой на травах, засалоджаны мёдам.

Размова напачатку амаль зусім не тычылася справы, хіба што ўскосна.

Здавалася, да Ганны прыехаў не возны земскага суда, а даўні добры знаёмец. Суразмоўцы распавядалі адно аднаму пра знаных шляхціцаў і шляхцянак, Фёдар расказваў пра апошняе пасяджэнне сойміка, іншыя падзеі... Яны ўсё адно як наўмысна не спяшаліся пачынаць для абаіх цяжкую размову. Але неўзабаве, пакрысе і няўзнак, усё ж пачалі яе.

Фёдар падрабязна распытваў пра розныя, важныя, на яго погляд, акалічнасці нечаканай варажнечы. А тады на двары пагутарыў з удзельнікамі «міжусобнай» бойкі і папрасіў Ганну схадзіць з ім на рэчку, каб на свае вочы пабачыць баброваю плаціну і адпаведна – злашчаснае месца.

Калі яны па добра натаптанай сцяжыне пайшлі да плаціны, Фёдар азірнуўся і ўбачыў, што двое дваровых, вядома ж, на неўпрыкмет аддадзены загад Ганны, нясуць услед за імі шырокую лаўку. «Што яна ўдумала? Няўжо сабралася ўсесціся ды любавацца балацінай? А можа, мне масціць спрабуе?» – падумаў возны, але нічога не сказаў. І неўзабаве даўмеў, што лаўка можа паспрыяць выкананню і яго толькі што саспелага плана.

– Сядайце, пан Фёдар. Паглядзіце, які гонкі сасоннік узняўся правей ад узгорка, вунь там, трошкі далей! Я за ім назіраю, на маіх вачах, здаецца, расце...

– Ты часта сюды прыходзіш, пані Ганна?

– Даволі часта. І не пасля таго пачала прыходзіць, як Матыс заўважыў плаціну, а даўно. Тут прыемна думаецца, згадваецца нашае з Рыгорам мінулае... – Ганна перасмыкнула плячыма.

– А загадайце сваім людзям вогнішча распаліць... Каля агню ж утульна, як дома ўсё адно... – сказаў возны.

Тым часам ён зноў і зноў пазіраў на плаціну, імкнуўся заўважыць хоць якія сляды нядаўняга, учыненага людзьмі Матыса, разбурэння, але нічога не заўважаў – бабры спрэс замасцілі яе свежым глеем і тонкімі галінкамі, нібы так і было.

Калі вогнішча, аблізваючы яловыя галінкі, абудзіла іх жвавенькі трэск, а шапатлівае полымя стала абдаваць суразмоўцаў, якія ўжо сядзелі на лавачцы, цёплымі лагоднымі хвалямі, возны сказаў:

– Пані Ганна, а пашлі ты каторага свайго чалавека з дваровых, які не ўдзельнічаў у бойцы, па Матыса. Нам жа трэба і ўсім разам пагаварыць, удакладніць сёе-тое, абмеркаваць, гэта ж перадсудовае разбіральніцтва... Законам прадугледжана...

Здагадваючыся, што Ганне і думаць непрыемна пра такую сустрэчу, возны адразу пачаў даводзіць аб яе судовай непазбежнасці: маўляў, падалі позвы, дык майце трывушчасць прайсці да канца па выбранай сцяжыне...

Фёдар беспамылкова прадчуваў магчымыя пачуцці жанчыны.

Ганна сцялася, сціснуўшы свае пульхныя вусенкі:

– Нялюба мне ўсё гэта, прыкра... – толькі і сказала.

Але вымушана была прыняць захад вознага.

Фёдар наказаў пасланцу абавязкова давесці Матысу, што гэта менавіта ён, возны, выклікае яго па судовай справе.

***

І неўзабаве Матыс прыйшоў. Высокі, зграбны, здавалася, і на драбок не прыгнечаны прыкрасцю абставін, але пахмурасць ды насупленасць усё ж сведчылі аб устрывожанасці яго душы.

Ён парукаўся з Фёдарам, а Ганне не сказаў ні слова, толькі скоса глянуў. Праўда, раптам змякчыўся:

– А што гэта вы вогнішча расклалі, з якой нагоды? Вечаровы морак яшчэ не насунуўся, на двары цёпленька...

– Гутарыць весялей... – сказаў Фёдар і пасунуўся да Ганны, каб прапанаваць Матысу сесці з краю. Але той адмовіўся, толькі пераступаў з нагі на нагу, не ведаючы куды сябе дзець.

– Вось прыехаў з позвамі вашымі папярэдне разабрацца. Не хочацца справу да суда даводзіць...

– Я сам па сабе! І ў суд звярнуўся ў адказ, на выклік нечакаканы... Толькі і не хапала мне судовага валаводжання...

– Але ж людзей у бойцы звялі...

– Ізноў жа не мая віна, – стаяў на сваім Матыс. – Гэта ж пані Ганна ўсё пачала...

Жанчына маўчала, сядзела, нібы скамянеўшы. Толькі ледзь прыкметна здрыганулася, пачуўшы сваё імя. Яна здзівілася, што Матыс прамовіў яго без злосці, нават мякка і прыцішана.

Звярнуў увагу на гэта і возны і трошачкі ўзрадаваўся, але на якое імгненне. Бо ён ужо зразумеў, што размова надалей не заладзіцца і што сам у гэтым часткова вінаваты, бо павёў яе наўпрост, у лоб, а трэба было б здалёк падступацца. Дык вырашыў трошкі перамяніць яе. А перад гэтым усё ж пачаў дамагацца, каб Матыс прысеў на лаўку – няхай яна хоць трошкі аб’яднае зацятых у варажнечы людзей.

– Агонь жа, пан Матыс, любіць, калі вакол яго сядзяць людзі ці яшчэ лепш – прылягуць на бок, як бывае на паляванні... – Фёдар гатовы быў укусіць сябе за язык за гэтае неабачліва прамоўленае, балючае для Ганны слова, але што зробіш – вылецела...

– Як службовы чалавек прашу цябе, прысядзь побач. Мне ж зручней гаварыць будзе, – пайшоў на хітрыкі возны і такім чынам уламаў ганарліўца. Няхай сабе з неахвотай, Матыс, цяжка ўздыхнуўшы, прысеў на самы край лаўкі.

– От жа бабры, дзіўная зверына! Калі ўдумаюць, дык і без выраку падкаморскага суда паселяцца на чужым надзеле... А можа, гэта ім Гасподзь дазваляе, – паспрабаваў пажартаваць возны, але Ганна і Матыс і слоўцам не адгукнуліся.

– У мяне быў такі выпадак, – доўжыў Фёдар. – Аднойчы познім вечарам па дарозе спыніўся перадыхнуць на беразе рэчкі, ды і затрымаўся. Вогнішча, як мы цяпер, расклаў, задумаўся... А, як неўзабаве высветлілася, спыніўся я непадалёк ад плаціны тамтэйшага бабра. Дык ён, невядома як учуўшы мяне, раптам пачаў гучна шлопаць сваім хвастом-лапатай па вадзе, пужаць: маўляў, сыходзь адсюль, гэта мае ўладанні, не ўздумай рушыць маю хатку... А ў вас такога не бывала?..

– Не хапала мне клопату за babрамі цікавацца... Гэта ты ў пані Ганны спытайся, яна ж, як мне паведамілі, да плаціны часта прыходзіць, асабліва апошнім часам, – кпліва сказаў Матыс.

– Прыходжу! – дзёрзка, з выклікам сказала Ганна. – І бачыла такое. Аднойчы бабёр нават галінку, падчапіўшы на вадзе сваёй лапатай, умудрыўся ў мой бок шпурнуць. Але гэта было да таго, як зласліўцы памкнуліся разбурыць яго плаціну... – не прамінула ўставіць шпільку жанчына.

Фёдар Альфяровіч анямеў ад разгубленасці: толькі што, як вясновая пупышка, пачала завязвацца няхай сабе ўсяго толькі пазнака пачуццёвага збліжэння, і тут на табе – такое ахалоджванне, ды яшчэ, як падалося вознаму, ганарліва-задзірлівае. Хоць, можа быць, зусім ненаўмыснае, неўсвядомленае. Што рабіць, калі людзьмі кіруе зацятая, да гарачыні разагрэтая пыхлівасцю сварка...

Усе замоўклі. Возны, каб хоць чым перабіць свой канчаткова сапсаваны настрой, узяў палку і пачаў падварушваць вуголле ў прысаку. Устаў, каб зрабіць колькі крокаў, і на лаўцы, трошкі разгубленыя, бо адчулі яго маркоту, засталіся сядзець па краях, як каменныя стоды, Матыс і Ганна.

Фёдар, усё яшчэ стоячы перад сваімі панылымі суразмоўцамі, спытаўся ў Матыса, ці такую ўжо вялікую шкоду ўчынілі яму бабры, маўляў, калі паглядзець адсюль, дык не надта каб...

– Зямелька для мяне тут дужа каштоўная, усё адно як душу прытапілі... – з сумам у голасе адказаў той.

Пасля гэтага зніякавелы возны выказаў жаданне пагутарыць і з яго дваровымі, а тады развітаўся з Ганнай, і тая нарэшце прыязна ўсміхнулася яму сваёй звабнай усмешкай...

І яны пайшлі.

Па дарозе Фёдар, які ўжо вырашыў не ехаць нанач дамоў, папрасіў у Матыса дазволу пераначаваць у ягоным доме і дужа ўсцешыўся, калі ў адказ гаспадар сказаў, што будзе вельмі рады такому высокаму госцю... Апроч звычайнай ветлівасці, у гэтым адказе возны ўбачыў і маленечкі крок да магчымага прымірэння суседзяў. Такія «крокі» ён гатовы быў бачыць у кожным шчыра прамоўленым прыязным слоўцы... «Ад такіх слоў не толькі мая, але і душа зацятага ў якой-кольвечы варажнечы чалавека памякчэе, зробіцца больш падатлівай», – падумаў ён.

***

На двары ў Матыса возны найперш сустрэўся з яго сялянамі, якія памкнуліся былі разбурыць плаціну. Але нічога новага ад іх не дазнаўся: пан загадаў, пан напуціў, аніякага зламыснііцтва ў нас не было, біцца не хацелі, прыйшлося абараняцца... Фёдар з прытоенай, амаль незаўважнай усмешкай слухаў іх і быў задаволены, калі Матыс паклікаў яго ў дом.

– Павячэраем трохі...

Сонца было яшчэ высакавата, але ж гасцінную вячэру можна пачынаць і ў паўдзён і доўжыць яе да ночы...

Усё для гэтага было прыладжана: кухар паставіў на шырокі доўгі стол толькі што згатаваныя стравы, якія сыходзілі парай. Было відаць, што Матыс, усё адно як загадзя ведаючы намеры markознага, загадаў свайму служцы добра падрыхтавацца да сустрэчы.

У цэнтры стала на вялізнай керамічнай талерцы ляжаў запечаны на ражне, добра падрумянены кумпяк казулі, побач – паляўнічы нож з прыгожымі тронкамі і вялізны відэлец. У асобныя, глыбейшыя талеркі былі пакладзены гарушкамі скрылі паранай рэпы, якую дужа любіў Матыс, у місе патыхала духмяным лясным пахам, хутчэй за ўсё ад ядлоўцавых ягад, падліва. На разасланым рушніку ляжалі, дарма што крышку зачарсцвелыя, але ж па-ранейшаму смачныя, з каляндрай скібкі хлеба...

Што яшчэ мужчынам трэба, тым больш, калі кухар прынёс на падносе

са склепа вялізны карэц медавухі, чарпак да яго і два ёмкія керамічныя кубкі! Запатнелы з холаду карэц, патрапіўшы пад подых агменю, непадалёк ад якога месціўся стол, хутка пакрыўся буйнымі кроплямі, якія марудна спаўзалі на абрус.

Матыс і Фёдар селі за стол і ўзнялі кубкі.

– За згоду паміж усімі людзьмі! – сказаў, хітра прымружыўшы вочы, Фёдар.

– Ну ты ўсё адно як на сойміку прамаўляеш... – усміхнуўся Матыс, але ці то ў знак падтрымкі, ці то проста з вялікай ахвоты доўгімі глыткамі асушыў кубак да дна, чым адразу парадаваў вознага.

Пасля другога ці трэцяга кубка, хто ж іх лічыў, куды больш вольна пацякла-палілася размова. Гаварылі аб усім, але атрымлівалася, што ўскосна ці наўпрост – усё больш пра Ганну.

– Далася табе тая зямля, пан Матыс! У цябе ж такія ўладанні, а тут лапік, як каптаном накрыць... – гнуў у свой бок возны.

– Як быццам ты не ведаеш, што не ў бабрах справа! – сказаў Матыс. – Праваліся яны скрозь зямлю, тыя бабры са сваёй плацінай... Ганна мне спакою не дае... Хіба не ведаеш? Як гляну ў яе вочы, дык і на блакіт нябёсаў не хочацца галаву ўзнімаць. Абое ж самотнікі, ну чаму б не сысціся ды не жыць разам. Старасць неўзабаве агорне, а там і смерць на падыходзе, яна ж не затрымліваецца... Вады цёплай рукой ніхто не падасць...

– Хто ж іх зразумее, гэтых жанчын... – крыху падыграў яму Фёдар, але адразу ж прамовіў: – І тое трэба ўлічыць, пан Матыс, што жанчына не кабылка слухмяная, на якую можна лёгка аброць накінуць...

– Якую аброць... Хіба я вінаваты, што натура ў мяне грубаватая, як сябры-шляхціцы кажуць... Проста думаю, шчыра, без віхляння, як некаторыя, кажу...

– А яна мужа забыць не можа...

– Ведаеш, Фёдар, я, мусіць, пакахаў Ганну, – даверліва прызнаўся захмялелы Матыс. – Думаю ўвесь час пра яе. Сэрца свайго не чую. Здаецца, пуста ў грудзіне, толькі холад і боль там загнездаваліся...

На гэта возны не знайшоў што сказаць, толькі прапанаваў зноў выпіць.

Яны кубак за кубкам пілі медавуху, і вечар, як заўсёды бывае падчас бяседы, насунуўся незаўважна, падступіўшы да вокнаў імглістым моракам. Але дастаткова было святла агменю, у які дваровы зноў і зноў падкідваў бярозавыя цурбачкі. Фёдар падумаў, што агмень Матыс, мусіць, загадаў распаліць нездарма, такім чынам ён як бы падтрымаў ад вогнішча Ганны яго, вознага, жаданне размаўляць і дамаўляцца. Так яму здавалася і хацелася, каб так і было насамрэч.

– А можа, пан Матыс, лепш за ўсё патрываць, перажыць як-небудзь гэтае насланнё, здаволіцца добрымі адносінамі з гожай суседкай, а далей неяк развіднеецца...

– А што рабіць, трэба жыць... – прымірэнча сказаў Матыс.

Яны прагаманілі добрую частку ночы і, змораныя стомай і медавухай, ненадоўга прыснулі, на які адзін кароценькі сон...

Неўзабаве пачало світаць, абое ж суразмоўцы здавён прызвычаіліся пры любых абставінах уставаць з сонцам. Да таго ж іх душы напаўняла трывога, якая, як вядома, ніколі не спіць. Фёдар думаў, з якім расповедам аб паездцы пойдзе заўтра да Багдана Гурскага, бо вырашыў больш не доўжыць свае ўгаворы – куды ўжо... А ў Матыса ныла сэрца.

Нягледзячы на шчырае запрашэнне гаспадара, калі ўсталі з ложкаў, зноў сесці за стол, возны адмовіўся і пачаў збірацца ў дарогу. Але што там збірацца: сеў на каня – і гатовы.

Ён падзякаваў Матысу за гасціннасць і на развітанне мацней, чым звычайна, паціснуў яму руку.

Выязджаючы з двара, Фёдар азірнуўся, і гаспадар, які стаяў на ганку, развітальна махнуў яму рукой: маўляў, едзь з Богам, усё будзе добра... Так падалося вознаму, і ў адказ ён кіўнуў Матысу галавой.

Па дарозе Фёдар заехаў да Ганны і папрасіў яе быць трошкі мякчэйшай у адносінах з суседам... Развітаўся і выправіўся ў дарогу.

***

З суддзёй возны сустрэўся толькі назаўтра раніцай – перад гэтым той быў дужа заняты, так што Фёдар вырашыў не турбаваць яго, да таго ж і сам не хацеў спяшацца з расповедам аб паездцы, ды і «з раніцы галава святлейшая...»

***

...Багдан Гурскі слухаў яго вельмі ўважліва, не перабіваючы. Дакладны Фёдар у сваім расповедзе стараўся не ўпусціць і якую драбніцу. Гаварыў і трохі баяўся, што не патрапіць, не дагодзіць строгаму суддзю. А калі скончыў, дык чакаў «прысуду», стаіўшы дыханне.

І на табе – твар суддзі раптам асвяціўся ветлай усмешкай:

– Ну і хітрун ты, пан Фёдар, ну і хітрун! Гэта ж трэба было даўмець так асцярожненька, так далікатна набліжаць людзей адно да аднаго... Малайчына!

Так лёгка ўзвышанаму Фёдару захацелася сказаць у адказ што-небудзь прыемнае, але ён чамусьці змусіў сябе змаўчаць. Да таго ж твар суддзі на вачах зноў займеў звыклы строгі выраз.

– Як ты думаеш, ці паміраццa яны? – спытаў Багдан Гурскі.

І, не дачакаўшыся адказу, сказаў:

– Калі не, дык буду на судзе змушаць гэтых гаротнікаў да згоды...

Возны Фёдар Альфяровіч выйшаў з пакоя суддзі і, зніякавелы ад заблытанасці сваіх пачуццяў, пастаяў у разгубленасці: Гурскі пахваліў за работу, сказаў добрае слова, чаму б не парадавацца?.. Але душу яго ўсё адно ахінаў невыказны сум, бо ў думках у яго аніяк не атрымлівалася канчаткова памірыць Матыса і Ганну.

Уладзімер Арлоў



...вадалазы знайшлі
чаравік і мандарынавы шалік...

# Гвірабі

***Грузінская балада***

ვოლი დანი თემო

***1***

царыцу звалі Тамара
Руставелі напісаў за Тамарай
*Рыцара ў тыгровай шкуры*
Грузія прысвяціла Руставелі
купюру 100 лары
царыцы Тамары Грузія прысвяціла
купюру 50 лары
паэты цэняцца даражэй за царыц
магчыма і за цароў
цары маюць іншую думку
царыца Тамара не пакрыўдзілася
будавала храмы фартэцы масты

самы славуты мост Махунцэці
рака Аджарысцкалі паблізу Батумі
даўжыня моста 29 метраў
вышыня шэсць
шырыня два з паловай
уся праблема ў шырыні
не дошка над безданню
але ніякіх парэнчаў

***2***

нарвежца звалі Кнут
звычайнае нарвежскае імя
вее салёным ветрам
хваёвай смалой
прозаю Кнута Гамсуна

Кнут марыў прыехаць у Грузію
здзяйсненне мараў
заўсёды дыхае небяспекай
Кнут здымаў даліну Аджарысцкалі
рака пасля залеваў
колеру мандарынаў на горных схілах
вірлівая каламуць
вочы шалёнага звера

Кнут забыў пра парэнчы
не меў трэцяга вока
на мосце Махунцэці
застаўся заплечнік
колераў нарвежскага сцяга
пад скалой чырвоная машына
грузінскіх ратавальнікаў

тваіх спадарожнікаў завуць Ольга і Заур
аджарскі паэт Заур
кропля ў кроплю
сябар твайго дзяцінства
Вова Цымерман
грузінская паэтка Ольга
залацістая бландзінка
зялёныя вочы
была б сваёй у полацкім Задзвінні
у Батумі ты спытаў Ольгу
можна я стану
тваім серабрыстым грузінам?
грузіны ўжо былі
*а нос у тебя похож на хинкали*
кіроўцу чырвонай машыны завуць Тэма
твар інтэлектуала

постаць не для сустрэч у цёмным завулку
Тэма дыміць электроннай люлькай
Тэма цмок з вокладкі
тваёй дзіцячай кніжкі кітайскіх казак
ты баяўся цмока
прыціскаў кніжку падручнікамі
цмок усё адно вылазіў у твае сны
якія шанцы Тэма?
Тэма ахутваецца дымам
зараз выкліча дванаццаць
прыдворных мандарынаў

пад скалой відаць заплечнік
колераў нарвежскага сцяга
у заплечніку чакаюць Кнута
дакументы
вясло чурчхелы авечы сыр
арэхі *дамскія пальчыкі* віно
Тэма запомніў: чырвонае віно *Гвірабі*
каб не забыцца ты складаеш вершык
*Гвірабі п'е самотны рабін*

*прыгожая мова* амаль без акцэнту
выдае цмок Тэма
ты хочаш купіць *Гвірабі*?
калі ты знойдзеш *Гвірабі*
выпі за яго
Тэмаківае на мандарынавую раку
што такое *Гвірабі*?
цмок Тэма круціць агністымі вачыма
тунэль! *Гвірабі* старажытны тунэль

***3***

увечары ты раскладаеш вогнішча
Тэма дыміць мацней за вогнішча
Беларусь краіна цмокаў
Грузія краіна цмока Тэмы
добры цмок Тэма прыносіць
хатняга віна
паэтка Ольга дастае ўлюбёны сулугуні

Тэма доўга глядзіць на агонь
Тэма: у Індыі ёсць горад Варанасі
кожны індуіст марыць
пасля смерці згарэць у Варанасі
на беразе святарнага Ганга
паэтка Ольга ведае пра Варанасі:

ніякіх рэінкарнацый
імгненна трапляеш у нірвану
праўда нельга паліць
целы манахаў
дзяцей
хворых на праказу
цяжарных
паэт Заур нечакана: ты не цяжарная!
паэтка Ольга: я жывая!
адказ вычарпальны

ты не цяжарны
не манах не хворы на праказу
зараз ты хочаш каб цябе спалілі
лепей на беразе Дзвіны
паэтка Ольга: якое прыгожае імя
*Дзві-на*
амаль грузінскае
добры цмок Тэма прыносіць хатняй чачы
*калі ласка*
у чырвонай машыне
хтосьці вучыць Тэму беларускай мове

апоўначы ты лезеш у спальнік
паэтка Ольга кладзецца побач
паэт Заур ідзе ў сваю *Аўдзі*
над вамі плыве грузінскае неба
грузінскія сузор'і складаюцца
у літары грузінскага алфавіту
проста над табой літара ო
ты яшчэ не ведаеш якая гэта літара

паэтка Ольга перабірае твае пальцы
лічыць пальцы нібыта ты марсіянін
нібыта ў цябе дваццаць сем пальцаў
два хвасты і чатыры вокі
у валасах паэткі Ольгі
дымок з нашай галактыкі

у сне ты шукаеш не паэтку Ольгу
ты шукаеш нарвежца Кнута
у мандарынавай вадзе відаць
толькі яе манадарынавы колер
у Кнута быў такі самы шалік
на беразе Кнут Гамсун
у абдымку з Адольфам Гітлерам
наперадзе пашча тунэлю

ты заплываеш у пашчу
як Ёна ў чэрава левіяфана
у непрасвяцімым чэраве гукаеш:
*Кну-у-т! Кну-у-т!*
тунэль адказвае
*Гві-ра-бі-і*

***4***

цябе будзіць яшчарка
у яшчаркі зеленкаваты жываток
Ольга кажа: дзяўчынка
у яшчаркі гагатавыя вочкі
на патыліцы цёмная плямка
трэцяе вока кажа Ольга
трэцяе вока бачыць два колеры
сіні і зялёны
трава і неба

Тэма дыміць як два кітайскія цмокі
яшчарка не баіцца дыму
Тэма варыць каву пытаецца
ты быў у Кітаі?
Тэма таксама не быў
чаму пытаешся Тэма?
Тэма ахутваецца дымам:
ты ведаеш трэцім вокам
яшчарка бачыць не толькі траву і неба
трэцім вокам яшчарка бачыць сутнасці

Заур прыносіць хачапуры па-аджарску
па-аджарску значыць з разбітымі яйкамі
вырачаныя вочы хачапуры
колеру ракі Аджарысцкалі
вочы глядзяць на цябе з пагрозай
Тэма ківае на раку быццам вы паплывеце
што ў вас у Батумі?
паэтычны пленэр
*понимаю* кажа Тэма
*очень много поэзии очень много вина*
ці запомніў я назву?
*Гвірабі п’е самотны рабін*

вас праводзяць
мандарынавая рака Аджарысцкалі
цмок Тэма і яшчарка
Тэма гаворыць з яшчаркай
называе яшчарку яе казачным імем

**5**

ваш гатэль пахне віном кавай
легалізаванай траўкай
гатэль маленькі несучасны
гаўбцы тэрасы галерэя лёгкі водар чачы
на тэрасе камендант пленэру Давід
ты з цяжкасцю верыш, што ў філіжанцы кава

Давід выдае на каго заўгодна
толькі не на грузіна
на папуаса з Новай Гвінеі кажа Давід
такія ледзь не засмажылі
вучонага Міклуху-Маклая
не было там Давіда

ты хочаш гісторыю
з яе барадаўкамі і ранамі?
любая дамова з Расеяй
не каштуе паперы на якой складзеная
Аляксандр I падцёрся
Георгіеўскім трактатам
Давід пераканаўча паказвае
як Аляксандр I падцёрся

ты ведаеш храм Метэхі?
яму 1500 гадоў
ты ведаеш яны зрабілі там турму
яны збівалі грузінскія фрэскі
у Давідаву філіжанку капаюць
буйныя грузінскія слёзы
ты ведаеш яны забаранілі
гаварыць па-грузінску ў школах
Акакія Цэрэтэлі
білі ў гімназіі па руках лінейкай
Давід дадае ў філіжанку цукру
няўжо там сапраўды кава?

на даляглядзе два твае
таленавітыя суайчыннікі
у руках у кожнага суайчынніка
пустая пяцілітровая каністра
уначы твае суайчыннікі
сустракаліся з белымі пеліканамі
белыя пеліканы сядзелі на пальмах
бегалі па батумскім пляжы
хацелі адабраць каністры
Давід: вы першыя да каго ў Батумі
прыляцелі белыя пеліканы

*Гвірабі* няма ўжо ў дзесяці крамах
у адзінаццатай краме твой тэлефон
гаворыць голасам Тэмы
*Hard Day's Night*

***6***

заўтра на пленэры твой выступ
тэма: беларуска-грузінскія
паэтычныя сувязі балюшкі наезды
войны замірэнні тэрытарыяльныя прэтэнзіі
слова тэма ты думаеш з вялікай літары

Тэма едзе горнымі дарогамі
усцяж мандарынавай ракі
з Тэмам едзе яшчарка
трэцім вокам яна бачыць сутнасці
калі Кнута знойдуць
ты вып'еш з Кнутам *Гвірабі*
пагаворыш пра Кнута Гамсуна
у студэнцкія гады ты чытаў *Голад*
вырашыў два дні не есці
грошай усё адно не было

Гамсун маліўся на Гітлера
Кнут: наша любоў да Гамсуна
мацней за нянавісць усяго на мезенец
Гамсун прывід
Гамсун не хоча заставацца ў магіле

у вас свае прывіды
аднаму далёка да магілы а ён ужо прывід
на магілу другога ты ездзіў зноў і зноў
піў пад крымскімі кіпарысамі херас
чытаў вершы
палохаў начных вартаўнікоў
цябе слухалі цыкады яшчаркі
уважлівы чорны кот з белай грудкай
цяпер ужо не паедзеш
а колькім прывідам няма куды прыткнуцца
стралялі як зайцоў закопвалі як падлу
у нарвежцаў ёсць пісьменнікі без магіл?
*Гвірабі*

***7***

твой выступ а трэцяй
ты пачынаеш неверагодна бадзёра
паэт Тадэвуш Лада-Заблоцкі

выслалі на Каўказ
не разгубіўся
баляваў з Нікалозам Бараташвілі
называў яго проста Мікола
сябраваў з дочкамі Аляксандра Чаўчавадзэ
ледзь не звёў Ніно ад Грыбаедава
за вакном з поўнымі каністрамі
ідуць да белых пеліканаў
твае маладыя таленавітыя суайчыннікі
табе страшэнна карціць далучыцца

ты пераскокваеш праз цэлае стагоддзе
прыма тэатра Руставелі
Тамара Цулукідзэ
Афелія Шэкспіра Амалія Шылера
потым п’есы *Турма Катоўня Лесапавал*
зрабілася беларускай пісьменніцай
ёй было восемдзесят табе трыццаць
але грузінкі ў любым веку
Давід спыняе цябе
Давід аберуч трымае рог у срэбнай аздобе
*твоё Гвираби дорогой*
*такой содержательный доклад*

*Гвірабі*
рубін з фіялетам
у букеце ноткі граната
чорная парэчка
спецыі з вялікакняскіх сталоў
твае рэцэптары співаюць
па нотах чорнага шакаладу
чарнасліву
прыправ царыцы Тамары
дадаецца смак
жаночых вуснаў смочак улоння
ліловыя прыцемкі
сонечныя бліскаўкі
ноткі надзеі паняверкі роспачы
прыцягненне стромы прадоння бездані
апошняе што ты бачыш
воплескі паэткі Ольгі
рукі разлятаюцца шырэй за плечы
імкліва злятаюцца
на некаторых мовах
рука і крыло гэта адно слова
рукі паэткі Ольгі разлятаюцца
заміраюць
далей *Гвірабі*

***8***

ты вяртаешся з *Гвірабі* ў свой нумар
у памяцi быццам арэхі ў чурчхеле
плаваюць туманныя твары паэтаў
каля ложка паэтка Ольга
ноч навальніца залева
кроплі пішуць на вакне
штосьці важнае па-грузінску
паэтка Ольга гладзіць цябе па галаве
рука сухая цёплая
невымоўна ласкавая яшчарка
яшчаркі не баяцца залевы
цыкады таксама не баяцца

паэтка Ольга пытаецца
як на тваёй мове *целомудрие*
*цнота?*
амаль грузінскае слова
ты разумееш якое слова
пішуць на шкле грузінскія кроплі
*цнота цнота цнота*
на большае ты зараз няздатны

кроплі малююць на шкле
аджарскага паэта Заура
паэт Заур заходзіць з гаўбца
старанна як і належыць паэту
падбірае словы
*я загоню рог который ты пил*
*тебе в жопу*
ты: *это же просто баллада!*
паэтка Ольга пляскае
як умее толькі яна

***9***

ад *Гвірабі* лекуе толькі *Гвірабі*
пасля рогу пляшка здаецца кілішкам

*Гвірабі* вяртае ў іншы час
тады свой час ствараў ты сам
выдзьмуваў час
вясёлкавымі мыльнымі пухірамі
мелодыяй трысняговай дудачкі
трапяткой куляй на экскурсіі ў гуце
чамусьці ты думаў:
твой час нараджаецца ад твайго дыхання
для полацкага мальца зусім няблага

*Гвірабі* вяртае ў іншы час
яшчэ былі жывыя
усе жанчыны якіх ты кахаў
або думаў што кахаеш
або ніколі не кахаў
некаторыя яшчэ не нарадзіліся
некаторыя не народзяцца ніколі

*Гвірабі*
доўгі сухі пасмакунак
ты хочаш назваць пасмакунак
анталагічным
грузінскі паэт Паата згодны
Паата з Сухумі
калі едзеш па Грузіі
увесь час павароты на Сухумі
у Сухумі не даедзеш
калі даедзеш не вернешся

праз *Гвірабі* Паата трапляе ў Сухумі
магіла бабулі Сафіко
ніхто не ўмеў рабіць такое лобіо
ты трапляеш праз *Гвірабі*
у хату бабулі Аўгінні
бабуля робіць цудадзейныя лекі
хлебны мякіш і павута
у цябе ні разу не атрымалася

у Лондане яшчэ жыве албанка Арта
на яе мове крыло і рука гучаць аднолькава
гучаць па-птушынаму: *кра кра*
*Арта* па-албанску Залатая
хваля па-албанску *Вальбона*
над морам расцвітае
першая грузінская зорка
зорка па-албанску *Юлка*
Арта трапіла пад трамвай
ты забыўся як па-албанску смерць
затое памятаеш: рэха *Эхона*
у *Гвірабі* гучыць доўгае рэха
рэха завуць Арта
Тэма не звоніць

табе сніцца што ты яшчарка
трэцім вокам на патыліцы
ты бачыш Ольгу
Ольга таксама яшчарка
да вас лятуць белыя пеліканы
ты не аддасі пеліканам яшчарку Ольгу

### 10

пленэр на беразе мора
паспрабуй на каменьчыках
выкласці з каменьчыкаў нечае імя
нават калі ў імі ўсяго пяць літар

паэт Паата стаіць на глыбіні па калена:
*я веру што бачыў Бога*
*Бог стаяў на парозе пошты*
*у руках мая кніжка і пляшка чачы*
у перакладзе ты зрабіў *пляшку Гвірабі*

Ольга стаіць на каменьчыках босая:
*нечакана выявілася*
*слова каханне*
*прысутнае і ў іншых мовах*
*далей як у фільме*

пленэр працягваецца ў моры
да цябе падплывае медуза
калі медузы доўга жывуць
калі медузы вандруюць па свеце
медуза можа памятаць
твайго сябра мастака Міколу
Мікола марыў пра Рым
убачыў Рым
правёў у Рыме ноч з жанчынай
вярнуўся на ўзбярэжжа ў Рыміні
гушкаўся на хвалях
захлынуўся на глыбіні па калена
здзяйсненне募 мараў
заўсёды дыхае небяспекай

да цябе падплывае аджарскі паэт Заур
плавае кругамі
кругі ўсё вузейшыя
ты просіш Заура прачытаць верш
верш зусім кароткі
*если б ты не был поэтом*
*ты бы уже кормил рыбок*

### 11

паэтка Ольга не ўмее плаваць
на спіне ў паэткі Ольгі жыве радзімка
памер манеты 1 тэтры
ты думаеш колькі мужчын
цалавалі гэтую манету

колькі за яе можна купіць
цябе найлепей разумее
жывы помнік Алі і Ніно
Алі і Ніно сыходзяцца
праходзяць адно праз аднаго
жарсць па-албанску *Дэшыра*

паэтка Ольга просіць прачытаць
твой улюбёны верш
*о Радзіма мой светач цудоўны адзіны*
*явар мой мой агністы снягір на сасне*
*ледзь цябе не забыў я з чужою жанчынай*
*што ў душы не хацела і ведаць мяне*[1]

пра што верш?
верш пра снегіра
такая птушачка з чырвонай грудкай

Алі і Ніно доўжаць свой танец
як гучыць імя Ольга на маёй мове?
*Вольга*
на адну літару болей
табе не здаецца што літара В
вельмі эратычная?
у нас іншыя літары кажа Ольга
у бэзавым сутонні яе словы
пацвярджае батумская вежа-алфавіт
па вежы бягуць грузінскія літары
вось з гэтай ო пачынаецца маё імя
а вось гэтай ნ тваё імя сканчваецца
вельмі эратычныя літары

калі ты будзеш называць мяне Вольга
будзем пачынацца з адной літары
ты не паспяваеш узрадавацца
у цябе былі жанчыны па імені Вольга?
у мяне была Арта
загінула пад трамваем у Лондане

звоніць Тэма
вадалазы нічога не знайшлі
прывітанне яшчарцы
Тэмаў голас цяплее
як завуць тваю яшчарку?
яшчарку завуць Дані
чаму Дані?
адказ ведае *Гвірабі*

---

[1] Фрагмент верша Уладзіміра Караткевіча «Снягір».

**12**

у Тбілісі Давід кажа
у Грузіі няма жабракоў
на праспекце Руставелі жабракі
яны не грузіны кажа Давід
але чаму просяць па-грузінску?

*Гвірабі* дэшыфруе
жыццяпісы жабракоў

чапурыстая чорная галка
чорная спаднічка з карункамі
дзяліла ложак з Тыцыянам
не з тым хоць хто ведае
з Тыцыянам Табідзэ дакладна

Тыцыян падыходзіць да вакна
срэбнагаловы ў вішнёвым шлафроку
*табе трынаццаць а ў тваім палоне*
*сівога сэрца роспач і агонь*
*трынаццаць куляў пакладзі ля скроні*
*трынаццаць стрэлаў разарвуць мне скронь*
*і праміне яшчэ трынаццаць вёсен*
*і дваццаць шостым летам пад касой*
*загінуць касачы й заплача восень*
*а з ёю верш мой выпадзе расой*[1]

Тыцыян не ўратуе жонку
ад арышту і расстрэлу
Тыцыян падыходзіць да вакна вар'ятні
падыходзіць у шэрым хітоне вар'ята
гэта апошняе вакно Тыцыяна
жонку звалі Ольга

вы з Вольгай
пакідаеце каханцы Тыцыяна
50 лары
ад царыцы Тамары кажа Вольга
яшчэ 10 лары ад Акакія Цэрэтэлі
уваччу пальцы Акакія
разбітыя да крыві расейскай лінейкай
у кутаіскай гімназіі

Ніко Пірасмані пашанцавала
Ніко не вучыўся ў гімназіі

---

[1] Пераклад Андрэя Хадановіча.

Пірасмані Грузія прысвяціла
купюру 1 лары
гэта снабізм!
вы з Вольгай
пакідаеце некалькі партрэтаў
Ніко Пірасмані
у дзвярах музея Пірасмані
музей самы маленькі ў свеце
шэсць квадратных метраў
у каморцы пад лесвіцай ложак
замест шафы скрынка
ці прыходзілі сюды жанчыны?
Вольга кажа яна б прыходзіла

звоніць Тэма
вадалазы знайшлі
чаравік і мандарынавы шалік
нарвежац Кнут піў *Гвірабі*
*Гвірабі* ратуе

***13***

ты ідзеш з Вольгай вуліцай Леселідзэ
ці ішоў Кнут да моста Тамары
вуліцай Леселідзэ?
такая вясёлая вуліца
давай назавем яе вуліцай Весялідзэ
ці чытаў нарвежац Кнут выслоўі
на ўсіх вядомых рэстаратарам мовах?
*чача на смак амаль аднолькавая*
*а прыгоды такія розныя*

*віно не п'юць а разгадваюць*

габрэйскі рэстаран *У Давіда*
сёння памінаюць Шымона Перэса
віно *Машубах*
на іўрыце *Найлепшае*
гаспадар рэстарана: *вы евреи?*
белабрысы Кнут хаваецца
ты: *Гвірабі п'е самотны рабін*
гучыць як пароль
на якой гэта мове?
на ёй гаварыў у дзяцінстве Перэс

столік для важных гасцей
абедзве нагі Кнута ў чаравіках

на шыі сухі мандарынавы шалік
ты кажаш нарвежцу Кнуту
у адным з тваіх вершаў
гучыць бурштынавая музыка Грыга
верш называецца
*Ранішні верш пра твае грудкі*
Кнут з разуменнем глядзіць на Вольгу
Вольга адказвае па-беларуску: *цнота*

у размову ўступае *Гвірабі*
з *Гвірабі* спрабуе вылезці
Брэйвік
Кнут з Брэйвікам
вучыліся ў суседніх школах
гулялі ў футбол і пінг-понг
Брэйвік быў такі сарамлівы
яны ўсе даўно факаліся з дзяўчатамі
Брэйвік толькі глядзеў парнушку

ты робіш памылку:
пасля другой пляшкі *Гвірабі*
Кнут знікае
*Гвірабі* ўсмоктвае яго
як тунэлі ўсмоктваюць
мандарынавую раку Аджарысцкалі
як рог з *Гвірабі*
усмактаў цябе самога
ты трымаеш Вольгу за руку
Вольга не знікае

вуліца Весялідзэ прыводзіць вас
да начнога вадаспаду
юная парачка
дзёрзка караскаецца па скалах
напэўна там можна незабыўна
ты шукаеш слова
Вольга падказвае: *цнота*

***14***

духан *Рача*
падвальная сталоўка
рай для гурманаў
прыносіць і распіваць дазваляецца
*Гвірабі*

за суседнім сталом трое
першы азіраючыся:
*жаль не доехали тогда из Гори*
*один час на танке*
*зато меню принесли бы нормальное*
*без этих бля..ких закорючек*
другі паказвае вачыма на вас
*тише местные просекут*
*хоть вроде непохожи*
першы: *может они за нас?*
трэці дастае купюру 200 лары
*вы в курсе что за хер на портрете?*
*зовут Какуца*
*как вам имечко?*
*когда-то русских в горах резал*
першы: *да не доехали*
*а ты вчера на эту Мацуманду сходил?*
трэці: *вроде того там пантеон ихни*
*грузины и все мёртвые*
*приятно бл.дь*
Вольга ўстае:
*на ваших могилах*
*не вырастет даже трава!*
першы ўскоквае:
*ах ты шалава! замаскировалась!*
нажы тупыя як задніцы
ты сціскаеш у кулаках два відэльцы
другі і трэці: *уё..ваем ребята!*
*зарежут суки уё..ваем!*
*Гвірабі*

### *15*

карабель гары Мтацмінда
плыве над начным Тбілісі
у грузінскую вечнасць
твой самалёт а трэцяй ночы
у пантэон вы безнадзейна спазніліся
гучыць даволі двухсэнсоўна
вартаўнік не хоча купюры
з партрэтам Іллі Чаўчавадзэ
не хоча ніякіх партрэтаў
замыкае за табой і Вольгай браму

Ілля Чаўчавадзэ
глядзіць на вас з помніка
на вас глядзіць Тыцыян Табідзэ

глядзіць Какуца Чалакашвілі
у цябе засталася купюра 200 лары
аверс Какуца
рэверс Сухумі
паэт Паата не можа паехаць у Сухумі
калі б ты не мог паехаць у Полацак?
перайшоў бы перад Дзядамі мяжу
быў бы расстраляны
на звярыных сцежках
расейскімі памежнікамі?

Вольга перакладае вязь эпітафій
ты перакладаеш яшчэ раз
*нават косці думаюць пра Грузію*

надмагілле аздобленае яшчаркай
яшчарка ажывае
*Дані Дані* клічаш ты
яшчарка заплюшчвае вочкі
глядзіць на цябе трэцім вокам
бачыць твае сутнасці
табе робіцца вусцішна
Вольга гаворыць з яшчаркай па-грузінску

надмагілле з чорнага і белага мармуру
цябе сустракае твой герой
калісьці ты напісаў на пяску ў Піцундзе
ГАМСАХУРДЗІЯ НАШ ЧАЛАВЕК
потым напісаў гэта ўверсе старонкі
эсэ пераклалі на грузінскую
магчыма Звіяд чытаў

Звіяд туляўся па горных лясах
галодным ваўкалакам
Звіяд чуў у горных вёсках
званы Мцхеты
хто стрэліў Звіяду ў патыліцу?
*Гамсахурдзія наш чалавек!*
кажаш ты ўголас
твае словы падабаюцца
не ўсім прысутным
*Гамсахурдзія наш чалавек!*
Вольга пляскае
як умее толькі яна
на некаторых мовах
рука і крыло гэта адно слова

*Гвірабі*
корак выстрэльвае як куля з пісталета
Тэма чуе стрэл
на беразе ракі Аджарысцкалі
нарвежца Кнута знайшлі ў тунэлі
нічога не памятае
прасіў аддаць чаравік і шалік
*выпі Гвірабі*
кажа Тэма па-беларуску
*у мяне таксама Гвірабі*
няўжо гэта яшчарка дае яму ўрокі?
Тэма чаму тваю яшчарку завуць Дані?
*так завуць маю жанчыну ў Кітаі*
*Гвірабі*
перадай Дані кажаш ты
каб асцярожна пераходзіла вуліцу
асабліва перад трамваямі
твой голас здрадліва трымціць
*яна вернецца* кажа Тэма
*Гвірабі*

Вольга доўга гаворыць па-грузінску
з магіламі
да твайго самалёта тры гадзіны
Вольга доўга гаворыць па-грузінску
з табой
пераклад зусім кароткі: *цнота*
Вольга здзьмувае свой пераклад
з далоні
Вольга абдымае цябе так
як не абдымаў ніхто на свеце
яшчарка Дані заплюшчвае вочкі



проза

Паліна Качаткова



...памяць –
валадарка часу
і лёсу...

# Гатэль “Цішыня”

***Апавяданне***

*Працяг. Пачатак – “Кватэра №0”, “Наша Ніва” ад 07.01.2013; “Хлопчык у кватэры №0”, “Дзеяслоў” №83; “Лядоўня ў кватэры №0”, “Дзеяслоў” №89.*

Дні ўспамінаў – трапляеш то ў цемру, то ў туман.

З’яўляюцца размытыя абрысы-прывіды, набываюць форму, рэзкасць і яскравасць.

На старых фотаздымках пазнаеш сябе па адзенні, па адмысловых гузіках на паліто.

І, як на эксгумацыі, – па абутку.

Прасцей пазнаць іншых – не сябе.

Па гальштуках палітыкаў на фотаздымках можна вызначыць год.

Чалавек не бачыць сябе збоку, адбітак у люстэрку ці ў вітрынах – гэта не тое.

“Валадарка” – не толькі турма ў Менску.

Памяць – валадарка часу і лёсу, валадарка ракі, асфальту і гранітных берагоў.

Праца ў музеі дае эфект: перастаеш заўважаць свой час, жывеш у 1997 годзе, а выставу робіш пра 1917 – і знаходзішся там – не ў сваім часе.

Ні для сябе, ні для іншага. А для самоты, якая спалучае светлы сум і адзіноту.

Патанаеш у часе, з гэтай мутнай цёмнай глыбіні выплывае living – бурбалкі паветра з дна, рэчы і фрагменты нечага ці кагосьці.

Фотаздымак – Свіслач у тумане, Траецкае прадмесце, вуліца Багдановіча – з аднаго боку АМАП у шлемах, насупраць людзі са сцягамі.

Качкі ў Свіслачы. Вясна ці восень? Красавік ці лістапад?

На асфальце расколіны, шчыліны, якія заварожваюць.

Травень 1997 год – свежае лісце на дрэвах ў скверыку ля помніка лётчыку-герою Грыцаўцу і зялёна-смарагдавая трава на газонах.

Вільготна і ў горадзе, і ў кватэры на першым паверсе.

Уначы і пад раніцу выразна адчуваецца вібрацыя ад важкіх цягнікоў метро, якія грукочуць пад зямлёй.

Паклееныя напрыканцы восені шпалеры набрынялі і пачалі спаўзаць са сценаў.

Паўзлі, як цяжкія шэрыя вусені.

Шоргаты і гукі пры адліпанні, як прыператрусе, быццам нехта нябачны халоднай рукою сцягвае долу волкія шпалеры са сцяны – шукае схаваныя таемные запісы – сведчанні віны.

У гуках адліпання чуюцца сцішаныя начныя галасы – некалькі чалавек гавораць паміж сабой – знайшлі ці не знайшлі тое, што шукалі? Не разабраць словаў у гэтым шолаху-шэпце. Тым часам нябачныя суразмоўцы пераходзяць да наступнай палоскі шпалераў.

Настрой змяняўся па некалькі разоў на дзень.

Балелі зубы. На працы параілі платную стаматалогію на праспекце Машэрава. Трэба паспець да адпачынку – ехаць за мяжу з зубным болем і анальгінам па ўсіх кішэнях не варта.

Першы раз лячыла зубы з анестэзіяй і прыемнай доктаркай з лёгкай мяккай рукой. Першы раз спраўдзілася абяцанне, якое звычайна – хлусня: “Вы нічога не адчуеце!”

Сапраўды нічога не адчула.

– Як у вас так атрымлівецца? – запытала ў доктаркі.

– Я з дзяцінства марыла лячыць зубы людзям!

Адыходзіла “замарозка”. Пасля анестэзіі трывожны сон: прыйшлі беларускія літаратары 20-х–30-х гадоў, героі выставы “Покліч” з Музея гісторыі беларускай літаратуры ў Менску. Літаратары ў выглядзе статуй у чалавечы рост з чорна-шэрага пластыліну. Рухаліся з цяжкасцю. Вачніцы пустыя. Складкі на адзенні, як штрыхі, нанесеныя ножыкам. Ледзь перасоўваючыся, яны абменьваліся кнігамі. Цяжкія пластылінавыя кнігі выгіналіся і мяліся пры дакрананні. І ўсе кнігі – закрытыя, загорнутыя, назвы кніг – не прачытаць.

Зубы ўжо не балелі, але трывога нарастала.

Па вечарах прыходзіў Сябра-мастак, паказваў свае малюнкі – бясконцую серыю – секс з Сяброўкай. Інтымныя часткі цела – сінія і зялёныя – намаляваныя дасканала і падрабязна, але разам з тым абагульнена і ўмоўна, як знакі і сімвалы прынтоў для тканіны.

Разглядалі малюнкі пад ліхтарамі на вуліцы Леніна, на бульвары каля помніка лётчыку Сяргею Грыцаўцу – герою вайны ў Іспаніі і канфлікта

на Халхін-Голе. 16 верасня 1939 года вінтом самалёта таварыша лётчыку-герою адцяла галаву на вайсковым аэрадроме ў Балбасава. Трагедыя ў святле газавых ліхтароў і вогнішчаў, якія запалілі па пасадачнай паласе замест пражэктараў. Пахавалі лётчыка не на могілках, а каля аэрадрома. Герой загінуў знянацку. Гісторыя пра лётчыкаў выглядае як біблейская – анёлы ляцелі па небе напачатку вялікай вайны, не было для іх нідзе перашкодаў. На зямлі гарэлі вогнішчы і газавыя ліхтары – святло здрадлівае, рухомае. Герой не робіць памылкі пры пасадцы, ён толькі хоча дапамагчы таварышу, але вінт ад самалёта адсякае галаву. 17-га верасня газеты паведамляюць не пра смерць героя, а пра ўз'яднанне Беларусі – Усходняй і Заходняй.

Сіне-зялёныя малюнкі Сябра-мастак забраў з сабой – у тэчцы. У яго такіх шмат. Малюе ён і сябе, але чорным.

Пад раніцу прачнулася нібыта ад раптоўнага дакранання.

Ускочыла – нікога не было, толькі шпалеры спаўзлі яшчэ ў адным месцы, дзе да таго трымаліся моцна.

У пакоі адчуваўся пах тытуню.

Ключ ва ўваходных дзвярах хістаўся, быццам толькі што нехта выйшаў і зачыніў дзверы за сабой.

Нікога няма.

Зранку шкло ў гадзінніку "Луч" было запацелым з сярэдзіны – не зразумееш які час. Рушнікі мокрыя, усё, што трэба высушыць, – не сохне.

Сабралася ў вандроўку.

Ключы ад кватэры аддала Сяброўцы з сіне-зялёных малюнкаў.

А Сябра падараваў перад дарогай двухтомнік Томаса Мана "Іосіф і яго браты". З сабою ўзяла – першы том на 10 дзён адпачынку.

Вандроўка ў Балгарыю, туды – цягніком, вяртацца – аўтобусам. У турагенцтве спыталі – дзе яна хоча жыць – у прыватным катэджы ў гаспадыні ці ў гатэлі са сняданкам.

Абрала гатэль.

Не сезон.

З Менска ў балгарскае мястэчку Прыморска выехала група – 8 чалавек, жанчыны і адзін пяцігадовы хлопчык – сын гандляркі дзіцячым абуткам з "Дынама".

У мястэчка Прыморска толькі-толькі пачыналі ездзіць турысты, раней гэтая зона была забароненай.

Побач – летняя рэзідэнцыя камуністычнага лідара Балгарыі Тодара Жыўкава.

Паўвыспа.

Левы бераг – глыбокая сіняя вада, хвалі з белай пенай. Выразны гул хваляў.

Правы бераг – вада блакітаная, лагодная, – неглыбокая.

Гатэль толькі адзін – шматпавярховік з бледна-блакітным надпісам "Тишина".

У першы дзень адпачынку плавала ў халодным моры.

Холад хваляў даходзіў да сэрца, працінаў да костак, цёмная вада прадказвала балючыя змены.

Выходзіла на сняданак – была зусім адна ў вялікай рэстарацыі, у стылі 70-х – згадка пра краіны Варшаўскай дамовы. Сняданак – чорныя аліўкі, яйка, каўбаса, гарбата на зёлках. Супрацоўнікі гатэля назіралі збоку.

Больш людзей у гатэлі “Тишина” не было – адна.

Чытала на сёмым паверсе кнігу Томаса Мана і час ад часу прыслухоўвалася – ці жывуць тут людзі. Не, не было.

Выправілася ў вандроўку, з мястэчка пайшла па беразе мора да былой рэзідэнцыі “Перла” Тодара Жыўкава – на той часцы паўвыспы, дзе вада ў моры цёмна-сіняя, глыбокая, халодная.

Дзьмуў вецер.

Спачатку бераг быў роўны і пусты, а пасля натрапіла на рэшткі агароджы з калючым дротам, яшчэ далей паўразбураны ўмацаваны дот, яго ўжо заносіла пяском.

Рухнула камуністычная сістэма, а яе закінутыя матэрыяльныя часткі выглядалі рэшткамі цывілізацыі, якая знікае.

Пачатак чэрвеня 1997 года, часу не шмат мінула пасля адхілення ад улады ў лістападзе 1989 года і арышце ў 1990 годзе Тодара Жыўкава, але цяпер толькі заставалася ўяўляць, як выглядала і як было абаронена лецішча месца адпачынку і моцы пры іх былых валадарах.

Мора.

Бухта.

Белага колеру дом.

Тэраса з аркамі.

Трава праз пліткі.

Леташняе лісце на прыступках.

Зачыненыя дзверы.

Моцныя сцены, мала вокнаў.

Лёгка ператварыць будынак у цалкам закрыты куб.

Абарончае збудаванне.

Шурпатая тынкоўка.

Неба ярка-сіняе – ультрамарын.

Вечназялёныя туі ля рэзідэнцыі.

Празрыстая вада перакочвае дробныя каляровыя каменьчыкі.

Села на камяні ля бухты, апусціла ногі ў ваду.

Марская змяя праслізнула па пальцах, напалохала, прымусіла прыбраць ногі з вады – пазбавіла супакою.

На адваротным шляху вырашыла пазагараць, расклала рушнік, лягла, слухала вецер і хвалі. Але і тут не было супакою, падыйшоў чалавек і ўлёгся зусім побач. Балгарын, гаварыў па-расейску. Сказаў, што прыехаў з Сафіі, адпачывае разам з сям’ёй, пасля дзіўна ўтаропіўся і вымавіў:

– Так не трэба насіць?

– Што?

Ён паказаў на вуха – там было адразу дзве завушніцы – срэбнае кола і залаты матыль.

– Чаму?

– Не трэба так, два металы розныя.

– А што здарыцца?

– Нешта кепскае.

– А што?

– Усё, што заўгодна. А дзе ты жывеш?

– У гатэлі “Тишина”. А Вы ў госці да мяне сабраліся?

У адказ пахітаў галавою, і не зразумела – “так” ці “не” значыла тое хітанне.

Увечары чытала кнігу і пачула ўнізе нейкія спрэчкі і валтузню.

Глянула з балкона – чалавек з Сафіі рваўся ў гатэль, ахова не пускала, ён нешта тлумачыў, але марна.

Неўзабаве з жанчынамі з Менска паехалі ў Стамбул. Палова групы. Гандлярка абуткам пакінула сына на суседак і ехала, каб закупіць абутку.

Ехалі з расейскімі турысткамі з Пецярбурга.

У чатыры раніцы ўвайшлі ў перапоўнены аўтобус, сонныя расейскія турысткі варушыліся ў цемры і абураліся:

– Адкуль столькі людзей? У аўтобусе і так месцаў няма! І ўсе ў Турцыю едуць!

– І едзем мы туды на ПМЖ, – рэзка адказала гандлярка абуткам.

Стамбул уразіў стракатасцю, гоманам, мноствам людзей.

У Стамбуле турысткі з Пецярбурга канчаткова прачнуліся і пачалі спачувальна распытваць:

– Ці праўда, што ў Беларусі на мітынгах людзей збіваюць?

Усіх павезлі ў Цыстэрну Базіліку – старажытнае вадасховішча Канстанцінопаля, падземны палац з вадой, збудаваны грэкамі. У сутарэннях пад горадам захоўвалася вада на выпадак засухі ці вайны.

Па каменных прыступках група спусцілася з тлумнага горада ў волкае і гулкае сутарэнне.

Вільгаць, нязвыклыя гукі, рэха.

Адчуванне вялікага горада над галавой.

Іншасвет.

Іншачас.

Кроплі зрываюцца са скляпенняў.

Кроплі разбіваюцца аб ваду, зліваюцца з паверхняй вады.

Кроплі – на галаву турыстам.

Драўляныя масткі – пад масткамі вада.

Калоны падсвечаныя пражэктарамі.

Скляпенні Цыстэрны Базілікі падтрымліваюць 336 калон – 12 шэрагаў па 28 калон 8-метровай вышыні.

Пад масткамі прасвечваюцца пліткі падлогі, залітыя вадой, а ў вадзе рыбы з чырвонымі вачыма.

Медуза Гаргона – валадарка Цыстэрны, на дзвюх калонах перакуленыя выявы Медузы – галава ў адной павернутая набок, у другой – уніз.

Дакранулася за твару перавернутай галавы Медузы, загадала жаданне: “Каб ўсе былі жывыя”.

Вярнуліся ў Прымоорска, даведаліся, што пяцігадовы сын гандляркі абуткам усе дні самастойна смажыў сабе рыбу на электрычнай плітцы.

Сонца грэла, вада ў моры пацяплела.

У гатэль “Тишина” заехалі біёлагі з розных краінаў – удзельнікі міжнароднага сімпозіума, які праходзіў у гатэлі. І ў “Тишине” стала шматлюдна.

З Менска прыехаў аўтобус з новымі турыстамі.

Кіроўцы паплавалі ў пацяплелым моры і забралі групу дамоў.

У аўтобусе гучала песня групы “Фрыстайл”: “В шумном зале ресторана, Средь веселья и обмана – пристань загулявшего поэта. Возле столика напротив Ты сидишь вполоборота, Вся в луче ночного света”.

Гандлярка абуткам хадзіла па праходзе з бутэлькай каньяку “Пліска”, налівала ўсім ахвотным і крычала: “Кайф!” Хадзіла, пакуль не звалілася, сын пачаў яе церабіць і цягуць на заднія сядзенні – спаць.

Доўга ехалі, праз Румынію, Заходнюю Украіну, начавалі ў Івана-Франкоўскай вобласці.

Цешылася – наперадзе дом, сустрэча з сябрамі.

У Менску на досвітку аўтобус спыніўся ля помніка Грыцаўца на вуліцы Леніна. І адразу з'ехаў.

Памахала ўслед. Пайшла ў арку. З сабой прывезла дзве пляшкі каньяку "Пліска" і дзве бутэлькі белага віна. Чакала сустрэчы з Сябрамі, хацела запрасіць ў госці.

*31 студзеня 2018 года, зацьменне Поўні.*

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўную **Паліну КАЧАТКОВУ** з юбілеем
і зычаць ёй аптымізму, душэўнае трываласці
і, вядома ж, новых твораў!

Наста Кудасава



...прачнуцца шчаслівай
на беразе цёплай рукі
чалавечай...

# Бег па няўмольнай вадзе

* * *

Неба зрываецца долу – блакітныя коні
ў яблыках белых аблокаў
скубуць пахкі вецер...
Я прысвячаю табе маё ўсё –
маё сёння:
без-цябе-вуліцаў мыліцы,
памяці шчэцце...
Я прысвячаю табе будняў дробнае проса.
Мне ж – сотні жыццяў стаяць на зямным падаконні,
слухаючы,
як зрываюцца долу нябёсы –
ў яблыках белых аблокаў блакітныя коні...

* * *

лепей стаі ды растай,
бо расстанне –

it’s time...
стань
абрыкосавым снегам,
наліплым на шыбы.
дзе той адзіны,
хто счытвае нас без ліста,
хто гэту прорву цябе
ў маім целе
зашыў бы?
неба зжавала язык.
блізарукасцю рук
я разбіраю адно твае вусны і плечы.
літары ўсіх алфавітаў
звываюцца ў гук –
той,
што не мае наймення ў жыцці чалавечым.

* * *

там, дзе сон даланёй азёрнай
закалыхвае страказу,
дзе надкусваеш яблыкі зораў,
дольку поўні спрабуеш на зуб,
дзе паркаль блакітных крыніцаў
п’е ружовы адзінарог,
дзе няма патрэбы маліцца –
кожны кожнага там збярог;
дзе шчаслівы, без вечнага “дай мне”,
бог узрошчвае свой багун,
там, дзе не бывае расстанняў,
там, дзе я без цябе магу.

* * *

і пакуль я ўпівалася ў лужынаў жоўтыя вочы,
набівала жывот перасоленай снежнай кашай,
хтосьці здаў гэты люты ва ўтыль,
збракаваў мой почырк,
перацiснуў мне горла даўкім нясцерпным кашлем,
так што й выдыхнуць цяжка,
не тое што слова мовіць!
рот адкрыеш, а там адно “ка-хаю, ка-хаю...”
але ўпотай
нясу гэты боль як шчаслівую споведзь.
і так горача ў жываце...
няўжо гэта снег ува мне растаяў?

* * *

*Усеваладу Сцебураку*

аднойчы ты ўчуеш раптоўным прадонневым нюхам,
што жыць –
гэта проста і хутка,
як збегаць па мячык.
гэта стаяць насупраць,
маўчаць і слухаць,
глядзець ёй у вочы сваімі вачыма сабачымі...
а ноччу зрывацца ў нябёсаў блакітныя грады,
зубамі хапаць жоўтай поўні салодкую дыню
і несціся аж да ранку
малочным шляхам,
сузор'евым садам,
каб уткнуцца ў калені ёй носам і выдыхуць:
"любая!
гэта табе!
гаспадыня..."

## КОРТЭЛА

*Вадзіму*

жэўжыкам божым гарэзіць,
у кветках куёўдзіцца,
сонцам п'янюткі,
анёлак –
смяшыць нашых рыб,
раніцай слухае конікаў звонкую конніцу,
вечарам стромкаму скрыпню настройвае скрып...
потым сядае, стамлёны, на ганку вавёрчыным
і ў захапленні
ўсю ноч піша небу лісты:
там
на кожнай старонцы
зямным роўным почыркам
толькі тры словы –
*Кортэла. Шчасце. Ты.*

## ЦУД

*Ані Трутневай,*
*у памяць аб нашай Кортэла*
*і нашай Вільні*

***I***

лавіць яго вуснаў дрыготкую страказу,
балючаму целу налічваць

за ўчорам учора...
увесь Ты, Госпадзе, – праўда,
увесь Ты – цуд!
увесь Ты – сасновага раю жывое мора...
а любы мой тчэ плаўнікамі мой новы дзень,
люляе ў далонях гарачых паўночны вецер.
увесь Ты, Госпадзе, – бег
па няўмольнай вадзе,
і болей нічога,
нічога няма на свеце...

## *II*

*Ибо вся наша жизнь — это только погоня за счастьем,*
*но счастья так много, что нам его не унести.*
*Выйдешь за хлебом — а жизнь пронеслась: «Это лето, Настя.*
*Сердце мое разрывается на куски».*

Д. Воденников

захавай гэты дзень,
можа быць, нам усё толькі сніцца:
быццам вырай каметамі б'ецца ў сукенках суніцаў,
быццам сосны зялёнымі пальцамі вомшаюць ранне...
я не маю ні слова –
ні слова, ні выдыху...
Аня!
як жа многа, бязлітасна многа нам дадзена шчасця:
вочы здзіўленых рыб,
смак дажджу на любімых запясцях,
сэрцы ў шнарах дарог,
камяні ў ядлаўцовых абдоймах –
безагляднае лета Гасподняе...
Аня, я помню...
і як вецер схіляўся ў малітве над кожным збаночкам,
і як белыя ночы ўкрывалі нас коўдрай малочнай,
і як роспач маю
ты люляла
на самай мяжы:
толькі плакаць і пець, толькі плакаць і пець, толькі жыць...

## *III*

і што ўжо хапацца за соннае вуліцы хвост?
і што ўжо цяпер на шматкі,
як смяротніцы,
рвацца?
глядзі, колькі цудаў шалёны наш Бог нам прынёс:
на ўсе мае трыццаць два
і твае ўсе дваццаць!

як быццам усё, што нам ліпень
так шчодра намыў,
спынілася тут –
у касматых вантробах Вільняле,
дзе, скінуўшы смутак, шчаслівыя вечныя мы
стаім і цяпер, як тады,
як адвеку
стаялі.

***IV***

бо анёлы тут лётаюць нізка, сядаюць на плечы,
зазіраюць у вочы, бяруць увесь боль пад крыло.
бо так хочацца жыць
і так цягнецца, цягнецца вечар –
неабдымны,
як вечнай самоты няўрымслівы слон...
бо так хочацца верыць, што мы недарэмна любілі
ў гэтым варварскім свеце
(дзе, зрэшты, усё – насланнё!),
што далёка-далёка па сцішаных вуліцах Вільні
нас дагэтуль нясе пад крылом наш шчаслівы анёл.

## ВІТАЛЬ[1]

*Віталю Рыжкову*

гэта ўсмягласць асіплае кані,
адарванай ад ніў вышыні.
дні мае – палігоны гукання,
невыкрыкнае роспачы дні.

я не помню нагодаў вынырваць,
памяць сплёўвае прысак і жвір.
дык навошта ты сонцам настырным
уваходзіш і кажаш “жыві”?

тут даўно ўжо няма чаму біцца –
ў пустасэрцы, напханым асцём.
дык навошта ты цёплай сініцаю
прыляцеў і вярнуў мне жыццё?

быццам ёсць яшчэ голас азімы
пад ільдом занямелых пакут,
быццам можна адным тваім імем
затрымаць мяне тут.

---

[1] (*лац.*) жыццёвы, жыццядайны.

## СПРОБА ВІНШАВАННЯ З 2017 ГОДАМ

потым выйдзеш па піва і знойдзеш сябе ў вясне,
а пакуль – лаві на язык трыццаць першы твой снег,
што – знаёмся! –
гарчэйшы і злейшы на смак за трыццаты:
гэта новыя здрады – вітай! –
гэта новыя страты,
гэта новай пустэчы халодны бліскучы смарагд.
я не помню – даруй! – хто ты мне:
сын ці муж мой? ці брат?
я не помню, навошта мы тут – носім твары чужыя...
але што гэтак цісне адчаем нашыйным,
скажы мне,
і чаму так балюча пячэ хараством снегапад?
усё адно ж
прастаю ўсё жыццё падабенствам слупа
з інвалідам-радком у зубах – рэдкі ўзор ідыёта!
не прачнуўшыся нават.
прабач,
неяк так.
з новым годам...

## КАЦІ, У ТАГАНРОГ, ДА ЗАПАТРАБАВАННЯ

*Кацярыне Гаруновай*

гэты век мяне выкінуў прэч: ні пляча, ні ключа.
“я-хачу-да-цябе” захрасае кітом у горле.
час маўчаць камянём,
час люляць гэты роспачны час –
час-ніколі.

сіні волат самоты, палонны сваёй жа вагі –
быццам неба штурхае і душыць знутры плаўнікамі...
я стамілася ад небыцця,
ад сябе і тугі,
ад гукання!

там, дзе горад-алень мокрым носам уткнуўся ў Азоў,
дзе скруціўся сусвет кацянём у цябе на спадніцы,
я хачу пахаваць маю памяць,
мой боль,
мой назоў
і забыцца.

каб у моры пяшчоты спачыў гэты катаржны кіт,
каб задыхаць нарэшце, скаўтнуўшы адчай невыенчны,

і прачнуцца шчаслівай
на беразе цёплай рукі
чалавечай.

* * *

ноч таўчэ мяне дзюбай варонінай,
вёсны блазнамі шчэрацца ў шкло.
я жыву –
крыяю,
прытомнею,
ды нішто,
нішто не прайшло.
нават сценаў халодныя спіны
тут маўчаць сваё страшнае “не”.
дзесьці
з памяццю лёгкай
адзіны мой
можа жыць без мяне.

* * *

і што я цяпер адкажу беласлёзым садам,
пастарэлым слівам?
як мне глядзець у вочы не тое, што дрэву, –
палену і пню?
вецер ірве маю квецень, а я...
я не ведаю,
як быць шчаслівай.
усё, што я маю, – глядзі! –
агалцелай душы ідыёцкае ню.

а тут – закон і парадак,
ёсць зарплаты і ёсць палаты.
кожнай пачвары – па пары,
кожнаму хвораму – па ўрачу.

я прашу толькі выйсця.

дай мне выйсця –
з-за кратаў –
дахаты.
здаецца, я ўжо нічога,
зусім нічога
тут не хачу.

## *ПРАГА*

*Максу Шчуру*

### *1*

Гэты горад
так цягнецца ў неба гатычнымі шыямі,
так займае хаду,
так глядзіць у душу мудрым рэбе...
Я прынесла яму ўсё, што мела, –
пагарду птушыную,
адзіноты бялізну,
няспраўджаных мараў зрэб’е.
Я прынесла яму грузных крокаў тугу без’языкую.
Горад, горад, глядзі! Гэта ж я –
твой няўрымслівы голем.
Я на ўсіх скрыжаваннях стаю і маўчанне
выкрыкваю,
каб застацца ў табе,
не пачутай нікім
і ніколі.

### *2*

Горыч прымі ўнутрывочна, але – палай.
Хай надрываецца, кволіцца кнот, але грэе.
Быць ці не быць – гэта толькі пытанне цяпла,
Толькі пытанне ўключанасці батарэі
Там, у адсеках нутра, дзе баліць і пячэ, –
Зрэшты, табе аднаму зразумелае пекла.
Быць ці не быць – гэта толькі пытанне вачэй,
Здольных аднойчы ўтрымаць на зямлі чалавека.

* * *

баішся пакуты ўдыхаў, пакатых дахаў,
баішся караляў і швэдраў з тугой гарлавінай,
таму бяжыш ад сябе:
дзікі вецер – пад пахай,
ва ўсіх кішэнях – каштаны й верад правінаў.
бяжыш,
нібыта магчыма ўцячы ад жальбы,
схавацца ад вусцішы ў Вільні, Маскве ці Празе...
і раптам аднойчы – вочы!
нясцерпныя вочы
салодкім скальпелем
праразаюць наскрозь гэта ўсё –
да пяшчоты –
і становяцца эўтаназіяй.

* * *

вымарай мора, прашу, і прыйдзі марошкай,
дай заімшэць, дай аддацца зялёнай імшы!
што я магу – валацуга, дзіця, скамарошка?
толькі даросламу шоў свае кволыя швы
ў ціхай журбе накладаць, жылы ніцям аддаўшы,
верыць у вернасць ды ткаць на ўсіх вечнасці бінт...
Ты, Хто мяне пасяліў у жыцця на паддашку,
Ты ж аднаму навучаў мяне – “ ўстань і любі!”
што ж Ты трымаеш цяпер гэтай ярасцю гончай?
мне не пад сілу нішто – ні займаць, ні займець.
дай мне бясконцую восень і рыжую поўнач:
ягадны дол, ясны зрок і няісную смерць.

* * *

*Вользе Злотнікавай*

каб трымацца зямлі, у нас ёсць адно кеды
і кедры –
навылётнай самоты скразная грудная Сібір.
але ўкруцішся ў боль –
у дзяцінства расцягнуты швэдар –
і выстукваеш дзюбачкай вечнае наша “любі”.
больш няма чым сагрэцца ў жыцці...
тут ні ложка, ні лыжкі
я не ўмела займець –
дзікай ягадай спала ў імху.
і адзін толькі Бог
усміхаўся мне кедравай шышкай,
суцяшаючы ўсё:
і каханне,
і смерць,
і тугу.

* * *

але толькі лес на мой голас ідзе,
рукой абдымае зялёнай.
свяціся ж імя тваё, верасу дзень,
прыйдзі, валадарства клёнаў!
будзь воля твая, пан касматы мох!
ты сёння адзіны хлеб мой...
але ці ўбаюся, раз слухае Бог
сасновых шышак малебны,
раз дыхае небам жывое лісцё,
сарваўшы няісныя содні,
раз ёсць яшчэ шанец пражыць гэта ўсё
маўклівай чарніцай Гасподняй...

* * *

*Косцю Чарухіну*

будзем карміць нашых феніксаў проста з рук,
адаграваццa ў зіхценні гаючых пёрак.
я абяцаю.
не бойся,
я больш не памру.
нават не ведаю, што б я рабіла мёртвай.
тут жа такія цуды па ўсёй зямлі!
клён абдымае за плечы, цалуе веццем...
мох і чаромха, ядловец і базілік –
бачыш,
няма калі нават і думаць аб смерці!
бачыш, як раніца просіцца: “на, вазьмі!”
шчасце... агромністы дзень –
мой!
жывы да адчаю!
будзе
і вечны міндаль,
і бясконцы язмін.
будзем
карміць нашых феніксаў,
я абяцаю.

* * *

бо такія жывуць насамрэч толькі там, дзе тонка.
ну, а ўсё, што рвецца,
я складаю руплівa ў рукаў.
і пакуль мяне ненавідзяць чужыя жонкі,
я ўсплываю між вамі штодня паплаўком радка.
я кажу, вось – вецер.
кажу, вось – хлеб, а вось – дотык.
я кажу, вось самоты пражэрлівыя смаўжы.
гэта Бог, я кажу, прайграе па нябачных нотах
нас усіх.
а яшчэ я кажу табе –
лепш бяжы!
бо такія жывуць насамрэч толькі там, дзе тонка,
каб усё, што рвецца,
струной
стала ў горле начэй.
і пакуль дзесьці спяць сном ружовым мужы і
жонкі,
я кажу – цячы, рака!
і рака цячэ.

Уладзімір Міхно



...кампутар зусім адабраў вочы,

а сацыяльныя сеткі – розум...

# Буслік

***Апавяданне***

*Мой родны край, мой родны бераг,*
*Душы сталіца, мілы кут,*
*Я жыў табой заўсёды, верыш?*
*Шчаслівы быў я толькі тут...*

Да самоты, як і да хваробы, таксама прывыкаеш. Асвойваешся і жывеш з імі. Трэба ж з некім жыць...

Я прывык, калі перамятае студзень халодныя сцежкі ля маёй хатулькі. Здавалася б, і снегу кот наплакаў, а закруціць, завіхурыць раптам, знекуль нячыстая сілачка возьмецца і замяце мне сцежкі. Тады бяру шуфлік, падымаю каўнер у футболцы і ў сланцах, як па хаце хаджу, толькі што на цёплыя шкарпэткі, дыбаю на вуліцу. Неахвота абувацца, ды і з прынцыпу: цёпла абуцца – значыць, прызнаць зіму. Ды няхай мае ножкі ў сланцах крыху яшчэ пагрэюцца ўспамінамі пра лета. А маладое гарачае

крыві ўжо нямашака, і сілы ўсё меней. Лаюся на чым свет на зіму, мо й дарэмна, яна сёлета такая лагодная, а я ўсё роўна лаюся. Не ў каханні ж мне ёй прызнавацца.

Не люблю зімы, проста трываю яе, як выхаваны заяц – сваволную шалёную цешчу. Раздражняюць людзі, якія любяць зіму. Асабліва калі пачынаюць прасіць-маліць "сапраўдных" маразоў і "скрыпучага мяккага снегу". Спрачаюся, і, мусіць бы, біўся. Для кагосьці "сапраўдная" зіма – блюзнерства, а камусьці – як стрэмка пад пазногці. Лацвей любавацца маразамі з зашклёнага гарадскога балкона і разы са два схадзіць у парк на спатканне з "марозным звонкім вечарам". Лацвей прызнавацца ў каханні зіме траскучай, седзячы ў цёплым катэджы, націснуў кнопку, пакруціў газавае рэле, паддаў пары і блазнуй сабе на здароўе.

А паспрабуйце прынесці колькі абярэмкаў дроў – на падоймішча, валачэш – язык па каленях грукае, напаліць паспрабуйце ў печы сама меней два разы, а яшчэ збегаць у істопачку і там таксама бульбачку ўлагодзіць-ўратаваць, расклаўшы цяпельца ў печачцы. Ці захочацца той зімовай дуры!

А хатулькі нашы вясковыя – лапатныя, у зямельку паўрасталі. Звечара ў грубцы, здаецца, і напаліш горача, а ўжо раніцою "ваўкі" халодныя і пад коўдру заглядваюць.

І калі ўжо нас, закаранелых-удзірванелых вяскоўцаў, паесць той горад, праглыне ў сваёй ненасытнай пашчы? І калі ўжо нас даб'юць, даруйнуюць, дазачыняюць, данішчуць? Бо як бяльмо ж на воку моцным свету гэтага, пранырлівым і дасужым, мы – з філасофіяй сваёй вясковаю, з мовачкай сваёй каптурова-загнетавай. Нас руйнуюць, урбанізуюць, аптымізуюць, ужо й не ведаюць, што з намі яшчэ зрабіць, а мы ўсё яшчэ дыхаем, крэкчам, а жывем. І ўсё роўна ж у той горад не пойдзем, а пойдзем толькі на сухі лес і на пясчаную горку, адкуль нават з-пад зямлі збіраемся бачыць свае вёсачкі, і, спачываючы, вечна пра іх думаць...

...Навошта мне сталіца,
Асфальт чужых дарог,
Тут жыта каласіцца,
Жывем тут я і Бог.
Навошта мне чужы той
І той далёкі край,
Тут, дзе красуе жыта,
І ёсць сапраўдны рай...

Перамяла зіма мае сцежачкі і пасерабрыла буслянку. Гляджу на пустое гняздо і думаю, думаю і спадзяюся, спадзяюся і чакаю. Чакаю і нават баюся думаць, ці вернецца ж сёлета той, каму ўсё мінулае лета прызнаваўся ў каханні? Не ў любові – менавіта ў каханні. Бо калі сэрца грукаецца ў скроні, калі раўніва пазіраеш увышкі і хвалюешся – аж палае ўсё ўсярэдзіне. Хіба ж гэта проста любоў! Жартую, вядома. Я любіў свайго Бусліка, як сына, якога не даў мне Бог, як любяць нязбыўнае і нияздзейсненае жыццёвае шчасце. Гэтае шчасце, дзівак, спрабую зараз, на апошніх абмежках жыцця, ухапіць за хвост...

Не паверыце, на маім падворку пасяліўся Буслік. Буслы нашу вёску заўсёды неяк ігнаравалі. Палётаюць, бывала, увесну, прынясуць нам халоднае абыякавае прывітанне на крылах і – да пабачэння. Асядалі ў суседніх, зашываліся ў яшчэ большай глушмені, чым нашая. А мы ўсё сваю глушмень цывілізацыяй лічылі. Ля нас вунь шашэйка бяжыць, ма-

шыны гудуць, трактары ляскочуць, бензінам патыхае – не любяць птушкі цывілізацыі. І людзі ў нас не “бусліныя” жывуць – бо няздомныя, няшмат аселых, болей прыхадняў. Чуйна ўгадваюць буслы характар будучых сваіх гаспадароў, пільна да іх прыглядаюцца, раўніва ставяцца.

Прыляцеў мой Буслік і ўсеўся на голы электрычны слуп – акурат над ліхтаром. Я нават сумеўся, вачам не паверыў. Я – заўсёды зайздросціў любому, у каго бачыў буслоў на падворку. Я – хацеў ужо на новую брамку заказваць хаця б гіпсавага бусла – для аздобы. І быў упэўнены, што шчасце можа пасяліцца ў каго заўгодна, толькі не ў мяне на падворку. А што буслы шчасце на крылах прыносяць – хто ж не ведае, не верыць? І тут раптам...

Праўда, на вуліцы стаяў ужо чэрвень. У людзей буслы даўно сабе гнёзды парабілі і птушанят выседжвалі. А мой небарака, усеўшыся на голым слупе, адкуль, як пугаўё, тырчэў жалезны штыр, няспешна, стамлёна перацерабіў пер’ечка, абыякава зірнуў услед сонейку, апошнія промні якога збіраліся хавацца за алешнік на тым беразе возера, апусціў дзюбу і – застыў у здранцвенні, заснуў да раніцы. А мне і няўзнак. Ну, думаю, ляцеў знекуль, стаміўся, адпачне, далей паляціць. А ўжо прыемнасць разлілася па ўсім целе ад такой нечаканкі.

Не, назаўтра ўвечары, ледзьве толькі вылез са сваіх парнічкоў ды з вудачкай усеўся ля копанкі карасёў пільнаваць – ляціць мой госць – планіруе шырокім вольным крылом, як дэльтаплан.

Крылы з размахам, моцны, прыгожы!

...Ляціць самотны бусел
Над комінам маім,
Над хатай, дзе гняздджуся,
Дзе мой свяшчэнны Рым.
Дзе клопат і надзея,
Дзе шчасце і жыццё,
Куды, каб жыта сеяць,
Ад тлуму я ўцёк...

Падняў я галаву і Караткевічаву “Зямлю пад белымі крыламі” прыгадаў. Зрабіла птушка круг гонару – высака над маімі бярозамі, што шумяць тут з самага маленства, праляцела – і наўпрост да слупа. Эге, сабе думаю, гэта ўжо не проста так. Відаць, ён штосьці задумаў.

Начаваў мой Буслік мо з тыдзень акурат у мяне над брамкаю. А я і дыхаць баяўся, каб, крый божа, не спужаць. Ды ён не з пужлівых. Спакойна сабе па-гаспадарску чысціў пер’ечка, церабіў доўгі хвост, раз-пораз клекатаў, раўніва аглядваў наваколле.

Аднаго разу ў нашай з ім жыццёвай прасторы паявіўся трэці-лішні. Ніколі не забуду. Сяджу ў хаце, раптам як грохне штосьці па вільчыку. Думаў, комін забурыўся. Я – з хаты, зірк, аж у мяне на даху другі бусел. Ці бусел, а ці бусліха – хто ж іх ведае. А мой – на слупе, шыю выцягнуў, як гусак, крылы расправіў, хвост распушыў, клякоча, аж заходзіцца. Канцэрт па заяўках! Бачна, што слупам ён дзяліцца не збіраецца ні з кім і няпрошанага госця доўга цярпець не стане. І прагнаў.

А мой жа ты Буслік! Гэтак мы з табой удвух тут самотнымі застанемся. Ці ж табе хочацца гэткага самага лёсу?

А недзе праз тыдзень і зусім асмялела мая птушка, па вуліцы ходзіць, усё нешта дзелавіта выглядвае, да жабак ля копанкі прыслухоўваецца, балазе ў тых самыя любошчы – гвалт справілі на ўсё наваколле.

І пачаў Буслік галіны на слуп насіць. Цікава, думаю, як ён да голага бетона, да штыра жалезнага, тыя галіны прымацоўваць сабраўся?

Майстра! Пакладзе крыж-накрыж, канцамі на правады, прымацуе нейкім чынам. Першыя – цяжка, далей – лягчэй. Лішняе цярпліва надломвае доўгаю сваёю дзюбаю, і нечым там акуратна ці то палівае, ці змацоўвае. Па галлё далёка лятаць не давялося. Сад я ўвесну чахвосціў, дык галіны пазразаў, да Вялікадня збольшага спаліў галлё, а канцы пазаставаліся, падсохлі заадно. Усё мой Буслік падабраў. Апусціцца на дарогу і прама па асфальце, як салдат, маршыруе да вогнішча. Аблюбуе, выцягне з прыску галіну, у дзюбу – і панёс на слуп. Было, што галінкі з гнязда пападаюць. Я збяру, акуратна на прысак закіну. Гляджу, зноў дыбае па будаўнічы матэрыял.

Так мы з ім разам і будавалі гняздоўе. Будавацца Буслік чамусьці не спяшаўся. Прынясе, прымацуе колькі галінак – і паляцеў некуды на гулі – на ўвесь дзень, да вечара. І прычыны тае няспешнасці я, вядома ж, не ведаў. Адкуль мне ведаць? У душу ж не залезеш чужую і думак не падслухаеш. Урэшце, хто мы з ім такія? Чужыя. Сустрэліся на адной дарозе два самотнікі. Добра, калі не разбяжымся неўзабаве.

Дарэчы, тою вясною зашмат прыляцела буслоў, і бачылі птушак нават там, дзе раней ніколі іх не сустракалі. Што гэта за буслы, адкуль яны з’явіліся ў нашых краях – ніхто не ведае. Адны кажуць, клімат мяняецца і птушак змушае жыццё пакідаць наседжаныя гнёзды, зрывацца і ляцець у белы свет як у капейку. Іншыя мяркуюць, што войны ва ўсім вінаватыя. Неціхоты прагналі буслоў, і сталі тыя міжвольнымі беженцамі. Паляцелі з жар-косці, уцяклі ад немачы, а зараз не ведаюць, што ім рабіць на чужыне – ці сем’ямі абрастаць, ці марыць пра вяртанне.

Вось і мой госць, бачыў я, пачувае сябе тут як на раздарожжы. І туды, і сюды памкнецца: то за гняздоўе возьмецца, то раптам знікае на колькі дзён. Упершыню, калі ён быў надоўга знік, я сабе месца не знаходзіў. Далібог, калі б курыца з дому сышла ці дзе прапала, гэтак бы не перажываў. Прывыкаеш. Скрушна было, можа, не столькі па Бусліку сумаваў, колькі па сваім няспраўджаным спадзяванні на прывіднае шчасце. Пустое пакінутае гняздоўе гняло, навейвала роспач. Цяжкія свінцовыя думкі прыганяў парывісты вецер.

Вецер усё мацнеў, выў у коміне, злосна гудзеў у дроце, сваволіў-раскідваў, як капрызнае дзіця цацкі, стары спарахнелы мой вільчык – толькі шчэпкі ляцелі. З-за высокіх бяроз выскоквалі, пабраўшыся за рукі ў д’ябальскім карагодзе, дзіка шалелі шарыя, падобныя да драпежнікаў, хмары. Ляцела-галёкала бура...

Думалася, зараз палье, як з вядра, дождж. А тут раптам у паветры зрабілася зімна, і сыпанулі, як з сявенькі, густыя шарыя снегавыя крупы. Дзіва – улетку пасыпаў снег! Аж сцепануліся знячэўку ў палісадніку познія цюльпаны. Кветкі яшчэ не паспелі адцвісці, бо ўсю вясну, бадай, не было сонейка, стаяла непаравая слота, і зямля не ведала, як сагрэцца, як ахаваць ад сцюжы і сябе, і зеляніну сваю, і квецень уратаваць. Цюльпаны разгубіліся спачатку, застылі ў здранцвенні, затым схамянуліся, адчайна сціснуліся, схілілі долу бутоны. Мужна падставілі пад снежны сечань зялёную, яшчэ кволую лістоту і ружы, белыя крупы бязлітасна seклі маладыя парасткі, вецер сцябаў іх, дужаўся з ружамі, намагаючыся надламаць. І толькі маргарыткі, бялюткія, самі падобныя да снегу, здава-

лася, спакойна пачувалі сябе, прыгарнуўшыся бліжэй да зямелькі, і зусім не баяліся, што неўзабаве схаваюцца-зліюцца, стануць непрыкметнымі на мяккім беласнежным кажушку.

Раптам высака ў небе паказалася кропачка. Думаў – які парашутыст. Адкуль яму ўзяцца? Аж не, птушка. На грэбні хмараў, як на хвалях у моры, насіла яе, падкідвала, кідала ўбакі. Птушка як магла змагалася з бураю. Вось яе раптам панясе ўбок, пасля выверне, перакруціць, каменем кіне ўніз, і нейкі момант птушка, асуджаная на гібель, бязвольна пікіруе, вось-вось, здавалася, упадзе і разаб'ецца.

Сэрца маё замерла, калі зразумеў, што гэта мой Буслік. Вось так і ў жыцці: кідае нас, перакручвае. Спрабуем узняцца, распраўляем крылы, імкнемся ўвышкі, а нас ізноўку падхоплівае бура і адпраўляе ў глыбокае піке. І хто тут скажа, што ўсё залежыць ад цябе самога? Не складваем крылаў, змагаемся. Часам выжываем, як вунь і мой Буслік.

Ці дапамог я яму? І не ведаю. Ці самой птушцы яшчэ не час быў памерці. Думкамі таксама дапамагаеш – думкі матэрыяльныя. Я стаяў, як ёсць, выскачыўшы з хаты, напаўголы, расхрыстаны. Калючыя снежныя крупы секлі грудзі, вецер свістаў у вушах, ды не чуў я ні холаду, ні страху не ведаў, хоць звычайна адчуваю перад бураю нейкі няўцямны, амаль жывёльны страх і стараюся схавацца, дзе зацішшей, і заўсёды малюся-малюся. Я і зараз маліўся, толькі ўжо не за сябе – за Бусліка. Высока ў неба ўзляталі мае думкі – вышэй здрадлівых хмараў, за якімі хаваўся, мусіць Бог. А ці бачыць Усявышні, што робіцца на зямлі? А ці ён гэткі помслівы да людзей, за тое, што яны спрабуюць зрабіць прыроду сваёй служанкаю? І таму хоча наслаць на іх зіму ўлетку! Толькі завошта ж птушку!...

Бусел заўсёды прыносіў шчасце. Ці заўсёды? Шчасце прыносіць ён толькі добрым людзям. Буслы – птушкі помслівыя. І добрае памятаюць, і ліхога не забываюць, не даруюць. Было, што ты разбурыш яго гняздо, а ён у адказ падкіне табе ў падстрэшак сатлелую галавешку. І гары гарам хата. А ўжо калі бусел сам пакіне гняздо – чакай бяды!

Ды на гэты раз думаў я не пра сваё шчасце, а пра яго. Гаротны. Можа, і сапраўды бежанец, прыляцеў сюды, каб жыць, а знойдзе смерць. І я ў думках змагаўся з бураю. Вось нас абодвух заносіць, здзімае, кідае ў яму, як у бяздонне, але ж ён ужо не адзін, а нас двое, і мы таму моцныя, і мы пераможам...

І мы перамаглі. Нейкім неверагодным чынам мой Буслік утрымаўся ў паветраным акіяне шалёных хмараў, знізіўся, віртуозна спланіраваў і паспяхова прызямліўся ў сваё гняздоўе. А з гнязда, колькі ні шалеў вецер, колькі ні стараўся, нават ніводнай галінкі не ўдалося яму сарваць. Мой дом – мая крэпасць! Вось бы нашым будаўнікам быць гэткімі майстрамі.

Тым часам надвор'е мянялася, як увосень. Пад вечар віхура заціхла, пацяплела. А бліжэй да начы разышоўся дождж. Ісці-ісці – зашумеў лівень, праўда, ужо не ледзяны, і ў паветры патыхнула нарэшце не сіверам, а чымсьці больш лагодным, падобным да лета. Аднак дождж і не думаў сціхаць, цярабіў і цярабіў мой дах усю ночку. Цяперака, мабыць, чаго яшчэ не памарозіла, тое залье.

Дзіва, бусел увесь час стаўпенем стаяў на слупе і мужна пераносіў капрызы прыроды. Божа, каб у мяне былі тыя павучыныя абцугі, якія электрыкі накідваюць на слуп, калі рамантуюць лінію, ці хаця б калі я аддалена нагадваў альпініста... Палез бы, схапіў бы свайго Бусліка, накры-

чаў бы на яго, як на гарэзлівае малое дзіця, прынёс бы ў хату і нават, нягледзячы на лета, – якое там лета! – запаліў бы ў печы.

На жаль, я не альпініст. А таму давялося прымаць усё як ёсць. Сам у хаце схаваўся, сам ляжаў пад цёплаю коўдраю, бо мне было холадна заадно з Буслікам. Калаціўся. Адчуваў брыдкае пачуццё віны, хаця ці быў я вінаватым? Урэшце стараўся не думаць, каб хутчэй заснуць, каб забыцца і не перажываць з-за таго, чаго не зменіш.

А раніцою падняўся яшчэ на дасвецці. Не давала мне спакою думка пра Бусліка. Буры – як і не было. На вуліцы прачыналася звычайная прыгожая чэрвеньская раніца. У вялікім сімфанічным аркестры разнастайных птушыных галасоў урачыста ўзыходзіла сонейка. Чым вышэй падымалася, тым святлей спявала душа. Ля зямлі яшчэ гойдаўся рэдзенькі шызы, як дымок, туманок, а прашытая дажджом зямля злёгку курылася параю. І асабліва ўзмакрэлы шыфер на даху, здавалася, так і дыхаў цёплаю, як сырадой, вільгаццю.

Буслік дзелавіта рабіў агляд сваіх недабудаваных апартаментаў і быў цалкам шчаслівы і задаволены жыццём. Аніякае скрухі, быццам бы і не было ўчарашняга змагання са смерцю. Радуецца сонейку, цярэбіць пер’ечка, сам яшчэ, як мокры певень, а ўжо шчаслівы і горды, бы сапраўдная цар-птушка. А ледзьве сонейка ўзнялося вышэй – зляцеў з гнязда і – за справу. Трэба ж хату будаваць. Хто будаваўся, той ведае, як усё пасоўваецца марудна, асабліва калі будуешся адзін.

За ўсё лета бусел так і не знайшоў сабе пары. Трэба сказаць, знаходзілася шмат кандыдатак. То праляталі нізка над слупам, то прызямляліся на суседнія. І ўсё паўтаралася зноў. Бусел мой выгінаў шыю, біў крыламі, апантана клекатаў і тым самым выказваў нязгоду. І – застаўся самотным.

Лета праляцела імкліва, як знічка – кароткае, не па-летняму халоднае, нейкае нецікавае, пустое. Не паспелі ні пакупацца, ні пагрэцца. Што вырасцілі, дык толькі ў парніках. Не было ні вінаграду, ні вішань, ні нават яблыкаў. Вінаград з вішнямі прыхапіла яшчэ напрадвесні, памерзлі пупышкі, а яблыкам быў не год. Тое ж самае здарылася і з чарніцамі, і наш бедны люд застаўся без ягадных грошыкаў. Завошта дзяцей у школу адпраўляць? Затое нарасло грыбоў. Толькі лянівы не збіраў, не здаваў лісічкі, не цягаў кошыкамі з лесу крамяныя баравічкі. Насушылі, насалілі. Зрэшты, не канечне было ісці ў лес па грыбы. У мяне ў садзе вакол альтанкі начаплялася вяночкамі апенак, а ў блізкім асінніку можна было бачыць чырвоныя шапачкі падасінавікаў. Урадзілі бульба з грыбамі – беларус не памрэ.

Буслы адлятаюць рана. На схіле лета мой самотны Буслік усё часцей пакідаў гняздо, і я ўжо болей не хваляваўся, ведаў, што ён мне не здрадзіць і не пакіне. Проста ў кожнага сваё жыццё, у яго свае пільныя справы, у мяне свае. Па-філасофску, без адчаю прыняў я і яго адлёт. Шчыра казаць, адбылося гэта неяк неўпрыкмет. Ён то вяртаўся ненадоўга, то знікаў, ды аднойчы знік назусім. Акурат і ў мяне заканчваўся жнівеньскі адпачынак, час было выходзіць на працу, не было калі болей мне лавіць карасікаў і пільнаваць бусла. Гняздо апусцела.

У птушак – як і ў людзей. А гнёзды – як і хаты. Калі пакідаюць дзеці – яшчэ застаюцца бацькі. А вось калі ўрэшце адлятаюць у апошні вырай бацькі – гора хаце. Асірацелыя, яны тады толькі ірвуць сэрца. Не ведаю, як гарадскім, мажліва, ужо там ачарсцвелі ў сваіх каменных шпакоўнях. А

можа, каму яшчэ і баліць – і роспачна, і сорамна, дык стараюцца сцежку ў вёску забыць, каб не бачылі, не турбавалі вочы спакою душы. А ў мяне па-ранейшаму мурашкі па скуры, і ў пот халодны кідае, калі бачу пакінутыя хаты і гнёзды. Здавалася б, ужо і прывыкнуць час, сярод гэтага ж і жыву...

...Спакой бацькоў вартуюць
Яліны за шляхом,
У копанцы начуюць
Карасік з ветахом,
На вудачцы затропаў
Вялізны коўзкі лін,
Вось тут мая Еўропа –
Варшава і Берлін...

Дык каму ж, як не мне, урэшце, закрываць вочы роднай вёсачцы, адпраўляючы яе ў апошні шлях? Але ж хіба можна прывыкнуць да бясконцых хаўтураў!

Палівалі халодныя асеннія дажджы, кружылі вятры над воглым бетонным слупам і над буслянкай. Прыязджаў КамАЗ з пад'ёмнікам, моцна мяне спалохаў. Думаў, ужо едуць буслянку маю бурыць, аж кулакі зачасаліся. Ды не, прыехалі сувязісты, знялі са слупа апошнія крукі, на якіх раней віселі правады для радыё. Радыё даўно ўжо няма ў вёсцы, а крукі – рэч каштоўная. Здадуць на метал. Эканоміка павінна быць эканомнай. Busловымі апартаментамі, на шчасце, не зацікавіліся.

Загарэліся ўвосень ліхтары. Эканоміка, зноў жа, ашчаднай павінна быць, таму ўлетку вяскоўцам ліхтары не свецяць. Гэта ж вам не сталіца, дзе ўсё патанае ў бляску і святле і ўжо не ведаюць, што яшчэ бліскучае там забацаць. Ліхтары загарэліся, шэранню буслянку абсыпала, пасерабрылася яна, зазіхацела, як і мае скроні. У кожнай пары года, як і ў кожнай жыццёвай пары, ёсць свая натуральная аздоба.

Шваблю шуфлікам снежныя дарожкі, спрачаюся з зімою, хто з нас мацней і хто з нас вясны яшчэ прычакае. Спадзяюся прычакаць, і Бусліка пабачыць таксама. Толькі дзеля гэтага ўжо варта дужацца з зімою і жыць. Вечары доўгія. Кампутар зусім адабраў вочы, а сацыяльныя сеткі – розум. Ператвараешся ў зомбі і пачынаеш спалохана адчуваць, што ўжо не можаш і не хочаш адарвацца ад экрана манітора і паказаць нос на вуліцу. Што зараз на вуліцы рабіць? Прынесці дроўцаў, напаліць у грубцы, уступіцца ў мяккія буркі, калі ў сланцах ужо нястрым, і сесці за манітор. Нават кніжкі – тваё жыццё і твой лёс – ужо на другім плане – у мінулым, там, дзе і твая маладосць, і твае юначыя амбіцыі, і твае светлыя вочы. Сляпіцца над кніжкаю, калі можна пачытаць "онлайн"...

Спадзяюся, што мой мілы добры самотны Буслік зноў прынясе мне на крылах вясну – з агародам, з парнікамі, з чароўнай маёй копанкай, дзе карасікі і лінькі, з кветкамі. Дасць мне сілы адарвацца ад кампутара і каторы раз акрыяць душою. А сам Буслік урэшце перастане быць самотным і прывядзе сабе буслíху. І дабудуюць буслянку, і я ўбачу на гняздзе яго дзетак, яго шчаслівую сямейку. І парадуюся ёй. Не пакідай мяне, сынок. Прылятай, родны!

*25 студзеня 2018 г.*



Усевалад Гарачка



...Радзімаю гаротнаю,
Чужынай незваротнаю
Ідзе вайна-карміліца –
Шчаслівая,
На мыліцах...

# Свята вайны

У дзяцінстве, як мне здаецца, я не вельмі адрозніваўся ад іншых хлопчыкаў, і гуляць "у вайну" было нашым агульным любімым заняткам. Любіў я глядзець і ваенныя фільмы.

Аднойчы ў мяне з дзедам (бацькавым бацькам), які крыху паспеў паўдзельнічаць у Першай сусветнай, адбыўся такі дыялог:

– Дзядуля, ты ваяваў?

– Ваяваў.

– А людзей забіваў?

– Забіваў.

– А колькі ўсяго ты забіў?

Дзед сур'ёзна паставіўся да майго пытання. Ён доўга, часам задумваючыся, часам пачынаючы з пачатку, лічыў на пальцах і налічыў... меней дзясятка. Я не памятаю, якія думкі і словы ў мяне тады нарадзіліся, але эмоцыі памятаю. І калі іх цяпер перавесці ў словы, атрымаецца нешта такое: хіба ж гэта ваяваў! Вунь у фільмах нашыя страляюць – немцы дзясяткамі, сотнямі кладуцца.

Падчас прагляду аднаго з такіх фільмаў я спытаў у мамы:

– А людзей можна забіваць?

Яна задумалася, а потым няўпэўнена сказала:

– Думаю, ворагаў можна.

Хоць я тады і верыў у ворагаў, такі адказ мяне збянтэжыў. Напэўна, я спраектаваў сітуацыю на сябе: вось ёсць вораг, і яго трэба забіць.

А часамі вайна ажывала. Ажывала не як нешта жахлівае (такой я яе ў дзяцінстве і не ведаў) ці гераічнае. Яна ажывала для мяне як штосьці прыгожае, эстэтычнае.

30 год перамогі. Уся школа калонай ідзе на брацкую магілу. Вучні прыгожа апранутыя. Потым, ужо на месцы, кажуцца ўрачыстыя прамовы, ля абеліска стаіць ганаровая варта. Хоць неба і зацягнутае лёгкай смугой, але на двары цёпла. І я, дашкольнік, хаджу па падстрыжанай траве, усыпанай стакроткамі. Гучаць песні... Прыгожыя песні пра вайну.

А потым я пайшоў у школу. Нейкі час міф пра вайну яшчэ жыў у маёй душы. (Калі я кажу “міф”, зусім не хачу падкрэсліць, што ўсё было няпраўдай, – наадварот, у гэтым было нешта шчымліва-ўзвышанае. Проста штосьці падобнае я адчуваў, калі чытаў міфы старажытнай Элады). Але ў хуткім часе ён пакрыху пачаў разбурацца ці, лепш сказаць, “вытыхацца”. І асабіста для мяне ўсё пачалося з песняў. Ведаеце такую:

Не спится только ветерану,
Войны минувшей партизану:
Ночь растревожила в нём раны...

Бачыце, паклалі ветэрана спаць у парадным мундзіры на п’едэстал. А яму там не спіцца. Варочаецца ён, застываючы, то ў адной то ў другой гераічнай позе. Працягнуў справу па знішчэнні светлага вобразу вайны ў маёй душы дырэктар нашай школы – дарэчы, ветэран, інвалід. Нібы гратэскавы помнік самому сабе, адставіўшы хворую нагу, ён аддаваўся на школьных лінейках бясконцым прамовам. А мы, вучні, каналі ад стомы. А чаго вартыя яго расповеды пра вайну. Такога не прыдумаеш.

– Ідёш, рабяткі, у бой. Па маленькаму захацелась. Што вы, рабяткі, думаяце?.. В штаны-ы-ы!. А па бальшому? Правільна, рабяткі, тожа в штаны!

Або яшчэ:

– Лежу я в госпітале. Прышла медсестрычка Аннушка бінты менять. А больна! Я её кастылём па галаве как трахнул! Большэ нашу Аннушку я нікагда не відел.

Аднойчы прыходзіць наш дырэктар на ўрок геаграфіі, спазніўшыся хвілінаў на дзесяць. Клас – у рогат. А ён: “Чэво вы, рабяткі, смеёцесь – старые люді долга в туалеце сідят”. А як ён вёў урокі геаграфіі! (І хто яго самога вучыў?)

– Пінжак (пры гэтым ён торгае за крысо свайго пінжака) – рэчыва, ручка (падымае яе ўгору) – рэчыва, лінейка (тое ж самае) – рэчыва. Усё рэчыва.

Ішоў час. Я скончыў школу, паступіў ва ўніверсітэт. Аднойчы мы падчас Дзён Фізікі ўсім факультэтам на чале з дэканам ішлі вакол універсітэцкага гарадка, спяваючы жартоўны гімн фізфака. Нехта ў пярэдніх шэрагах трымаў сцяг. І тут да нас падбегла бабулька-ветэранка са словамі “фашысты” і так далей. Яна спрабавала адабраць наш сцяг з надкушаным яблыкам.

Можа, ёй там мроілася свастыка? Гэта ў тыя часы паціху пачаў развальвацца Саюз. Сталі паказваць па тэлебачанні паседжанні Вярхоўнага Савета. Я глядзеў іх і моцна злаваўся на прадстаўнікоў фракцыі ветэранаў, не любіў іх. Некаторыя з дэпутатаў-ветэранаў былі такімі ўжо замшэлымі рэтраградамі. І пры гэтым іх голас рэальна нешта вырашаў. А потым і не вырашаў. Ды і ўвогуле іх амаль што не засталося. А пра іх усё гаварылі, гаварылі і гаварылі. І гэта было ўжо смешна...

## *ВАЙНА*

З'явілася ў вопратцы Перамогі:
Маршыруе,
Звініць медалямі.
Усе шануюць,
Усе хваляць яе,
І няма без яе ні адзінага свята.
Але згледзеў нехта аднойчы:
Пад парадным касцюмам
Хаваецца смерць.
Хацелі схапіць яе,
Ды застаўся толькі мундзір у руках –
Адкінула яго Вайна,
Нібы яшчарка – хвост,
А сама пабегла
У іншыя гарады і краіны
Чыніць сваю справу.

## *ТАНК МІНУЛАЙ ВАЙНЫ*

...І калі вецер развеяў
едкае воблака дыму,
калі сціхлі апошнія стрэлы,
усе пабачылі
чорны агромністы танк.

Закрыўшы сабою ўсё,
што было да яго,
нашу памяць,
ён з лязгатам ехаў у заўтра.

– Чаго ж вы, героі,
танцуеце каля яго,
спяваеце гімны?
Гаворыце:
кавалі для нас перамогу?

Не ваша віна,
але, збіваючы варожыя танкі
і самалёты,
вы кавалі
пачварны агромністы танк
мінулай вайны.

### *СТАРОМУ ГЕРОЮ*

Хацеў пачаставаць цябе кулямі жартаў,
Але ты ўжо ў акопе
Абранасці,
Пыхі,
Непрыняцця чужога.

Хацеў закідаць цябе гранатамі кпінаў,
Але ты ўжо ў танку
Ганарлівасці,
Глупства
І цемрашальства.

І начышчанае жэрала яго гарматы
Пазірае мне ў твар.

* * *

Сто год не было вайны,
Сто год не лілася кроў.
Адкуль жа на вуліцы
Зноў ветэраны?
Навошта іграюць
Вайсковыя маршы?
І нехта мне кажа:
– Зірні на сябе!
Я бачу:
Фуражка,
Лампасы,
Пагоны...
Нібыта ў пачварным сне:
Нечакана заўважыш,
Што заміж твару
У цябе воўчая морда,
А на кіпцях –
Свежая кроў.

* * *

Сапраўдныя героі вайны
Ніколі не ведаюць,
Якія яны героі,
Але добра ведаюць,
Што яны
Перш за ўсё –
Людзі.
Калі ж нехта з іх
Пачынаў разумець,
Які ён герой, –
Герой у ім
Паміраў,
Але найперш
Паміраў у ім
Чалавек.

* * *

Не помню ўжо якая гадавіна...
Мінулай перамогі садавіна
Сабралася на развітальны баль.

Павесяць кожнаму ці ордэн ці медаль,
Дадуць падмогу (разумейце: "грабавыя") –
У кожнага ад радасці душа завые:
– Што б сёння мы рабілі без вайны?

Няўжо, як прашчуры, мы верылі б у Бога?
Не, лепей – у зямную перамогу,
У нашы медалі і ардэны!

### *УСІМ ВЕТЭРАНАМ, ІНВАЛІДАМ, ГЕРОЯМ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА*

Я – ваша шаленства,
Ваша нянавісць
Да тых,
Хто сказаў,
Што пасля
Дня перамогі
Будзе
Заўтрашні дзень.
Нянавісць,
Якая,
Паблукаўшы па свеце,

Вярнулася
Зноў жа да вас.
Але,
Чуеце,
Вас адпускаюць
З палону
Інвалідства,
Геройства
І славы.
Ідзіце,
Жывіце людзьмі.

* * *

Ідзе вайна-карміліца –
Шчаслівая,
На мыліцах.
Ідзе і усміхаецца:
Вясёлыя – не каюцца.

За ёй шыбуюць маршамі
І вашыя,
І нашыя,
З рагамі і бязрогія,
Бязрукія, бязногія.

Ідуць пад бой курантавы,
Махаюць транспарантамі
І левыя,
І правыя
Распаленаю лаваю.

Як тыя,
Так і гэтыя –
З гарматамі, ракетамі,
З ракетамі-гарматамі,
У тры паверхі матамі.

З падоранымі кветкамі
І валасамі рэдкімі.
Ужо рыпяць “педалямі”,
Але звіняць мед*а*лямі.

Знікаюць скамарохамі
З мінулымі эпохамі.
Устануць новабранцамі –
Вайскоўцамі,
Паўстанцамі...

Радзімаю гаротнаю,
Чужынай незваротнаю
Ідзе вайна-карміліца –
Шчаслівая,
На мыліцах.

* * *

Ужо амаль што попел, а шыпяць,
Нібы вады лінулі на вуголле.
Падпольшчыкі былой вайны не спяць –
Паэтаў заганяюць у падполле.

* * *

Ужо і попел астыў,
І дым не віецца,
А нехта ўсё дзьмухае,
Дзьмухае –
Раздзімае цяпельца.
Дык што,
І вайны не было?
І ўсё тут няпраўда?
Не,
Праўда.
Было,
Ды не з намі.
І стала гісторыяй,
Памяццю,
Песняй.
А нехта
Адмывае тут "золата".
Ганіце яго,
Бо ён –
Той жа Гітлер
Ці Сталін маленькі.

* * *

Вайна –
Гэта прыгожыя мундзіры,
Бравурныя маршы,
Сцягі і калоны.
Даўно ўжо
Ніхто нікога не забівае,

А ўсе разам
Святкуюць,
Спяваюць,
Ідуць.
Вайна
Стала нашым адхланнем,
Адпачынкам ад працы.
Бачыш,
На вуліцах свята:
Сцягі,
Транспаранты.
Поўныя плошчы людзей.
Не такіх
Задуманых, шэрых,
Як мы.
І здаецца,
Што гэтыя вясёлыя людзі
Сёння нас захапілі,
Забралі наш горад.
І мы ўжо не мы,
А яны.

Зміцер Вішнёў



...Я задам сакраментальнае пытанне:
а ў чым сэнс жыцця? Дзе яго шукаць?..

# Калі прыгледзецца – Марс сіні

***Фрагмент рамана***

Гэта канец свету, і ўсе з'язджаюць з глузду,
альбо Цьмяная гісторыя пра беларускую шараговую кнігарню

*гэта страшны чалавек, бо ён пакутуе на падваенне, патраенне асобы. Ён можа быць выдаўцом, дырэктарам кнігарні, можа быць слесарам, магчыма, маньякам, часам ён ператвараецца ў капітана Бараду. Я яго не ведаю – я яго падазраю. Ён падазрае мяне. Мы сядзім за сталом насупраць адзін аднаго і маўчым. Гэта страшная сцэна – я не ведаю, чым яна можа скончыцца. Я ідавочна не люблю есці людзей, спадзяюся, што і той, хто сядзіць насупраць, не людажэр. Але ў кожным выпадку мы пэўна не вегетарыянцы.*

Хто мы? Адкуль? Навошта? Гэтыя пытанні, ці, прынамсі, падобныя, кожны з нас часам задае сабе. Я думаю, што гэта ўсё чухня. Я жыву не задумваючыся. У мяне мазгі працу-

юць накшталт піраміды; узбіраюся і адпачываю на каменных прыступках. Хачу перамагчы не задумваючыся. А ці так атрымліваецца? Зноўку пытанні, зноўку непатрэбныя думкі. Магчыма, без думак жыць нельга. Усё ж гэтая рыса ўласцівая чалавеку, і менавіта дзякуючы ёй чалавек стаў чалавекам. Халера ясная! Я ж тут развагамі ды роздумамі й займаюся.

Фы-ырррр! Заляцеў у фортку сіні чмель і пачаў кружляць вакол маёй галавы. Можа, з'явіўся німб? Ці мяне працяла электрычнасцю – у вачах мітусіцца жамяра? Першы чмель, другі чмель, за імі – восы, там далей – матылёк. А вунь на маю галаву раптам ускараскаўся дзяцел і пачаў дзяўбаць скроні. Тук! Тук! Тук!

Я жыву ў складаны час і ў складанай краіне. І мяне яшчэ напаткала шчасце ўлезці ў скуру дырэктара кнігарні. Не, гэтую скуру я часам спрабую здзерці. Зрэдку мне шанцуе, і скура звальваецца з мяне, як зімовае футра. А часам я пакутую.

Ну, давай ужо нараджай! Што ты ходзіш вакол? Няма чым заняцца? Людзі жадаюць праўды! Яны мараць пачуць праўду! А вакол адны брахуны! Гэта як самазабойца з чырвоным сцягам, які бяжыць на дзот. Плюецца кулямёт. Гэтыя пляўкі працінаюць смелага мёртвага героя.

Пра што я хачу вам распавесці? Пачнем з таго, што я анічога не хачу распавядаць. Ну, не хачу і ўсё! Я проста здзекуюся з паперы і такім чынам лекую сваю змардаваную душу.

Учора я чарговым разам напіўся са сваім сябрам Майклам Крывым. Піць мы пачалі яшчэ ў абед. Майкл пазваніў і паведаміў: “Хрэнова мне. Жонка пілуе ўжо два дні. Дачка на бомкі не адгукаецца. Жыццё ідзе пад адхон. Трэба напіцца”. Ну, калі напіцца, значыць, сустракаемся. Пачынаем з піва, там раптам выплывае каньяк, а там, глядзіш, выскоквае і гарэлка. Таму зразумела, што на раніцу нас сустракае таварыш бадун. Сёння зранку пілуюць не толькі Крывога: мая прыгажуня таксама не хухры-мухры – ведае, дзе ляжаць хатнія прыстасаванні для рамонту ў кватэры.

Ну вось, трохі стала лепей для змардаванай душы. Нібыта паклалі мяне ў ванну з півам. З нефільтраваным пшанічным півам. Пена вакол так і гуляе. Бурбуліцца. І так добра мне стала. Што бяры і прыкладай мяне да цела накшталт губкі для мыцця посуду.

*нагадваў маленькую беструрботную лічынку мухі (ды ў першай каробцы шустаў сіні матыль, у другой – шкрэбся чорны жук, у трэцяй – гуў залаты чмель, у чацвёртай – рыпела шкляное вока рыбіны).*

**0.** Перад вачыма беглі радкі, перацякалі карагоды словаў. Галава чалавека ўзнагароджвала прастору сваёй прысутнасцю. Аблокі рыпелі, быццам хромавыя боты. Хацелася паразумення, але гэта было немагчыма. Цені перагукваліся, нібыта вартавыя сабакі. Дрэвы спружынамі трымалі неба, і ў гэтым было нешта ненатуральнае і фантастычнае. Галава чалавека ўсміхнулася.

*Не більярдны шар. Нешта ад рыбалоўнай лункі. Штосьці прыдатнае для гульні ў рэгбі – можа, для гульні ў пінг-понг. Нешта ад фішкі ў казіно. Здаецца, ёсць расплаўлены воск. Знутры свеціцца, нібы ліхтар.*

– Галава, а галава, а чаго гэта ты так блішчыш?
– Гэта ад таго, што я адпаліраваная. Я люблю більярд.
– Галава, а галава, а чаму ў цябе такія вялікія і вострыя зубы?
– А гэта ад таго, што я люблю катлеткі і марынаваных чыжыкаў і пыжыкаў.
– Галава, а галава, а чаму ў цябе такія вялікія вушы?
– А гэта дзеля таго, каб лепш цябе чуць. Каб не зблытаць твой цудоўны галасок з іншым.
– Галава, а галава, а нешта мне падаецца, што твае вочы моцна гараць...
– Дык так яно і ёсць. З'еш чырвонага перцу, часныку і цыбулі – тут не толькі вочы, тут і пупок будзе светлафорам.

*Птушка вылецела з клеткі, і ейныя крылы выраслі.*
*Па левым крыле птушкі ехаў самазвал, і там сядзеў чырвоны барон. У барона былі залатыя зубы, і ён увесь час усміхаўся і спяваў песеньку: "Вочкі закрывай, баю-бай!" Побач з баронам сядзеў камандзір першага пяхотнага палка Сямён Сямёныч Варэннікаў. На лбе ў яго гарэла зорка, а на пагонах свяціліся маленькія кароны. Сямён Сямёныч мургатаў, нібыта кот, і час ад часу выцягваў з грудзей жалезны крыж. Крыж таксама нешта мургатаў і дыміўся, нібыта распараны пасля лазні. І ў машыне гучала ціхая музыка, штосьці з Шапэна.*
*На правым крыле пяцёра мужыкоў сядзелі каля вогнішча і варылі ў катле нешта смачнае. Гэтае "нешта смачнае" выцягвала з вады зубатую галаву і ўвесь час паўтарала: "Гары, гары ясна, каб не згасла". Зрэдчас з рота зубатай пачвары выцягвалася рука з чырвонай бутэлькай. І гэтая рука налівала мужыкам у бляшаныя кубкі нейкага чырвонага варыва. Мужыкі цокалі, крякталі і выпівалі.*
*Птушка ляцела на захад – яна была супрацьядзерным шчытом.*

**1.** У гэтым горадзе не было праблемаў з мастацтвам, з літаратурай, з кулінарыяй, з фармакалогіяй, з паліталогіяй, з юрыспрудэнцыяй. Вось з культурай пэўна былі. Затое ў спорце здараліся вялікія дасягненні. А з культурай выхавання некаторых людзей нават адбываліся катастрофы. Не было тут шматлікіх галерэяў, хаця мастацкіх майстэрняў – процьма. Не было тут і прыватных кнігарняў. Хаця хлушу зноўку, такія былі, але на трохмільённы мегаполіс дзве прыватныя кнігарні? Дзе гэты тлушч? Гэта што – здзек? Быў гэта горад са шматлікімі заводамі, са шматлікімі прэзідэнцкімі і тэністымі палацамі. Стаяў у горадзе і цуд з цудаў – бібліятэка, падобная да футбольнага мяча. Гэткая агромністая пачварына. Відаць, тут выявілася перадусім любоў чыноўнікаў да спорту.

*Бібліятэка нарэшце пакацілася. Вайскоўцы радасна закрычалі "Ура!!!" Ці гэты крык нагадваў "Рубон!!!"? Бібліятэка пракацілася па праспекце Незалежнасці і захрасла толькі недзе ў раёне плошчы Перамогі, бо натыркнулася на вялікі шпіль. Гэта быў прыгожы гук "Хрась"! З байніц бібліятэкі павылятаў галубы (ці гэта былі кнігі?), якія падалі на асфальт і ператвараліся ў пінгвінаў. З пад'езда бліжэйшага дома выйшаў чалавек у*

*скураным плашчы і скураных ботах. Ён сказаў адно слова: "Мышаня". Пінгвіны як па камандзе пашыхтаваліся ў калону, якая нагадвала па форме мышаня, і рушылі ў бок Свіслачы.*

– Галава, а галава, скажы, навошта мне ўсё гэта ведаць? Я не збіраюся ў турыстычнае турнэ. Мне гэты горад да дупы. Можа, ты памылілася, апавядаючы ўсё гэта мне?

– Можа, і памылілася. Але ж трэба мне аб нечым балбатаць. Бо мае мазгі ўжо засыхаць сталі. А трэба іх трошкі размачыць культурнымі думкамі. Гэтак сухары макаюць у малако і ядуць. Смаката.

*Бам! – раптам абвалілася заводская вежа, за ёй – наступная, а за ёй труба. І вось ужо ўвесь горад, які калісьці шчэрыўся шыпамі, грымеў і абвальваўся. Знікаў знакаміты вожык. Вуліцы сталі выглядаць аголенымі і бязабароннымі. Нібыта нованароджанае дзіця. Я паглядзеў на горад, і мне стала сумна – зніклі любімыя заводскія і вадапомпавыя вежы. Будынкі заводаў разваліліся разам з трубамі. Бам! І горад вырашыў змяніць сваю ўсмешку. Зубы пачарнелі і згнілі. Дым, якім пляваліся трубы, знік. Перада мной была, у пэўным сэнсе, карціна хаосу. "Дарагія мае трубы – любімыя мае гарадскія цыгары"... – прашаптаў я. І было ад усеагульнага грукату рэха! Нейкае гулкае, ненатуральнае.*

**2.** Рыгор Каваль – чалавек, які ў зорную ноч, а магчыма і ў беспрасветнай начной цемрачы, зразумеў, што ён хоча адкрыць у цэнтры горада новую кнігарню. Можа, нават і не зусім кнігарню. А нешта трошкі ад галерэі, трошкі ад кнігарні – а ў цэлым каб гэта была культурніцкая пляцоўка. Своеасаблівая плюшка, якая пасыпаная цукрам і плавае ў каньяку. Хацелася Рыгору, каб сюды запаўзалі не проста выпівохі, а інтэлектуальныя прапойцы. У адным закутку рыгнуў, дык у другім рэхам адгукнула паэтычнае слова.

*На ўзгорку стаяла чорная кузня – там барадаты дзядзька з барвовым тварам біў па кавадле вялікім блішчастым молатам. Выляталі іскры, якія пішчалі кулямі. І калі мужык рабіў перапынак, да яго падыходзіў гном у барвовым каўпаку і працягваў далонь. Мужык адрываў руку ў гнома і кідаў на кавадла. Рука скварчэла і плавілася. У гнома, як у яшчаркі хвост, зноўку адрастала рука. Гном набіраў у рот нешта з келіха, закідваў галаву, булькаў, паласкаў рот і выплёўваў на новую руку, і тая выгіналася, нібыта змяя, у танцы.*

*І так выплаўляліся кнігі.*

– Зразумеў? – запыталася галава. – Рыгнуў і адразу ў Рыгораператварыўся. Гы-гы. Так у жыцці заўсёды. І толькі так.

– Ты нейкая занудная галава. Даць табе па макаўцы вяслом можа? Глядзіш, у капітаны пойдзеш.

– У капітаны я пайду на сто адсоткаў – не сумнявайся, – раптам заявіла галава. – А вось што ты будзеш рабіць – у мяне вялікія пытанні. Паглядзі на сябе – да каго ты стаў падобны? Нейкі дыназаўр у чырвоных шараварах. Нос таксама чырвоны і наздрысты. Вочы запаленыя. Падбароддзе ў сівізне. Няма чаго казаць. Бракуе табе капітанскай прыгажосці.

– Гэта яшчэ чаму? Хто ведае, якая знешнасць мусіць быць у капітана?

– Яна мусіць быць гераічнай! – заявіла галава і паказала мне язык.

*Гучыць гімн. Выносяць сцяг! Бі барабан. Бі! Рукі дрыжаць ад напружання, але трымаюць бясконцы піянерскі салют. Барабанны дробат. Сонца грыміць разам з барабанам. І перагукаецца блісамі. Піянерскія гальштукі дыхаюць разам са сцягам. Гэтыя ўспаміны выплываюць з дзяцінства папяровымі караблікамі. Падае заслона.*

**3.** Што з сябе ўяўляе Рыгор Каваль? Калі ўзяць карову і адпілаваць ёй рогі, калі абкруціць ейную галаву мачалкамі, а на нос павесіць замест званочка чорныя акуляры... калі на шыю накруціць барвовы гальштук – ну нешта атрымаецца. Мы на ўласныя вочы ўбачым Рыгора Каваля. Яшчэ адна дэталь: Рыгор Каваль у мінулым працаваў электрыкам, але аднойчы (хоць відавочцы даказваюць, што такіх выпадкаў было як мінімум трынаццаць) яго ледзь не забіла токам. Пасля таго фатальнага здарэння Рыгор зразумеў, што пласкагубцы, дрот, ізаляцыйная стужка, лямпачкі, драбіны – гэта не ягонае. Паэтам ён аніколі не быў, а вось паэзію любіў, і таму вырашыў пайсці ў кнігагандлёвую сферу.

*Карова рыкала, жабка крумкала, свіння рохкала, камар пішчаў, танк ракатаў, дрэвы гулі. Сонца кацілася. Электрык Каваль цягнуў дрот да вадапомпавай вежы. Раптам дрот ператварыўся ва ўдава і пачаў душыць электрыка. Вочы ў Каваля сталі зачараванымі слівамі, яны вылезлі са сваіх арбітаў і пырскалі сокам. І тут аднекуль з'явіўся Чарвяк Праныра, які пачаў размінацца. Але электрык, не доўга думаючы, яго расціснуў "пш-ш-ш", але так сталася, што Чарвяк быў моцны, як цвік, і таму прапароў падэшву Каваля "я-ха!" У гэты момант з вадапомпавай вежы скокнула прынцэса. А гэта была яна. Калі яна падала, ейныя залатыя валасы развяваліся і адтуль выскоквалі зоркі. У рэшце рэшт электрык сцягнуў з шыі ўдава і зрабіў з яго аркан, раскруціў яго над галавой і злавіў прынцэсу. Тая з крыкам "Хатха ёга!" звалілася ў абдымкі Каваля.*

*А Чарвяк вылез з падэшвы і пайшоў на наступны дзень у школу. З таго часу электрык Рыгор Каваль вырашыў пайсці ў кнігагандлёвую сферу.*

– Зразумеў? У кнігагандлёвую сферу! Гэта табе не булкамі ды рагалікамі гандляваць – тут патрэбны талент! – сказала галава і заўсміхалася.

– Галава, а галава.

– Ну, чаго табе?

– Ці ёсць жыццё на Марсе?

– А хто ж яго ведае? Можа і ёсць.

– А Марс чырвоны?

– Чаму, можа і сіні – асабліва калі глядзець на яго праз сіняе шкло. Дакладна: Марс – сіні!

– А мне здавалася, што калі глядзець на чырвонае праз сіняе шкло ці зялёнае, дык будзе чорнае...

– Ну, у кожнага сваё шкло – можа, па новых тэхналогіях і з новымі нязвыклымі фільтрамі... будзе інакш?

– А хто табе гэты Рыгор Каваль? Навошта ты адсочваеш ягонае жыццё?

– Пэўна, марсіянін ён. Сам мяркуй, такая, як у яго, знешнасць можа быць толькі марсіянскай.

*калі па слупах поўзаюць рабочыя, у гэтым ёсць нешта прыгожае. Яны,*

*здаецца, і шахцёраў нагадваюць, але бліжэй да птушак. Рамантуюць там нешта пад самым небам, дрот цягнуць. Ізаляцыяй займаюцца. Заўсёды з цікаўнасцю пазіраю на гэтыя антэны нашага жыцця. Вунь папоўз чарговы ў касцы з вялікім ліхтаром. Толькі б слуп не зваліўся. Не мусіць. А той хто паўзе? Будзе ўсё добра. Вось зараз уключыць – і будзе светла ў нашым доме.*

**4.** – Што на цябе паўплывала, Рыгор? Што здарылася з тваёй разумнай галавой? Няўжо гэтыя шматлікія зморшчыны, што парэзалі твой белы шырокі лоб, – гэта чарговае неспадзяванае спатканне з электычнасцю? А можа, раптоўна цябе зачапіў бампер джыпа або якая раўнівая каханка моцна стукнула вострым абцасам? Нашто ты звязаўся з кнігарняй? Нашто сябе не пашкадаваў і кінуўся пад колы гэтай вар'яцкай машыны – імя якой не кнігарня, а дурноцце? А-а-а?!! – лямантавалі пытанні ў галаве Рыгора.

– Дык усё вельмі проста. Прачнуўся ўначы, сеў у таксоўку, выйшаў у лесе. Шпацыраваў у цямрэчы сярод дрэваў, слухаў пугача і крыкі невядомых птушак. Потым на паляне глядзеў на зоркі, дзе замест поўні прымроілася шыльда з надпісам: "Кнігарня Марс". І тады мяне нібыта токам працяла – я мушу стаць уладальнікам кнігарні!

*Дрэвы вылуплівалі залацістыя вочы і размахвалі серабрыстымі капелюшамі. Пугач пашчоўкаў дзюбай і прамовіў: "Першы палёт на Марс – зялёныя чалавекі – пошук вады – і першы марсіянскі пацалунак". Раптам з дупла выкаціўся нехта смарагдавы і слізкі, нібыта балотная ціна. Гэты Нехта быў мясцовым сантэхнікам, ён выпраставаў плаўнікі, пазяхнуў і пачаў нешта нашэптваць. Гэты Нехта, аказваецца, яшчэ быў і паэтам. У дупле ляжала друкавальная машынка "Ромашка", і калі сантэхнік шаптаў, яна выцягвала свой хабаток, услухоўвалася і ціха пастуквала. А дрэвы мармыталі разам з сантэхнікам: "Як надакучыла гэтая адзінота. Як мы стаміліся".*

– Клініка, – сказала галава.

– Ну дык. Ад самага пачатку было зразумела. Без ста грамаў і не падыходзь.

– Я б яму рэкамендавала запісацца на сеанс ёгі – магчыма, трошкі і адпусціла б.

– Сумняюся, бо выпадак напраўдзе клінічны. Некаторыя ўяўляюць сябе гітлерамі і сталінымі, а гэты, бачыш, захацеў быць дырэктарам кнігарні. Дурань.

– У кожным выпадку кепска скончыць.

– У горы палезе.

ПАЭТЫЧНЫЯ ШПАЦЫРЫ ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ ДЛЯ ПРАЦЫ СТРАЎНІКА! ТАМУ ХУТКА СКІДВАЕМ ХАТНІЯ ТАПАЧКІ І ПІЖАМУ! ЗАСКОКВАЕМ У СПАРТОВЫ ГАРНІТУР! НАЦЯГВАЕМ КЕДЫ! І НАПЕРАД! НЕ БАЛБАТАЦЬ! ВОБРАЗЫ ЛЮБЯЦЬ ЦІШЫНЮ! СОНЦА НА ДАЛЯГЛЯДЗЕ ЎЖО ЧАКАЕ! ЯШЧЭ ТРОШКУ, І МЫ НАЛОВІМ ЦЭЛЫ ТУЗІН ТЛУСТЫХ ВЕРШАЎ!

*машына і кенгуру рассякаюць паветра разам і не збочваюць анікуды. Неба – сінімі палосамі. Ты мне паверыў? Я сам сабе не веру, але бягу, як той кенгуру. У маіх кішэнях – кенгураняты і кураняты. Яны піскаюць, муркаюць*

*і крумкаюць. Я сам ужо зусім гулі-гулі. Але скокі мае вялікія і неверагодныя. Ногі мае – моцныя, а рукі цягнуцца да неба. Уявіце гэткія кручкападобныя рудыя пальцы. І вось ужо мае рукі чапляюць да сонца сіні кепур. Паветра аплятае мяне сваёй аксамітнай махрой. Я – задыхаюся. Я – адплёўваюся. Я ледзь не валюся на асфальт. Я, натуральна, блытаюся ў паветры, нібы ў прасціне, але скачу! Скачу! Можа, я – саранча?!!*

**5.** Адыходзім ад тэмы. **Шпацыр па горадзе:** штосьці ёсць нязвыклае ў вечаровых ліхтарах. Яны нагадваюць... Ды ні халеры яны не нагадваюць. Ідзеш і думаеш: што яны нагадваюць? Баян – бліскучы з кнопкамі. Гэта ж шыза. І голас з цемрачы: “Дай грошай!” Вось тут ужо не да баянаў. Альбо хуткія ногі, альбо моцныя кулакі. Можа, гэтыя, трыдзявятыя, колькі іх разоў, ліхтары нагадваюць кулакі?

*у вас, натуральна, паўстала ўжо шмат пытанняў. Што за галава? І хто з ёй размаўляе? Я не ведаю. Гэтая барацьба падобная да гатавання шашлыку – толькі ў гэтым выпадку я выступаю ў якасці парсючка, якога збіраюцца засмажыць. Мы сядзім за круглым сталом, нас ужо некалькі чалавек. І ўсе мы маўчым і з трывогай пазіраем адно на аднаго.*

**6.** Не – аднаго разу я ўсё зразумеў. Трэба ўсё кідаць і ўцякаць. Інакш не выкручуся. Бегчы! Бегчы! Інакш усялякія Кавалі ды Крывыя давядуць мяне да цугундара. Піраміды былі не толькі ў галаве – яны былі і фінансавыя і маглі абваліцца ды пахаваць мяне пад сабой у кожны момант.

Я падышоў да лядоўні. І прыклаў да яе вуха. Там нешта шоргалася, нібыта ў ракавіне. Свістаў вецер і плёскаліся марскія хвалі. Я расчыніў лядоўню – і... Адзінокая бутэлька піва і побач засохлы сырок, які нагадваў здохлае мышаня. Звычайная справа, калі жонка ў камандзіроўцы, так і мусіць выглядаць дабрабыт чалавека, у якога з галавой, мякка кажучы, не ўсё ў парадку. Дома мора лавіць? Ну, хіба што ў ваннай можна ажыццявіць гэтае сваё вострае жаданне. Але не выключана, што хутка і белых чалавечкаў напаткае. Не выключана – не выключана. Ведаем мы такія выпадкі. Ведаеце, ёсць такі жэст, пакруціць пальцам каля скроні “быццам збрэндзіў, хлопец”.

*Лядоўня выцягнула свой доўгі барвовы язык і ўхапілася за прагную руку наведніка. Сырок плюнуў у твар наведніку нечым зялёным і ліпкім. Піва гідка захіхікала, скінула накрыўку і пачало плёхацца, нібыта шампанскае. “А-а-а-а-а! – дзіка зароў наведнік. – Есці хачу!” Ад гэтага ляманту язык лядоўні толькі ўзмацніў свой захоп. На наведніка зверху падалі кропелькі сліны. І раптам: “На-а-а!” Прама ў твар наведніку заляпілі тортам!.. Адкуль? Як? Што гэта? Язык злізнуў з твару кавалкі крэму і выплюнуў наведніка прэч.*

– Галава, а галава, скажы, ад чаго залежыць надвор’е?
– Ад людзей яно залежыць.
– Ты ўпэўненая? А мне здавалася інакш. Штодня чую па тэлевізары: гідраметцэнтр паведамляе. І навіны надвор’я: дождж, вецер, паводка, тэмпература такая і г.д.
– Выкінь тэлевізар у вакно.
– Чаму ж?

– Надвор'е залежыць ад настрою, які фармуем мы самі. Сказала табе зранку жонка, які ты свінтус, дык і надвор'е ў цябе будзе свінячым. А сказала, які ты зайчык, і надвор'е будзе адпаведным – быццам халодны маркоўны сок пад сонцам.

* * *

*чалавечкі чалавечкі адстуквалі абцасамі пахавальны марш Вецер пераменаў набіваў сваё пуза крыштальнымі палачкамі Імбрыкі свісталі не спыняючыся І здавалася ад іх пранізлівых галасоў абваліцца сонца Птушкі замёрлі і баяліся зварухнуцца А чалавечкі чалавечкі білі па бетоне сваімі чорнымі хромавымі ботамі І думалася што вакол перакуліўся свет І думалася што настаў цёмны час калі са сваіх норак выпаўзаюць злыя пацукі*

**7.** Зрэдчас да Рыгора наведваліся неверагодныя думкі. Ён раздумваў пра тое, што кнігі – гэта цагліны, з якіх будуюцца палацы для заможных людзей. Ён любіў чытаць п'яныя кнігі Чарльза Букоўскі, любіў і вершы Федэрыка Гарсіа Лоркі. Яго, як кажуць у народзе, "каўбасіла не па-дзіцячаму". Часам ягоная душа была балалайкай, часам нагадвала Везувій, у цэнтры якога і агонь, і попел. Можна сказаць, што ён заставаўся электрыкам, але ягоная праца з электрычнасцю была цяпер іншай. Гэтая электрычнасць была кніжнай – тутэйшы ток пляваўся згусткамі літараў, выштурхоўваў магму словаў і радкоў. Але не будзем рамантызаваць Рыгора – ён быў выпівохам, аматарам бойкі і да таго ж быў не супраць ухапіць дзяўчыну за спадніцу. Часам ён прачынаўся ў невядомым месцы на трамвайным або аўтобусным прыпынку, зрэдчас – на прыступках пад'езда. Былі ў Рыгора такія праблемы.

*Кулак выплыў з трамвая нумар 5, – гэта быў мажны і апухлы кулак, відавочна, у свой час яму пад скуру загналі вазелін. І цяпер гэты корх выглядаў фантастычна. Кулак агледзеўся. Вакол было ціха, толькі нейкі чмыр сядзеў на прыпынку. Кулак адкашляўся і запытаўся: "Дай запаліць". Чалавек схамянуўся, спалохана заміргаў вачыма: "Не палю".*

*Чалавек не мог зразумець, што гэта за хрэнь плавае тут і адкуль нясецца голас. Перад вачыма чалавека лётала нейкая распухлая груша. Але ў наступны момант гэтая груша абрынулася на чалавека і моцна ўдарыла ў сківіцу.*

Галава зарагатала:

– Я зараз заплачу! Трымайце мяне! Ну не магу. Смех ды і толькі!

– Столькі пафасу ў гэтай гісторыі, што стрымацца напраўдзе цяжка. Такое ўражанне, што наш герой – гэта недароблены амлет. Немагчыма ўспрымаць усур'ёз.

– Гы-гы-гы.

– Галава?

– Слухаю.

– А як скончыць гэты Каваль?

– Кепска.

– А больш канкрэтна? Хацелася б падрабязнасцей...

– Ага, бачыш, зацікавіўся. А казаў навошта, навошта? Натошта. Слухай далей.

* * *

*у вашым страўніку дысбаланс Бутафорыя замяніла мяса Гэта трагічная гісторыя Бясконцыя трафарэты выпэцканыя крухмалам Сны перамяжоўваюцца авацыямі гледачоў Падаюць з неба пернікі Каханая ўключае грамафон І толькі ты сядзіш каля тэлевізара і трэскаеш сваімі перасмажанымі макаронінамі Мора і ром Параход і адэкалон Змрочныя кадры эскадры*

* * *

*Калі п'янага Букоўскі ўпрыгожыць лістамі капусты – атрымаецца неблагі краявід. Калі Рыгора стукнуць па галаве цаглінай, з ягонай галавой анічога кепскага не здарыцца – атрымаецца добрая кладка. Нібыта цагліна да цагліны. Чырвонае да чырвонага. Бетоннае да бетоннага. Я задумваюся пра адно. Навошта такія рыгоры нараджаюцца? Мабыць, дзеля таго, каб у грамадстве быў пэўны дысбаланс. Каб дабрыня не перамагала зло. Каб павучок з'еў мушку. Каб воўк з'еў зайца. Каб альпініст сарваўся. Каб. Калі п'янага Букоўскі ўпрыгожыць куфлем пеннага...*

**8.** – Чаму ж ты не пайшоў у камбайнёры, Рыгор? Ці ты баяўся трынаццаць разоў трапіць пад камбайн? Ну, гэта перабольшванне. Ну, адзін, максімум два разы пераехала б – і ўсё. Падумай. Поле, сонца, саспелыя каласы пшаніцы. Любімая жанчына ў спёку прыносіць збан з малаком. Што ж цябе спыніла? Змена прафесіі электрыка на камбайнёра была б больш зразумелай. Паглядзі, асноўныя навіны краіны пачынаюцца пра людзей, чые рукі з мазалямі трымаюць стырно камбайна! Чырвоныя махіны прыгожа перапаўзаюць і перапыняюць шлях вайсковым калонам. Хлебаробы – самыя заслужаныя людзі нашай краіны!

– Ды мяне неяк да кніжак заўсёды цягнула. Камбайн – гэта, вядома, крута. Але ж я марыў араць паперу з літарамі і пажынаць тоны думак.

– Чаму ж ты ў міліцыянты не пайшоў? Бясплатная вопратка, рэгулярны заробак, магчыма, казённы транспарт. Уяві: на баку кабура з пісталетам, пагоны бліщчаць, фуражка танчыць ад ветру. Лепшыя людзі краіны сёння ходзяць у пагонах! Лепшыя пісьменнікі ідуць служыць і потым рапартуюць аб сваіх дасягненнях. Ты б мог спалучаць службу і літаратуру. Даслужыўся б ужо да падпалкоўніка. Ты відавочна зрабіў не зусім правільны выбар. Ты не панюхаў пораху!

– Я марыў пра іншае. Хацелася нюхаць не канцылярыю, не порах... Хацелася забурыцца носам у паперу з мастацкім словам. Пах друкарскай фарбы варты ўвагі менавіта ў прыгожым слове філосафа і паэта... Пах, ай гэты пах!.. Я сумняюся ў прыгожым слове патрульнага. Яно, верагодна, пасвойму прыгожае і важкае, але ж надта часам непрыемнае.

– Можа, ты не патрыёт?

– Я? Я – дырэктар кнігарні.

*Камбайн, як ні старайся, не мог разагнацца – ён крактаў і вохкаў. Камбайнёр – мажны дзядзька – паліў цыгарку. Замест рук у камбайнёра былі два шчупальцы, імі ён лоўка трымаў стырно камбайна. З дынамікаў камбайна заліхвацкі пішчала песня пра "Напаі мяне бярозавым сокам". Побач з камбайнёрам у кабіне сядзеў маленькі парсючок Жора, які толькі нядаўна навучыўся першаму слову: "Мама". Слова "тата" для яго было пакуль*

*незнаёмым. Затое ён дасканала ведаў арыфметыку, сказаць не мог, але мог ружовым рыльцам тыцнуць у патрэбную лічбу. А яшчэ ў кабіне быў прусак Генюсь – ён нядаўна пафарбаваў свае крыльцы ў сіні колер і гэтым вельмі ганарыўся. Ён размаўляць не ўмеў, але надакучваў усім сваёй прысутнасцю.*

Галава рагатала доўга. Я ўжо стаміўся чакаць, калі гэты рогат скончыцца. Галава пачырванела і нават пырскала слязьмі.

– Вой – не магу!!! Каваль – сапраўдны мазахіст! Дырэктар кнігарні! Будзе дакладна, калі казаць – дырэктар грамадскай прыбіральні!

– Ён жа не любіць камбайнёраў і міліцыянтаў...

– Ну, яму адгукнецца. Дарма ён так у прызнанні кінуўся, вой адгукнецца.

*галава мячыкам качалася па падлозе. Хацелася добра ёй нападдаць, каб яна супакоілася. Я сябе стрымліваў і толькі сказаў: “Тссс, кабачок недаспелы”! Галава мяне не слухала і залівалася гучным: “Га-га ды гы-гы”! Вецер з вакна варушыў на галаве рудыя валасы. Здавалася, што вочы проста пырскаюць жоўцю ад напружанага рогату. Я не вытрымаў і кінуў у галаву тапкам. І трапіў! Галава заціхла, злосна на мяне пазірала і крывілася.*

**9.** – Я думаю, што трэба нарэшце разабрацца – што ты чакаеш ад адносінаў з кнігарняй? Ты думаеш, што крама нагадвае дзяўчыну – капрызную і патрабавальную? Ты ж з ёй цацкаешся штодня і спадзяешся на ўзаемнасць? Ідыёт! Мне здаецца, што гэта дарэмныя чаканні! Ты расчаруешся! Дзе ты бачыў у нашай краіне ўдзячныя адносіны паміж кнігарняй і ейным уладаром? Дзе, я цябе пытаюся? Гэта з разраду фантастыкі! Гэта фуфло! Гэта маразм у дзесяці пакунках!

**РАПТАМ:** Рыгор Каваль глядзеў на пракурора. Пракурорскі погляд наганяў на яго моцныя дрыжыкі. Ад пракурора сыходзілі нябачныя сігналы: “Я цябе, сцука, пасаджу!” Каваль маўчаў – ён не знаходзіў словаў. Яму было страшна. Словы пракурора нагадвалі атручаныя кулі – яны траплялі ў самую пячонку. Бо пячонка ўжо палову гадзіны неяк пастрэльвала і ныла. У Рыгора было адчуванне, што нібыта па ягоных венах разліваецца атрута. Здавалася, што яшчэ крыху – і ён пабачыць сівую бабулю з касой.

Так-так, вось яна і прыйшла... Сухая патрэсканая скура з язвамі і чарвякамі, сівыя рэдкія валасы, крывая бяззубая ўсмешка...

Пракурор сядзеў насупраць і свідраваў Рыгора цяжкім позіркам. Ягоныя вочы здаваліся пацучынымі, сівыя вусы варушыліся, як два вусені на рыбалоўным кручку. Пракурор размінаў тлустыя пальцы.

Рыгор закашляўся і выціснуў:

– Я тут спрабую новыя хады, новыя тэхналогіі. Ствараю з кнігарні гібрыд – акрамя кніжак прапаноўваю амерыкана і капучына...

Пракурор зарагатаў:

– Ты – недабіты рамантык! Утопія! Як ты думаеш пагашаць арэнду і заробкі супрацоўнікам? Дзесяць кубкаў кавы на дзень – не смяшы мае тапкі! Прычым сем з іх для супрацоўнікаў – па сабекошце! Ты – банкрут, Рыгор! Банкрут! – Пракур раптам стаў павялічвацца ў памерах, пры гэтым бесперапынна дзіка роў: “Банкрут!” Вось ужо пракурор перастаў змяшчацца ў памяшканні. Ён нейкім чынам нагадваў надзьмутую ляльку. Ён навісаў над бедным Кавалём і зверху грымеў: “Банкрут!” Галава пракурора нечакана

пачала набываць абрысы вялікай драпежніцкай рыбіны, і вось гэтая галава сабралася заглынуць цалкам нашага дырэктара кнігарні! “Банкрут!!!”

*Раптам сон скончыўся – дырэктар кнігарні прачнуўся ад таго, што па твары бег вялікі павук. “Дзякуй. Вялікі дзякуй”, — сказаў, ці хутчэй падумаў Рыгор. Яго ўсяго калаціла, і ён быў мокры ад халоднага поту.*

– Што скажаш, галава?
– Я скажу, што сон у далонь! – і галава захіхікала.
– Гэта як?
– Мудак!
– Гэй, ты, ведай мяжу!
– Ды я не пра цябе, – асклабілася галава. – А пра нашага героя. Пра нашага цудоўнага і ўсемагутнага дырэктара – хі-хі, – ці ўжо зняволенага?
– Думаеш, так і будуць разгортвацца падзеі?
– А хто ж табе скажа без сто грамаў?!!
– Ды куды табе? У цябе ж пуза няма! А хош бутэльку пастаўлю?
– Я ця пастаўлю!!! Я ця пастаўлю! Так пастаўлю! – зараўла раззлаваная галава. – Інвалідам у мяне будзеш!
– Чыя б карова трындзела...
– Ры-ы-ы-ы... – заклекатала галава.
– Маўчу, – пагадзіўся я.

**Сон №2** *Прымроілася, што выйшла кніга з трыма раманамі. Фаліянт – вялікага фармату, на прыгожай шэрай паперы і са шматлікімі каляровымі ілюстрацыямі. Усе разглядаюць новае выданне і знаходзяцца пад добрым уражаннем ад паліграфіі. Раптам з кнігі выскоквае адзін вайсковец у форме напалеонаўскіх часоў, потым наступны, яшчэ, яшчэ... Яны сыплюцца нібыта гарох. Гэтыя вайскоўцы вырастаюць курдупелямі. Яны акружаюць прысутных і пачынаюць усіх расстрэльваць. Крык, гам, плач...*

**Сон №3** *Я ў нейкім памяшканні бачу шчыт, ці, хутчэй, нейкую дошку з інфармацыяй “пра ўсё ў свеце”. Розныя выразкі з газет, неахайна прышпіленыя ці зусім ужо пашкамутаныя. Я выцягваю стос новых газет і пачынаю выразаць і прышпільваць кавалкі з артыкуламі на голкі, пруткі, пластылін. За гэтым заняткам мяне заспявае незнаёмец, які раптам паведамляе, што мне жадаюць прапанаваць працу. Я задаволены: “Значыць, ацанілі старанні з дошкай. Добрая падпрацоўка ў вольны час. Працы на палову гадзіны максімум”. Я пагаджаюся на сустрэчу з двума невядомымі. І што ў выніку? Разумею, што хочуць прапанаваць распаўсюджваць наркотыкі. Я – у жаху. Але вакол мяне чалавек дзесяць. Адзін, з альбомам, паказвае мне метады іх працы, другі – бачу – стаіць за спінай з бліскучай пілой. І калі я не пагаджуся на працу, відавочна, заб’юць. Я неяк дзіўным чынам прадзіраюся праз іх шыхты і збягаю. Мяне пераследуюць. Адчуваю, што страшэнная развязка набліжаецца. Тады я выходжу на праезную частку дарогі і раскідваю рукі, спрабуючы спыніць аўто...*

* * *

*скаціўся ад (да) слова жывёліна Зрэшты голас таксіста казаў Мы – аднолькавыя Не ад кавы – ад колькасці Калоў арэхі Піў салёныя воды Глытаў вецер як быццам вятрак У казіно плафоны разагравалі кроў Бій невядома каго*

*А каго? – мабыць ад слова кагор Горад быў маімі гарамі Праца падыхала Але дыхала чырвонымі пухірамі Раскрадаў паветра свабоды*

* * *

Галава пацерлася вушамі аб крэсла:

– Здаецца, адпусціла. Але плясні піўка.

– Ты ўпэўненая?

– Так. Горай ужо не будзе. – Галава ўздыхнула. – Стамілася.

Я выцягнуў з лядоўні пляшку нефільтраванага Францысканера. Скінуў адкрывачкай накрыўку і паставіў піва каля галавы.

– Халоднае. Глядзі, якая запацелая бутэлька, – сказаў я і дадаў: – Так і просіцца.

Галава выцягнула вусны дудачкай, выталупіла вочы і ціхенька прысмакталася да рыльца. Было чуваць, як галава п'е. Нешта па гуку нагадвала сіфон.

– Бедная, – канстатаваў я. – Нацярпелася.

Галава дапіла піва. І раптам злосна сплюнула і паведаміла:

– Зараз я цябе біць буду. Нацярпелася.

**10. Зноўку раптам:** "Банкрут, Рыгорка, танчы! Танчы"! – крычала бабуля. Бабуля надрывалася. Вены на ейнай шыі былі ўспучаныя і сінія. Не бабуля – інвалідны вазок, у які, здавалася, трэба ўскочыць. Нешта туды цягнула. А бабуля верашчала: "Танчы, Рыгорка! Танчы! Ты – булка нашай кнігагандлёвай сферы! Булка! Булка! Ты падбадзёрваеш сваёй дзейнасцю цэлую краіну! Краіна без такой булкі не зможа! Танчы! Ты натхняеш непаўналетніх да выбару паміж касяком і кнігай! Кнігу! Кнігу! Кнігу! Тоўстую, пераетую, папяровую фраў! Танчы, Рыгорка! Танчы! Ты выпраменьваеш кулямётныя строфы – ты ўжо не кнігагандляр! Ты амаль кулямётчык! Кнігі! Кнігі! Страляй! Страляй! Танчы, Рыгорка! Танчы! Та-та-та-та-та!!!"

Рыгорка танчыў. Прамяні сафітаў асвятлялі ягоны велізарны торс. Ён танчыў і трымаў кубак з віскі. Сёрбаў і танчыў. Напой прабіраў да самых пазногцяў. Горла прадзірала. Торс варушыўся і блішчэў потам у рытме музыкі... Рытмічная электронная музыка. Рыгор танчыў. Вакол расцякаліся ліловыя фарбы. І вось у ягоных тоўстых руках ручны кулямёт, і ён пачынае страляць. Усё аплывае чырвонымі фарбамі. Льецца ракой кроў... Танчы, Рыгорка.

*Сон скончыўся нечакана... Рыгор ляжаў у салаце аліўе... сціскаючы ў руках паўпустую пляшку гарэлкі, з якой цурбоііў тоненькі струменьчык, што цягнуўся па левай назе... Прачнуўся...*

– Ніколі не любіла салату аліўе, – сказала галава.

– Ты можаш есці? – здзівіўся я.

– А ты як думаў? Не святым жа духам!

– Ну, няхай. Дык чаму ты не любіш аліўе?

– Тлустая – зазвычай у ёй замнога маянэзу. Вось грэчаскую салату я люблю, – прызналася галава і заўсміхалася.

– Ну, я ўвогуле выступаю больш за катлеты! – заявіў я.

– Твае катлеты часцей за ўсё з тузікаў вырабляюць!

– Пагавары ў мяне! – агрызнуўся я. – Сама будзеш Тузікам!

– Гаў! – злосна сказала галава, і я пачуў непрыемны рык.

*(У сваім жыцці галава пакутвала даволі часта. Яна з болем згадвала як яе трамбавалі ў бочцы разам з капустай, потым пасыпалі соллю, кменам і перцам. Перакладвалі лаўровым лістом. За што? За што мне гэткія пакуты?!! – усклікала раз'юшаная галава. І не магла не захныкаць, згадваючы іншыя не менш сумныя моманты ў сваім няпростым жыцці. Аднойчы п'яныя маракі трымалі яе ўтрох за валасы і вушы і гвалтам залівалі ў рот моцнае піва. Так яны ўлілі каля шасці літраў і ўсё аніяк не маглі зразумець, куды ж гэтае піва знікае? І як многа яшчэ можа ўлезці ў гэтую бясцелую галаву?)*

**11.** Будынак кнігарні месціўся на былых абшарах ваеннага завода. Прычым самае цікавае ў гэтай сітуацыі, што стратэгічнае прадпрыемства па вырабе зброі не знікла – скукожылася. Завод у свой час быў збудаваны з размахам – ягоныя карпусы нагадвалі вялікага мёртвага робата. Дык вось цяпер, ва ўмовах рынкавага сацыялізму, новая завадская дырэкцыя "галаву і ногі робата" прадпрыемства прадала камерцыйным структурам, а само "безгаловае і абязножанае цела" пакінула. Будынак завода стаў нагадваць мёртвыя запчасткі ад робата. Затое тут і дагэтуль велічна красаваўся помнік таварышу Сталіну. Кнігарня ўтульна ўгрызлася ў былыя завадскія сто пяцьдзясят метраў – насупраць помніка. Часам у Рыгора Каваля ўзнікала непераадольнае жаданне ўскочыць на гэтага каменнага Сталіна – ён хацеў узнагародзіць таго сяброўскім пацалункам малатка. Хацелася Рыгору адкалоць з галавы правадыра вусы, якія гэтак нагадвалі памазкі для галення. Але Рыгор сябе стрымліваў і толькі сплёўваў. "Нічога – будуць знаходзіць кнігарню праз гэтага каменнага балвана. Вельмі добры арыенцір. Постмадэрнісцкі ход, так бы мовіць".

*Сталін не хваляваўся – ён жа быў каменны. Ён стаяў, як заўсёды, ганарліва распушыўшы свае магутныя вусы. Накропваў дождж. Сталін ужо даўно стаў падумваць пра пераезд – ён пра гэта намякаў знаёмаму хобіту. Але той усё неяк упарціўся і адмаўляўся ў гэтым пытанні дапамагаць. Сталін думаў, што яму надакучыла. Яму проста надакучыла. Таму менавіта сёння ён вырашыў сам з усім разабрацца. І нездарма ў гэты дзень, бо было 7 кастрычніка – дзень сацыялістычнай рэвалюцыі. Сталін пагладзіў вусы і саскочыў з пастамента. Ногі трохі занямелі, але гэта не надоўга. Правадыр не задумваючыся накіраваўся ў бок "Кнігарні Марс". Падыходзячы да кнігарні, ён пабачыў ейнага дырэктара Рыгора Каваля, але той, здаецца, чакаў Сталіна і таму не быў здзіўлены, больш за тое – ён радасна запрасіў правадыра ў краму і прапанаваў выпіць за сустрэчу. Ад такой нахабнай прапановы вочы Сталіна ператварыліся ў вугалі, і, не доўга думаючы, ён скіраваў свой каменны кулак у галаву дырэктара кнігарні. Той ад нечаканасці войкнуў і зваліўся з праломленым чэрапам.*

– А я за Сталіна ўдушыла б! – абвесціла галава. – На святое замахнуўся!
– Ты што, усур'ёз? – здзівіўся я.
– Я што, хіба падобная да жартаўніка? – працадзіла галава.
– Ну, ён жа столькіх людзей закатаваў...
– Пры Сталіну быў парадак! Ён перамог фашызм!
– Слухай, ты зубы мне не загаворвай. Адзін тыран праглынуў другога. Калі б здарылася наадварот, невядома, што б цяпер было. Можа – было б і лепей? Хто яго ведае?!

– Я за Сталіна і цябе задушу, – прашыпела галава. – Вораг народа! Нацдэм недабіты! Бандэравец!

* * *

*трамваі нагадвалі хуткасных чарвякоў. Колы не грукалі – яны спявалі, бо былі металічнымі барабанамі. Кандуктары былі суфлёрамі. Маленькая дзяўчынка прыціскалася носам да матавага шкла і старанна махала чырвоным сцяжком. Дзінькала рэха. Не шкадуючы ботаў, па ходніках тупалі вайскоўцы. Камадзір махаў дырыжорскай палачкай. І мужчынскія галасы надрываліся і заікаліся. Было какафанічна і нясцерпна соладка.*

**12.** Рыгор Каваль стаяў каля баржы і размахваў якарам. Ён хацеў закінуць яго вось туды – да дрэва. Там ён мог зачапіць карані, што тырчэлі з зямлі. Ён хацеў злавіць мясцовага капітана. Капітаны ж ловяцца на марскія біноклі, корцікі, компасы, цыгары, ром і каляровыя запалкі. Ён думаў аб тым, што яго можа выратаваць толькі капітан, бо ні партыйныя сакратары, ні іншыя босы яму не дапамагалі, а толькі перашкаджалі. Таму ён быў упэўнены ў правільнасці рашэння.

– Вось тут я з ім цалкам згодная, – хітра сказала галава і стала нешта напяваць.

– Што гэта ты так раптам? – здзівіўся я. – І што ты напяваеш?

– Ды не раптам – я заўсёды пра гэта ведала. Проста не давала падстаў. “Капітан, капітан – усміхніся! Бо ўсмешка – гэта сцяг карабля”!

– Пра што ты ведала?

– Пра ўсё.

– Пра што пра ўсё? – не здаваўся я.

– Пра тое, што капітаны – гэта людзі ад бога.

– Усе мы такія.

– Ну, не скажы. Капітаны асаблівыя людзі.

– Магчыма. Але і астатнія асаблівыя толькі па-свойму.

– Хопіць мне дурыць галаву, – раптам заявіла галава. – У мяне толькі галава, таму не чапай яе! Я магу пакрыўдзіцца!

– Як скажаш, – пагадзіўся я.

* * *

*Кот заўсміхаўся і паказаў белыя роўныя зубы. Можа, гэта Чэшырскі Кот? Як быццам рэклама дантыстаў. Лізнуў ружовым язычком лапу. Пракашляўся і распачаў ці то песню, ці то паданне: “Гастрыт майго цеплахода-а-а-а. Фікусы на рук-а-а-а-ах. Укусы паўзуць, нібыта п’яўкі-і-і-і. Ты расшпільваш фортку галавы, і на паверхню выплывае вясёлы пупок! Ціхая бяздонная казка запаўняе пустэчу галавы-ы-ы-ы. Думкі-пупкі плятуць узоры-ы-ы-ы. І здаецца – вакол карагоды каўбасаў і сасісак! І здаецца, цеплаход амаль патануў! Гудок. Яшчэ. Потым. Свіст. Рык. Рып. Святло навальваецца-а-а-а!..”*

**13.** На пяты дзень пасля адкрыцця кнігарні супрацоўнікі пачалі прыходзіць у сябе. Запой патрошку, нібы спрут, адпаўзаў прэч – ягоныя шчупальцы адпускалі прагныя глоткі кніжнікаў. Перагару ў памяшканні паменела. Хаця бутэлек пакуль было дастаткова многа – самых розных колераў і памераў, – яны былі

цудоўным аздабленнем тутэйшай прасторы. Як быццам у нейкай рэстарацыі, а не ў кнігарні. Рыгор Каваль прайшоўся мутнымі вачыма па паліцах з кнігамі:

– Нешта ў нас мала прыгодніцкай літаратуры. А вось паэзіі нейкі перабор – не думаю, што гэта самы ходавы тавар.

На словы Рыгора з кабінета выпаўз Капітоныч. Добрая душа. Круглы і няголены, з залысінамі, з мехам на запясцях рук – ён выглядаў каларытна. Капітоныч сёння быў у барвовым спартовым гарнітуры, такім чынам ён спрабаваў перапыніць запой, яму падавалася, што тады бутэлькі будуць самі адварочвацца і ванітаваць. Але вопратка неяк не адштурхоўвала чарговую порцыю віскі ад прагных і пухлых ручак Капітоныча, якія цягнуліся да гіпнатычнай шклянкі. Відовочна, што эксперымент правальваўся.

– Ёсць ідэя, – агучыў няроўным голасам Капітоныч. – Я чытаў, што дзесьці ў Нью-Джэрсі прыдумалі спосаб прыцягнення кліента да рэстарацыі.

На такія сакраментальныя словы Рыгор не ўстрымаўся і, натуральна, падтрымаў Капітоныча, каўтнуў добрую порцыю віскі. Дзень распачынаўся. Рыгору нават падалося, што ў кнігарню пачало глядзець баваўнянае сонца.

– Так-так, але, Капітоныч, мы ж, па-першае, не рэстарацыя, па-другое – не Нью-Джэрсі, а па трэцяе – што за метад? Давай выкладвай.

– Яны гэта абазвалі “Начнымі заплывамі”. У цэнтры рэстарацыі выстаўляўся доўгі стол метраў на дзесяць, дзе выкладваліся розныя стравы, і кожны гулец быў абавязаны цягам хвіліны з’есці з кожнай стравы не менш за лыжку і дасягнуць канца стала... калі гулец не ўкладваўся ў тэрмін, ён аўтаматычна выбываў з гульні.

– І сэнс? – Рыгор, не разумеючы, развёў рукамі і заўважыў, як прыціхлі ўсе ягоныя п’яныя калегі, якіх цяпер назіралася, акрамя Рыгора і Капітоныча, пяць чалавек. Волма, Караліна, Дашуня, Машуня і Дроб. Усе ў зборы. Усе свецяцца летнім празрыстым сонцам. Усе гатовыя да перамог. Што называецца – калектыў пры поўным парадзе. Праўда, троху пакамечаны калектыў, але ж гэта ад шчасця і віскі. Ад нечаканых подыхаў культурніцкага дасягнення – наступствы адкрыцця такой цудоўнай прасторы, як кнігарня.

– Але ж удзел у гульні патрабаваў закладу ў сто амерыканскіх долараў, і той, хто выбываў, аўтаматычна пазбаўляўся яго. Затое той, хто праходзіў дыстанцыю, мог прэтэндаваць на адсотак ад грошай выбылых, але ж зразумела, што асноўным пераможцам заўсёды была рэстарацыя. І галоўныя адсоткі ішлі ёй.

Рыгор Каваль каўтнуў яшчэ віскі і заўважыў, што яго падтрымалі ўсе астатнія – відавочна, ідэя ўсім падабалася. Бо пасля адкрыцця, на якое прыйшла процьма народу, кліент ва ўстанове быў рэдкай птушкай.

– Што будзем выкладаць на стол? І колькі будзем браць у заклад грошай? І як з пункту гледжання заканадаўства? – Рыгор агледзеў прысутных – усе ўжо былі цёплымі і пачалі свяціцца яшчэ больш. Неяк вельмі сонечна стала ў нашай светлай кнігарні.

Тут на дапамогу Капітонычу прыйшла нашая бухгалтарка Волма – буйнанагабарытная і чарнявая дзяўчына:

– Па заканадаўству праблемаў не будзе – будзем афармляць за прэзентацыю кнігі.

– А што са стравамі? Ці вытрымаем мы такія выдаткі ў гэткі складаны час? – для перакананасці Рыгор каўтнуў яшчэ віскі. Добра, што Машуня не забывалася на свае абавязкі тамады і своечасова напаўняла шклянкі прысутных.

Тут узяла слова Дашуня – нашая цэнтравая гандлярка:

– Прапаноўваю, каб на першыя начныя заплывы ў кнігарні кожны прынёс нешта з хатніх страваў. Прыгатаванае дома смачнейшае за крамнае. Гэта, думаю, прыцягне ўвагу публікі. Давайце на першы раз браць з гульца адзін амерыканскі долар!

– Ого! – ікнуў Капітоныч. – Ажно цэлы долар – гэта ж бутэлька чарнілаў. Давайце мо рублямі. Бо валюту нельга браць.

У выніку вырашылі браць за ўдзел доларамі, бо надзейная, цвёрдая валюта.

– А чаму іх абазвалі начнымі заплывамі? – запытаўся я Капітоныча.

– Праходзілі мерапрыемствы пасля дзесяці вечара.

*Супрацоўнікі кнігарні былі звычайнымі зомбі, бо яны начыталіся рознай лухты кшталту "зомбі-хорар". Таму Волма прыкруціла левую барвовую руку, якая ўвесь час адвальвалася, і падышла да дырэктара Рыгора Каваля. З першага погляду было зразумела, што латаць ягоную галаву давядзецца доўга. Мазгі неяк троху расплюхаліся, і давялося іх збіраць рыдлёўкай. Затое вочы засталіся амаль цэлымі, калі не лічыць той факт, што правае вока стала цяпер зусім белым. Праўда, у гэтым быў нават своеасаблівы шарм. Волма паправіла свае рэдкія валасы і ўзялася за працу. Праз паўгадзіны дырэктар выглядаў як новенькі і радасна ўсміхаўся шчарбатым ротам.*

– Я ў дзяцінстве марыла стаць аквалангістам, – раптам заявіла галава і прыцмокнула. – Глядзець на падводны свет – адно задавальненне. Столькі ўсяго вакол. Дэльфіны, кіты, медузы, усялякія рыбіны ды колькі ўсяго таемнага. Неспазнанага.

– Ага, – пацвердзіў я, – акулы, падводныя лодкі, міны – рамантыка.

*пераходны посткрызісны перыяд вызначаецца агульнай млявасцю ды імкненнем асобных грамадзянаў да п'янства. Што гэта? Крыніца для натхнення? Ці крыніца да самазнішчэння? Безумоўна, гэта крыніца. Добра калі побач з крыніцай ёсць кубак і можна хлябтаць не з далоняў. У кожным разе мы назіраем вельмі нязвыклыя з'явы ў нашым грамадстве! Складаныя, вельмі небяспечныя, я б сказаў, з'явы... Вып'ем!*

**14.** Калі пачынаецца змест кнігі, паўстае момант для асаблівых роздумаў. Ці ўсё правільна ты зрабіў? Ці было тое піва патрэбным ці, можа, тая з'едзеная галёнка была залішняй? А той магічны ход насамрэч быў канцэптуальнай памылкай і рухацца трэба было, аказваецца, у іншых кірунках? Гэтыя ды іншыя пытанні ў большай ступені пачынаюць турбаваць, менавіта калі ты пазіраеш на змест.

* * *

*Тоўстая барадаўка ператварылася ў гладыёлус. З гэтай кветкі выпаўзла белая муха і папаўзла ў бок трохлітровага слоіка з мёдам. Слоік заявіў: "Фіг з макам!" І муха атрымала добрага фофана. Калі яна ляцела, дык выпадкова закранула лямпачку, і тая імгненна згасла. З лямпачкі вылез белы чалавечак і сказаў: "Распачынаем!"*

**15.** – ты будзеш піць?

– кідаю. Колькі можна? Буду цяпер не піць, а кідаць кожны аўторак.

– дык гэта ж піць кожны тыдзень.

– не, гэта менавіта булькаць, а не піць. Калі я кідаю, я не магу атрымліваць кайф ад злоўжывання алкаголю – магу толькі булькаць.

– можа, давай разам булькаць?

– разам яно, вядома, цікавей. Чым будзем булькаць?

– прапаноўваю трускалковым сіропам!

– гэта несур'ёзна. Гэта ж атрымаецца трускалковы безалкагольны запой.

– ты і ўчора казаў, што пачнеш новае жыццё, – і што ў выніку? Дакументы губляеш. Грошы раздаеш жабракам. Кнігі не прадаеш. Ператвараешся ў бурбалку для...

– для чаго? Ты кажы, кажы... Давай, скончы думку. Бурбалку для? Ч-а-г-о? Для балота? Для лайна? Для мазуты?

– у кожным выпадку гэта анічога не зменіць. Ты зноўку паабяцаеш і пачнеш булькаць.

– я, магчыма, пачну не толькі булькаць – я распачну начныя заплывы ў гарадской рэчцы. Можа, я там якога начнога шчупака злаўлю і ён падзеліцца са мной досведам наконт булькання?

НА ДАЛЯГЛЯДЗЕ БЫЛІ НАЧНЫЯ ЗАПЛЫВЫ

– Ах, мары пра начныя заплывы, – працягнула галава. – Я б штодня займалася такой пачэснай справай.

– А салёнай вады не наглытаешся? Кожны дзень – сап'ешся. Рызыкоўная справа. А грошы ты ўвогуле думаеш зарабляць, ці, ты думаеш, табе будуць плаціць за відовішча? Маўляў, паглядзіце, як плыве ў гэтай начной цішы рудавалосая прыгажуня. Як яна актыўна махае сваімі вушамі, як падграбае вуснамі, нос дзейнічае, быццам кіль. Трындзец.

– Ну, наконт нахлябтацца салёнай вады – можна і ў прэснай вадзе плаваць. Я магла б быць свайго кшталту цыркавой галавой. Усялякім вырадкам і курдупелям плацяць грошы. Чым я горшая за астатніх?

**16.** Я ўсё разумею, але адкуль у Рыгора Каваля грошы на праект? Адкуль у гэтага недаробленага электрыка ўзяліся сродкі на такую пачэсную справу? Ён што, дом пенсіянераў абрабаваў? Ці ўзламаў банкаўскае сховішча? Я ўжо маўчу пра адпаведныя веды для таго, каб займацца кнігандлёвай дзейнасцю, але бог з ім – паверым, што Каваль свайго кшталту вундэркінд. Чалавек, узрошчаны на бульбе, можа стварыць і не тое. Мы дакладна не ведаем, адкуль у Рыгора грошы, – гэта цьмяная гісторыя, па адной з версій грошы ён пазычыў, па другой – яны яму дасталіся ў спадчыну, па трэцяй – яму іх перадалі іншапланетнікі. Гісторыя замоўчвае гэтыя факты. Мы можам толькі здагадвацца.

*Мы адкапалі трохлітровы слоік з залатымі манетамі і падзяліць іх не змаглі. Серафім зрабіўся ваўком, ягоная поўсць дасягала самай зямлі. Апанас пераўтварыўся ў зайца, і ягоныя іклы нам чамусьці вельмі не падабаліся. Што тычыцца мяне, дык я стукнуў чорным капытом, махнуў рагатай галавой, ляснуў хвастом па слоіку з манетамі – і бывай! Увесь свет наперадзе! І лётаць сярод аблокаў не так і кепска! І вочы мае цяпер яскравыя і залатыя!*

– Грошы-грошы, – сказала галава. – Штосьці ўсе на іх звар'яцелі. Не ў гэтым жа сэнс жыцця.

– Я задам сакраментальнае пытанне: а ў чым сэнс жыцця? Дзе яго шукаць?

– На дне бочкі, – і галава зарагатала. – Ты – наіўны, чалавек колькі жыве – столькі шукае гэты д'ябальскі сэнс!

– Д'ябальскі? – перапытаў я.

– Я ж фігуральна, – заявіла галава.

– І ўсё ж – я анічога не зразумеў. Ты выступаеш супраць грошай?

– Не, – я выступаю супраць культу ў дачыненні да іх! – закрычала галава. – Ты – нейкі ідыёт!

– Паглядзі на сябе – бочка віславухая!

*У гэты момант "З-З-З-З-З" – тлустая бранзаваная муха села на амерыканскі долар. Мне падалося, што зялёная паперка нават незадаволена выгнулася. Насякомае марудна поўзала ў цэнтры піраміды. Я нават пачуў характэрны хрумст, нібыта піраміда разломвалася. Выснова была адна: піраміды выкладаюцца з грошай. Асабліва фінансавыя. І некаторыя развальваюцца. Гледзячы на м-м-муху, я чамусьці згадаў "МММ". Чаго толькі не прыдумаюць людзі!*

### 17. Размова адной пашараванай кнігі з другой пашараванай кнігай

Сіняя зацёртая кніга пагардліва перагарнула некалькі сваіх старонак і клацнула вокладкай:

– Ты думаеш, што калі ты зацёртая і чырвоная – ты самая запатрабаваная на гэтым свеце?

Чырвоная кніга ганарліва выгнулася, і нават падалося, што зазвінелі пабляклыя серабрыстыя літары:

– Я вось выдадзеная зусім нядаўна, але запатрабаваная. У мяне чытач – гэта нешта з вобласці кенгуру, мусіць скакаць разам са мной па акопах. Я не шкадую свайго чытача, я не даю яму часу на роздумы; у мяне кожную хвіліну дыміцца чалавечае мяса. Я разразаю чытача кулямётнымі трасамі і мінамётным агнём, раблю ракетны абстрэл ягоных мазгоў, тручу хімічнай зброяй. Мне падабаецца спустошаны і закатаваны чытач. Я прадвеснік ягоных брудных сноў, дзе няма чысціні і спакою! А што ты? У цябе ж на вокладцы напісана: "марскі раман". Што ты можаш даць, акрамя нечага мокрага і сырога?

– Я? Я – палёт! Я даю надзею! Я перакідваю караблі нібы дзіцячыя цацкі. Мой чытач – гэта заўсёдны капітан! Ён адкрывае новыя землі і стварае новыя гавані, ён выратоўвае слабых! У яго няма спустошанасці і закатаванасці – ён верыць, што дабро пераможа зло!

– Я, у адрозненне ад цябе, дарагуша, не патыхаю брудам і мачой, я раздаю пахі дарагой парфумы. Трэба адрозніваць быдла ад арыстакратыі.

– Пахі дарагой парфумы ў акопах? Ты што, здурнела?

Гэтую размову падслухаў маленькі томік паэзіі. Ён ціха і жаласна ўздыхнуў і паглядзеў на дырэктара кнігарні, які ляжаў п'яны ў цэнтры залы і пахропваў.

*Я азірнуўся, побач стаяў малінавы гном. На каўпаку званочак, ногі – у кедах. Праўда, у ружовых. "Хто ты?" – наіўна запытаўся я. Гном нядобра ўсміхнуўся, і бачу: каўпак адвальваецца, вопратка трэскаецца, кеды распаўзаюцца – пачаў*

*расці. І вось ужо нейкаяаднавокая пачварына пазірае на мяне. Быццам схадзіў у кінатэатр на фільм жахаў. Я на ўсялякі выпадак перажагнаў невядомага мне драпежніка – і аніякага эфекту. Не вяртаецца гном. Раптам пачварына і кажа мне чалавечым голасам: "Ну што, страшна?" Я адказваю: "Вельмі страшна". А яна мне: "Тады танчы, пакуль ёсць сілы, мо і не з'ем". Пачынаю танчыць. Танчу гадзіну, дзве. Гляджу: нешта змяняецца. Вакол краявіды пайзуць новыя, ды і пачварына стала празрыстай. Як скончыў танчыць, апынуўся... у кнігарні.*

– О-о-о, майн гот! – заявіла галава. – Я зараз заплачу. Колькі сопляў. Проста немагчыма. І дзе толькі бяруцца такія склізкія псеўдарамантычныя размовы? Ды гэта аслупянець можна, калі паслухаеш. Яшчэ Рыгора Каваля прыплялі. Не далі яму паспаць дома. Цяпер храпіць невядома дзе!

– Ну чаму ж – вядома, – запярэчыў я. – У кнігарні.

– Нейкі ён бамжаваты – я ўжо і не ведаю, як ён будзе жыць далей. Незразумелыя адкрыцці кнігарняў, начныя заплывы і гэтак далей. Співаецца чалавек.

– Дык ты мне сама пра яго і распавядала, – здзівіўся я.

– Ну, распавядала, – уздыхнула галава. – Я ж казала, што ён кепска скончыць.

– Ну вось – усё ідзе да таго.

**18.** Рыгор прачынаецца і думае: "Я хоць і раздзяўбай – усё ж не цярплю свінячых адносінаў да працы з боку супрацоўнікаў. Тое, што дазваляецца кіраўніку, не мусіць быць прывілеяй падначаленых. Камусьці ж трэба працаваць. Таму часам я хачу прыдушыць Капітоныча. Часам я звярэю, калі Капітоныч не з'яўляецца на працы, і добра, калі на мае вышукі ён яшчэ можа нешта ў адказ рохкнуць. Ні гудкоў паравоза, ні гудкоў парахода, ні гудкоў тэлефона. Дзяцел не грукае. Трамвай не скрыгоча. Сонца не свеціць. Вецер не дзьме. Цені не шэпчуць". З гэтымі думкамі Рыгор выцягвае з альбома фотаздымак Капітоныча. На адкрыцці кнігарні яны шмат фатаграфаваліся. Кожны супрацоўнік лічыў за гонар пастаяць пад шыльдай кнігарні і пакінуць свой фотаадбітак для нашчадкаў. Рыгор прышпільвае фота з Капітонычам да сцяны і выцягвае кухонны бліскучы нож: "Рохкай, Капітоныч, рохкай, свалата! Хутка мы цябе засмажым – парсюк ты гэткі!" З гэтымі думкамі Рыгор кідае нож у фотаздымак! Бах! Рох-рох! Ага! Бах! Рох-рох!

На жаль, Капітоныч не рохкае і не запякаецца – няма паху смажаніны. Толькі летні вецер б'ецца ў шыбы кнігарні і голас бухгалтаркі недзе на даляглядзе выводзіць Рыгора з астаралу забойцы парсючкоў: "Рыгор Вельветавіч, тут да вас з падатковай – хочуць пагутарыць".

*У кнігарні завялася маленькая свіння. Мы не ведалі, што рабіць. Свінка хавалася за шафамі. Было ўражанне, што гэты маленькі ружовы свін накапаў там норак. Нашыя шафы час ад часу падазрона патрэсквалі і рохкалі. Мы празвалі свінню Партызанам. Бо дзе ж такое магчыма, каб у кнігарні жыла няўлоўная свіння?!! Парсючок быў па-свойму бясшкодны. Свойскі. Бо грыз, на здзіўленне, малацікавыя і няздарныя кнігі. А вось што тычыцца вадкасці... Тут было значна горш. Гэты сабака, прабачце, свіння крала нашае піва і гарэлку. Мы ўжо цверазець пачалі. Пасткі і атруту Партызан абыходзіў вельмі вынаходліва. Толькі аднойчы ён неабачліва выскачыў на вуліцу на шпацыр, і тады мы, радасныя, зашпілілі за ім дзверы! Праз два дні Партызан з боем*

*праравў нашыя ўмацаванні!.. Праламаўся разам з выпадковым пакупнікам. Пагаворвалі, што гэтую свінню прынёс Капітоныч.*

– Галава, – я радасна пацёр рукі. – Здаецца, нешта цікавае пачынаецца!

– Я б сказала – працягваецца. Усё ідзе да лагічнага завяршэння, – зрабіла выснову галава.

– А што думаеш пра Капітоныча? – запытаўся я.

– А сам што думаеш? – весела перапытала галава.

– Ну, такі мілы супрацоўнік – п’е разам з дырэктарам – ідэальны варыянт, таму не ведаю, чым ён не задаволены.

– Мілы, кажаш? – галава падазрона захіхікала.

– Так. Ну, не працуе – што з яго возьмеш? Бярэ прыклад з дырэктара. Сам хоча бухаць, а мілых людзей прымушае гарбаціцца на яго. Не, гэта не выйсце. Працаваць, дык працаваць разам.

– Ну, чакай-чакай, – падазрона сказала галава.

**19.** НАЧНЫЯ ЗАПЛЫВЫ

Прайшло яшчэ дзён дзесяць. І ўсё нарэшце было падрыхтавана для Начных заплываў. У кнігарні сабралася чалавек дваццаць пяць. Тут былі як вядомыя мажныя літаратары, гэтак і пачаткоўцы, якія яшчэ не ад’еліся ў жыцці, і таму выглядалі вечна галоднымі. У цэнтры перад сталом стаялі ў гарнітурах (усё ж такі свята) Рыгор Каваль і Капітоныч. Рыгор Каваль нагадваў асётра, прычым гэтае падабенства было звязанае не толькі з дзіўным рабрыстым гарнітурам, а з ягоным носам, які быў сёння неяк па-асабліваму выцягнуты і падаваўся нейкім завостраным. Капітоныч, наадварот, у адрозненне ад свайго дырэктара выглядаў паядальнікам рыбы, гэткім бурым мядзведзем. Было бачна, што ён настроены рашуча і сабраўся ўзяць самы актыўны ўдзел у спаборніцтвах. Усе неяк нерваваліся і актыўна пазіралі на стравы. Стол выглядаў шыкоўна!.. Праўда, даўжыня троху падвяла – на дзесяць метраў ён відавочна не дацягваў... але метраў пяць былі збудаваныя!.. Паўсюль стаялі талеркі з самымі markовымі... 

Паўсюль стаялі талеркі з самымі рознымі салатамі і прысмакамі. Недзе з салаты вытыркаліся вясёлыя маркоўкі і сумныя агуркі. У цэнтры стала, як гара, узвышалася запечаная качка. Скура на ёй так і адлівала запечанай скарынкай. Прычым здавалася, што зубы сабраных ужо хрумсцяць гэтай самай качкай. Там далей паказвала пашчу крывая, як шабля, рыба. Потым дзесьці з ускрайку падміргваў хударлявы парсючок. (І гэты парсючок некага падазрона нагадваў.) Нарэзка, ікра кабачковая, як кажуць “заморская”. Стол выглядаў цудоўна. Натуральна, было шмат розных бутэлек: ад налівак вішнёвых, парэчкавых, кменных да звычайнай хлебнай самагонкі. І тут супрацоўнікі “Кнігарні Марс” не падвялі.

Нашыя Волма і Караліна пачалі збіраць грошы. Ніхто не ўпарціўся – усе здавалі, бо спаборніцтва выглядала вельмі спакуслівa і перспектыўна, ясная рэч, кожны хацеў адным з першых распачаць эстафету! Хацелася прайсціся па меню, як кажуць, пакуль усё такое некранутае, цнатлівае.

Рыгор Каваль паглядзеў з сумам на кніжныя паліцы – да кніжак аніхто не дакранаўся. Усім было пофіг! Літаратура кацілася ў тартарары. Усе Рабінзоны Крузы і Клеапатры, усе Томы Соеры і Сечкі, усе Праклёны і Цвікі – усе гэтыя літаратурныя складнікі былі незнаёмыя тутэйшым гасцям альбо яны на іх не звярталі ўвагі. І ўвогуле было ўражанне, што іх цікавяць

толькі парсючкі ды катлеткі. “Ы-ы-ы, – шчабеча кабета ў ільняной сукенцы ад аршанскай фабрыкі. – Я люблю высокамастацкую літаратуру! Але перад тым, як перайсці да гэтых такіх важных і цудоўных працэдураў, я мушу з’есці гэтую высокамастацкую катлету і выпіць гэтай высокамастацкай самагонкі!” І напраўдзе, паглядзіш на яе высокамастацкі рот – і ўсё зразумееш... Тут мастацтва іншага кшталту! “Гэта хто?” – запытаў шэптам Рыгор у Волмы, ківаючы на “высокамастацкую кабету”. “Гэта – вядомая крытыкеса. Праславілася тым, што, даследуючы постмадэрнізм у творах сучасных аўтараў, вынайшла прамую сувязь чабурэка з кармай”.

Волма надзьмула нафарбаваныя вусны і абвесціла:

– Грошы сабраныя! Цяпер лёсаванне вырашыць, хто будзе першым!

Усе выцягнулі са спецыяльнага барабана (у якасці чаго скарысталі электраімбрык) паперкі з нумарамі. Усе выцягвалі асцярожна, нібы ў паперках хаваліся не толькі цукеркі, але і тарантулы. Першым выпала быць хударляваму нерваваму паэту, які так расхваляваўся, што анічога лепшага не прыдумаў, як узяў са стала курыную ножку і марудна пачаў яе смактаць. Усе захіхікалі.

Волма абвесціла:

– Наступны!

Наступным быў таўстун. Адразу было бачна адкормленага чалавека.

<...>

*Вось Волма выпрастала свае рукі ў бакі і паляцела пад столь. Адтуль яна пазірала на дырэктара кнігарні і на прысутных. Потым яна разявіла рот і раптоўна адтуль вылецела яшчэ адна Волма, але трошкі меншая. Потым гэтая меншая Волма таксама разявіла рот, і адтуль выскачыла яшчэ меншая Волма. Гераіня нагадвала матрошку. І вось ужо ўся кнігарня ў Волмах, нібыта ў паветраных бурбалках. І ўсе гэтыя напаўпразрыстыя Волмы нягучна нешта кажуць.*

Дзясятым быў Капітоныч. Ён падрыхтаваўся. Стаяў, як ганчак: галаву выцягнуў, лапы наперадзе – у іх бліскучая лыжка, ад якой адляталі светлавыя зайчыкі. Нават сліна капала з рота – празрыстыя слімакі. Усе госці прыціхлі, і, здаецца, аніхто не дыхаў.

У гэтай цішы Волма скамандавала: “Старт!” І было гэта прамоўлена так, што прысутным падалося: “Фас!” Капітоныч кінуўся да першай талеркі – раз! Першая лыжка салаты з’едзеная, два – агурок заляцеў у рот конікам, тры – ад ножкі качкі – адныя косткі. Капітоныч быў проста непаўторны – маланка, страла, куля, смерч! Капітоныч увесь змакрэў – ягоная лысіна стала падобнай да меднага люка. З вылупленымі вачыма ён нагадваў зэка, які выйшаў на волю! Ягоны твар стаў барвовым, шчокі раздзьмуліся да непазнавальных памераў. Быццам на шпацыры сом! Ён быў у сваёй стыхіі! Гэта быў ягоны зорны час! Усё!!! Усе зараўлі: “Перамога! ПЕРАМОГА!!!” Капітоныч прайшоў дыстанцыю за адведзены час! Рыгор Каваль таксама стаяў барвовы і вельмі злосна пазіраў на свайго калегу, які цяпер прэтэндаваў на выдавецкую касу. І толькі паспеў вымавіць: “Жывёла!” Пасля гэтага слова з Капітонычам здарылася нешта нядобрае. Ён дзіка зароў, схапіў бліскучы кухонны нож і кінуўся на свайго шэфа. Ніхто нават не паспеў адрэага-

ваць. Усе пачулі хрып, фантан крыві заліў усіх прысутных, хрумст, і вось... Капітоныч адрэзаў, ці, дакладней, літаральна адпілаваў галаву свайго ўжо былога шэфа. І, дзіка гледзячы яму ў вочы, прахрыпеў : "Сам жывёл-а-а-а!.." Яшчэ імгенне – і Капітоныч пачаў бляваць. Бляваў ён доўга і са смакам. Усе тыя далікатэсы, што нядаўна былі на сталах, цяпер выходзілі з Капітоныча на галаву Рыгора Каваля. А шэф так нічога і не зразумеў і нават не паспеў спалохацца. Ён толькі сказаў: "Марс ё..." – і памёр. Цяпер ягонае цела ляжала на метр ад галавы. Галава была нейкая несапраўдная, быццам тэатральная. Здавалася, што вырачаныя вочы і высалаплены язык – гэта задумка майстра. І плавала галава ў бог ведама чым; на носе ляжаў кавалак каўбасы, валасы таксама былі ў нейкай дрэні. Для паўнаты карціны не хапала кетчупу. А цела? Цела раскінула рукі, быццам збіралася сысці. Невядома навошта, але Волма і Дашуня са слязьмі на вачах і са страшэннымі ўсхліпамі ўзялі і выцягнулі цела былога шэфа з гэтага бедламу ў офісны кабінет і пяшчотна паклалі на падлогу. Галаву не чапалі... Складалася ўражанне, што тэатральная завеса апусцілася, дэкарацыі сталі непатрэбнымі, у манекенаў разрадзіліся батарэйкі. І толькі цяпер, у цішы кабінета, можна было разгледзець, што белыя пальцы нябожчыка сціскаюць кнігу Герберта Уэлса.

Выклікалі міліцыю і чамусьці машыну "хуткай дапамогі".

Пакуль усе былі ў асноўнай зале кнігарні, цела, што засталося без галавы, знаходзілася без нагляду. Раптам... яно заварушылася, ціхенька ўстала, расчыніла вокны ў кабінеце (гэта ж быў першы паверх) і незаўважна ад усіх выскачыла на вуліцу. І... бывай.

Калі прыехала міліцыя, цела не знайшлі. На месцы здарэння засталася толькі галава.

А Капітоныч стаяў на каленях, увесь дрыжэў і паўтараў бясконца адну фразу: "Гутаперчавы шэф... Гутаперчавы шэф... Гутаперчавы шэф..."

**20.** *тут варта прыпыніцца і зрабіць маленькую інфармацыйную даведку. Што? Навошта? І дзеля чаго? Часам чалавек, зазіраючы ў люстэрка, знаходзіць там не сябе. У канкрэтна ўзятым нашым выпадку, зірнуўшы ў люстэрка, наш герой пабачыў там галаву птушкі. А калі дакладней, там была чайка! І гэта адбылося ў невялікім партовым горадзе Вентспілс.*

Калі вы зазірнеце ў Вікіпедыю, дык даведаецеся, што Ве́нтспілс (былая **Вінда́ва** (да 1917), латыш. *Ventspils*, ням. *Windau*) — партовы горад у Латвіі. Месціцца на беразе Балтыйскага мора каля вусця ракі Вента, на поўнач ад Ліепаі і на захадзе ад Рыгі.



паэзія

Алесь Наркевіч



...Трэба жыць.

І ўсё.

І кропка...

# Сваё неба

* * *

Імжыць.
Нібыта
З неба словы
Казычуць прахалодай твар.
Ім жыць
І кожны раз нанова
Складаць камусьці лемантар.
Вучыць
Пра вечнасць і прастору,
Пра час, пра існасць,
Сэнс і сутнасць,
Каб апраўдаць тваю прысутнасць
Ў вар'яцкім чалавечым моры...
Якое ні ў журбе, ні ў горы
Не заціхае,
Не маўчыць...
Імжыць.

* * *

Аднойчы прыходзіць стома.
Ў які-небудзь ціхі вечар.
Калі ўжо усё вядома
(а зведанае – пустэча).
Ніякіх не трэба словаў.
Зусім не цікавяць планы.
Ўсе мары мае – удовы.
Ўсе мроі – без капітана.
Святла не палю
і зданню
блукаю за знічкай-часам.
Ужо не баляць пытанні.
Ужо не смыляць адказы...
У свеце далёкім, блізкім,
Праз ісціны і навукі –
Важней за ўсё – калыска,
што гушкаюць маміны рукі.
І ціхая калыханка,
і смачнае цяпло смочка,
і светлая ўсмешка ранкам,
і нібыта неба – вочы.

* * *

Адышло лета.
Толькі ў снах цёпла.
Маладосць – рэтра-
Успамін блёклы...
Краявід сумны,
Сонца
пад
вета.
Прынялі ў гумны
Водар-мёд кветак.
Спрэс-наўсцяж – багна.
У душы – слота
(Але ўсё ж – смягну
Пасярод мярзоты).
Ой, чакаць – сумна.
Сумаваць – марна.
Жыццяцёк тлумны.
Час, нібы сячкарня.

### *АРАТЫ ПРЫШЛАСЦІ*

Трэба жыць. І ўсё. І кропка.
Лепшай долі – брацьць – не кленчыць.
Не зважаць на недаробкаў,
Што плююць табе у плечы.
Жыць. Не слухаць ціхіх гадаў,
Што нашэптваюць па норах
Забабоны і парады,
Модлы страху і пакоры.
Трэба жыць. І гэтым чынам
Не даваць паскудству ходу.
Будаваць сваю Айчыну,
З нашым зместам, з нашай модай.
Жыць. І будзе светлы бераг,
І у нашай хаце свята.
Жыць: з надзеяй, цвёрдай верай,
Нібы прышласці араты.

* * *

Звужаецца прастора.
Сціскаюцца межы.
Змяншаецца абсяг.
І падаецца,
зараз
кожная аблачына
зносіць у невядомы свет
частку цябе,
абкрадаючы,
пакідаючы тутака,
у гэтай існасці
усё слабейшага,
меншага, мізэрнейшага,
нікчэмнага і выпетранага,
выпрацаванага і зняможанага,
выціснутага
марамі, чаканнямі, жаданнямі,
імкненнямі, зданямі, прымхамі,
сумневамі, хімерамі, забабонамі,
справамі,
патрэбнымі і не,
спраўджанымі
і толькі ледзь кранутымі думкай...
кожная аблачына
праз позірк
выцягвае з цябе астаткі моцы,
аскепкі душы

і некуды зносіць,
лёгка пралятаючы
над тваім змарнаваным асмалкам,
яшчэ зыркія пялёсткі
недажытага,
неспазнанага,
незразуметага табой
жыцця...

* * *

Змывае дні
Хвалямі часу
І хутка ўжо
Застанешся ў пустэчы:
Ні дзён
Ні хваляў
Ні часу

* * *

Кактэйль з тваіх дзён і маіх –
Якім ён будзе?
Мяне спакусай напаі –
Хай час марудзіць.
Дадай надзеі ад вясны,
Зімовай прагі,
І пахаў восеньскіх лясных,
І летняй смагі.
І прысмак смочкаў-журавін...
Не лішнім стане:
І падазронасці палын,
І дым кахання...
Па кроплі: крыўда і адчай,
Драбец самоты...
І, калі ласка, дамяшай
Сваёй пякноты.
Кактэйль з тваіх сноў і маіх –
Як піцца будзе?
Хай смак яго займае дых
Ды грэе грудзі.

* * *

Мы – гліна, з якое злепіцца.
Мы – цеста, з якога спячэцца.

Мы – тое, што заўтра спатрэбіцца,
Каб білася Краю сэрца.
Таму – набывайма моцы.
Таму – набірайма гарту.
Бо спыніцца цырк на дроце.
Бо скончацца гульні-жарты.
Прыдасца і духу мармур,
Й жалезны кулак, браце,
Каб мог зажыць гаспадарна
Ты ў гожай Літвінскай хаце.
Не будзе будоўля хуткай
Ў балоце саўковым хісткім.
Але – напляваць на чуткі –
Ты – спраўны, натхнёны, існы.
Злякаецца няхай набрыдзь.
А здраднікам – і лёс юдаў...
Бо вольных – свабода вабіць,
Рабам жа – лацвей у путах.

* * *

Рэшткі цела табе аддаю.
Душа невядома дзе...
Ўсё шукае долю сваю,
Па самоты сцежках брыдзе.

### *СВАЁ НЕБА*

Калі-небудзь я згару.
Калі-небудзь я памру.
За сабой у сваё неба
Свае скарбы пацягну.

Крыху тога, крыху сёга,
Крыху добрага й благога,
Каб на дробную патрэбу
Там не турбаваць нікога.

Нехта пойдзе баляваць,
Нехта будзе бедаваць.
Я ж у чыстым сваім небе –
Краскі дзіўныя збіраць.

На аблоках спаць-сядзець,
Бестурботна ўніз глядзець...
Толькі – каб у гэтым небе
Ад нуды не звар'яцець...

Калі-небудзь я памру.
Калі-небудзь я міну.
І з сабой
у сваё неба
Ўсіх па кроплі забяру.

* * *

Ўжо восенню хворы,
Сыходзячым госцем,
Купаюся ў моры
Тваёй маладосці.
Парадаў не чую,
Плыву безразважна
За вехі ды буі,
Бяздумна, адважна...
Ўразаюся ў хвалі
Насустрач цунамі...
Жылі й не чакалі,
Што так будзе з намі...
П'ю брэндзі і віны
Гасціннага цела...
І радасна гіну –
Піток няўмелы.

* * *

Цябе і мяне не будзе.
Мяне і цябе не стане.
Няхай бы час памарудзіў,
Калі спыніцца не ў стане.
А добра б – нашае поле
Засеяць зыркімі праскамі...
Хачу, каб з нашае долі
Складаў Бог светлыя казкі...
А раптам некалі – дзіва! –
Мы зноўку звонку сустрэнемся,
Ўспамінаў аперытывам
Натхнёна, лёгка падзелімся.
І, не спыняючы гутаркі,
Кранемся самае сутнасці...
Ўсё ж файна –
зараз і тутака –
раскашавацца прысутнасцю.

* * *

Якое “спаць”!
пабойся Бога,
бо Ён табе даў гэты час
для летуценняў
для дарогі,
для падарожжаў на Парнас...
Які “адчай”?!
не прыбядняйся –
табе, што сам сабе – алтар!
шукай, імкніся і змагайся –
жыццё ж і ёсць вышэйшы дар.
Ніякіх ісцінаў і сэнсаў!
Да д’ябла межы, рамкі, догмы...
Сам вырашай: жыць можна Зеўсам
Альбо ржавець ў прыгожых похвах.

* * *

Яшчэ адзін дзень у нябыт...
І хочацца спаць – а шкада...
Аб час, аб халодны граніт,
Разбілася мрояў вада...
У пыл.
Ціхай кропляй сышло
Жыццё.
Выпараецца след...
І ўсё, што знайшло-нажыло –
Бяздушны, пагардлівы свет.
А ты – ўсё юнак,
хоць стары...
І прагнецца новых шляхоў.
У вечнасці на алтары
Дазнаешся лёсу свайго.

Уладзімір Сіўчыкаў



...Гарэлка – вораг,

але ворагаў мы не баімся.

Мы іх знішчаем!..

# Смаленні вепрукоў

***З нізкі "Уладзевы гісторыі"***

## Спагадлівец

Бізнесоўца Андрэя Раіка ў 1-м Маскоўскім завулку дый па ўсім горадзе, мабыць, праз сугучча прозвішчаў завуць Райкіным, хоць і не мае ён аніякіх адносін да славутых артыстаў-сатырыкаў.

На наступны дзень пасля Раікавага дня нараджэння ягоны сусед па сядзібе Ігар А. па мянушцы Камісар пазваніў імяніннікавай жонцы:

– Ты, Светка, канечне, можаш і не запрашаць мяне сёння на вячэру, але ўяві сабе, колькі салатаў і нават шашлыкоў давядзецца табе выкінуць! А калі сябры ды найбліжэйшыя суседзі не дапамогуць знішчыць барыла гарэлкі, якой твае госці не далі рады ўчора, дык сёння ўсю яе выжлукціць твой Андрэй. Я, канечне, магу і не прыходзіць, але ж ты падумай як след, паклапаціся пра мужава здароўе.

Супраць апошняга аргумента Святлана анічога не змагла запярэчыць, паспешліва прагаварыла: “Прыходзь, Ігар, на абед з жонкаю. Мы заўсёды табе радыя!” і кінулася зноўку збіраць на стол.

Тым болей, што добра ведала яна – хай ужо лепей дома, пад яе наглядам сядзяць. Ведала яна і тое, што абодва любяць свойскія напоі і ў кожнага ў гаражы стаіць адмысловы апарат. На адным напісаны слоган “Гарэлка – вораг! Ганіце яе!”, а на другім – “Гарэлка – вораг, але ворагаў мы не баімся. Мы іх знішчаем!”

*20 траўня 2013 года.*

## Паветраная атака

Пасля цікавай экскурсіі, якую правяла сама гаспадыня, выйшлі ўдзельнікі мастацка-літаратурнага пленэру ў двор прыватнага музея-мастацкай галерэі імя Язэпа Драздовіча ў Германовічах, які заснавала і якім апекавалася краязнаўца Ада Райчонак.

Раптам каршун спудзіў, падняў, пагнаў ад вежаў велічнага касцёла, што літаральна праз дарогу ад музея, вялізную зграю варон. Тыя спікіравалі па-над самым музейным падворкам і, мабыць, інстынктыўна, затое нібыта па камандзе, “аблегчыліся”.

У выніку ўсе госці, гаспадары і ўдзельнікі пленэру аказаліся ўшчэнт запэцканыя птушыным лайном.

Не пацярпеў адзін толькі рэжысёр-кінадакументаліст Уладзімір К., які корпаўся ў той момант у багажніку свайго “бусіка” і быў абаронены ягонымі ўзнятымі заднімі дзвярыма.

*21 чэрвеня 2013 года.*

## Ці гараць?

Сядзела неяк увечары на Лысагорскім лецішчы пры каміне Крыстына К., падкідала ў агонь макулатурнае паліва дый разважала ўслых:

– Міхаіл Афанасьевіч Булгакаў уклаў у вусны Воланда, аднаго з галоўных герояў несмяротнага рамана “Майстар і Маргарыта”, словы, якія сталіся афарызмам: “Рукапісы не гараць!” А я як дачка пісьменніка і выдаўца магу запярэчыць класіку, магу дасведчанна, пэўна і аўтарытэтна сцвярджаць – гараць яны, гараць і нават вельмі хораша гараць! Вось толькі не трэба закідаць іх у печ тоўстымі і шчыльнымі стосамі, а трэба не ленавацца і час ад часу падварушваць у агні!

Мабыць, агонь у дзясятках камінаў маглі б згасіць слёзы даследчыкаў і аматараў творчасці другога рускага класіка, Мікалая Гогаля, калі ўяўлялі яны, як пад уплывам хрысціянскіх артадоксаў паліў ён рукапіс другога тома сваёй паэмы “Мёртвыя душы”!

*24 верасня 2013 года.*

## Нашанівец

Навучальная ўстанова для таленавітых дзяцей – Рэспубліканскі каледж па музыцы і выяўленчаму мастацтву – месціцца пры сталічным парку імя Чалюскінцаў, непадалёк ад тэлевізійнага цэнтра, на вуліцы

імя драматурга Андрэя Макаёнка. Навучэнцы пазбягаюць афіцыёзнай і груvasткай назвы і завуць каледж Парнатам. Але ні навучэнцы, ні выкладчыкі, ні супрацоўнікі з адміністрацыі не могуць напэўна сказаць, хто і калі прыдумаў тое найменне і што яно азначае. Але ўсе пагаджаюцца, што чуюцца ў ім словы "Парнас" – святая гара ў Грэцыі, дзе нібыта жылі багі, музы і славутыя дзеячы мастацтва", а таксама "інтэрнат", бо каледж папраўдзе мае і карпусы, дзе жывуць навучэнцы з розных рэгіёнаў Беларусі.

Выдатны майстар акварэлі, графік-станкавіст і ілюстратар Галіна Х.-Я. вяла ў адной з груп Каледжа курсы малюнка, жывапісу і кампазіцыі. Ды вось бяда – зламала спадарыня Галіна руку. Прычым зламала настолькі недарэчным і кур'ёзным чынам – звалілася ў сне са сваёй канапы, што сябры і знаёмцы паджартоўвалі з яе мужа: "Ну ты, Язэпе, і звер! Гэта ж трэба гэтак адмяцеліць жонку!"

Некалькі дзён спадарыня Галіна не магла нават прыходзіць на заняткі, і муж замяняў яе. Ён проста прыходзіў у майстэрню, раскрываў ноўтбук і ўнурваўся ў Інтэрнэт або ў свае літаратуразнаўчыя даследванні, пакуль навучэнцы-шасцікласнікі малявалі нацюрморты.

Аднае раніцы і ў яго надарылася нявыкрутка – мусіў паехаць на важную навуковую канферэнцыю як адкрывальнік першага спісу знакамітай паэмы "Тарас на Парнасе" ў адным з Кракаўскіх архіваў.

У майстэрню завітала Наталля В., якая вяла паралельную групу, але адгукнулася на просьбу калегі падмяніць яе.

– Я так рада, што вы, спадарыня Наталля, будзеце праводзіць у нас заняткі! – нібыта птушка, падляцела да яе і радасна зашчабятала ўсмешлівая Крыстына. – А вы ведаеце, што мы з вамі не чужыя? Ваш муж, дзядзька Пятро, забіраў мяне з радзільнага дома, калі я нарадзілася, на сваёй машыне!

Бедная кабета ажно сплатнела.

"Няўжо ў майго Пеці ёсць пазашлюбнае дзіця, пра якое я анічога не чула і пра якое дазнаюся больш як праз дзясятак гадоў?!"

Увечары спадарыня Наталля ледзь не на мяжы істэрыкі падступілася да мужа:

– Ну, дык што за дзяўчынку, даражэнькі Пецечка, ты забіраў з радзільнага дома пры першай клінічнай бальніцы?

– Якую дзяўчынку? Калі? – не мог уцяміць той.

– Ды ўжо больш за дзесяць гадоў таму! Мабыць, у мяне ёсць сваячка, пра якую я дазнаюся толькі цяпер?

– Якая сваячка? Нічога не разумею..

– Ну, тады напружвай памяць, канспіратар няшчасны! Дзяўчынка Крыстына, вучыцца ў нас у Парнаце, у шостым класе, у паралельнай з маёю групе!

– А-а-а, вунь ты пра што! Дык гэта ж малодшая дачка Валодзі, намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Бярозка", з якім мы працавалі разам не адзін год. Ягоная жонка нарадзіла, можна сказаць, праз дарогу, а дакладней, праз праспект ад старога корпуса Дома друку, дзе месцілася нашая рэдакцыя. Я сам і прапанаваў Валодзю дапамагчы – разам забраць парадзіху з дзіцём, каб не мэнчыцца яму з таксі ажно да Уручча, за кальцавую дарогу. Вось мы і пад'ехалі разам на нашай "Ніве". Машына ж даволі прасторная дый на навабудоўлі наш "джып" без праблем праехаў. Дарэчы, стваральнік "Нівы" – гэтаксама беларус і мой цёзка Пятро... А назва маркі "Ніва"

складзена з першых літараў імёнаў дзяцей галоўнага канструктара "ВАЗа" Уладзіміра Салаўёва... А ты што падумала?

– Маўчы ўжо лепей, "нашанівец" няшчасны! Паўдня ў мяне праз гэтае дзіця сэрца баліць...

– Ну, выбачай, даражэнькая! Не я твае апасенні і страхі прыдумваў!

*29 чэрвеня 2015 года.*

## Дах паехаў

Сталася так, што два тузіны тамоў новае серыі айчыннай класікі "Беларускі дом друку" адгрузіў выдавецтву ў чэрвені – не ў самы спрыяльны на кніжны гандаль час.

Адпаведна, і з прэзентацыяй серыі цягнуць да верасня не выпадала, і давялося праводзіць у "мёртвы сезон". Прызначылі яе ў кнігарні інтэрнэт-партала OZ.by. Спецыялізавалася яна на канцылярскай і кніжнай прадукцыі і нядаўна адчыніла свае дзверы хоць і за кальцавой аўтастрадаю, затое поруч са станцыяй метро "Уручча" ў аднайменным сталічным мікрараёне.

Спякотным ліпеньскім днём, за чвэрць гадзіны да прызначанага часу два дырэктары-сузаснавальнікі выдавецтва ўстурбавана дапытваліся ў вядоўцы імпрэзы і двух меркаваных выступоўцаў – сяброў рэдакцыйнай рады:

– А дзе Васіль Пятровіч? Ён жа тут паблізу жыве! Чаму і яго няма? Няўжо і ён кудысьці з'ехаў?!

– Абяцаўся быць, але ў апошні момант перазваніў мне і сказаў, што не зможа, – адказала вядоўца імпрэзы. – У яго проста дах паехаў!

– Як гэта – дах паехаў?! – зусім зніякавеў генеральны дырэктар. – Не разумею!

– А што тут разумець?! Гэта не маладзёвы слэнг... Дах у яго паехаў не ў пераносным, а ў літаральным сэнсе, – адказаў адзін з выступоўцаў і вытрымаў эфектную паўзу, бо ўжо ўвайшоў у ролю. – Сёння ўначы па-над Гарадзішчамі, непадалёк ад Нацыянальнага аэрапорта і Кургана Славы, пранеслася проста ўраганная навальніца. У Васіля Пятровіча там лецішча, а вятрыска сарваў з яго дах. Вось і паехаў гаспадар, якому пазванілі суседзі, паглядзець, што там такое і як можна даць рады...

Пасля такога тлумачэння выдаўцы не ведалі, ці то рагатаць, ці то званіць і выказваць Васілю Пятровічу свае спачуванні.

Адно толькі змаглі спытацца ў вядоўцы:

– Ну, вы ж утраіх справіцеся, зможаце правесці сённяшнюю прэзентацыю?

*6 ліпеня 2015 года.*

## Ветэранскі канфуз

Дацэнт Вольга Міхайлаўна Ц., адзін з першых славістаў Белдзяржуніверсітэта, чытала курс лекцый па гісторыі славянскіх літаратур народаў СССР, гісторыі літаратур краін народнай дэмакратыі, якія пазней сталі звацца сацыялістычнымі краінамі, па гісторыі замежнай літаратуры XX стагоддзя, а таксама даследавала творчасць славянскіх пісьменнікаў.

Была яна ўзнагароджаная медалямі "Ветэран працы", а таксама "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гг."

Аднаго дня ў сярэдзіне 80-х гадоў прымала яна іспыт па замежнай літаратуры XX стагоддзя ў студэнтаў аддзялення беларускай і рускай мовы і літаратуры, і раптам яе як чорт панёс. Захацелася ёй “заваліць” не абы каго, а сына беларускага празаіка, драматурга і літаратуразнаўцы, Народнага пісьменніка Беларусі. Закарцела раптам атрымаць перамогу над нашчадкам доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларускай ССР, старшыні Вярхоўнага Савета БССР Івана Якаўлевіча Навуменкі.

Пасля таго, як студэнт амаль што бездакорна адказаў на пытанні экзаменацыйнага білета, стала яна задаваць пытанні дадатковыя, але і яны не далі аніякай зачэпкі, каб хаця б занізіць адзнаку.

– А ці чыталі вы, Павел Іванавіч, – знарок ветліва спыталася яна, – раман ірландскага пісьменніка Джэймса Джойса “Уліс”?

– Чытаў, – не міргнуўшы вокам, адказаў студэнт. – Гэта найзнакамiцейшы раман Джэймса Агасціна Алаітэса Джойса, вялікага ірландскага англамоўнага празаіка і паэта, класіка і адначасна разбуральніка класічных канонаў, майстра, якому больш, чым каму іншаму, абавязаныя сваім нараджэннем новыя літаратурныя школы і накірункі XX стагоддзя...

Экзаменатарка, што тая Сара Бернар, вытрымала эфектную паўзу і пераможна ўсміхнулася:

– А вось тут вы, шаноўны Павел Іванавіч, патрапілі ў пастку! Як жа вы маглі прачытаць гэты твор, калі ён яшчэ не перакладзены ні на рускую, ні на беларускую мову?!

– А я прачытаў яго па-ўкраінску! Летась ён друкаваўся ў часопісе “Всесвіт”, які здаўна і рэгулярна выпісвае наша сям’я!

*10 лютага 2016 года.*

## Індывідуальны подпіс

Галіна Пятроўна Навумовіч нярэдка падленьвалася выбірацца “ў горад” са сваёй Сцяпянкі і кіравала фірмамі па тэлефоне. Давярала яна падпісваць нават банкаўскія дакументы на абодвух сваіх прадпрыемствах надзейнай і цягавітай бухгалтарцы Марыне Гладкай.

З цягам часу бухгалтарка стала пачувацца ў гэтым “жанры” ўсё больш разняволена і ўпэўнена, падсвядома самасцвярджацца і неўзаметкі прыўносіць ў дырэктарскі подпіс усё болей свайго.

Падчас аднае зімовае эпідэміі грыпу прыхварэла і бухгалтарка.

Давялося шаноўнай Галіне Пятроўне не толькі самой рыхтаваць плацёжныя дакументы, але і везці іх у банк.

Ды вось яшчэ бяда – аперацыяністка ў “Беларускім банку малога бізнесу” не прыняла ў яе “плацёжку”, бо звыклася ўжо да крыху з’іначанага подпісу. Не зусім ідэнтычны аказаўся подпіс і ўзору, пакінутаму на банкаўскай картцы, завеpанай натарыусам.

– Ды я двойчы запар не падпішуся абсалютна аднолькава! – даводзіла Галіна Пятроўна прынцыповаму банкаўскаму клерку. – Любы графолаг пацвердзіць вам, што на почырк, у тым ліку і на ўласнаручны подпіс, могуць уплываць узрост, псіхалагічны настрой, стомленасць, прынятыя медыкаментозныя сродкі дый іншыя фактары. Пазалетась мы выдалі жыццяпіс Адольфа Гітлера, дык сярод ілюстрацый была ў ім і старонка

з двума дзясяткамі аўтографаў фюрэра, вельмі адрознымі на працягу ягонага жыцця!

– Але подпіс у банкаўскай картцы вы паставілі ўсяго толькі год таму, – заўважыла ёй аперацыяністка.

– Ну дык і што з таго! Адзін з нашых аўтараў ставіць аўтографы трох, калі не чатырох абсалютна розных узораў. Подпіс ягоны то абсалютна чытэльны, то падобны да нейкіх егіпецкіх іерогліфаў!

– Гэта фізічная асоба і ма́е на тое права. Абы прызнавалі ягоныя подпісы вы...

– У нас ёсць буйны і ста́лы партнёр, які ўвогуле падпісваецца на дамовах то кірылічнай, то лацінскай графікай!

– Дамовы – гэта адно, гэта вашы ўнутраныя дакументы. А банкаўскія дакументы – гэта зусім іншае. Тым болей, што подпіс партнёра вашага, мабыць, замацоўваецца пячаткаю?

– Ну, так...

– А вы як прыватны прадпрымальнік карыстаецеся ў нас правам абыходзіцца без пячаткі...

– Ды які мне сэнс падрабляць свой подпіс, калі пераводжу сродкі са свайго індывідуальнага прадпрыемства на фірму, якая таксама належыць мне?! – перайшла на павышаны тон Галіна Пятроўна.

– Ну, нас гэта не датычыць, – сцепанула плячыма аперацыяністка. – Нам важна, каб банкаўскія дакументы былі афармленыя як след, а гэта значыць бездакорна, паводле правілаў і інструкцый...

У запале спрэчкі Галіна Пятроўна прад’явіла свой пашпарт, пячатку таварыства з абмежаванай адказнасцю, а таксама дырэктарскае пасведчанне, але, каб вычарпаць міні-інцыдэнт і канчаткова ўлагодзіць сітуацыю, пагадзілася, каб запрасілі загадчыцу банкаўскага сектара па працы з кліентамі.

Мусіла Галіна Пятроўна, хоць і гразілася перавесці свой рахунак у іншы банк, уласнаручна падпісвацца пры банкаўскіх клерках на другім асобніку “плацёжкі”, акуратна і засяроджана ставіць аўтограф, максімальна набліжаны да ўзору на банкаўскай картцы.

*23 лютага 2016 года.*

## Смаленні вепрукоў

У тэатральна-мастацкім інстытуце і на кафедры жывапісу атрымалі студэнты вучэбнае заданне – напісаць сюжэтныя кампазіцыі да 100-гадовага юбілею правадыра сусветнага пралетарыяту. У дадатак да жывапісных палотнаў мусілі яны прадаставіць і эскізы юбілейных плакатаў.

На папярэдні, ці, як іх яшчэ называлі, прамежкавы прагляд студэнт Аляксей М. прынёс палатно з назваю “Смаленне чорнага вепрука”. На ім была адлюстраваная жанравая сцэна – трое гараджанаў, відавочна ўчорашніх вяскоўцаў, на ўскрайку горада, пры звараных з металічных лістоў гаражах свяжуюць парсюка, верагодна, і выгаданавага ў адным з гэтых гаражоў. Забілі, абсмалілі паяльнай лямпаю дый пачалі ўжо шкрэбці.

– Ну, і як суадносіцца гэтая пабытовая сцэна з вялікім юбілеем? – дапытваўся ў студэнта загадчык кафедры Іван Ахрэмчык. – Якое дачыненне мае таварыш Ленін да вашага чорнага парсюка?!

– Ну, я ўпэўнены, Іван Восіпавіч, што Ленін думаў і пра Беларусь, і пра светлую, сытную будучыню беларусаў...

– Пра якую светлую будучыню, Аляксей, вы гаворыце пры гэткім змрочным, амаль што манахромным, ледзь не чорным каларыце?! Ці вы лічыце яго за ўрачыста-святочны?

– Ну, на палатне маім беларусы здабываюць сала... Бо якое ж беларусу свята без сала? Я думаю, што і Ленін анічога не меў супраць сала або супраць вэнджаных на ядлоўцы кілбас і кумпякоў...

– Кіньце вы, Аляксей, сваю казуістыку! Давайце лепш паглядзім на ваш эскіз плаката.

– Вось ён, – студэнт з асцярогаю ўсталяваў планшэт на мальберт.

– Выява геніяльнага мысліцеля тыражуецца ў вас у дзясятку копій, а кожная меншая за папярэднюю. Вы што ж, хочаце гэтым сказаць, што ідэі вялікага Леніна штогод мізарнеюць і звяліся ўжо да памераў паштовай маркі?!

– Ды не, Іван Восіпавіч! Наадварот, яны, паводле маёй задумы, шырацца і перамагаюць!

– Баюся, Аляксей, што на вясновым праглядзе будзеце мець са сваімі задумамі змрочны выгляд. У кагосьці з членаў камісіі могуць узнікнуць непажаданыя асацыяцыі, і гаворка тады пойдзе не тое, што пра стыпендыю, а пра тое, каб не пагналі вас з інстытута. Задумаецеся тады не тое, што пра сала, – пра хлеб надзённы!

– Што ж рабіць? – разгублена спытаў студэнт.

– Вы, здаецца, жывяце цяпер у Жодзіне?

– Так. Штодня езджу на заняткі электрычкаю...

– Ленін быў, як адзначана ў вучэбным заданні, і правадыром сусветнага пралетарыяту. Ну дык і адлюструйце на сваім палатне жодзінскіх пралетарыяў. Схадзіце ў цэхі да аўтамабілебудаўнікоў або на першамайскую дэманстрацыю, пакажыце рабочых БелАЗа ў працоўныя будні альбо на свята!

* * *

Не мог тады ведаць студэнт-жывапісец, што праз чатыры гады іншы творца – паэт, празаік, перакладчык, эсэіст і літаратуразнаўца напіша амаль што аднайменны шэдэўр і што ягонае “Смаленне вепрука” з вызначэннем жанру “Эпітафія апавяданню” станецца пазней хрэстаматыйным.

“Мне даўно хацелася напісаць адно апавяданне і назваць яго так: «Смаленне вепрука». Цяпер я ведаю, што, бадай, не напішу: баюся, каб тое, пра што хацеў напісаць, не прыцішылася няўзнак, а то і не згубілася там, у здзейсненай пісаніне, а яно ж мне самае важнае. Дык навошта тады згадваю і навошта пішу? Мне проста падумалася, што, можа, усё ж абзавецца на астачу нейкай логікай тое, што тут раскажу. Паглядзім”.

Наўрад ці бачыў студэнцкае палатно і Міхась Стральцоў, інакш неадменна згадаў бы яго ў сваім творы поруч з іншымі, вясковымі рэаліямі.

“Такою парою пішу я эпітафію апавяданню, якое магло б называцца «Смаленне вепрука». О, вядома, не шмат логікі ў ім, але ж не шмат логікі і ў стратах, што прыносяць нам лета ці вясна, зіма ці восень. Ёсць, на жаль, рэчы, непадуладныя нам, але ж ёсць і суцяшэнне, ёсць і надзея. У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча

верыць: я засцярогся ад бяды – бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг".

Да таго часу, як напісалася апавяданне, пайшоў у лепшы свет Іван Восіпавіч Ахрэмчык, студэнт Аляксей М. скончыў інстытут і абараніў дыплом палатном "Аўтазаводцы", а Міхась Стральцоў страціў працу ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" і выдаў зборнік паэзіі "Ядлоўцавы куст".

* * *

Праз некалькі дзесяцігоддзяў на юбілейнай, рэтраспектыўнай выставе творчай суполкі "Пагоня" ў сталічным Палацы мастацтва мэтр жывапісу, графікі і мастацкага перфомансу займеў асобную, персанальную залу.

Чамусьці наведвальнікі выставы найчасцей і найахвотней спыняліся і фатаграфаваліся не на тле ягоных краявідаў, дываноў ды макатак, а пры палатне "Смаленне чорнага вепрука".

*30 сакавіка 2016 года.*

## Два ў адным

Калі завітаць летняй раніцай на Лысагорскую сядзібу да колішняй загадчыцы "Кнігарні пісьменніка" Яўгеніі Аляксандраўны Бярэйшык і спытаць гаспадара, дык можна пачуць у адказ:

– Ды за домам ён, каля рукамыйніка. У яго цяпер ранішнія "два ў адным"!

Гэта азначае, што Іван Аляксандравіч адначасна атрымлівае два задавальненні – голіцца і пры гэтым раз-пораз прыкладаецца да кубачка з каваю, альбо "распуснай кавусяю", як імянуе той напой паэт і бард Алесь Камоцкі.

Пераняў Уладзя суседаву звычку, а аднаго ранку прыйшоў у прыватную цырульню "Агора" (мэтр айчыннай лексікаграфіі і ўкладальнік слоўнікаў іншамоўных слоў Аляксандр Мікалаевіч Булыка дазваляе ставіць націск у гэтым грэцкім слове як на другім, так і на апошнім складзе) і заспеў цырульніц за чорнай каваю.

– Я таксама каву люблю, – крыху фамільярна заявіў ён на правах сталага кліента, але гаспадыня салона Таццяна не разгубілася:

– Распранайцеся, праходзьце, сядайце ў крэсла, а я зараз запару вам каву па-варшаўску – заллю проста ў кубачку кіпнем. Толькі хай крыху настоіцца пад сподачкам...

Час ад часу прыносіць Уладзя ў цырульню бабы ці, як яшчэ кажуць, зерне кавы, прывезеныя з дальніх вандровак, – "Sulawesi medium dark" з горных раёнаў Тайланда, ямайскі "Blue Mountain", які любіла каралеўская сям'я і агент 007 Джэймс Бонд, альбо які-небудзь іншы экзот.

Бывае, што шанцуе, і тады мае ён "тры ў адным". Гэта калі вакол яго завіхаецца сімпатычная майстрыца, сам ён час ад часу прысёрбвае (так смачней, бо напой насычаецца кіслародам!) моцную каву без цукру, а прыймач у салоне настроены на густоўную музычную хвалю без навінаў, рэкламы і пустой балбатні радыёвядоўцаў.

*20 чэрвеня 2016 года.*

## Перапісчык

У далёкім і, здаецца цяпер, няісным, ірэальным 1979 годзе Зміцер К. з сябрамі мусіў браць удзел ва ўсесаюзным перапісе насельніцтва ў якасці лічыльніка ці перапісчыка. Абавязкі давялося выконваць у пасажырскім цягніку, што кіраваўся з Мінска ў сталіцу тагачаснай савецкай імперыі.

Абышоў Зміцер з хлапцамі-калегамі ўсе вагоны, спарадкаваў анкеты і толькі прыладзіўся быў у сваім купэ, каб павячэраць, як у дзверы пагрукалася правадніца і пасля прабачэнняў сказала, што ў Оршы падселі ў іх вагон два пасажыры.

Кінулі перапісчыкі, што называецца, пальцы, і выпала ісці Змітру.

Скончыў ён запаўняць анкету ад мажной пасажыркі ў суседнім купэ дый пытаецца пра яе папутчыка, які паспеў забурыцца спаць на верхняй паліцы:

– А гэта хто?

– Муж мой, – адказала тая.

– То, можа, не будзем турбаваць, запоўнім анкету за яго? Як прозвішча?

– Пілат.

– Як?!

– Пілат, – упэўнена паўтарыла кабета.

– Нішто сабе! – здзівавана прамармытаў перапісчык, але працягнуў апытанку: – А завуць яго як?

– Панцеляймон!

Тут у Змітра і мову заняло. Апынуцца сярод ночы ў адным купэ з практычна цёзкам біблійнага персанажа, рымскага пракуратара Іўдзеі і героя культавага рамана рускага класіка – гэта было, на ягоную думку, з разраду звышмістыкі.

Мімаволі прыгадаўся яму афарыстычны радок класіка айчыннага: “Куды ні трапяць беларусы!”, а да яго дадаўся саматужны: “Як ні завуцца беларусы!”

*13 (не пятніца, а панядзелак!) лютага 2017 года.*

## Грузінскія дранікі

Падчас свайго студэнцтва, калі быў ужо старшакурснікам, стажыраваўся Уладзя на філалагічным факультэце Тбіліскага ўніверсітэта.

Аднаго лета запрасілі яго ў горы на фальклорную практыку, дзе пачуваўся ён, не раўнуючы, што той студыёзус Шурык са знакамітай Гайдаеўскай кінакамедыі “Каўказская палонніца”. Хіба што замест ішака быў аўтамабіль “Жыгулі”, за рулём якога сядзеў кіраўнік экспедыцыі, загадчык лабараторыі фальклору і этнаграфіі Гія Шаламберыдзе, а ў склад экспедыцыі ўваходзілі таксама ягоны дзесяцігадовы сын Паата і дзве студэнткі-“філаложкі” – Сафіко Каберыдзэ і Манана Кіладзэ.

Спадар, альбо як кажуць грузіны, батона Гія крыху схітраваў і выправіўся з экспедыцыяй да сябе на радзіму, у Горную Рачу – грузінскую Швейцарыю. Грузія, саманазва якой Сакартвела, зусім неаднастайная і падзяляецца на шэраг гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў – Абхазію, Аджарыю, Гурыю, Джавахецію, Картлі, Кахецію, Месхецію, Менгрэлію, Мтыўлецію, Пшавію, Трыялецію, Тушэцію, Хеўсурэцію дый іншыя.

Рача ж раскінулася ў вярхоўі рэчкі Рыёні і мяжуе з Лечхуміяй і Сва-

неціяй на паўночным усходзе, з Імярэціяй – на поўдні, а з Паўночнай і Паўднёвай Асеціяй – на ўсходзе.

Уладзя меў ужо вопыт і мастакоўскіх пленэраў, і фальклорнай экспедыцыі ў Старадарожскім раёне, таму пачуваўся досыць упэўнена і камфортна як з нататнікам, так і з бабінным магнітафонам. Хіба што замест традыцыйных беларускіх напояў даводзілася частавацца ў рачыйцаў свойскім віном, што найчасцей захоўвалася ў марані – цокальным ці падвальным памяшканні альбо ў квеўры – гіганцкай амфары, закапанай у двары ці на гародзе.

Пабывала экспедыцыя на вінаградніках ды кукурузных палях, на беразе водасховішча Ланджнавуры і пры крыніцах з мінеральнай вадою. Наведала знакаміты, ледзь не тысячагадовага веку храм Нікарцмінда, а таксама храм Божае Маці Бараконі ў вёсцы Цэсі сярэдзіны XVIII стагоддзя. Пашанцавала фалькларыстам, бо роднай вёскаю кіраўніка аказалася Хванчкара, знакамітая найперш адпаведнымі гатункамі вінаграду дый віна.

Прымалі землякі батона Гіі больш чым гасцінна, таму і Уладзя смакаваў грузінскія стравы ў іх рачыйскіх варыяцыях. Хачапуры – ляпёшкі з запечаным у цесце тварагом, яйкам або зелянінаю. Аджапсандалі – сатэ з баклажанаў, памідораў, салодкага перцу, цыбулі і часныку з каляндрай ды базілікам. Пхалі – закуску з бланшыраванае ці тоўчанае зелянiны ды грэцкіх арэхаў, упрыгожаную гранатавымі зярнятамі і прыпраўленую вострым соўсам – пажыўную, але, бывае, не дужа эстэтычную з выгляду. Чахахбілі – рагу з бараніны, ялавічыны, але найчасцей – з мяса птушак. Сацыві – вострае халоднае рагу з аднайменным соўсам з індычкі, качкі або курыцы з тоўчанымі грэцкімі арэхамі. Лобія – фасолю, што пражыцца з мноствам спецый у гліняным гаршчку некалькі гадзін. Купаты – кілбасы з крыві ці субпрадуктаў, якія гатуюць, апускаючы ў кіпень літаральна на пару хвілінаў. Хінкалі – вялізныя пельмені з баранінай, якія вараць або смажаць. Хашы – гарачую тлустую поліўку з рубца, асабліва папулярную нараніцу пасля доўгага застолля. Чурчхелу – "дзіцячы" дэлікатэс у выглядзе кілбасак – нанізаны на нітку фундук, міндаль або грэцкія арэхі, якія шматкроць акунаюць у загушчаны мукою вінаградны сок і шматкроць высушваюць...

Ды вось, аднаго дня Сафіко з Мананаю крыху какетліва і правакатыўна спыталіся:

– А якія стравы, батона Уладзімір, папулярныя ў вас на радзіме? Што любяць есці беларусы?

– Дранікі! – амаль што адразу прагучэла ім у адказ.

– А можаце прыгатаваць нам гэтыя самыя... дранікі?

Уладзя пачухаў патыліцу, але адступаць не было куды.

Выправіўся на базар, дзе чакала яго суцэльнае расчараванне. Бульбы ўдалося набыць толькі дробнай дый маладой, якая не паспела яшчэ як след набраць крухмалу. Смятана таксама аказалася не вельмі тлустаю і густою. Але чаго было чакаць ад тамтэйшых кароў – невялікія, што беларускія цяляты, худыя дый караскаюцца па горных стромах, нібыта козы!

Абабраў Уладзя бульбу, надраў яе на дробнай тарцы, дадаў старанна нарэзанай цыбулі, тры яйкі дый пару лыжак мукі. Падсаліў і ледзь не гадзіну адстаяў каля пліты – пасмажыў дранікі на сланечнікавым алеі.

Пакаштаваў сам – аказаліся на дзіва ніштаватыя.

Падаў на стол са шкварачкамі дый са смятанаю, запрасіў каляжанак на дэгустацыю.

Тыя смакавалі апасліва, і не пабачыў Уладзя на іх тварах ні імпэту, ні захаплення. Хіба што падзяквалі з ветлівасці.

Заставаліся Уладзевы спадзеўкі на батона Гію. Але і той не праявіў нават мужчынскай салідарнасці. Карцела Уладзю спытацца словамі айчыннага класіка: “Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?”, але баяўся пачуць штосьці кшталту: “Паскудства, брат, і не пытайся!”

Як жа здзівіўся кухар, а ўнутрана і абурыўся, калі пабачыў, як батона Гія прысунуў да сябе цукарніцу, абмакнуў у яе дранік, а пасля абвясціў свой вердыкт:

– Вось так, халодны і з цукрам нашмат смачнейшы!

Уладзю й мову заняло, але мусіў суцяшацца адно толькі лацінскім афарызмам: “Пра густы не спрачаюцца!”

* * *

Гадоў праз дзесяць дазнаўся Уладзя, што ў Нью-Ёрку дранікі, надраныя на буйной тарцы, чамусьці лічацца стравай габрэйскаю і завуцца “ладкамі” і што немцы ядуць свой аналаг дранікаў з яблычным джэмам.

А малады навуковец-гісторык расказаў яму пазалетась, што ў студэнцкай сталоўцы Ягелонскага ўніверсітэта ледзь адбіў сваю порцыю дранікаў у кухмістрыні, якая памервалася пасыпаць іх... цукрам!

*25 лютага 2017 года.*

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
шаноўнага **Уладзіміра СІЎЧЫКАВА** з шасцідзесяцігоддзем
і зычаць яму моцнага здароўя, аптымізму,
бадзёрасці, а таксама – нагодаў для новых яскравых гісторыяў!

дэбют

Янка Вольская



...разам з капейкамі
з'явіліся і людзі,
якія просяць грошы на хлеб...

# “Вы жэ самі ўсё прэкрасна панімаеце”

***Аповесць***

### *Новенькі

У горадзе панавала зіма. Паветра, здавалася, звінела ад марозу, які застыў у ваконных шыбінах. Калі па вуліцы праязджаў трамвай, ад перанапружання з лініі электраперадачы выпраменьваліся іскры і разляталіся салютам. З трамвая выходзіла жанчына-кіроўца ў камізэльцы, акурат такой, якая бывае ў прыёмшчыкаў шклатары, у вялікіх рукавіцах, і вяртала “рогі” на месца. Трамвай ехаў далей, заінелае шкло пазвоньвала, з вуліцы праз прапаліны, якія ствараліся цёплым дыханнем пасажыраў, былі бачныя пачырванелыя твары, а за імі, у праходзе, размаітыя футры, кажухі і паліто. Трамвай нёсся па горадзе, падхопліваючы на прыпынках чарговых спадарожных, якія ў чаканні яго хавалі ў плечы галовы, пераміналіся з нагі на нагу альбо свідравалі поглядамі замерзлыя рэйкі і нагадвалі птушак, што начапурылі пер'е, каб было цяплей.

Насупраць Палаца мастацтваў зіхцеў вітрынамі “Акіян”. Кажуць, недзе ў ягоных сутарэннях дасюль яшчэ хаваецца “залаты запас” колішняга дырэктара рыбнай крамы – бляшанкі з чорнай ікрой замест кількі ў таматным соусе. А на паліцах крамы, адкрытых воку пакупніка, апроч вэнджанага ласося, селядца, акуня ды хеку, ляжаць сыры, хлеб, каўбасы і ўсё тое, што можа спатрэбіцца, калі чалавек раптам не патрапіў у гіпермаркет. Нейкім цудам у “Акіяна” атрымалася захаваць не толькі савецкі інтэр’ер з аздабленнем у выглядзе рыбнай лускі, але і часткова савецкі персанал. Некалькі каларытных прадавачак, відавочна, загартаваных сістэмай савецкага гандлю, які памятаў яшчэ вялікія грузавыя аўтамашыны з надпісам “Рыба”, “пакупніцкія комплексы”, прапагандысцкі рыбны дзень і харчовыя талоны, у крамнай іерархіі панавалі над зусім яшчэ маладзенькімі, але ўжо патрапілымі ў сеткі “Акіяна” дзяўчаткамі. Сталыя прадавачкі стварылі сваю, адмысловую, экасістэму, якой падпарадкоўваліся і маладзён-ахоўнік, і начальнік залы, і нават люстраныя карпы ў вадзе за шклом. Толькі які-небудзь выпадковы спажывец, занесены ў “Акіян” хаатычным вулічным цячэннем, мог не зразумець тутэйшай атмасферы і стаць выпадковым сведкам асаблівай, таемнай мовы, на якой размаўлялі паміж сабой прадавачкі, так, нібы ўвесь астатні свет існуе далёка за межамі іхняга свету, акіянічнага.

– Гаааляяя! – крычала сярэдняга ўзросту прадавачка крыху сіпатым голасам, вынырнуўшы аднекуль з-за дзвярэй у службовае памяшканне. – Ці ты падлічыла касу?

Чарга з чатырох чалавек, трымаючы кошыкі і дасюль задуменна абводзячы вачыма паліцы з цукеркамі і жуйкамі каля касы, абуджалася і, схамянуўшыся, паглядала навокал.

– Нееe, – з неахайнай весялосцю і нават з некаторай гарэзлівасцю адказвала Галя, маладая мажная дзяўчына, адначасова паварочваючыся да той, што крычала, і падлічваючы рэшту для пакупніка.

– Дык давай да дзясятай паспей, бо іначай – усё! – выразным жэстам вучыла маладую калегу жанчына.

– А што мне? – адказвала тая. – Паспею!

Юнак-ахоўнік гуляўся з ключамі ад крамы і ўсім сваім выглядам дэманстраваў дачыненне да размовы, а агаломшаны пакупнік у гэты момант стаяў у разубленасці з кошыкам і сціпла чакаў дазволу запытацца, ці можна палічыць яшчэ і пакет.

“Гэта табе не гіпермаркет”, – круцілася ў гэты момант у ягонай галаве. Астатняя чарга, што складалася са сталых наведнікаў крамы, з разуменнем кідала на яго пагляды і пасміхалася – “новенькі”.

## *Злачынца

– Я прабачаюся, можа ў вас будзе 50 капеек на хлеб? – першае, што пачуў Стась, выкінуты з “Акіяна” на бераг праспекта Незалежнасці.

Насупраць яго стаяў хлопец у доўгай скуранной куртцы, што былі ў модзе гадоў дваццаць таму, крыху няголены, але з большага ахайны, таму было нават незразумела адразу, адкуль ён выйшаў – з галерэі “Ў”, што месціцца паблізу ў дварах, ці з фірмовай крамы “Крышталь”, якая мільгацела вітрынай адразу каля выхаду з метро. Не цыгарэту папрасіў, не запаліць, не “Слыш, брат, выручы, очэнь нада”, а грошай на хлеб. Стась і

не памятаў ужо, калі ў Менску апошнім разам чуў, каб хтосьці прасіў на хлеб. Ну, інвалідаў бачыў каля цэркваў, бачыў у спальных раёнах сінявatых прыкрамавых заўсёднікаў, што гуртаваліся ў купкі і чакалі, пакуль з'явіцца спонсар кампаніі, альбо разам збіралі па дробязях грошы "на ўсіх", і аднойчы, не так ужо даўно, на выездзе з універсама бачыў хлопца, што стаяў паміж двума аўтамабілямі і трымаў аркуш, дзе вялікімі літарамі было выведзена "ПРАШУ НА ЕЖУ". Тады кожны другі, які абмінаў на выхадзе жанчыну з фотаздымкам хворага дзіцяці і просьбай пра дапамогу, параўняўшыся з хлопцам, кідаў у капялюш колькі манетаў. Вось і ён цяпер пашукаў у кішэні тое, што засталося ад паходу ў краму, і аддаў чалавеку ў скураной курткі.

– Выдатнага дзянёчку! – пажадаў той і растаў у наступнай хвалі людзей, што ўзнялася па лесвіцы з метро і рынула ў горад.

50 капеек. Капейкі ў Менску з'явіліся зусім нядаўна, разам з новымі грашыма. Спачатку хадзілі адразу старыя грошы і новыя, таму кожны мог абраць, чым яму разлічвацца. Ён спыніўся на думцы, што прыйшоў час плаціць па рахунках, і разам з капейкамі з'явіліся і людзі, якія просяць грошы на хлеб.

Да цягніка ў яго заставалася яшчэ гадзіна. Нешта ўвесь час свярбела на правай шчаце, нібы ўкусіла нейкая жамярына. Адчуванне кшталту таго, што калісьці было ўлетку ў дзяцінстве ў вёсцы Дрысвяты на Браслаўскіх азёрах. Стась адразу прыгадаў тыя спякотныя ліпеньскія вечары, калі вільготнае паветра скаланалася ад кожнага руху, ад азёр пакрысе пачынала цягнуцца прахалода, а разам з ёй і дробная жамяра. Ён і бацька сядзяць у двары каля вогнішча. Мама ў хаце – на ўваходзе вісіць адмысловы дыванок, каб унутр не наляцела камароў, у кожным пакоі гарыць святло. На печы паласатая котка Лянота.

– Паглядзі, Лянота прыйшла.

– Лянота! Лянота! Кліч яе сюды.

– Збегла Лянота нанач гледзячы.

Такія размовы ў ягонай сям'і.

У хаце пахне сушаным ліпавым цветам і мятай, добра ды ўтульна.

Ля вогнішча з бацькам таксама добра. У кацялку – шчупак. Сапраўдная юшка – гэта юшка, у якую дадаюць кілішак гарэлкі і гарачае палена. Узвар нацягваецца пахам гарэлага дрэва, а страва тады набывае непаўторны смак. Бацька вучыць Стася, а той азіраецца па баках. Вось ад лесу насоўваецца на яго чорны ваўчыны цень, вось над страхой б'ецца чарада кажаноў.

– Прынясі цыбулі, – просіць бацька, седзячы блізка ля агню і варушачы агмяныя галінкі. – Ці ты чуеш, Стась? Стась! От доўбня!

Стась уздрыгвае, хвастае сябе па шчацэ, ля якой толькі што звінеў камар, і бяжыць па маладыя, зялёныя пёры цыбулі. Прабягаючы каля студні, зачэрпвае прыгаршчы халоднай вады і трэ шчаку, якая невыносна свярбіць.

Даўно ўжо няма бацькі. Стась з мамай жылі ўдваіх у Зялёным Лузе, а цяпер Стась пераехаў у цэнтр, а мама засталася ў двухпакаёвай кватэры з вокнамі на лес. Усё дзяцінства Стась чуў: "Ты з якога раёна?" Здаралася, што сваю прыналежнасць да пэўнага раёна даводзілася адстойваць зусім не моўнымі аргументамі. Тады яшчэ ў Зялёным Лузе не было шасэйнай трасы праз Курапаты, царквы Божага Уваскрасення, стылёвага пасёлка Сонечнага і жыллёвага комплексу ў імя выбітнага кампазітара Рахманінава. Але быў ужо адзін з першых у горадзе дваццаціаднапавярховік, які

яны з сябрамі празвалі "маналітам" і на дах якога ўзбіраліся па чорнай лесвіцы, маланкава праносячыся міма кансьержкі, што глядзела папулярны серыял "Санта-Барбара". А яшчэ быў кінатэатр "Вільнюс" і кавярня-бар ля ўніверсама "Віцебск", дзе гандлявалі напоем "Юпі" ў пакецiках, якi трэба было разбаўляць вадой, жуйкамі "Love is" і шакаладнымі медалямі. Да ўсяго яшчэ там прадаваліся гарэлка і каньяк "на разліў". Таму ў выходны дзень бацькі, пакінуўшы дома жонак, добраахвотна вялі дзяцей у кавярню і, пакуль тыя пілі малочныя кактэйлі, прапускалі па адным-другім кілішку, абмяркоўваючы змены ў палітыцы. Бар гэты захаваўся дасюль, у ім па-ранейшаму гандлююць шакаладнымі медалямі і разліўной гарэлкай.

Мароз робіцца мацнейшым. "Зімовы распродаж! Увесь студзень зніжкі да 50%!" – так прываблівае мінакоў Палац мастацтваў. Толькі не карцінамі, а футрамі. Кожную зіму ў Палац засяляецца "Футраманія". Яна здаецца вечнай, як і зіма. Сёлета "Футраманія" ў нечаканым суседстве з усходнім кірмашом. Іранцы, пакістанцы, горныя алтайцы наперабой гандлююць рысам басмаці, амарантавым алеем, халвой, пахлавой, рахат-лукумам і аюрведычным шампунем, які робіць цуды. Калі ў каго раптам вострая нястача цудаў, з дапамогай індыйскага шампуню іх можна зрабіць уласнаруч. За Палацам – Касцёл святога Роха. Стась даўно адзначыў для сябе неверагодную адметнасць цэнтра гэтага горада. Звонку, з боку праспекта, горад наступае масіўнай, так званай "сталінскай" архітэктурай, барэльефамі і карнізамі, але варта толькі зазірнуць у арку, зайсці ў двор, як ён адразу абарочваецца дамамі, дзе дасюль на гаўбцах сушаць бялізну, і Залатой горкай – знакамітым старым кварталам у Менску, дзе паводле легенды пасля эпідэміі халеры адзін польскі ўрач перад усімі людзьмі кінуў на зямлю плашч, а на яго некалькі манетаў – як зварот да ахвярвання на пабудову каменнага касцёла. І, калі пра Медную гару Стась толькі чытаў, дык Залатую горку ён меў магчымасць бачыць на ўласныя вочы.

"Цікава, – думаў ён. – У Меднай гары была гаспадыня, а ці ёсць гаспадыня ў Залатой горкі?.. Напэўна ж ёсць. Толькі не гаспадыня, а гаспадынька. Маленькая дзяўчынка з залатымі, крыху рудаватымі валасамі".

– Памежны кантроль! Рыхтуем дакументы!

Дзве маладыя дзяўчыны ў вайсковай уніформе ўварваліся ў цягнік на станцыі "Маладзечна" і пачалі дагляд пасажыраў. Разам з імі, нетаропка і дзелавіта, уступіў з цемры станцыі ў святло вагона мужчына-маёр. Стась чамусьці думаў раней, што ва ўсіх маёраў ёсць вусы. І што калі да іх звяртаюцца – "таварыш маёр", тыя вусы адразу задаволена падскокваюць і варушацца. Але ў гэтага маёра вусоў не было. Затое ў яго была зброя і сабачка. Сабачка вельмі задаволена, весела і спрактыкавана скокнуў у цягнік у Маладзечне з гэтымі трыма, а цяпер абводзіў усіх разумнымі, амаль чалавечымі вачыма. У маёра ж вочы не выказвалі нічога. Ён гэтаксама безэмацыйна сканаваў позіркам пасажыраў, як адмысловыя машынкі ў ягоных калег сканавалі пашпарты. Нават самы законапаслухмяны грамадзянін пачынаў сумнявацца пад гэтым позіркам у сваёй законапаслухмянасці і адчуваў правіну невядома за што. А злодзей дык мусіў адразу скурчыцца, зніякавець і, запінаючыся на кожным слове, чыстасардэчна прызнацца ва ўсіх парушэннях, якія здзейсніў цягам жыцця.

Стась сядзеў ля праходу, недалёка ад дзвярэй, дзе грувасціліся валізкі і падарожныя торбы. Дзяўчына папрасіла ў яго пашпарт і зірнула на твар,

уклаўшы ў позірк усю адказнасць службовай асобы. Твар Стася супаў з тварам на здымку ў ягоным пашпарце. Сур'ёзная памежніца рушыла далей. За ёй урачыстай працэсіяй пацягнуліся маёр і сабачка. Сабачка ўважліва паглядзеў на Стася, уцягнуў носам паветра і нешта пачуў. Ён пачаў пільна прынюхвацца, віхляць хвастом, церціся аб Стасеў заплечнік, што ляжаў ля фатэля. Маёр абрадаваўся. Ягоныя невыразныя вочы слізганулі па Стасю, па заплечніку і, відавочна, намацалі ў ім парушэнне.

– Ціха, Гром! – скамандаваў маёр.

– Што правозім? – з інтанацыяй безуважнасці і з кепска прыхаваным задавальненнем звярнуўся ён да Стася.

– Нічога, – нечакана для сябе занадта хутка адказаў Стась.

– Нічога? – гэткім жа безуважным голасам перапытаў маёр. А потым, набіраючыся пачуццём сілы і ўлады, больш пранікнёна, ужо нібы не запытваючыся, а даючы каманду, кіўнуў:

– У заплечніку што?

– Асабістыя рэчы, – адказаў Стась і паглядзеў маёру проста ў вочы.

– Падрыхтуйце, калі ласка, багаж да агляду, – ласкавым голасам папрасіў маёр, і вочы ў яго засвяціліся.

Стасю раптам падалося, што маёр ледзь не пляснуў у далоні. Гром працягваў абнюхваць заплечнік і нават пачаў нешта скрэбсці ля яго.

“Якога чорта ты там унюхаў?” – падумаў Стась.

Пасажыры, якія колькі хвілінаў таму млява сядзелі на сваіх месцах, апусціўшы галовы, пачалі іх падымаць. А самыя цікаўныя – дык і вызіраць у праход.

Стась выйшаў з маёрам на пляцоўку каля дзвярэй і расшпіліў маланку заплечніка. Маёр усунуў галаву і пачаў дасканала ўсё даследаваць. Бялізна, гігіенічныя прылады, кніга Марціновіча “Возера радасці”, дакументы, гаманец з папяровымі грашыма, скарбонка з манетамі. Маёр хацеў ведаць усе дэталі.

– Хвілiначку! – раптам узрушана замітусіўся маёр. – А гэта што?

Стась выняў скрутак белай паперы, памерам з гаманец. У скрутку было нешта мяккае.

“Гэта не маё!” – хацеў закрычаць Стась, як у фільмах пра мафіёзі, якіх скручвае паліцыя адразу ў клубе, калі яны ўдыхаюць какаін. Увесь гэты час пасажыры цягніка неадрыўна сачылі за тым, што адбываецца. Хтосьці губляў цікавасць, драмаў ці ўтаропліваўся ў гульню на тэлефоне, а хтосьці нават прыўздымаўся з месца, каб мець большы вугал агляду.

“Гэта не маё”, – працягвала цюкаць у Стасевай галаве. – “Ага, не тваё, яшчэ як тваё, вунь і адбіткі пальцаў твае на паперы”, – сам сабе адказаў Стась.

– Разгарніце, калі ласка, паперу, – сувора працягваў прадстаўнік памежнага кантролю.

Стась падумаў, што зараз разгорне паперу, а ў ёй будзе торцік. Ну, як на 1 красавіка – Дзень усіх дурняў. Яму прыгадаўся жарт ад газеты “Камсамолка” некалькігадовай даўніны, нібыта замест Нацыянальнай бібліятэкі ў Менску збіраюцца будаваць вялізарны стадыён, а сам найкаштоўнейшы дыямент адпраўляюць у горад Магілёў, каб зрабіць з яго мясцовы Дыснейлэнд. Стась наглядзеўся на мясцовы Дыснейлэнд, і яму вельмі хацелася пабачыць у разгорнутай паперы торцік у форме Нацыянальнай бібліятэкі, урачыста працягнуць яго і прамовіць:

– Гэта вам, таварыш маёр.

Ці, можа, гэтаму сабачку, што пачуў пах вяршковага крэму і нясцерпна захацеў свята.

Потым яны сыдуць у Гудагаі – дзве дзяўчыны, бязвусы маёр і сабачка Гром, а Стась паедзе далей, у Вільню, выйдзе з цягніка разам з астатнімі пасажырамі, адстаіць чаргу, каб пакінуць на сканеры адбіткі сваіх пальцаў, і растварыцца ў натоўпе, у віленскім паху грубак, у лабірынце вузкіх вулачак.

У разгорнутай паперы аказалася з паўкілаграма белаватых паўпразрыстых гранулаў.

– Што гэта і як вы можаце патлумачыць знаходжанне ў вас забароненых да правозу рэчываў? – зусім металічным голасам адчаканіў маёр.

Ён, відаць, сам быў перакананы, што пабачыць у паперы бяскрыўдны торцік.

Стась адчуў, як халадок жаху прабег па ягонай спіне. Пасажыры заварушыліся. Дзве цёткі ў трэцім шэрагу зашапталіся, і адна з іх вельмі выразна адзначыла:

– Падазрыцільный ціп!

– Гэта не маё, – паспрабаваў пярэчыць Стась, дарэмна спадзеючыся на разуменне з боку маёра.

Чалавек-сканер змерыў хлопца халодным позіркам, у якім выразна адбіваўся вердыкт наконт апошняга: “злачынца”. А як паводзіць сябе са злачынцамі, маёр быў інструктаваны і меў пры сабе наказ наконт такіх выпадкаў.

– Што значыць – “гэта не маё”? Яшчэ як вашае, – зларадна вымавіў ён. І паспешна дадаў: – Вунь і адбіткі вашых пальцаў на паперы. Падрыхтуйцеся да выхаду. Мы вымушаныя затрымаць вас да высвятлення абставінаў.

Гром натапырыў вушы. Дзяўчыны-памежніцы, якія ўжо абышлі вагон, стаялі побач і крыху спуджана пазіралі ў Стасеў бок. Было ціха-ціха, ледзь чутна цягнік ляцеў над рэйкамі. Толькі ў самым канцы вагона нейкая дзяўчына размаўляла па тэлефоне, расцягваючы інтанацыі ў словах, нібы яна зараз не ехала пасярод лясоў і вясковых хатак паабапал чыгуначнага палатна, а ляжала недзе на пляжы, апалялася пад сонцам і размаўляць ёй было млява і абыякава:

– Ну, я такая заяўляю яму, што прыеду а восьмай вечара. А ён такі адказвае, што яго затрымліваюць на працы і ён не можа мяне сустрэць. Ну. Такі, кажа, тыпу – вазьмі таксоўку і дабярыся. Ты ўяўляеш? Казёл.

Тут маёр ссунуў бровы, сабачка падцяў хвост, а дзяўчыны-памежніцы спачувальна перакінуліся поглядамі. За вокнамі замільгацела святло станцыйных ліхтароў, цягнік хіснуўся, і голас з дынаміка выразна і неяк зухавата абвясціў:

– Гудагай! Gudogaj!

## *Памежнік

– Будкін! – паклікала загадчыца змены дзяжурнага па станцыі. – Будкін, заснуў ты ці што?

Будкін у гэты час даследваў нядаўна ўсталяваны тэрмінал сістэмы БУГ-2, што абслугоўваўся Маладзечанскай станцыяй сігналізацыі ды

сувязі. Ён разумеў, што дыспетчарская станцыя і прылады комплексу звязаныя двухправадной лініяй па радыёканале, сеціве ці GSM, але ніяк не мог разабрацца з дадаткам па рэдагаванні мнемасхемаў. Ягоная ўласная мнемасхема малявала яму зусім іншы графічны малюнак – не БУГ-2, а Заходні Буг, што цячэ паўз Бярэсце, Жабінкаўскі раён, а далей ён прыгадваў Сасновы Бор на беразе рэчкі Мухавец, куды ён малым кожны ліпень выпраўляўся ў санаторый, сядзеў там са сваім лепшым сябрам на беразе з вудай, вучыўся гуляць у настольны тэніс і валейбол, выпілоўваў з кары на кавалку бетону, які невядома адкуль узяўся ў лесе, лодачкі для рэгаты, упершыню даставаў пчалінае джала са ступака. Аднойчы ён напісаў крэйдай на дзвярах у дзявочым корпусе: “Алена, я цябе люблю” і быў знянацку заспеты і публічна абсмяяны. Тады ён паабяцаў сабе асцерагацца пчолаў, не звязвацца з Аленамі і канчаткова вырашыў, што стане яхтсменам. Яхтсменам Будкін не стаў, хоць падлеткам некалькі гадоў запар наведваў мясцовы яхт-клуб і аднойчы нават хадзіў пад сапраўдным ветразем, а стаў ён службоўцам на кругласутківым міжнародным пункце пропуску і меў начальніцу Алену Валянцінаўну Пчалу, якая не давала яму прадыхнуць і бясконца джаліла і джаліла заўвагамі ды павучаннямі.

– Будкін, чым ты вечна займаешся? Рыхтуйся да асабістага дагляду зараз жа! – крыкнула загадчыца змены, і яе галава з белымі кудзерамі паказалася з-за дзвярэй.

– Навошта? – анямеў Будкін.

У яго нават шрубоўка выпала з рук, якую няведама дзеля чаго ён трымаў.

– У мяне ж няма нічога, Алена Валянцінаўна! – залапатаў Будкін. – Я ж не вінаваты, што ў блоку не хапае двух шрубаў, толькі зараз паглядзеў, а іх не было ўжо.

– Я сказала рыхтавацца да агляду, – спачатку не зразумела Пчала. – Што значыць “не хапае двух шрубаў”? – яе твар, і без таго заўсёды крыху ружовы, раптам пагрозліва пачырванеў. – Якіх яшчэ шрубаў, Будкін?

– Я тут ні пры чым, Алена Валянцінаўна, – працягваў апраўдвацца Будкін. – Засведчана, што іх не было да майго агляду, яшчэ маёр Чарніцын правяраў.

Тут Будкін зусім умольным голасам дадаў:

– Не трэба мяне на агляд, калі ласка.

– Будкін! – зараўла начальніца. – Не цябе на агляд, а ты ідзеш на дагляд. Зараз жа ўзяў паперы і асадкі!

Агаломшаны Будкін ялейна заўсміхаўся, нібы чалавек, які не зусім разумее аб’ектыўны стан рэчаў. Але ў ягонай галаве адбілася галоўнае: “Гэта не яго вядуць, гэта ён сам ідзе”. Дзяжурны па станцыі кінуўся да стала і пачаў збіраць рэчы, неабходныя для асабістага дагляду.

Стась тым часам ужо стаяў у цьмяна асветленым пакоі, які называўся памяшканнем для асабістага дагляду, што адпавядае санітарна-гігіенічным нормам правядзення такой працэдуры. Упершыню ў жыцці ён так шчыльна сутыкаўся з дзяржаўнымі службамі і не разумеў, чаго ад іх чакаць. Маёр, які правёў яго ў памяшканне, у сваю чаргу, відавочна, не ведаў, чаго чакаць ад Стася, і мераў перыметр прасторы крокамі. Абодва захоўвалі маўчанне. Маўчанне было такім доўгім і такім цяжкім, што напятым стала само паветра, у якім было чуваць роўны манатонны гуд з кацельных і аддалена – грукат лакаматываў.

## *Суддзя

Суддзя Падхамілаў прачнуўся а пятай гадзіне раніцы і ляжаў, гледзячы ў столь. З-за завешаных фіранак лілося ранішняе святло. Уночы ён спаў вельмі кепска, навязліва нылі ныркі, балела цягліца на правай назе, пад коўдрай было горача, а без яе працінала настылым ноччу паветрам. У ложку суддзя круціўся з боку на бок, стагнаў і ўрэшце ачуўся раздражнёным і хворым. Да ўсяго ён заўважыў на столі тонкую расколіну ля правага кута ад дзвярэй і сляды падцёкаў. Гэта азначала, што суседзі зверху зноў залілі кватэру. Усяго два месяцы таму жонка Падхамілава, не без аўтарытэту мужа, дамаглася ад суседзяў аплаты ўсіх выдаткаў на рамонт гіпсакардоннай столі, а тут ізноў аварыйная сітуацыя.

– Я проста патлумачыла ім, што сваімі сродкамі мы гэтае пашкоджанне не выправім і што табе вельмі будзе непрыемна, калі яны не зразумеюць, – распавядала жонка Падхамілаву.

– Калі яны не зразумеюць, я ім пакажу! – віскліва падскокваў Падхамілаў.

– Ну што ты, што ты, Сержучок! Яны вельмі разумныя! Табе нельга хваляваццa! – спуджана і заклапочана супакойвала яго жонка.

– Калі вы не разумееце, мой муж вам пакажа! – выказвала яна суседзям сваё абурэнне. – Вы зусім нічога не разумееце? Ды вы ведаеце, хто мой муж? Ён – суддзя гарадскога суда! Ён са старшынёй на кароткай назе!

Старая габрэйская пара разгублена глядзела на жанчыну, якая захлыналася ў раз’юшанай прамове і трэсла перад іхнімі тварамі паперамі і тэлефонам.

– Прабачце, калі ласка але ці не маглі б вы патлумачыць, што такое здарылася? – спагадліва пацікавіўся мужчына, нарэшце дачакаўшыся паўзы, пакуль жанчына пераводзіла дыханне.

– Вы, вы! – аддыхаўшыся, працягвала яна. – Вада, столь!

З асобных словаў гаспадары зразумелі прычыну гнеўнага прыпадку.

– Ой вэй! – пляснула ў далоні гаспадыня. – Рафаэль! Няўжо ізноў зламалася пральная машына?

“Якое штучнае здзіўленне! – абурылася сама сабе жонка Падхамілава. – Нібыта нічога не ведалі!”

Утраіх яны забеглі ў ванны пакой: першым – Рафаэль, потым – ягоная жонка, і апошняй – жонка Падхамілава, крыху стомленая, але перапоўненая пачуццём надыходзячай перамогі над злачынцамі.

– Ага! – закрычала яна, пабачыўшы залітую вадой падлогу. – Ну?

– Мы вельмі прабачаемся, – адказаў мужчына. – Дазвольце нам кампенсаваць усе вашыя нязручнасці. А таксама запрасіць вас на вячэру, каб замірыцца і выправіць гэты недарэчны інцыдэнт.

– Яшчэ мы вячэраць будзем з вамі пасля таго, што вы нарабілі! Кампенсуйце зараз жа ўсе выдаткі на аднаўленне столі!

– І за маральную шкоду, – крыху цішэй дадала яна. – Ажно ціск падняўся, – паскардзілася ўжо амаль плаксівым голасам.

Тут раптам усе заўважылі, што вада струмянём цячэ па сцяне са столі.

– Гэта аднекуль зверху, – адзначыў гаспадар.

“Толькі не гэта”, – пранеслася ў галаве Падхамілавай.

Цяжкай хадой падымалася яна па лесвічных прыступках на сёмы паверх і ціснула на кнопку званка. Дзверы адчыніў падцягнуты мужчына ў спартовых нагавіцах:

– Марыначка! – расплыўся ягоны твар у прыкрай ўсмешцы. – А я цябе сёння не чакаў, мая прыгажуня.

– Валодзя, гэта ад цябе вада льецца? – сувора запыталася яна.

– Якая вада? – ускінуў Валодзя бровы. – А тваю ж халеру!

Праз паўнюткую ванну пераліваўся цэлы вадаспад.

– Уключыў кран ды забыўся! – пыхкаў Валодзя, кідаючыся выціраць ваду з падлогі.

– Дурніла! Ты давай яшчэ на працы ўключы так кран з палівам і забудзься! – злосна пажартвала жанчына.

– Ну ты чаго, Марына, у самам дзеле? – Валодзя нахмурыў бровы. – Мне тады ўсё, перакрыюць усе краны.

– Табе і так краны перакрыюць, калі даведаюцца, як ты паліва разбаўляеш, – не сунімалася Падхамілава.

– Ты давай маўчы, – пагрозліва сказаў Валодзя.

– Валодзечка, – ужо лагодна працягнула Падхамілава, – што ж зараз з суседзямі рабіць?

– А што з імі рабіць? Я сам разбяруся.

Падхамілаў устаў, крыху пахадзіў па пакоі, каб размяць ногі, і думкі завіравалі ў ягонай галаве. Чамусьці ўзгадалася маленства, лецішча, спёка, карычневыя сандалі і чарніцы з малаком. На лецішча ехалі прыгараднай электрычкай – у вагонах задуха, таўханіна, паўсюль сеткі, торбы, хтосьці просіць пасунуцца ўбок, расліны, абгорнутыя газетамі, перамяжоўваюцца з рыдлёўкамі, поўныя, успатнелыя жанчыны з хударлявымі мужчынамі, і ва ўсім гэтым пануе атмасфера адпачынку, лёгкай радасці і адчування, што лета яшчэ не дасягнула сваёй сярэдзіны, лета наперадзе, а значыць, наперадзе – рэчка, сакавітая трава, ровар і гарышча ў хаце, куды можна залезці па лесвіцы і разбудзіць стоеных кажаноў. Падхамілаву прыгадаўся ўспамін пра бабулю, што з самай раніцы пякла яблычныя аладкі для любага ўнука, а калі яму не падабаўся такі сняданак, бегла да суседкі па тварог і смятану, калі і тады ён быў незадаволены, абяцала ўвечары пачаставаць агрэстам, а ў канцы тыдня завезці на рэйсавым аўтобусе ў блізкую вёску, каб набыць вясковых яек і паказаць яму малых куранятак. Амаль адразу ў ягонай памяці ўсплываў іншы фрагмент. Вось ён выводзіць з двара новенькі бліскучы ровар “Аіст”, які падараваў бацька, прыехаўшы з камандзіроўкі, едзе па вуліцы і заўважае ля ўрочышча дзе, як ён ведаў, раней знаходзілі чырвоную гліну, трох хлопцаў. Ён пад’язджае да іх на ровары, адчуваючы, што гэта не проста ровар, а не раўнуючы “Масквіч”, і ціснe на клаксон, але замест эфекту разяўленых ратоў і нямога захаплення чуе, як хлопцы ўтрох крычаць:

– Тоўсты, тоўсты!

Ён, чырвоны і задыханы ад хуткай язды, раз’юшана саскоквае з ровара і бяжыць да хлопцаў, каб распачаць бойку, але яны не пасуюць, а ўтрох нападаюць на яго і валтузяць. Урэшце, паваліўшы яго на зямлю і тым здаволіўшыся, збіраюцца сыходзіць, а ён, бяссільны даць здачы, адчувае, як здрадніцкія слёзы пякуць яму шчокі, хапае з зямлі камяні і шпурляе імі ў спіны сваіх ворагаў.

Цяпер Падхамілаву ўжо далёка не дзевяць гадоў, ён ездзіць на прэстыжным “БМВ”, мае падначаленых, якія звяртаюцца да яго не іначай, як Сяргей

Паўлавіч, і яму даручаюцца ўсе самыя складаныя і цьмяныя судовыя справы. З гадамі ў яго выпрацаваўся адмысловы стыль размовы з просьбітамі – ён адпачатку стамляўся ад самой прысутнасці просьбіта. Той толькі пачынаў вітацца, а Падхамілаў ужо выглядаў, як чалавек пасля цяжкага васямнаццацігадзіннага працоўнага дня – міргаў павольна і рэдка, часам правальваўся ў нейкае здранцвенне, але прахопліваўся і незадаволена падымаў бровы, вусны ў яго апускаліся, і дабіцца хоць-якога слова ад яго было немагчыма, толькі ў самым крайнім выпадку суддзя варушыў вуснамі, з якіх даносілася нешта кшталту “Ннну... Мда... ” Калі ж просьбіт сканчаў сваю прамову, Падхамілаў выразна і па складах рапартаваў, што справа будзе разгледжаная ў судовым парадку, але ў канцы зноў стамляўся і млявым голасам дадаваў:

– Ну вы ж самі ўсё панімаеце? Ну?

На сённяшнім паседжанні суддзя быў змушаны разглядаць справу загадчыка дзяржаўнага прадпрыемства па раслінагадоўлі. Сакратарка паседжання крыху спазнілася. Пабачыўшы яе трохі нягеглую, яшчэ падлеткавую паставу ў дзвярах, Падхамілаў, якога раздражнялі спазненні, кінуў на яе зласнаваты позірк, ад якога тая спешна пабегла да сакратарскага стала і схавалася за паперамі. На паседжанні ў зале прысутнічалі сваякі і знаёмыя падсуднага, бок абвінавачвання ў асобе дзяржаўнага пракурора, некалькі чалавек з вышэйшага кіраўніцтва, якіх Падхамілаў адразу заўважыў. “Правяраць мяне прыехалі хіба?” – мільганула ў ягонай галаве насцярожаная думка. Ад гэтай думкі суддзя напружыўся. Падсудны сядзеў на лаве ў “клетцы”, склаўшы рукі такім чынам, што правая рука накрывала левую, выгляд у яго быў стомлены і абыякавы, як у чалавека, агаломшанага нечаканай навіной. Сам ён, яшчэ не старога веку, па ўсім відаць, інтэлігентны і добразычлівы, але цяпер разгублены і нават быццам бы здзіўлены.

У межах барацьбы з карупцыяй гэта ўжо быў пяты працэс, які вёў суддзя Падхамілаў С.П.

Спрактыкаваным манатонным голасам Падхамілаў пачаў зачытваць абвінавачванне:

“Вам, Памідораву Тарасу Пятровічу, высунутае абвінавачванне па артыкуле 430 УК РБ 275-3 ад 9.07.1999 г. частцы першай – атрыманне асобай пры пасадзе для сябе ці блізкіх матэрыяльных каштоўнасцяў ці набыццё маёмасці з карыслівымі мэтамі, звязанае выключна з пасадай... У сувязі з вышэйпералічаным вам пагражае ад трох да пяці гадоў абмежавання волі з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады”.

Суддзя бубніў, сакратарка дробна цюкала па кампутарнай клавіятуры, сваякі і знаёмыя нягучна абураліся, кіраўніцтва ўважліва сачыла. Няшчасны Памідораў абвінавачваўся ў тым, што на працоўным месцы атрымаў ад супрацоўніка Чапурына В.К. хабар у выглядзе чатырох тысяч беларускіх рублёў, меха селекцыйнай морквы, дзвюх сетак цыбулі-сяўка і пяці кілаграмаў новага гатунку кавуноў “Пасачка”.

Памідораў як сёння памятаў той дзень, калі ягоны намеснік па Сівушным раёне, Чапурын Васіль Канстанцінавіч, зайшоў да яго ў кабінет:

– О, Пятровіч! Чаму ж ты не прыехаў гэтым разам на свята ўраджаю? Усе кіраўнікі былі. Ужо чацвёрты раз святкуем, а ты не з’яўляешся. Кіраўніцтва абураецца. Раней жа як? Ты ж першы на лецішчы ўсіх збіраў, а потым як пачаў захапляцца няправільнымі ідэямі, дык, лічы, адарваўся ад калектыву. А ты каньячок як? Мо па кілішку, га?

– Не, Канстанціныч, я ж цяпер не п’ю. У мяне з пячонкай не зусім добра.

Чапурын спачувальна пахітаў галавой, маўляў, ён усё разумее.

– Дык гэта, Пятровіч. Дзякуй табе, што аддаў лядоўню. Мне на лецішчы яна, ну, неабходная. Пятровіч, дзякуй. Я табе тут вось прывёз. На знак падзякі. – Чапурын адчыніў дзверы і пачаў цягнуць проста ў кабінет мех морквы ды сеткі з цыбуляй.

– Ты чаго гэта, Канстанціныч? – вырачыў вочы Памідораў, – у мяне ж на лецішчы процьма гародніны. Жонка ўсё лета на гародзе працуе. Па восені дык толькі паспявай адвозіць.

Чапурын моўчкі працягнуў кіраўніку белы канверт.

– Што гэта? – яшчэ больш здзівіўся Памідораў. Ён раскрыў канверт і ўбачыў у ім стосік грошай. Ад нечаканасці Памідораў дастаў грошы і дзікімі вачыма паглядзеў на намесніка.

– Я ж табе па-суседску лядоўню аддаў, – агаломшана сказаў ён.

У гэты самы момант у кабінет увайшлі два чалавекі. Адзін сярэдняга ўзросту, у блакітнай кашулі і ў шэрым пінжаку, другі, крыху старэйшы, у форме міліцыянта.

– Ну што, грамадзянін Памідораў, атрыманне хабару на працоўным месцы, – выкрывальніцкім тонам спытаўся той, што быў у пінжаку. Адразу ж вынялі канверт, грошы, знайшліся панятыя – бухгалтарка Гаўрошына і супрацоўніца аддзела кадраў Крыга.

– Дзякуем за выкрыццё злачынцы, Васіль Канстанцінавіч, – прамовіў міліцыянт, гледзячы на Чапурына.

Той апусціў галаву.

На наступны дзень усё прадпрыемства раслінагадоўлі квітнела размовамі, як калгаснае поле па восені. Цёткі спрачаліся, як бралі Памідорава:

– Я кажу табе, ён толькі ўзяў грошы, а яго адразу цёпленькага і арыштавалі, – гучней за ўсіх крычала мажная бландынка ў ружовым шаліку.

– Наташа! Усё было не так! Ён хацеў закрыць дзірку ў справаздачы за месяц па абароце гародніны, а план выкрылі і яго пасадзілі! – з веданнем справы перабівала нафарбаваная жанчына ў футраной камізэльцы.

– Чым закрыць дзірку ў справаздачы? Мехам морквы? – саркастычна выступаў нізкарослы мужчына з кусцістымі бровамі. – Падставілі яго! Вось і ўсё.

Здагадкі, гіпотэзы, тэорыі ўзыходзілі на працоўнай глебе, як нечуваны ўраджай бульбы. Паміж сабой супрацоўнікі казалі і пра нейкія планы, якія не выконваліся і якія немагчыма было выканаць, і пра захапленні кіраўніка імпартнымі тэхналогіямі, і пра таемную змову, і нават пра сувязі Памідорава з замежнымі шпіёнамі-дыверсантамі, якія рыхтавалі ў краіне морквавую рэвалюцыю. Гэтая тэорыя належала аднаму старому раслінаводу, якога астатнія супрацоўнікі амаль не бачылі на прадпрыемстве і які нібыта быў у працоўнай экспедыцыі, а тут вярнуўся, узбагаціўшыся ведамі па інсектыцыдах, а дакладней, аб метадах барацьбы з каларадскімі жукамі. У калектыве ўсе падзяліліся на тых, хто заявіў, што пойдуць у суд і пацвердзяць, што Памідораў выдатны кіраўнік, і тых, хто прамаўчаў. Як высветлілася пазней, таму, што ўжо адказалі на позвы ў якасці сведкаў з боку абвінавачвання.

– Канечне, Памідораў можа быць карупцыянерам, – пацвярджала ў судзе Гаўрошына, – хаця, трэба прызнацца, што калектывам ён кіраваў добра.

Суддзю ўжо было нудотна. Пад сталом ён зняў чаравікі, ногі цягнула, спіна ныла. Ён зрабіў выгляд, што нешта піша асадкай, пакрэмзаўшы каўпачком па паперы.

– Ці можаце вы пацвердзіць вашыя словы? – запытаўся ў сведкі пракурор.

– Ну, а адкуль у яго такое лецішча? – з зайздрасцю ў голасе падалася наперад Гаўрошына.

– Гэта да справы не мае дачынення! – спрабаваў быў пратэставаць адвакат Памідорава.

– Ці бачылі вы, як Памідораў браў калі-небудзь хабар? – запытаўся пракурор.

– На ўласныя вочы не бачыла, канечне, – прызналася бухгалтарка, – але на лецішчы ў яго такая ж цыбуля, як і ў пастаўках цыбулі на прадпрыемства.

Суддзя згодна захітаў галавой.

Наступныя сведкі пацвярджалі сказанае Гаўрошынай.

Было і некалькі такіх, якія абаранялі Памідорава.

– Ён найлепшы кіраўнік, – хвалюючыся, з выклікам, казаў чарнявы высокі мужчына, – колькі працую на прадпрыемстве, нікога ён не пакрыўдзіў, нікому не перашкодзіў, заўсёды сваім прыкладам матываваў на плённую працу.

– Грамадзянін, – перабіў пракурор, – кіраўнік Памідораў Т.П. атрымліваў хабар на працоўным месцы.

Тут Падхамілаў прыўзняўся з-за свайго пастаменту і млява запытаўся ў сведкі:

– Ну, і вы што, лічыце, што гэта добры прыклад ён падаваў?

Урэшце паседжанне скончылася.

Падхамілаў стаміўся не на жарт. У яго ўжо зацяклі плечы і анямеў азадак.

– “...асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі”, – прадыктаваў ён і ўздыхнуў з палёгкай.

Чалавек у “клетцы” збялеў і ў адзін момант пастарэў. Людзі ў зале зашумелі.

Вышэйшае кіраўніцтва задаволена ўзнялася з судовых лаваў і накіравалася да Падхамілава, каб павіншаваць з серыяй бліскучых крымінальных справаў па выкрыцці карупцыйных злачынцаў.

## **Памежнік

– Будкін! Куды цябе нясе? – абурыўся малодшы лэйтэнант, на якога Будкін наляцеў у калідоры і ледзь не збіў з ног. Тэчка з надпісам “ДЕЛО” і асадкі выпалі ў Будкіна з рук. Кінуўшыся падымаць свой рэквізіт і нязграбна выбачаючыся, ён падняў вочы на лейтэнанта:

– На асабісты дагляд бягу. Сёння нашыя затрымалі нейкага злачынцу, дык я чуў, што гэта наркагандляр.

– Ну давай-давай, Будкін, мухай бяжы! – кіўнуў лейтэнант. – Не, пчалой! – і засмяяўся.

Будкін спахмурнеў. Мала таго, што начальніца ім пануквае, як ёй заманецца, дык яшчэ і кожны сустрэчны лічыць сябе абавязаным нагадаць яму пра тую зневажальную паставу падначаленага.

“Горш, чым у войску, – думаў Будкін, – там хоць “дзедаўшчына”, а тут

– развяла “бабаўшчыну” нейкую. Трэба з гэтым завязваць”. Але як з гэтым завязваць, Будкін не ведаў. Жыў ён у вёсцы Ліпкі непадалёк ад станцыі, бацька працаваў у Астраўцы, на будаўніцтве АЭС, маці – прадавачкай у мясцовай краме, што выконвала функцыі продажу сельскагаспадарчага інвентара, харчовых прадуктаў, гэтак званага “чарніла” і адначасова была навінавым цэнтрам, дзе абмяркоўваліся ўсе падзеі ды здарэнні ў раёне і краіне. Брат Будкіна ездзіў на заробкі ў суседнюю Расею ў складзе будаўнічай брыгады, таму ў сям’і яго бачылі два разы на год, а сам Будкін уладкаваўся сюды, на памежную станцыю. Праца сярод насельніцтва прызнавалася як вельмі паважная і прэстыжная. Ён пасля войска яшчэ і году не адпрацаваў, таму лічыўся супрацоўнікам на “выпрабавальным тэрміне” ці, як ён сам думаў, “на пабягушках”. “Зраблюся начальнікам, я ім усім тут устрою”, – часта перад сном думаў Будкін, і фантазіі малявалі яму мундзір пры ўсіх рэгаліях, у якім ён стаіць на свяце раёна, кабінет з тэлефонам і сакратаркай, а цяперашняя ягоная начальніца, Алена Валянцінаўна Пчала, сама лётае за ім. – “Толькі падумаць, мёд будзе, а не жыццё!”

– Колькі можна чакаць цябе, Будкін? – сурова запытаўся маёр, як толькі малады супрацоўнік паказаўся ў дзвярах пакоя асабістага дагляду.

– Дык я ж адразу, як атрымаў распараджэнне... – пачаў тлумачыць той.

– Панятыя дзе? – ужо больш лагодна ўдакладніў маёр.

– Панятыя? – па-дурному пакруціўшы галавой, перапытаў Будкін. – А іх няма яшчэ?

– Ты ж з імі і мусіў сюды прыйсці! – зноў пасуровеў маёр.

Час чакання ў маўчанні з затрыманым дый да ўсяго неарганізаванасць супрацоўніка пачалі раздражняць яго.

У дзверы пастукалі. Увайшоў той самы малодшы лейтэнант, з якім Будкін сутыкнуўся пяць хвілінаў таму.

– Таварыш маёр, тут зноў затрыманне. Нелегальны правоз забароненай да ўвозу гістарычнай літаратуры, – адрапартаваў ён.

– Ды што ж гэта за дзень такі сёння? Я што вам, адзін на ўсю станцыю? – не вытрымаў маёр. – Я на даглядзе. Чуеш мяне?

Малодшы лэйтэнант прамармытаў нешта неразборлівае і знік за дзвярыма.

Маёр выхапіў з рук у Будкіна тэчку з асадкамі і сеў пісаць пратакол дагляду. Малады спецыяліст працягваў стаяць.

– Буд-кін! – па складах вымавіў маёр.

Той вокамгненна выпарыўся з памяшкання.

“Пратакол складаецца ў прысутнасці службовай асобы і двух чалавек панятых таго ж самага полу, што і затрыманы”, – пракручваў Будкін у галаве радкі з прызабытага статута. “Дзе мне ўзяць двух панятых?” – панічна думаў ён.

Насустрач ішоў высокі бялявы афіцэр, якога Будкін чамусьці раней тут не бачыў. “Можа, у яго запытацца?” – мільганула ў галаве думка, але страх зноў падацца недарэчным прымусіў яго бегчы далей.

Вёска патанала ў снезе. Дарога, праўда, была ачышчаная, а паабапал яе ля панадворкаў дзе-нідзе стаялі машыны. Прапальвалі печы, і пад пранізлівым сінім небам насіліся прывідныя клубы дыму, моцна пахла ядлоўцам, летнім вогнішчам і лазняй з бярозавым венікам. Будкін бег да вёскі і хацеў летняга вогнішча, каб доўга распальваць яго, падкідаць сухія галінкі, есці

шашлык адразу з шампуроў, разліваць па пластыкавых шкляначках гарэлку, каб сябры пераказвалі анекдоты і ўключалі на мабільніках песні пра любоў, слова пацана, расстанне і дзяўчонак, а гэтыя дзяўчонкі сядзелі побач, падпявалі і глядзелі на іх захопленымі вачыма. Хацеў і лазні з венікам, каб зноў жа, халодненькая гарэлачка, крамяны венік, каб разагрэтаму, распаранаму, скочыць з лазні ў халодны снег і раўці ад марозу, што мільёнам голак упіваецца ў скуру. Вось чаго яму хацелася, а не бегчы сярод ночы па панятых, грукацца ў дзверы, прасіць праследаваць з ім.

З першага двара яго пагналі. Будкін бачыў, што клямка ў весніцах не зачыненая, пацягнуў брамку і па вузкай сцяжыне хутка дабег да прыступак, што вялі на ганак. Было яшчэ не позна, але па-зімоваму рана сцямнела. Ён бачыў, што ў вокнах гарыць святло, значыць, гаспадары былі ў хаце. Адчыніў яму відавочна падпіты мужчына з неахайнай барадой, вялікі, у расшпіленым бушлаце, пад якім было відаць пакамечаную матроску.

– Ээ-а, што трэба? – зусім нязветліва кінуў мужчына ў цёмны двор, на якім стаяў разгублены Будкін.

“Нецвярозага ж не запросіш у панятыя”, – падумаў Будкін.

– Добры вечар, паважаны, – як па нотах, нават крыху з выклікам, як і трэба адказнай асобе пры выкананні адказаў супрацоўнік памежнага пункта, але адразу ж дадаў: – Я, відаць, памыліўся.

– Валер, ты чуў? – раўнуў кудысьці ў глыбіню пакоя барадач. – Тут вунь адзін, кажа, памыліўся.

На ганку амаль адразу ж узнік шафападобны чалавек у швэдры з закасанымі рукавамі.

– Ты чаго тут па начах бадзяешся? – з кепска прыхаванай пагрозай звярнуўся ён да Будкіна.

Той спачатку абурыўся. Як гэта так можна абыходзіцца з ім? Ён жа не нейкі спознены субутэльнік, якога паслалі і які, знайшоўшы тое, па што пасылалі, вярнуўся. Ён – прадстаўнік органаў! І ўжо збіраўся выказаць сваё абурэнне, як той, каго гаспадар назваў Валерам, у цьмяным святле пабачыўшы вайсковую форму госця, прапанаваў:

– Давай зайдзі, зараз разбярэмся.

Прапанову разабрацца Будкін зразумеў літаральна. “Трэба драць кіпці”, – шапнуў яму ўнутраны голас. Паспешна развітваючыся, Будкін змяёй слізгаў па сцежцы, баючыся, што зараз яго схопяць і гвалтоўна зацягнуць у хату, а далей свядомасць малявала яму самы страшны сцэнар, дзе ўжо не ён прыйшоў па панятых, а па яго дасылаюць панятых, вядуць следства, а ён ужо не мае дачынення ні да станцыі, ні да працы, ні наогул да чагосьці матэрыяльна-зямнога. Але дзве паставы на ганку не варушыліся і пагоні не ўчынялі. Будкін выскачыў за брамку, і прыпусціў бегам у выратавальную невядомасць. Наўздагон ён пачуў, як тыя два размаўлялі між сабой:

– Не, ты бачыў? Я ж прапанаваў яму пасядзець з намі, разабрацца, у чым справа.

– Дурнаваты нейкі.

Супрацоўнік пункта памежнага кантролю бег па марознай вясковай вуліцы і кляў усё, на чым стаіць свет: “Паглядзі ж ты! Трэба адразу было ставіць іх на месца, каб яны гэтае месца ведалі. Прыгразіць ім артыкулам за супраціўленне службовай асобе”. – “А яны супраціўляліся?” – “Ай, усё адно. Трэба было зайсці і аштрафаваць іх за нецвярозы стан”. – “А яны ж у сваёй хаце пілі”. – “Пілі – не пілі. Тут панятых два трэба, мусілі

ведаць, што па іх прыйдуць і быць гатовымі, а не піць". – "Вось зараз жа, у першую ж хату зайду і вазьму панятых".

І яму нават пашанцавала. Праз два дамы зноў гарэла святло ў вокнах.

Плот тут крыху скасабочыўся, ніякай брамкі не было наогул. Будкін загрукаў у дзверы, крыху асцерагаючыся зноў пабачыць мясцовых волатаў, і самым афіцыйным тонам паведаміў дзвярам:

– Памежны кантроль! Адчыніце! Трэба двое панятых, панятна?

Дзверы адчыніла старэнькая бабуля. Па ўсім было відаць, што яна накідвала на галаву хустку проста на хадзе, а рукі ў яе трэсліся ад нечаканага ўварвання:

– Ай, ты мой міленькі, ай, мой салдацік, а што ж такое здарылася?

– Ёсць у хаце мужчыны? – змрочна запытаўся Будкін.

– Вайна? – спужалася бабуля, уся скаланулася і схапілася за сэрца.

Тут спужаўся Будкін. Яшчэ яму не хапала бабулі з сардэчным прыступам.

– Не вайна, бабуля, не вайна, – супакоіў ён жанчыну. – На станцыю трэба двух мужчынаў, каб засведчыць справу.

– А мае ж сыночкі паехалі ў камандзіроўку, – далажыла бабуля, – да наступнага месяца не вернуцца.

Будкіну адначасова захацелася схапіцца за сэрца і вылаяцца. "Ну што гэта такое?" – роспачна думаў ён.

– А ты б схадзіў, сынок, да Падхамілавых. Вунь тая хата, першая на скрыжаванні. Да іх учора якраз унук прыехаў.

У сэрца Будкіна ўжо пачалі закрадацца сумневы, што, можа, дарма ён паплёўся ў гэтую вёску. Штосьці ўвесь час нашэптвала яму, што дабром гэта можа не скончыцца, што яго проста кідае ад хаты да хаты, нібы па зачараваным коле, і што кола гэта звужваецца да ягонага, будкаўскага, вылету з працы.

Вось нарэшце і скрыжаванне. Пачаў дзьмуць вецер, сыплючы снегам з усіх бакоў, залазячы за каўнер, у рукавы, штурхаць з боку ў бок. Першы на скрыжаванні дом больш нагадваў вялікі катэдж, агароджаны высокім плотам, а ля ўваходу ў яго чырванела дамафонная кнопка галасавога выкліку. Змерзлымі рукамі Будкін націснуў на кнопку. Доўга не было ніякага адказу. Хвіліна, другая. Яму, працятаму студзеньскім ветрам, падалося, што прайшло паўгадзіны. "Плюнуць на ўсё і сысці" – канчаткова выспела ў стомленай галаве супрацоўніка памежнай службы думка. Тут з дамафона данёсся асцярожны мужчынскі голас:

– Хто там?

– Памежная служба. Ці не згадзіліся б вы прайсці на станцыю ў якасці панятога? – ледзь паварушыў знямелымі вуснамі Будкін.

– Пачакайце! – адказалі з таго боку.

Яшчэ праз хвіліну дзверы адчыніў малады хлопец і ўпусціў памежніка ў цёплую вітальню.

Дом быў проста раскошны. З варсістых дыванкоў, як па камандзе, паднялі галовы два грэйхаунды.

– Месца! – адразу загадаў хлопец.

Адзін сабака працягла ўздыхнуў, другі адразу паслухмяна суцішыўся.

"Парода, не нашыя аўчары", – падумаў Будкін.

Ён стаяў залеплены снегам, з чырвоным тварам і рукамі, у цяпле снег пачаў раставаць і сцякаць з формы, ствараючы брудную калюжыну. Адсюль, з вітальні, у вялікім пакоі быў відаць камін, у якім патрэсквалі дровы.

– Дык па якой вы справе? – удакладніў хлопец, кідаючы кароткія абачлівыя позіркі на Будкіна.

Будкіну стала няёмка. Вось ён, супрацоўнік дзяржаўных органаў, стаіць пасярод вітальні шыкоўнага катэджа, мокры, замучаны бадзяннямі па дамах, і мусіць звяртацца з просьбай да людзей, відавочна занятых не ў прыклад больш важнымі справамі, чым паходы на станцыю ў якасці панятых. Ён сумеўся і невыразна прамармытаў кепска звязаныя паміж сабой словы: “панятыя”, “злачынства”, “памежная”, “зараз”. Але хлопец адразу ўсё зразумеў.

– Значыць, вам патрэбныя два чалавекі мужчынскага полу для прысутнасці ў якасці панятых пры складзе пратакола на асабістым даглядзе затрыманага пасажыра? – удакладніў ён.

– Так, – выдыхнуў Будкін, здзівіўшыся дасведчанасці маладзёна.

– Нават не ведаю, як дапамагчы, – адказаў той. – У Паўла Радзівонавіча, майго дзеда, – хлопец кіўнуў галавой кудысьці ў бок пакоя з камінам, – абвастрэнне радыкуліту, ён нават з ложка падняцца не можа. Але я, канечне, згодны пайсці з вамі.

Крыху памаўчаў і дадаў:

– У мяне бацька – суддзя ў Менску, я заўсёды гатовы супрацоўнічаць з дзяржаўнымі органамі.

Будкін паглядзеў на твар хлопца. Невялікія хітраватыя вочы, ва ўсім выразе нейкая юнацкая непасрэднасць, змяшаная з крыўдлівасцю. Будкін не ведаў, чаму яму падалося, нібыта гэты маладзён крыўдлівы. Можа, з-за таго, як той складаў вусны і яны прымалі такі выраз, які бывае ў чалавека пакрыўджанага. Над вуснамі ў хлопца толькі-толькі прабіваліся першыя парасткі вусаў.

– А колькі вам гадоў? – пацікавіўся Будкін, ужо крыху сагрэўшыся і апрытомнеўшы.

– Сямнаццаць, – хутка адказаў хлопец, – паслязаўтра споўніцца васямнаццаць.

Пачуўшы гэта пасля ўсіх ліхтугаў вечару, Будкін ажно нервова ўсміхнуўся.

– А што смешнага? – успыхнуў юнак.

– Не, – уздыхнуў супрацоўнік памежжа, – мне зусім не смешна. – Прабачце, – прамовіў ён, узяўшы сябе ў рукі, – але панятым можа быць толькі поўнагадовы грамадзянін.

Грэйхаунды нават не паварушылі галовамі, адзінае што, ледзь прыўзнялі вушы, калі за познім наведнікам зачыніліся дзверы.

“Дарма я не стаў яхтсменам”, – пашкадаваў сябе Будкін, падыходзячы да станцыі. “Я ж нават і ў клуб хадзіў”.

Завіруха то круціла белае верацяно сталёвымі правадамі, то прыкідалася драпежным зверам, які сцішыўся ў засадзе і раптоўна выскачыў, ускінуўшы снегавы хвост і ўпіўшыся вострымі ікламі ў абцярушыныя дахі найбліжэйшых да станцыі дамоў.

Увайшоўшы на тэрыторыю пункта памежнага кантролю, Будкін адразу заўважыў двух чалавек, чые цені ў рухомым святле ліхтара спаўзалі да цэнтральнага ўвахода.

– Я ж гаварыў табе – давай абыдзем! – гарланіў першы цень, нахіляючыся да другога. – Як тут зараз выйсці?

– Разбярэмся, – каротка і адрывіста кінуў другі.

“Вось яно!” – сігнальнай ракетай успыхнула ў галаве Будкіна думка.

– Стаяць! – тут жа ў поўны голас скамандаваў ён.

Цені замітусіліся як рыбіны на гапліку. Яшчэ імгненне, і яны б кінуліся ўцякаць, але Будкін папераджальна закрычаў другі раз:

– Стаяць! Страляць буду!

І схапіўся за кабуру, каб выцягнуць службовую зброю.

Людзі адразу скамянелі.

– Э! Стаім мы, стаім! – закрычалі яны ў два галасы.

– Малодшы лейтэнант Будкін, – назваўся Будкін, падышоўшы да мужчынаў. – Вашыя дакументы!

– Младшый ліценааант, мальчык маладоой! – нечакана ні з пушчы ні з поля зацягнуў першы.

“Няўжо і гэты п’яны?” – здранцвеў Будкін.

– Ціха, – шыкнуў на паплечніка другі.

Абодва яны былі ў кажухах, у аднаго спаўзла на вочы вялікая футраная шапка, у другога гайдаліся на ветры краі аблавухі.

– Чаму знаходзімся на тэрыторыі памежнай зоны? – з важным выглядам запытаўся Будкін, вывучаючы працягнутыя пашпарты.

– Дык гэта, – таропка пачаў тлумачыць першы, – не было як абысці, ну, гэтую, памежную зону.

– Зараз мы сыходзім, – паабяцаў другі.

“Сыйдзеце вы ў мяне зараз”, – усміхнуўся сам сабе Будкін.

– У каністры што? – ускінуў ён брыво, раптам заўважыўшы, як той, другі, хавае руку за спіну.

– Начальнік, – пачалі прасіцца яны. – Начальнік, адпусці нас, га? Мы вунь у вёску ідзем, нас сябры чакаюць.

“Бачыў я ўжо вашых сяброў”, – злосна падумаў Будкін і ажно ўздрыгнуў ад успаміну пра свой паход у вёску.

– Пройдзеце зараз са мной у якасці панятых. Тады хутка адпушчу, – прапанаваў ён няўдалым дзялкам.

– А... – паспрабавалі запратэставаць мужчыны.

– За гэта, – паказаў вачыма на каністру Будкін, – штраф з канфіскацыяй.

– Пойдзем, – хутка пагадзіліся абодва.

Будкін бег да пакоя асабістага дагляду, нібы чалавек, што спазняецца на цягнік. “Колькі ж часу мяне не было? Ну, вымовы ўжо не будзе, панятых я знайшоў. Можа, і падзяку нават атрымаю”, – шамацелі адна за адной думкі. За Будкіным цягнуліся здабытыя панятыя, адзін з якіх валок за сабой каністру.

– О! Будкін! – зноў паказаўся ў калідоры той жа самы малодшы лэйтэнант. – Ужо ў кампаніі!

“Вось цябе, Цюльпанаў, я першым звольню, як стану начальнікам” – падумаў Будкін.

Ён уварваўся ў пакой, не пастукаўшы, перакананы, што маёр усё яшчэ складае пратакол і зараз абрадавана ўхваліць яго, Будкіна, што знайшоў панятых. Але ў пакоі замест маёра і затрыманага хлопца былі адны жанчыны. Да ўсяго, адарваўшыся ад паперы, з-за стала ўзняла галаву раздражнёная кабета, у якой Будкін не адразу пазнаў сваю начальніцу, Алену Валянцінаўну Пчалу.

– Будкін! – закрычала яна. – Што табе тут трэба? Зараз жа зачыні дзверы!

– Я ж панятых прывёў, – разгублена пралепятаў Будкін.

Дзядзькі за ягонай спінаю пераглянуліся.

– Якіх панятых, Будкін? – пачала пунсавець Пчала.

– Ну, тут жа быў затрыманы. І маёр... – няўпэўнена паведаміў Будкін.

Дзядзькі пачалі пераглядвацца з цёткамі з пакоя. Відаць, такімі ж панятымі, як і яны самі. Паміж імі пачало нават ўсталёўвацца “паніманіе”.

– Усіх даўно павезлі ў Мінск, Будкін! Дзе ты раней быў? – пранізліва звінела Пчала.

– І маёра? – перапытаўся Будкін.

Гэтым разам Алена Валянцінаўна ўжо не крычала, яна з усяе сілы бразнула кулакамі па стале і, здаецца, хацела кінуць нечым у бок дзвярэй, дзе завіс Будкін з панятымі. Будкін як мага хутчэй зачыніў дзверы. Дзядзькі паздымалі свае шапкі і пытальна глядзелі на яго. Будкін сумна і стомлена махнуў ім рукой.

## **Суддзя

Адразу пасля паседжання да Падхамілава падышоў адзін з прадстаўнікоў камісіі, якая прысутнічала на працэсе.

– Бліскуча праведзеная справа! – ухваліў ён суддзю. – Мы маем спадзеў, што вы і далей працягнеце добрую традыцыю вядзення бяспройгрышных варыянтаў паседжанняў.

– Хіба ж я магу ведаць загадзя, якая справа стане выйгрышнай, а якая – не? – з робленым здзіўленнем паглядзеў на прадстаўніка камісіі Падхамілаў.

– Вы, канечне, можаце гэтага й не ведаць, – падтрымаў той гульню суддзі.

– Але там, – і прадстаўнік шматзначна ўзняў уверх указальны палец, – там ведаюць, хто можа атрымаць падвышэнне і заняць пасаду старшыні ў выпадку бліскучых перамог закона над няправасцю. Таму, – і ён зрабіў відавочны акцэнт на гэтым слове, – таму я вельмі вам раю як мага хутчэй даведацца, якія справы будуць выйгрышнымі, і зрабіць выйгрышнымі ўсе справы, якія вы збіраецеся весці.

Колькі гадоў на сваёй пасадзе Падхамілаў марыў пра крэсла старшыні. Але для яго сцэнар паступовага ўзыходжання па кар’ернай лесвіцы да найвышэйшай прыступкі быў закрыты, бо старшыня заўсёды прызначаўся зверху, а шлях “знізу” паводле здольнасцяў, хітрыкаў ці паспяховых працэсаў не вёў у гэтыя недасяжныя палацы. І раптам такая перспектыва. Уся ягоная шматгадовая стомленасць адразу абрынулася долу ў святле патэнцыйнай пасады. Вочы загарэліся азартным полымем, як у заўзятага гульца ў казіно. Ён быў гатовы да тытанічнай працы, да перашуфлівання стосаў справаў, да праўдаў і няпраўдаў, безумоўна, у межах закона і ў яго імя, але, каб толькі атрымаць гэтую пасаду. Тут прадстаўнік камісіі пацэліў у самую кропку, у эпіцэнтр таемных жаданняў суддзі.

– Як я магу абяцаць, што кожная справа будзе выйгрышнай? Тут, ведаеце, ёсць шмат нюансаў – адміністратыўныя правапарушэнні, дазнанні, крымінальныя злачынствы, працэсы доказаў, допытаў, – пералічваў Падхамілаў інструменты судовага ўздзеяння і пільна сачыў за мімікай прад-

стаўніка, спрабуючы пераканацца, ці быў намёк на падвышэнне сапраўды прыхаванай прапановай.

Службовец, відаць, насамрэч быў настроены сур'ёзна. Ён слухаў уважліва, не перабіваў, толькі час ад часу дакранаўся левай рукой да скуранай тэчкі для дакументаў, якую трымаў пад пахай. Калі суддзя скончыў свой пералік, прадстаўнік камісіі ледзь заўважна ўсміхнуўся і цёпла звярнуўся да яго:

– Сяргей Паўлавіч, мы ўсё разумеем. Вы на вельмі добрым рахунку, таму намі і было прынята рашэнне звярнуцца менавіта да вас. Вы, канечне ж, ведаеце, якія працэсы адбываюцца ў краіне?

У гэты момант Падхамілаў чамусьці падумаў пра тое, чаму чалавек са скуранай тэчкай увесь час кажа "мы", і адначасова пра тое, чаго яму будзе каштаваць пасада старшыні. Але цікаўнасць і спадзеў на спраўджванне даўняга жадання ўзялі сваё, і суддзя асцярожна перапытаў:

– А якія працэсы ў ёй адбываюцца?

– Ну як? – у сваю чаргу ўдавана здзівіўся чалавек. – А дэстабілізацыя сацыяльнага становішча ў грамадстве з боку небяспечных элементаў? А нестабільнасць, якую паўсюдна сее з дапамогай нелегальных метадаў тая частка насельніцтва, якая, хаця і пражывае на тэрыторыі гэтай краіны, але мае памкненні разбурыць увесь упарадкаваны лад жыцця і прыўнесці хаос і разруху?

– Ну... – няўпэўнена працягнуў Падхамілаў. – А ад мяне што патрабуецца?

Тут чалавек з тэчкай канчаткова пераканаўся, што перамовы з суддзёй скончыліся паспяхова і што той разумее ўсю небяспеку з боку тых самых элементаў, што прапічана расхістваюць сацыяльны парадак, і зусім ужо па-сяброўску паведаміў Падхамілаву:

– Сяргей Паўлавіч, ад вас патрабуецца толькі ў выглядзе закона прыняць адпаведныя меры і перашкодзіць зладжванню несанкцыянаваных дзеянняў, вынесці справядлівы прысуд тым, хто намагаецца дэстабілізаваць існуючае становішча і такім чынам, перадухіліць непапраўныя наступствы, абараніўшы грамадства ад небяспечных элементаў.

У Падхамілава склалася вельмі цьмянае ўяўленне пра тое, што ён усё ж такі мусіць зрабіць, але прамова прадстаўніка камісіі гучала абгрунтавана і пераканаўча. Ён адчуў свой абавязак, сваю місію ў тым, каб перадухіліць наступствы, абараніць грамадства, перашкодзіць зладжванню... Ну, і пасада старшыні. Новы кабінет, найвышэйшы пік кар'еры, шырокія магчымасці і вышэйшыя колы, дзе можна займець карысныя сувязі.

Чалавек дастаў са скуранай тэчкі некалькі дакументаў, паклаў іх на стол перад Падхамілавым, потым ветліва развітаўся, пакінуўшы суддзю сам-насам ў прыўзнятым, але крыху разгубленым настроі. Лёгкімі крокамі ён прайшоў па адным з бясконцых судовых калідораў, усміхнуўшыся на выхадзе сустрэтай сакратарцы, і ўжо за дзвярыма суда змяшаўся з гарадскім натоўпам, які накрывала з неба снегавая заслона.

## **Новенькі

Стася везлі назад у Менск па выбоінах і пагорках у міліцэйскім УАЗіку, які быў добра прыстасаваны пад мясцовы ландштафт. Гэтак жа добра, як трактар "Беларус" і аўтазак. За шыбамі мільгацелі афарбаваныя белым вёсачкі і лясы ў карунках шэрані. Малюнкі, вартыя пэндзля Брэйгэля

ці слязы Ясеніна. Ад няма чаго рабіць Стась пачаў прыслухоўвацца да размовы маёра з кіроўцам.

– Ды кажу табе, ён на ўсе катэгорыі правы атрымаў яшчэ калі служыў у Забайкаллі. Яго туды з Пярмі перавялі ў вайсковы гарадок. А цяпер ён пайшоў аднаўляць пасведчанне кіроўцы, дык яму й кажуць, маўляў, ніхто б вам на ўсе катэгорыі правы на той час не выдаў. Усё – лічы, інкрымінуюць падробку дакументаў. А выдатны ж мужык, адпусціць з працы, праставіцца – заўсёды падтрымае, прыкрые. Ён у Маскоўскім раёне брыгадзірам цяпер працуе.

– Ды не пераймайся, Барысавіч, – важна адказваў маёр, – звяжамся з кім трэба, патэлефануем, усё зробім, перадай, каб не дрэйфіў.

Час цягнуўся бясконца доўга, ва УАЗіку было халодна, і ў Стася дубелі рукі, нягледзячы на тое, што ён бесперапынна хукаў на іх і цёр, намагаючыся сагрэць. Жыццё нечакана змяніла сцэнар, развярнуўшы для Стася цягнік на Вільню ў бок Менска, зрабіўшы да ўсяго гэтага магутны штуршок у непрадказальнасць, бо Стась дасюль не мог сцяміць – ні за што яго затрымалі, ні што чакае наперадзе.

– Я пастаянна на ягонай запраўцы спыняюся, – даляталі да Стася новыя ўрыўкі размовы.

– І што, табе ён таксама разбаўлены бензін залівае? – рагатаў маёр.

– Ты што, каму трэба ён нармальны залівае, – запэўніў кіроўца. – Можаш да яго таксама заехаць па вясне, ты ж збіраўся на лецішча?

І працягваў:

– Дык а яна жонка суддзі нейкага. І калі што – адразу пагражае, маўляў, усё мужу распавяду, ён цябе засудзіць. Той, небарака, ужо сам не разумее, як уляпаўся ў гэтую гісторыю. Чорт яго тузануў у каўбасным аддзеле пацікавіцца ў яе, ці смачныя тыя магілёўскія сасіскі. Яны ж да ўсяго яшчэ й суседзі, во! Затэрарызавала мужыка зусім.

Стась ужо не разумеў, пра аднаго й таго ж чалавека ідзе гаворка, ці пра розных людзей.

– А ў мяне быў які выпадак, яшчэ ў Манголіі, – раптам настальгічна прыгадаў маёр, – вайсковы гарадок, усе адзін аднаго ведаюць. І там служыў такі хлопец, з Менска таксама, мы ў розных частках былі, але дамы побач. Жонка ў яго гуляшчая была страшна. З усімі афіцэрамі ў адным на ўвесь гарадок бары перасустракалася. Неяк сабраліся ў нас усе разам, яна таксама была там. Я выйшаў па бутэльку на кухню, а яна за мной. Кажа – давай мо папалім з табой разам? А я ж не паліў. Не, – гавару, – Марына, прабач. Дык яна выйшла ў залу да гасцей і кажа пры ўсіх – ён, гэта, значыць, я, заляцаўся да мяне. Я ў жаху, думаю, як апраўдвацца зараз буду, муж ейны сядзіць. А госці ўсе як пачалі смяяцца. Усе, аказваецца, ведалі пра яе. Муж той збялеў спачатку, потым пачырванеў увесь. Развёўся з ёю потым.

– Бачыш ты, якая, – абуральна пахістаў галавой кіроўца.

– Да... – задуменна сказаў маёр, – прыгожая была жанчына.

– Дык, – запнуўся кіроўца, – а Воля вашая там як?

– А што Воля, – адразу неяк стомлена адазваўся маёр, і ўвесь твар ягоны быццам бы апусціўся. – Нармальна. Праз месяц ужо на пенсію выходзіць.

У гэты момант УАЗік спыніўся каля Цэнтральнага РАУСа. Стасю чамусьці раней здавалася, што міліцыянты паміж сабою таксама размаўляюць па форме, пераказваюць разнарадкі і аператыўныя зводкі, абмяркоўва-

юць загады міністэрства абароны і “высокага начальства”, захапляюцца марш-кідкамі і робяць спаборніцтвы ў адцісканнях ды падцягваннях на папярэчыне. Таму ён нават здзівіўся, пачуўшы плёткі і пабытовыя размовы міліцыянтаў, якія раз-пораз за час дарогі даляталі да ягонага слыху.

У РАУСе Стася сустрэлі зусім не цёпла. Мацёры міліцыянт вёў сябе проста, без цырымоніяў:

– Фамілія, імя, отчэства, месца раждзенія, – манатонна пералічыў ён і паглядзеў на Стася пустымі вачыма.

Стась зразумеў, што знайсці агульную мову з міліцыянтам яму будзе складана, калі наогул магчыма. Бо міліцыянт размаўляў на сваёй, адмысловай мове пратаколу, дзе гучалі ўстойлівые выразы “праванарушэніе” ды “устанавленіе лічнасці”, а Стась на сваёй – на мове чалавека, які патрапіў у сітуацыю абсалютнага неразумення, бо ні на памежным пункце, ні тут, у пастарунку яму так і не патлумачылі, якія дакладна забароненыя рэчывы ён правёз. Увесь шлях ад Гудагая да Менска ён спрабаваў узгадаць, дзе, пры якіх абставінах у ягоным турыстычным заплечніку маглі б з’явіцца рэчывы, што патраплялі б пад вызначэнне “забароненых”. І толькі цяпер, даючы адказы на пратакольныя пытанні, Стась прыгадаў, што за некалькі тыдняў да вандроўкі аддаваў заплечнік свайму сябру, калі той збіраўся ў паход у Карпацкія горы. Але здагадка пра гэты выпадак не вырашала пытання, бо ягоны сябра быў перакананым прыхільнікам здаровага ладу жыцця й не тое што не ўжываў спецыфічных рэчываў, але нават пазбягаў спіртных напояў.

На падваконні ў пастарунку пыліўся пабляклы кактус, звонку шыбу шчыльна заляпіў снег, але батарэі ў памяшканні грэлі ў поўную моц, і змерзлы, стомлены за час дарогі і гадзінаў нервовага напружання Стась адчуваў, што яго хіліць у сон. Міліцыянт метадычна й спрактыкавана ціснуў на асадку, як старанны вучань. Час ад часу ў пакой стукаліся і зазіралі розныя людзі. З-за дзвярэй высоўваліся то высокія міліцэйскія фуражкі, то паголеныя галовы, то жаночыя кудзеры. І ўсе пра нешта запытваліся, нешта патрабавалі, аб нечым прасілі. Стась ачуўся толькі тады, калі ў пакоі прагучала трэль стацыянарнага тэлефона. Міліцыянт схапіў слухаўку і, па меры паступлення адтуль інфармацыі, ягоны твар з дзелавога і засяроджанага ператвараўся ў асунуты і засмучаны, так што ўрэшце стаў тварам падначаленага і прыгнечанага чалавека, па якім было відаць, што ў слухаўцы сказалі нешта непрыемнае, а ўся зробленая тытанічная праца аказалася марнай. Так яно і было.

– Можаце ісці, вы свабодны, – спустошана і глуха прамовіў міліцыянт да Стася.

Той не адразу ўсвядоміў сэнс сказанага.

– Мы вас больш не затрымліваем, – паўтарыў міліцыянт.

Відаць, ён хацеў як мага хутчэй пазбавіцца ад затрыманага.

– Хаця б патлумачце, чаму мяне вызваляюць? – папрасіў Стась.

– У вашай справе не выяўлена складу злачынства, – раздражнёна адказаў міліцыянт.

Стась зразумеў, што пакуль яго адпускаюць, трэба рэціравацца і, не губляючы часу, выскачыў з абцугоў праваахоўнай сістэмы ў вечаровы студзеньскі горад.

Ён крочыў у бок праспекта і не мог даць веры, што ягоная прыгодніцкая эпапея скончылася гэтак жа раптоўна, як і пачалася. Зараз ён апынецца

ў кватэры і першае, што зробіць – залезе ў гарачую ванну. Стась так намерзся, што яму здавалася, быццам ён ззябся знутры.

На прыпынку грамадскага транспарта на праспекце было на дзіва шматлюдна. Людзей было больш, чым у звычайныя дні. Акурат насупраць натоўпу спыніўся 37-мы тралейбус, і Стась прыпусціў подбегам, каб паспець заскочыць у яго. Калі ён уціскаўся ў салон, дык краем вока заўважыў, што леваруч ад яго адбываецца нейкая валтузня, штуршкі, чуваць жаночыя крыкі. Аднойчы ён ужо быў сведкам таўханіны, што ўзнікла ў аўтобусе ў Вяснянцы. Тады яго сплюшчыла паміж дзвюма мажнымі кабецінамі так, што ён ледзь дыхаў, ззаду напіраў прадстаўнік пралетарыяту з выразным пахам пасляпрацоўнай палёгкі, а спераду ў яго ўтаропіліся нечыя злосныя вочы, у якіх выразна чыталася, што толькі паспрабуй, Стась, паварушыцца, каб здабыць сабе хаця б крыху вольнай прасторы, як уладальнік вачэй адразу ж распачне напад. Да таго ж Стась быў адным з тых, хто апынуўся на канцэрце гурта “Манга-Манга” ў далёкім 1999 годзе, калі надарылася трагедыя ў падземным пераходзе на Нямізе, і з таго часу панічна баяўся хаатычнай плыні чалавечага натоўпу. Вось і цяпер забіты біткам 37-мы выклікаў у яго ўсплёск трывогі. Стась быў каля сярэдзіны салона, калі пачуў, што непадалёк ад яго на задняй пляцоўцы нешта адбываецца.

– Адпусціце яго! Не чапайце! – лямантавала жанчына.

Стась, наколькі гэта было магчыма, павярнуў галаву і пабачыў двух маладых людзей у чорных шапках і куртках, якія ўчапіліся за маладзёна ў спартовай вятроўцы. З іншага боку хлопца цягнулі да сябе дзве дзяўчыны і пажылы мужчына ў берэце. Яшчэ два гэткіх жа самых маладых людзей у чорных куртках ужо цягнулі іншага хлопца да дзвярэй. Гэта ўсё Стась бачыў адным вокам, выкруціўшы шыю ажно да болю ў хрыбетніку.

Раптам ён адчуў, як нечыя рукі кляшчамі ўпіліся ў ягонае плячо і пацягнулі да сябе. Стась паспрабаваў супраціўляцца, ухапіўшыся за поручань, але яго проста адрывалі ад апоры. Нейкая дзяўчына з доўгімі рудымі валасамі, схапіла Стася за руку, каб ён утрымаўся, дзяўчыне адразу дапамог высокі хударлявы юнак, сціснуўшы Стасеву куртку на грудзях. Але сіла з іншага боку пераважала. Стася са спіны жорстка пацягнулі да выхаду. Ён спатыкнуўся аб нечы бот й не ўтрымаўся на нагах. Чорныя курткі падхапілі Стася і выштурхнулі з тралейбуса. Рудая дзяўчынка закрычала:

– Ды што ж вы робіце?!

Некалькі метраў, пакуль Стася цягнулі, ён бачыў толькі незнаёмыя спіны і твары, а яшчэ праз хвіліну яго закінулі ў чорную зеўру аўтазака.

“Вось і ўзяў ванну”, – толькі паспеў падумаць Стась.

### ***Суддзя

Падхамілаў вярнуўся дадому раней. Жонкі і сына яшчэ не было. Ён вырашыў, што не будзе вячэраць, пакуль жонка не вернецца. Хацеў пайсці ў душ, але высветлілася, што адсутнічае і халодная, і гарачая вада. “Ну колькі ж можна?” – у сэрцах падумаў суддзя. Усю восень пасля сканчэння летняга сезону абавязковага прафілактычнага пазбаўлення гарачай вады ў трубаводнай сістэме адбываліся непаладкі. Кожны другі тыдзень здаралася аварыя, пасля якой вада ў лепшым выпадку з’яўлялася праз паўдня, а ў горшым ненадоўга з’яўлялася і знікала зноў. Следам пачыналіся рамонт-

ныя працы, пра якія жыхарам паведамлялі прылепленымі да дзвярэй паперкамі не загадзя, а толькі пасля адключэння вады. І аварыі, і рамонты адбываліся абсалютна непрадказальна, але з зайздроснай перыядычнасцю, да якой тым не менш ніхто не мог прызвычаіцца. Потым на некалькі месяцаў аварыйная сітуацыя стабілізавалася, і вось цяпер выбухнула з новай сілай, прымусіўшы суддзю канчаткова развітацца з надзеяй прывесці сябе ў парадак. Падхамілаў зайшоў у пакой, цяжка апусціўся на канапу, і позірк ягоны слізгануў па стале. Здрадніцкая расколіна красавалася на самым бачным месцы. За гэты час яна павялічылася і выглядала яшчэ больш пачварна, чым раней. Пасярод аднастайнага гіпсакардоннага поля, зробленага падчас нядаўняга і якаснага рамонту, расколіна распаўзлася крукаватымі швамі з пісягамі.

“Зараз жа пайду і сам разбяруся, – вырашыў Падхамілаў. – Урэшце рэшт, хто гэта ўсё павінен вырашаць?”

Ён пераапрануў кашулю, навязаў гальштук, каб выглядаць больш салідна, сфатаграфаваў расколіну на мабільны тэлефон і, поўны рашучасці, выправіўся да суседзяў.

Дзверы адчыніла пажылая жанчына ў фартуху. Было бачна, што яе адарвалі ад гатавання – твар выглядаў расчырванелым, як бывае, калі нешта смажыцца ў гарачай кухні на распаленай патэльні. Падхамілаў павітаўся і неадкладна перайшоў да справы, маўляў, вось так і так, у выніку бязладных дзеянняў суседзяў, ягонай, падхамілаўскай, маёмасці прычынена шкода, якую давядзецца кампенсаваць нядбайным гаспадарам. Таксама ён дапусціў, што ягоная жонка ўжо магла папярэдне дамовіцца з суседзямі, але ейны візіт мог быць не ў прыклад больш памяркоўным, чым неабходна.

– Ой вэй! – развяла рукамі жанчына. – Што ж вы стаіце? Зайдзіце хаця б у вітальню, – прапанавала яна і крыкнула некуды ў глыбіню кватэры:

– Рафаэль!

– Vos[1]? - данеслася аднекуль з пакоя.

– Do vider, di shkhnim[2]! – з інтанацыяй лёгкай прыкрасці хутка прамовіла жанчына. – Паразмаўляйце, калі ласка, з маім мужам, – звярнулася яна да Падхамілава і сышла ў кухню, адкуль несліся пахі спецыяў.

У Падхамілава, які дасюль не вячэраў, сутаргава сціснуўся страўнік. Да таго ж яму страшна не спадабалася, што яны размаўлялі паміж сабой на незразумелай яму мове. Ён адразу ўчуў у гэтых словах абразу сваёй годнасці і раззлаваўся. Таму, калі ў вітальні з’явіўся высокі прыгорблены габрэй, твар у суддзі быў такі змрочны, быццам яму не столь залілі вадой, а абрабавалі і спалілі хату. А ўчынілі падступнае злачынства вось гэтыя старыя, інтэлігентнага выгляду людзі. Падхамілаў збіраўся спагнаць з іх кампенсацыю зараз жа, цяпер і на месцы. – Мы размаўлялі ранкам з вашай жонкай, – адразу мягка пачаў мужчына, выслухаўшы прэтэнзіі суддзі. – Яна зайшла да нас у ванны пакой, і мы ўсе разам высветлілі, што ў здарэнні вінаваты сусед з сёмага паверха. – Мы ўжо з ім пазнаёміліся, – дадаў мужчына. – Ён жыве адзін і не ўсачыў за вадой. – Вашая жонка таксама была ў яго, – паведаміў мужчына і ўсміхнуўся. – Відаць, што яны з усім разабраліся.

---

[1] “Што” (з *ідыш*).
[2] “Тут зноў гэтыя суседзі!” (з *ідыш*).

Падхамілаў збянтэжыўся. У ім адначасова распаліліся раздражненне і незадаволенасць праз недатычнасць гэтай пары да здарэння, а таксама ў значна большай ступені праз нейкую кплівую манеру, якой у час размовы з ім трымаўся мужчына.

– Я сам разбяруся з ім, – запэўніў Падхамілаў і сказаў, спрабуючы ўчапіцца за любы промах суседа: – Не маглі б вы хаця не так гучна слухаць тэлевізар увечары? Гэта ж немагчыма адпачываць, калі вы такое ўчыняеце!

– Прабачце, – гэтак жа далікатна, але цвёрда адказаў мужчына. – Але мы наогул не карыстаемся тэлевізарам. Я чытаю кнігі, а жонка ўвечары піша артыкулы па літаратурнай крытыцы. Вы памыліліся, відаць.

– Відаць, – аўтаматычна паўтарыў суддзя ў нейкім здранцвенні. А потым, быццам ачомаўшыся, дадаў:

– Размаўляць тады трэба цішэй!

І выскачыў з кватэры, бразнуўшы дзвярыма.

Падхамілаў ціснуў на званок суседа з сёмага паверха ледзь не з лютасцю. Ён падумаў, што дома нікога няма, як дзверы адчыніў мужчына ў спартовых нагавіцах і расцягнутай саколцы з надпісам “Він Дызель”.

Усе свае скаргі суддзя наўпрост цадзіў праз зубы, але ў суседа выгляд зрабіўся такі вінаваты і такі няшчасны, што Падхамілаў нават крыху супакоіўся, задаволіўшыся тым, якое ўздзеянне ягоныя словы займелі над чалавекам.

– Сяргей Паўлавіч, – унурана звярнуўся да яго мужчына, – можна проста Сяргей? Мяне Валодзем завуць. Ты давай, зайдзі, калі ласка.

Падхамілаў сабраўся абурыцца гэтай фамільярнасцю, але раптам перадумаў і пайшоў следам за Валодзем.

– Ды кажу ж табе, не наўмысна я! – з жарам казаў Валодзя і браў суддзю за плячо. – Закруцілася, ведаеш, чаго не бывае. Думаў, тое-сёе, пажартавалі ды хопіць. А яна спыніцца не можа. Кажа, “падам на развод”, а я не хачу, разумееш? Мне й аднаму добра жывецца. Як мужык мужыку кажу – зрабі ты што-небудзь, твая ж жонка. Увесь пад’езд з мяне смяецца. Я ўжо цярпеў-цярпеў, не магу больш. Ну хочаш – можаш саджаць мяне ў цюрагу! Але так далей немагчыма, дапякла яна мяне.

Падхамілаў на ватных нагах выходзіў з суседскай кватэры. Ён не памятаў, як спускаўся па лесвіцы, як распранаўся, як павітаўся з сынам і запытаўся, як у таго справы ў ліцэі, не пачуўшы, што той яму адказаў. Нейкая заслона стаяла ў яго перад вачыма. Ён не памятаў, колькі часу сядзеў у пакоі, абхапіўшы галаву рукамі і гледзячы ў адну кропку. Не чуў, як вярнулася жонка.

– Сержучок, Сяржук, што з табой? – трэсла яго жонка.

Падхамілаў паглядзеў на яе невідушчымі вачыма.

“Змяя, – загрукала ў ягонай галаве. – Подлая змяя!”

Яму захацелася схапіць яе і бразнуць аб падлогу так, каб па ёй пайшла гэткая ж самая расколіна, як і тая, што была на стале.

– Сяржук, табе дрэнна? – занепакоена зазірала яна ў ягоны твар.

– Крыху стаміўся, – прымусіў выціснуць з сябе суддзя.

– А я ж спужалася, – выдыхнула яна і ўжо зусім радасным голасам дадала: – Хадзем, зараз будзем вячэраць.

Яны сядзелі ўдваіх на кухні.

– Дзе Славік? – запытаўся Падхамілаў.

– А ён сказаў, што не будзе вячэраць, – весела адказала жонка, – яны з хлопцамі пасля заняткаў хадзілі ў піцэрыю. – Сярожка, я сёння такую гардэробную бачыла! – з захапленнем працягвала яна. – Вось і нам бы такую на лецішча. Можа ўзялі б, а? Паглядзіш?

– Дзе бачыла? У суседа? – з'едліва запытаўся Падхамілаў.

Яна на момант аслупянела, але адразу прыйшла ў сябе і пакрыўджаным тонам запыталася ў адказ:

– У якога суседа? Пры чым тут сусед? У каталогу дызайн-студыі бачыла. Апошні трэнд, з мараканскімі ўзорамі.

– З якімі ўзорамі? – злавесна перапытаў суддзя.

Тут ужо яна нешта западозрыла і няўпэўнена паўтарыла:

– З мараканскімі.

– А з тараканскімі ўзорамі ты там не бачыла? – на ўсю моц зароў Падхамілаў. – Як у тваёй камуналцы? Як у тым брудзе, адкуль выцягнуў цябе? Дасюль бы там сядзела!

– Што ты крычыш? – спалохана выкрыкнула яна сама.

Ён адразу сцішыўся. Памаўчаў некалькі хвілінаў і халодным голасам, нібыта выносіў прысуд, сказаў:

– Я ўсё ведаю.

– Пра што ты кажаш? – паспрабавала супраціўляцца яна, абараняючыся ад непазбежнага.

– Мне што, яго сюды запрасіць? – выразна запытаўся Падхамілаў.

– Сержучок, – яна адразу пачала плакаць і прасіцца. – Сержучок, гэта ўсё няпраўда! Гэта ўсё паганыя плёткі, Сяржук! Каго ты слухаеш?

Падхамілаў устаў з-за стала. Жонка кінулася да яго.

– Адыдзі ад мяне, – з гідлівасцю кінуў ён. – Паедзеш назад у свае Марчанкі.

Жонка залілася слязьмі.

Падхамілаў выбег з кухні. Насустрач яму выйшаў сын:

– Тата, што здарылася?

– Ідзі ў свой пакой! – гыркнуў той і ўвесь чорны ад гневу пракрочыў у залу.

Раніцай Падхамілаў прачнуўся з цяжкім сэрцам і галавой. Побач стаяла спустошаная бутэлька каньяку. Па падлозе былі раскіданыя паперы і рэчы. Ён выйшаў у вітальню. Спехам пачаў збірацца, хапаючы з этажэркі шалік і пальчаткі, але, згадаўшы пра нешта, ужо ў шапцы і ў абутку, не зашпільваючыся, зазірнуў у кухню. Жонка і сын сядзелі пры стале. Яна сцішана і задуменна піла гарбату, а ён націскаў на экран айфона, відавочна заняты гульнёй.

– Сяржук, будзеш снедаць? – дрыжачым голасам запыталася жонка.

Падхамілаў нічога ёй не адказаў. Падышоўшы да стала, наліў з графіна вады і нагбом выпіў шклянку. Потым паглядзеў на сына і загадным тонам прамовіў:

– Сёння ў горадзе плануецца апазіцыйная акцыя, будзе ўзмоцнены ахоўны кантроль. Каб нікуды не выходзіў. Зразумеў?

Сын, не ўздымаючы галавы ад гульні, працягнуў няўцямнае:

– Ыгы.

Падхамілаў павярнуўся і, схапіўшы ў вітальні свой партфель, імкліва выйшаў з кватэры.

**Злачынца

Славік паўдня праседзеў у кватэры. Ён прайшоў чатыры раўнды ў гульні, пакуль у яго не скончыліся жыцці, паадціскаўся ў два падыходы па дзесяць разоў, паразмаўляў па тэлефоне з сябрам. Славіку было нудна. Не ведаючы, чым яшчэ сябе заняць, ён падумаў, што мог бы спампаваць рэферат па гісторыі. Экзамены ён, канечне ж, усё адно здасць, пра гэта ўжо даўно дамоўлена, але выкладчыца па гісторыі асабліва прыдзірліва ставіцца да яго, таму Славік сцяміў, што лепей бы яму мець пры сабе рэферат напрыканцы трыместра. Ён зайшоў у інтэрнет і спампаваў першы ж рэферат па гісторыі станаўлення дзяржаўнасці. Паколькі прынтэр ужо не працаваў два месяцы, яго ўсё збіраліся адрамантаваць, Славік скідаў файлы на флэшку і бясплатна раздрукоўваў іх у ліцэі. Канечне, трымальнікі копі-цэнтра дзерлі з іншых за раздрукоўку немалыя грошы, але Славік намякнуў уладару, што той займее праблемы, калі не пагодзіцца яго абслугоўваць, і з таго часу яму не проста друкавалі працы, але яшчэ і частавалі гарбатай, прызначанай для супрацоўнікаў. Славік пакорпаўся ў кішэнях, але флэшкі не было. Ён перагледзеў сваю студэнцкую торбачку, кішэні ў куртцы, паглядзеў на паліцах. Няма! Ён патэлефанаваў маці:

– Ты брала маю флэшку?

Тая з’ехала ў Курасоўшчыну да сваёй сяброўкі, каб урэшце супольным жаночым розумам знайсці выйсце з непрыемнай сямейнай сітуацыі.

– Што? Якую флэшку? – не зразумела яна.

– Жоўтая такая. Бачыла яе?

– Нічога не бачыла, – адказала тая, – пашукай у сябе. Я хутка вярнуся.

Славік пасноўдаўся па кватэры і ўрэшце здагадаўся, што забыў флэшку ў тым самым копі-цэнтры, калі апошнім разам друкаваў там справаздачу па студэнцкай наведвальнасці.

“Схаджу набуду новую”, – вырашыў ён. – “Ісці тут не болей за прыпынак. Адразу на праспекце крама з флэшкамі і кампутарным софтам”.

Узрадаваўшыся нагодзе выйсці, Славік апрануўся і выскачыў на вуліцу.

Паветра было марознае і добра бадзёрыла. Насустрач асобнымі купкамі йшлі нейкія людзі, каля будынка акадэміі сабраўся невялікі натоўп, былі відаць камеры, журналісты бралі інтэрв’ю.

“Значыць, сапраўды нейкая акцыя”, – падумаў Славік.

Да крамы ён дабег хутка. Выглядала на тое, што флэш-індустрыя працавала ў поўную моц. Тут былі флэшкі ўсіх памераў і калібраў. У выглядзе пірацкай галавы, даляра, аздобленыя пад залатыя зліткі і ў форме рэвальвера, зусім мікраскапічныя і вялікія з USB-дратамі.

– Вам на 64 альбо на 128 Гб? – запыталася прадавачка.

У яе былі пафарбаваныя на канцах у ружовы колер валасы, густа падведзеныя чорным колерам стрэлкі на вачах і тры завушніцы ў адным вуху.

– Давай на 128, – адказаў Славік.

– Ой, – разгубілася дзяўчына, – а на 128 ужо скончыліся. Засталіся толькі на 64.

– Давай, – пагадзіўся Славік.

І падумаў, што ніколі б не стаў сустракацца з такой дзяўчынай.

Вяртаўся ён павольна, дадому яго не цягнула. З большай ахвотай ён бы завітаў у які студэнцкі бар, але ўсе сябрукі былі хто дзе – частка дзяўбла граніт навукі на дадатковых курсах у ліцэйскіх аўдыторыях, частка з’ехала

за горад, а тыя, што засталіся, сядзелі ў кватэрах пад пільным бацькоўскім наглядам. Славіку да дома заставалася не больш за дзесяць метраў, як яму насустрач варухнулася лавіна з байцоў у чорных касках і з жалезнымі бліскучымі шчытамі. Шчыльным шэрагам яны адсоўвалі групу людзей да сцяны дома. Славік паспрабаваў кінуцца ўбок, але яго штурхнулі і закруцілі руку за спіну. Ад нечаканасці і болю Славік узвыў:

– Адпусці!

Ён чуў, як нечы камандзірскі голас у мегафон загадваў: “Уважаемыя граждане, убедзіцельная просьба немедлена разайцісь. Іначэ к вам будут прыменены спецсрэдства. Паўтараю. К вам будут прыменены спецсрэства”.

Славіка разам яшчэ з двума хлопцамі закінулі ў службовую машыну і павезлі.

– Куды мы едзем? – абураўся Славік. – Не маеце права! Я дадому йшоў! Я жыву тут!

– Змоўкні, – каротка загадаў баец у касцы.

– Я – Падхамілаў! Я сын суддзі! – ужо роспачна залямантаваў Славік.

– Прыедзем, там разбяруцца, чый ты сын, – паабяцаў баец.

І тры ягоныя паплечнікі ашчэрыліся ва ўсмешках ад трапнага жарту.

## ****Суддзя

Падхамілаў сядзеў у сваім кабінеце. Заставалася паўгадзіны да пачатку паседжання. Ён глядзеў, як за вакном кружляў і падаў снег. Нейкія далёкія ўспаміны ўсплывалі ў ягонай галаве. Вось ён яшчэ студэнт. Бачыць сябе за кафедрай – бліскучы выступ, ён адказвае на пытанні ўніверсітэцкай камісіі, даказваючы, што “lex est rex[1]”, атрымлівае па сканчэнні адукацыі чырвоны дыплом. Вось ён стажыруецца першы год, адразу здабываючы найлепшыя рэкамендацыі, вось першы ягоны працэс, спачатку па дробнай справе, крадзяжы, – нейкі хлопец скраў у краме скрыню таннага піва. Падхамілаў памятаў, што тады прысудзіў яму трыццаць базавых велічыняў і ўвесь вечар пасля працэсу думаў над іроніяй сітуацыі – у які кошт абышлася хлопцу тая скрыня. Які ён яшчэ быў малады! Памятаў і сваю самую гучную справу па растраце дзяржаўнай уласнасці буйным прамысловым канцэрнам. Гэтыя людзі ўжо праходзілі па крымінальным артыкуле, а Падхамілаў на той момант славіўся як значная і ўплывовая асоба.

Суддзя ўстаў са свайго крэсла. Думкі пра ўчарашні вечар, якія ён старанна гнаў ад сябе, пачуццё хісткасці нервавалі яго, пазбаўлялі ўпэўненасці ў сабе. Ён падышоў да вакна. Снег бясконца сыпаў з ахутанага аблокамі неба.

“Сёння мае быць цяжкі дзень”, – падумаў ён.

Потым крыху пастаяў і выйшаў у залу судовых паседжанняў.

Зала ўжо была поўная. Слухалася справа па дробным хуліганстве. Першым падсудным быў малады чалавек з вузкім бледным тварам і вялікімі вачыма. Запрасілі сведкаў. Імі выступалі малодшы лейтэнант Дубінін і старэйшы лейтэнант Плявузгала.

– Дзе вы затрымалі падсуднага? – запытаўся Падхамілаў.

– На перасячэнніі праспекта і адной з уліц, – адказаў Плявузгала.

– Якой менавіта з вуліцаў? – перапытаў суддзя.

---

[1] “Закон ёсць царом*” (з *лаціны*).

– Ну какая там перасякаецца з праспектам, – напружыўся міліцыянт. – Я не помню ўсе этыя уліцы.

– Няпраўда! – запратэставаў падсудны. – Мяне гвалтоўна схапілі ў тралейбусе.

– Што неправамернага было ў дзеяннях падсуднага? – задаў сведку пытанне Падхамілаў.

– Падсудзімый Ляскоўскі ругался матам і размахівал рукамі.

Наступным быў мужчына досыць стала веку.

– Я сам усё скажу, – адразу заявіў ён. – Я, як толькі пабачыў па трансляцыі, што адбываецца, схапіў слухаўку і патэлефанаваў у міліцыю.

– Так, і што вы паведамілі дзяжурнаму дыспетчару? – пацікавіўся суддзя.

– Што, што... Паведаміў, – спыніўся на імгненне мужчына, – паведаміў усё, што думаю і пра дзяржаўны лад, і пра ўладу.

– Што вам адказаў дыспетчар?

– Удакладніў маё прозвішча і хатні адрас.

– Што было далей? – пацікавіўся суддзя.

– Прыехаў нарад міліцыі, пазванілі ў дзверы, я адчыніў і яны схапілі мяне.

– Не схапілі, а затрымалі, – паправіў Падхамілаў.

Па справе трэцяга падсуднага выступіў малодшы лейтэнант Дубінін.

– Пры якіх абставінах вы затрымалі падсуднага? – запытаўся, схіліўшы галаву над паперамі і не гледзячы ў залу, Падхамілаў.

– Падсудзімый Паграмілаў быў задзержан на заулку у старане ад праспекта, – даклаў Дубінін.

Суддзя паглядзеў на падсуднага і раптам аслупянеў.

Было заўважна, што вочы ў яго нервова забегалі. Перад ім на лаве падсудных сядзеў ягоны ўласны сын.

Падхамілаву зрабілася душна. Ён пацягнуўся да шклянкі з вадой.

– Чаму вы затрымалі падсуднага? – ледзь вымавіў суддзя.

– Он ругался матам і размахівал рукамі, – адрапартаваў Дубінін.

– Суд абвяшчае перапынак, – не вытрымаў Падхамілаў і паспешна выйшаў з залы паседжанняў.

– Што? – аглушальна роў Падхамілаў, навісаючы над малодшым лэйтенантам Дубініным. – Які, вашу маць, Паграмілаў? Вы пашпарт у рукі бралі?

– Як запісалі ў Цэнтральным РУВДзе, так мы і перадалі, – спрабаваў апраўдвацца Дубінін.

– Дык што там у вас, б*****, за грамацеі сядзяць? І якім, б****, матам ён лаяўся? Ты чуў, с****? – шалеў суддзя. – Ён увесь дзень дома сядзеў!

– Ну... – цягнуў малодшы лейтенант, увесь збялелы, – затрымалі на вуліцы.

– Я цябе, б****, затрымаю! Сам у мяне зараз будзеш лаяцца матам і пойдзеш у падсудныя!

Падхамілаў увесь змакрэў ад крыку і лютасці. На ілбе выступіў пот. Ён так надрываўся, што ажно сцены трэсліся. Малодшы лейтэнант Дубінін сам тросся як асінавы ліст. Справа набыла для яго нечаканы паварот і, агаломшаны, ён не мог зразумець, як яго собіла наклікаць такія непрыемнасці на сваю галаву.

– Памылка выйшла, – здушана прасіпеў Дубінін.

– Гэта ты адна суцэльная памылка! – грымеў Падхамілаў, ніяк не супакойваючыся.

Урэшце суддзя зразумеў, што калі працягне так і далей, то дабром для яго гэта не скончыцца. У скронях пульсавала кроў, моцна балела патыліца. Ён сцішыўся, загадаў малодшаму лейтэнанту зараз жа перамяніць сведчанні і, ужо цалкам узяўшы сябе ў рукі, вярнуўся ў судовую залу.

Па выніках паседжання было ўстаноўлена, што памылкова затрыманы Паграмілаў з'яўляецца Падхамілавым і ніякага дачынення да справы не мае, таму ўсе абвінавачванні з яго здымаюцца, першы падсудны, нехта Станіслаў Альбертавіч Ляскоўскі, атрымаў трое сутак арышту, другі, Сцяпанчанка Аркадзь Глебавіч, пяць сутак арышту, і яшчэ сем падсудных ад трох да пятнаццаці сутак арышту ў якасці меры пакарання, прадугледжанай Арт. 17.1 КоАП РБ 194-З ад 21.04.2003 г. за ўчыненне адміністратыўных правапарушэнняў у выглядзе дробнага хуліганства (нецэнзурнай лаянкі ў грамадскім месцы).

### ***Злачынца

Тры дні турэмнага зняволення падаліся Стасю нейкім сном. Страшным, дзіўным сном. У першы ж дзень ён высветліў, што ў камеры, дзе ён павінен правесці наступныя тры дні, адсутнічае гарачая вада, а тая халодная, якая цячэ, бруднаватага колеру і пакідае іржавыя сляды ў рукамыйніку. У самой камеры было вельмі холадна. Стась зразумеў, што ягонае падарожжа ў міліцэйскім УАЗіку з Гудагая ў Менск было школай падрыхтоўкі да тых умоваў, у якіх ён апынуўся цяпер. Разам з ім у камеры былі яшчэ тры хлопцы, мужчына сярэдняга ўзросту, ад якога патыхала не лепшым узорам айчыннай вермутавай вытворчасці і які атрымаў свой тэрмін за тое, што буяніў у краме, спрабуючы вынесці бутэльку, якой яму не хапала для поўнай радасці пятнічнага вечара, а таксама бамжаватага выгляду і няпэўнага ўзросту чалавек, які не здолеў патлумачыць, як апынуўся за кратамі, і нават пакідаў уражанне, быццам проста тут жыў. Усе разам насельнікі камеры стварылі вельмі спецыфічнае амбрэ, якое дадавалася да моцнай напаленасці, праз што здавалася, нібы паветра загусцела.

– А я вельмі рады, што вас падсялілі, – на другі дзень дзяліўся ўражаннямі бамжаваты чалавек, якога клікалі Васем. – Сёння баланду далі ў асобных місках для кожнага і нават па лыжцы.

– А раней як? – запытаўся адзін з хлопцаў.

– А ніяк, – пажаваў вуснамі Вася. – З адной усе елі. Ды што там, – працягнуў ён, – сёння нават на шпацыр вывелі.

На шпацыры ў невялікай клетцы ўнутранага двара Стась бесперапынна ўдыхаў паветра. Яно было не нашмат халаднейшым за тое, што ў камеры, але без таго смуроду, якім Стась, здавалася, прапах ужо наскрозь. Яшчэ ў першы дзень Стась усвядоміў, што з прыбіральняй, якая ўяўляла з сябе дзірку ў падлозе, могуць узнікнуць праблемы, але напоўніцу адчуў гэта ўвечары другога дня. Бо тут, у прасторы турмы, туалетная папера адсутнічала як такая, быццам бы эра цывілізацыі, якая ўзняла чалавецтва на новую прыступку побытавых выгодаў, абмінула гэтую ўстанову і пакінула яе ў стане першабытнага чалавека, бессаромнага ў сваёй натуральнасці.

Да ўсяго, проста ляжаць на дошках, якія служылі канапай, і глядзець у столь не выпадала, бо так яшчэ хутчэй, і даводзілася варушыцца, каб хаця крыху сагрэцца.

– Дык вас таксама за лаянку затрымалі? – звярнуўся да яго самы малады з хлопцаў, якія адбывалі тэрмін пакарання па тым жа артыкуле, што і Стась.

– Так, – азваўся Стась, – хаміў, лаяўся, спрабаваў захапіць тралейбус і абвясціў, што ўсе грамадзяне без квітка адпраўляюцца на маю прыватную сядзібу ў якасці бясплатнай працоўнай сілы.

Хлопец засмяяўся.

– Я таксама. Толькі я яшчэ рукамі размахваў з непрыстойнымі жэстамі.

Ён пасядзеў крыху, падумаў і зноў запытаўся ў Стася:

– Слухайце, няўжо сапраўды можна вось так ні за што затрымаць чалавека?

– Ну чаму ні за што? – адказаў Стась. – Вы ж самі прызналіся, што размахвалі рукамі і паказвалі непрыстойныя жэсты. І ўжо сур'ёзна дадаў: – Там, дзе размаўляюць на мове сілы, і сіла гэтая зусім не сіла закону, баюся, сапраўды можна.

– А што ж нам рабіць тады? – занепакоена пытаўся хлопец.

– Не пагаджацца, – усміхнуўся Стась.

– Э, б*****, – лупануў дзяжурны міліцыянт дубінкай па кратах. – А-ну адбой всем!

Апошні, трэці дзень цягнуўся для Стася бясконца. Яму паведамілі, што вызваляюць назаўтра з раніцы.

Чалавек з вермутавым пахам крыху пазбавіўся гэтага самага паху, але да яго дадаўся пах бруду, які, дарэчы, суправаджаў ужо ўсіх насельнікаў камеры. Ён сядзеў каля вакна і ўзгадваў гісторыі са свайго жыцця:

– Працаваў неяк на кране ў Маскве. Масква – адна суцэльная будоўля, там гэтых кранаў адзін на адным стаяць. Нанялі на будаўніцтва нейкага гасцінічнага комплекса. Адпахаў паўгода, як было па кантракце, атрымаў грошы. А грошы немалыя. Дзесяць тысяч даляраў. Збіраюся назад ужо сюды, на Беларускім вакзале падыходзяць двое і адразу заломваюць руку. А я ж маладым у марфлоце служыў, я ж марпех, адным прыёмам дваіх паклаў. Сядзеў у іх там паўтара года. Дык ёсць адна тут, Света, чакала мяне.

І тут ужо на твары ягоным чыталася настальгія па Свеце, па ранейшым часе, і не хапала толькі бутэлькі, з-за якой ён тут апынуўся, каб давяршыць вобраз сяброўскіх вечаровых адкрыццяў.

Нараніцу яго і Стася адпусцілі. Ён атрымаў свае рэчы, былы сукамернік паціснуў яму на выхадзе руку, і яны разышліся ў розныя бакі.

Неба было высокае, сіняе і халоднае. Абледзянелыя дрэвы і распараны ад руху аўтамабіляў асфальт, застылыя ў здранцвенні дамы.

Першае, што зрабіў Стась, вярнуўшыся дадому, – уключыў кран з гарачай вадой і з дзесяць хвілінаў трымаў пад струменем рукі. Потым зайшоў у ванну і доўга-доўга стаяў у душы. Яму ўсё здавалася, што ён ніяк не можа адмыць турэмны пах, што гэты прытхлы смурод закраўся яму ў валасы, за шыю... Урэшце ён выйшаў з ванны, пераапрануўся і запарыў сабе моцную чорную каву. Кава была такая моцная, што пакідала гаркавы прысмак у роце. Стась спрабаваў аднавіць паслядоўнасць падзеяў апошніх дзён. Узгадваў цягнік, бязвусага маёра з сабачкам, пакой

асабістага дагляду, пастарункі, аўтобус, рудую дзяўчыну з доўгімі валасамі (цікава было б знайсці яе), суд, нарэшце турму. У гэты момант ягоныя думкі перарваў званок.

– Станіслаў Альбертавіч? Алё! Станіслаў? – праз перабоі з сувяззю прарываўся голас з таго боку.

– Так, – адказаў Стась.

– Ну што ж гэта вы спазняецеся! – жартам абурыўся чалавек. – Ужо чацвёрты дзень нашага фестывалю. Вашая аповесць адзначана асаблівым прызам міжнароднага журы і асабіста загадчыкам секцыі сучаснай літаратуры антверпенскага ўніверсітэта. Усе вас чакаюць, я як арганізатар абяцаў забяспечыць вашую прысутнасць, а вас няма!

– У мяне ўзніклі абставіны непераадольнай сілы, – з іроніяй патлумачыў Стась.

– Ну хаця б заўтра мы можам разлічваць на ваш прыезд? Заўтра заключны дзень фестываля. Мы вас сустрэнем, прыязджайце, калі ласка! – умольна прасіў арганізатар.

– Я паспрабую, – паабяцаў Стась.

## ***Новенькі

У горадзе панавала зіма. Па рэйках несліся трамваі, праз заінелыя шыбы былі ледзь бачныя твары пасажыраў, аточаныя каўнярамі кажухоў і пуховых палітонаў. На прыпынку два маладыя міліцыянты мерзлі, грэючы рукі ў кішэнях у чаканні транспарту, старая жанчына цягнула поўныя клункі, лёталі зграйкі школьнікаў у расшпіленых куртках, падкідваючы заплечнікі з цяжкімі падручнікамі. Палац мастацтваў прываблівае менчукоў кірмашом “Футраманіі” і абяцаў сапраўдны горны і грэчневы мёд.

Стась зайшоў у “Акіян”. У акварыумах плавалі, павольна варочаючы плаўнікамі, цёмныя рыбіны. Каля касы на ўзвышшы як ганаровы тавар красавала вялізарная бутэлька савецкага шампанскага.

Перад Стасем стаяў маладзён. Пакуль ён даставаў з гаманца грошы, прадавачка павярнула галаву ў бок суседняй касы.

– Што гэта ты на мяне паглядзела так? – кінула ёй прадавачка з той касы.

– Ды я не на цябе, – адказала тая, – а далей.

Маладзён здзівіўся і разгубіўся на імгненне.

“Новенькі”, – падумаў Стась.

– Гэта ўсё? – строга спытала прадавачка ў Стася, палічыўшы ягоныя мінеральную ваду і мятную жуйку.

– Усё, – адказаў Стась.

– Два рублі, трынаццаць капеек. Тры капейкі ёсць у вас?

– Зараз пашукаю, – і Стась адчыніў маленькую скарбонку ад ментолавых цукерак, якія купляў у Вільні, і дзе зараз насіў дробязь. – Вазьміце.

– Ой, якая ў вас скрыначка! – заўважыла прадавачка. – А тут, ведаеце, з чым толькі не прыходзяць гэтыя пакупацеля. Нават са скрынкамі ад гаек.

– Ад закручаных? – усміхнуўся Стась, але прадавачка яго не зразумела.

Ён выйшаў на прыступкі крамы і паглядзеў на гадзіннік. Да адпраўлення цягніка заставалася гадзіна.



Вадзім Корань



...Лавіць матылькоў – няўдзячная справа.
Хто лавіў – ведае...

# Лавіць матылькоў...

* * *

Заблудзіўся ў жыцці, навакол цішыня,
няма сілы змагацца і нешта змяняць.
Бачу Бога, але нехта выключыў гук,
цела быццам аплёў павуціннем павук.

І гадзіннік зламаўся, час раптоўна памёр,
нам пакінуўшы сумных імгненняў узор.
У руку – па цвіку, і ўжо не паляціш,
адчуваючы целам няструганы крыж.

Спадзяванні на літасць зніклі ў жудасным сне
ні святла, ні надзей не пакінуўшы мне.
Толькі шэрань на вуснах, слёзы ўжо не стрымаць –
страшна думаць пра Неба, калі ў сэрцы зіма.

Папяровыя ружы замест кветак жывых.
Мару Бога пачуць і напружваю слых.
Чую – плачуць анёлы за чорнай гарой
словы песні маркотнай, як поўня, старой.

* * *

Іду па вуліцы ў белай кашулі,
заплечнік за плячыма.
Магчыма,
я вельмі шляхетны ў вачах бабулі,
што васількі прадае.
У яе
набыў сузор'е сініх кветак,
сонцам сагрэтых,
сарваных ранкам старанна,
напоеных хлорнай вадою з-пад крана...

З васількамі ў руках,
у белай кашулі,
пайду між бетонных гмахаў
па чорным асфальце вуліц,
праз цёплы пяшчотны дождж,
як Максім Багдановіч, самотны,
ды толькі старэйшы ўсё ж,
і не сухотны.

Нічога ўжо не перайначыш,
хоць ёсць у гэтым патрэба.
Так хочацца сонца ўбачыць,
а бачу – паэтава неба
з безліччу зор, да якіх мы
ляцім. Даляцець – дарма!
Між зораў схаваліся рыфмы,
ды часу шукаць іх няма:

“Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
ў ціхую сінюю ноч...”

* * *

Грэшнікі да споведзі ішлі,
твараў не хаваючы у цемры.
З гонарам, нібыта каралі,
грэшнікі да споведзі ішлі,
маючы па кроплі даўняй веры.

Кожны крок пакутліва-цяжкі,
быццам басаnож па голках вострых,
і няма сяброўскае рукі,
кожны крок пакутліва-цяжкі,
кожны ўдых атрутны і няпросты.

Сонца ім не асвятляла шлях,
месяц не паказваўся з-за хмараў...
Толькі свечкі ў стомленых руках...
Сонца ім не асвятляла шлях –
абдавала іх пякельным жарам.

Цепліцца надзея ў іх вачах,
свечкі ў іх руках, нібыта зоркі.
І губляе сваю сілу страх.
Цепліцца надзея ў іх вачах,
поўных смутку і чаканняў горкіх.

* * *

Апошні сон
складаецца па частках.
І з іх
я добра памятаю тры.
У першай
тры анёлы ў страшных масках
спрабуюць непакорлівых скарыць.
Ўсё аплялі яны
калючым дротам,
што цягнецца ажно за небакрай,
забыліся на святасць і на цноту –
без спеху дабудоўваюць свой рай.

Другая –
белы снег да далягляду
і злосная нямая цішыня.
Чакае зграя воўчая загаду,
каб разарваць нявіннае ягня.
А я крычу: “Спыніцеся! Не трэба!”
Спрабую засланіць яго сабой...
Дарэмна... Засталіся толькі неба,
пакуты, ціш і невычэрпны боль.

У трэцяй –
вочы выпалілі зоркі,
калі сачыў прыгожы зарапад,
схаваўшыся на кургане-пагорку,

і стала цемра страшная па-над
зямлёй. І сцежку, што расой блішчала,
не мог убачыць і не мог знайсці.
Сляпую цемру, што наўкол паўстала
нат з сонцам немагчыма перайсці.

Наступную я не магу ўжо ўспомніць.
Так хочацца, каб там было святло.
Няхай не сонца, хай самотнай поўні,
але каб толькі там яно было.

Апошні сон складаю я па частках.
Не склеіць іх,
не сшыць
і не звязаць.
На чалавека Бог паставіў пастку:
час знікне і не вернецца назад.
А разам з часам знікнуць
успаміны
пра шчасце,
пра сяброўства,
пра любоў...
І сыплюцца пясчынкамі хвіліны
ў гадзінніку,
які не бачыць сноў.

* * *

Паэт піша вершы свае
сінім колерам
чарговага натхнення.
Крэсліць,
палюе на рыфму,
рытм адбівае,
аж губу закусіў
ад напругі
ў чаканні
шэдэўра...

...А ў гэты час на беразе Начы
Мікола Купрэеў сядзіць нябачна,
Світання чакае, заплюшчыўшы вочы,
слухае музыку жнівеньскай ночы.
І словы з'яўляюцца, быццам здалёк,
цяжкія, як жалеза, лёгкія, як матылёк,
мудрыя, як стагоддзі, крохкія, нібы лёд,
горкія, бы палыновыя, салодкія, быццам мёд...

І свецяцца вершы на лісці кляновым,
і плывуць, плывуць па ціхай рацэ...
А на беразе Начы ўсміхаецца словам
Мікола Купрэеў з цыгаркаю у руцэ...

* * *

У анёла крыло забалела,
моцна-моцна – ляцець не можа.
Летась лётаў прыгожа і смела,
а цяпер – ён нібыта стрыножаны.

Плача ціха – ніхто не чуе,
ды й каму – навакол нікога,
пад адкрытым небам начуе,
бо не можа ўзляцець да Бога.

Я крыло яму перабінтую
і скажу: “Зараз холадна, браце,
і ў небе ніхто не вандруе –
ты пакуль пажыві ў маёй хаце.

Мы крыло тваё трохі падлечым,
ты не будзеш баяцца ўночы,
і тым часам раскажаш пра Вечнасць
і ўсёбачныя Богавы вочы...”

* * *

Боль
вымераны табой,
нават у сне
не міне.
А пад раніцу ўвесь я – суцэльны апёк,
быццам сонца знарок
мне прыклалі
да цела
і мацней прыціскалі,
каб балела й балела...

І баліць...

Боль не збыць,
не згубіць,
не забіць...
Не забыць на прыпынку,
нібы парасон,

да енку, да крыку
моцны ён.

Не аддаць,
не прадаць,
не зламаць,
не спаліць,

не парэзаць на лусты,
кіслатой не заліць...
Баліць...
Баліць...

Так самотна і пуста.
Пальцы дробна дрыжаць –
голку не ўтрымаць.
Пустату не зашыць
між душою і целам,
мабыць, лёс такі –
жыць,
каб балела й балела...

І чакаць,
калі ты мне апёкі залечыш,
і маўчаць,
і трываць,

уцягнуўшы ў плечы
галаву,
адчуваць,
што жыву,
што жыву...

* * *

Няўдзячная справа – лавіць матылькоў.
Толькі налоўчышся – ён пырх – і паляцеў.
Бывае, садзіцца на далонь
і чакае.
Але рука варухнецца –
і ён ляціць, свабодны й шчаслівы,
крылцамі махае,
нібыта кажа:
“Прабач і да пабачэння...”

Лавіць матылькоў – няўдзячная справа.
Хто лавіў – ведае.

* * *

Не думай, што ты перамог,
таму што так хацеў Бог.
Быць можа, Ён даў магчымасць камусьці ўзысці на крыж...

Не думай, што проста так Бог
ад страшнай бяды засцярог.
Быць можа, Ён разумее, што для цябе гэта звыш...

Не думай, што з сотні дарог
Ён выбраць адну дапамог.
Быць можа, ты сам адказны за шлях, на якім стаіш...



Уладзіслаў Ахроменка, Максім Клімковіч



...карта паляка –
гэта твой выбар,
дзетка!..



# Карта паляка

***Крэсовыя сцэны ў двух актах***

Дзейныя асобы:

**Блазан** – *канферанс-трансформер;*
**Генік** – *местачковы гуманітарый;*
**Любоў Францаўна** – *загадчыца ідэалагічнага аддзела*;
**Альбіна** – *каралеўна местачковага гламуру*;
**Маёр Калода** – *мясцовы міліцэйскі начальнік*;
**Марыя-Тэрэза** – *касцельная палячка ва ўзросце*;
**Валька-Валіза** – *бізнэсвумен*;
**Ваван, Эльбрус** – *расейскія казакі з бутафорскімі ўзнагародамі;*
**Пан Баляслаў** – *прафесар антрапалогіі*;
**Пан Лешэк** – *яго памагаты*;
**Мяо Лінь** – *кітайскі гастарбайтар*;
**Пробашч** – *мясцовы ксёндз*;
**Постаць на плазме**

*Тэксты зонгаў – Сяргей БАЛАХОНАЎ.*

*Дзеянне адбываецца ў немалым, але дэпрэсіўным мястэчку Заходняй Беларусі.*

# АКТ ПЕРШЫ

## Сцэна першая

Сцэна перад заслонай, потым плошча ў мястэчку. Блазан, Генік, Любоў Францаўна, Маёр Калода, Марыя-Тэрэза, Валька-Валіза, Мяо Лінь.

*Заслона, з-за яе выходзіць* **Блазан** *– дзіўнаваты дзядзька ў фраку і цыліндры, гэткі гібрыд канферанса ў класічным кабарэ і цыркавога клоўна.*

**Блазан** – *у залу*: Ну што, даражэнькія, нарэшце расселіся? Вам зручна? Усё відно? Адключыце мабільныя, забудзьцеся на розныя негаразды і расслабцеся. Паверце, сябры мае, што жыццё герояў, якіх мы маем гонар вам паказаць, куды нуднейшае за вашае! Вы незадаволеныя ўласным домам? Хочаце змяніць сваю натуру? То і яны таксама, і прытым – якім заўгодна коштам!

*Заслона рассоўваецца. На сцэне плазма – панарама сучаснага заходнебеларускага мястэчка.*

*Каля Блазна рытмічна праяўляюцца героі:* **Любоў Францаўна, Маёр Калода, Марыя-Тэрэза, Валька-Валіза** *і* **Мяо Лінь***. Яны рухаюцца па коле вакол Блазна, які знаходзіцца ў цэнтры. Рух па коле – бы ў гадзінніку Пражскага Града, дзе лялечныя фігуркі па чарзе факусуюць на сабе ўвагу. Персанажы па адным трапляюць у святло. Кожны кароткімі механічнымі рухамі пантамімы выяўляе сваю функцыю. Гучыць музыка, нібы з "Чароўнага куфэрка".*

*З'яўляецца* **Любоў Францаўна***, махае чырвона-зялёным сцяжком.*

**Блазан**:

Духоўнасці скрэпа. Маральнасці мур і сцяна.
На варце ідэйнай – Любоў наша Францаўна.

*З'яўляецца* **Маёр Калода***, шчоўкае кайданкамі.*

**Блазан** *спявае*:

Усіх пачастуе стабільнасці мёдам,
Падвучыць законам маёр наш Калода.

*З'яўляецца* **Марыя-Тэрэза***, перабірае ружанец, гартае кантычку.*

**Блазан**:

Крулева пальшчызны на ўсіх всходніх крэсах
Руплівіца вяры васпані Тэрэза.

*З'яўляецца* ***Валька-Валіза****, дастае з вялікай клятчастай торбы транты, дэманструе іх, нібыта прадае.*

**Блазан**:

На польскіх распродажах знойдзе выгоду і ў крызіс –
Майстрыха шоп-тураў Валька-Валіза!

*З'яўляецца* **Мяо Лінь** *у памаранчыкавай будаўнічай камізэльцы, з кельмай у руцэ ўдае, што кладзе цэглу.*

**Блазан**:

Гарэлкі не дай, лепш на працу цяжэйшую кінь!
Хоць цэглу, хоць кафлю табе пакладзе Мяо Лінь!

**Блазан** падсумоўвае:

Не тыя, з кім бы ты хацеў
Вадзіць сяброўства, братка.
Але як звонку паглядзець –
Прыстойна ўсё і гладка.

*З’яўляецца* **Пробашч:**

Няцяжка змыліцца, на іх пазіраючы доўга,
Паслухайце лепей, што просяць яны ў Пана Бога.

*Героі па-ранейшаму з’яўляюцца па коле, на кожным з іх факусуецца святло, па чарзе выконваюць зонгі-малітвы (па адным чатырохрадкоўі).*

**Любоў Францаўна**:

Дай жа бог, каб экстрэмісты, садаміты, блогеры
Зніклі ў пекле назаўсёды, у смалістым возеры!
На раёне дай спакою, а ў кішэнь мне – грошыкаў,
І пашлі для ўцехі цела пекнага мне хлопчыка.

**Маёр Калода:**

Я слугую ўладзе спраўна, дык зрабі так, божанька,
Каб да пенсіі не сеў я, прыбяры лепш кожнага,
Хто ў мястэчку баламуціць, перабіць мне хоча масць.
Сваякоў маіх пакінь тут, ад спадручных зводзь напасць.

**Марыя-Тэрэза:**

Божэ, зробь, жэбы тутэйшы ксёндз, вшак ласты склеіўшы,
Свентэ месцэ ў хуткім часе дзеля панскай велічы
Саступіў прыродным чынам поляку праўдзіваму,
Што б імшы па-беларуску не спраўляў на дзіва нам!

**Валька-Валіза:**

Навучы мяне малітве, Госпадзе, каб, служачы,
Ад яе і мент, і мытнік паасляплі ў слушны час.
А катэдж, як у начальства, з ладнымі калонамі
Я сама патраплю справіць сцежкамі вядомымі.

**Мяо Лінь:**

Бозе, бозе, дай, каб плітка, што кладу я сёння тут,
Не звалілася да заўтра, не дадала клопату.
Хай трымаецца да часу покуль я не выехаў
Класці плітку ў іншым месцы без трывожных выдыхаў.

**Пробашч** – *прысутным:* За што ж вы так ненавідзіце зямлю, якую вам Бог даў?

**Валька Валіза:** А што нам ад гэтай зямлі харошага? Гандаль задавілі, бізнэсу не зробіш, дурныя праверкі штодня. А гэты, – *паказвае на* **Маёра Калоду,** – зусім з ланцуга сарваўся.

**Маёр Калода:** Далі б мне волю – я б такіх, як ты, Валька, даўно бы ў канцлагер адправіў. Дый не цябе адну.

**Пробашч:** Не гнявіце Нябёсы!

**Любоў Францаўна:** Нябёсы далёка, а начальства блізка – абароніць ад пошасці.

**Мяо Лінь:** Кладу плітку ў ваннай, на кухні, нядорага...

**Пробашч:** Ды лепш з якімі вар’ятамі справу мець, чым з вамі!..

**Блазан** *выносіць да Пробашча чамадан.* **Пробашч** *здымае літургічнае адзенне, вешае на плечыкі, сыходзіць з чамаданам.*

**Блазан** *чапляе за спіну белыя анёлскія крылы, надзяе на шыю тэнар-саксафон, грае праніклёную мелодыю – коду зонга. Прысутныя раскручваюць* **Блазна**, *выкідаюць яго са сцэны за кулісы.*

*З а ц я м н е н н е.*

*Постаць* **Блазна-анёла** *з саксафонам праяўляецца на плазме, ён ідзе вуліцай старога мястэчка, якое выглядае, як здымак 1930-х гадоў.*

## Сцэна другая

Там жа. Б л а з а н, Г е н і к, А л ь б і н а.

**Блазан** – *з-за кулісаў у залу*: Але ж ёсць у нас і такія, хто мараць пра добрае, светлае і вечнае...

*Знікае.*

**Альбіна** *ідзе па сцэне, як па подыуме. На галаве ў яе вялізныя навушнікі. Рухі дзяўчыны рытмічна дублююць нячутную рэпавую музыку. На плазме ў гэты момант выяўляецца энергічны, але бязгучны рэпер на тле сімвалаў “раскошнага жыцця”.*

**Генік** *выбягае следам*: Альбіна! Вярнулася з Мінска? Ну, нарэшце... Колькі разоў мне снілася, што мы зноў гуляем нашымі вуліцамі! А памятаеш, калі летась мы шукалі той зніклы храм, ты таксама пачула...

**Альбіна** *не чуе яго.* **Генік** *падбягае, здымае з* **Альбіны** *навушнікі – рэпер з плазмы знікае.*

**Генік**: Ты не чуеш мяне. А чаму...

**Альбіна** *падхоплівае*: Табе цікава, чаму я змяніла нумар мабільнага, чаму не тэлефанавала ўвесь гэты час? Што рабіла ў Мінску, з кім сустракалася, чым жыла?

**Генік**: Як жа ты змянілася... бы падмянілі!

**Альбіна**: Расплюшчы вочы! Дзе мы жывем? У багне, у гіблым месцы! Толькі ідыёт можа пачувацца тут шчаслівым. Ведаеш, Генік, нікому раней не казала, але табе – скажу. У дзяцінстве мне падавалася, што я нарадзілася ў казачным замку і што мае бацькі, кароль з каралеваю, аддалі мяне ў звычайную сям’ю, каб я лепш разумела сваіх будучых падданых. І што бацькі мусілі абавязкова прысласць за мною каралевіча. Але час йшоў, і я зразумела, што ўсе забыліся на мяне. А яшчэ я зразумела, што пройдзе колькі гадоў – і сама я ператваруюся ў такую сабе Вальку-Валізу ці Любоў Францаўну, у бігудзі і зашмальцаваным халаце. І што мне тады тут рабіць? Па падаткавых бегаць? На “Дажынках” лозунгі прамаўляць?

**Генік**: Бомы слухаць. Званы таго самага зніклага храма, які мы шукалі. Ты ж сама гаварыла, што іх чуеш...

**Альбіна** *перапыняе*: Ды той храм да самога скону можна шукаць! І не знайсці. Ці не прасцей проста жыць сабе на радасць? Раскошны лімузін, шыкоўная віла, сукенкі ад куцюр – што ў гэтым паганага? А яшчэ можна мужыкамі круціць, бы той сабака хвастом! Лепш быць паспяховай сцервай, чым местачковай лузершай!

**Генік**: Сцервай? Ты што, блазнуеш?

**Альбіна** *надзяе на галаву навушнікі.*

*На плазме зноў праяўляецца энергічны, але бязгучны рэпер на тле карцінак “прыгожага жыцця”.*

**Альбіна:** Калі прыкінуцца мілай гламурнай дурай, у цябе куды больш шанцаў знайсці каралевіча. А ты, на вялікі жаль, да каралевіча не падобны... Мілы мой Генік, давай застанемся з табою проста сябрамі... Добра?

**Генік**: Я ўсё адно цябе кахаю, Альбіна. І ты зноў пакахаеш мяне... Абяцаю!

**Альбіна** *паказвае жэстамі, што не чуе. Разыходзяцца ў розныя бакі.*

## Сцэна трэцяя

Там жа. М а р ы я - Т э р э з а, Б а л я с л а ў, Л е ш э к.

*З’яўляюцца* **Баляслаў** і **Лешэк,** *цягнуць скрыню. З грукатам упускаюць яе на нагу* **Лешэку.**

**Лешэк:** О, курва!..

**Марыя Тэрэза** *зварушліва рэагуе на польскую мову.*

**Баляслаў:** Przepraszam, mój kolega mówił to nie do pani. – *Звяртаецца да* **Лешэка**. – Porządny człowiek nie powinien przysięgać!

**Марыя-Тэрэза** *з энтузіязмам*: Врэщце паляцы в мясце!
**Баляслаў** *прадстаўляе спадарожніка:* To jest pan Leszek.
**Лешэк**: To jest pan Boleslav, profesor antropologii.
**Болеслав**: Ale nie trzeba mówić o tym głośno...
**Марыя-Тэрэза:** Co можу zrobić dla Panów?
**Лешэк**: Jesteśmy tajni agenci...
**Баляслаў** *спалохана затуляе рот калегу, шэпча*: Cicho, Panie Leszku, to są Kresy Wschodnie... Чаму нас ў сакрэтнай спецшколе навучалі?
**Лешэк**: Канспірацыі!..
**Баляслаў**: І беларускай мове, – *падкрэслена і артыкулятыўна беларускай мовай да Марыі Тэрэзы:* – Ці не падкажа нам цётачка, дзе тут ёсьцека плябанія? Нам пан пробашч патрэбны...
**Марыя-Тэрэза**: Так вы не паляцы? Курва маць! – *з абурэннем сыходзіць*.

## Сцэна чацвертая

Плошча ў мястэчку. А л ь б і н а, Г е н і к, Г о л а с з плазмы.

*На сцэне* **Альбіна** *з планшэтам у руках. На плазме адзін за адным з'яўляюцца фотаздымкі* **Альбіны** *з Інстаграма ў розных спакуслівых позах. Альбіна нібыта набірае на планшэце ліст.*

**Альбіна**: Любы, выкладаю свае новыя фоты. Спецыяльна для цябе. Яны крыху больш шчырыя, чым мінулым разам. І без ніякага фоташопу. Паспрабуй здагадацца – чаму? – *канчае набор, кажа сама да сябе.* – Таму што вы, мужчыны, прымітыўныя і цалкам прадказальныя істоты... Прынамсі, калі справа тычыцца нас, жанчын! Няважна, хто ты: нобелеўскі лаўрэат ці сантэхнік. Варта крыху пакруціць сцёгнамі, дваіста пасміхнуцца, чулліва ўздыхнуць, і ты, высалапіўшы язык, папаўзеш за мною, бы той кот на валяр'янку! – *паглядае на плазму.* – Дзякуй Богу, нарэшце пашэнціла! Здаецца, прыгожы і шчыры замежнік. Абяцаў нават да мяне ў мястэчка прыехаць. Можа, і не падмане...

*Гучыць зумер, нібыта ў Скайпе.*

**Альбіна**: Ён, ён! – *тыцкае пальцам у экран планшэта.*

*На плазме з'яўляецца выява, нібыта з аўтамабільнага відэарэгістратара. Бачна стырно аўтамабіля, на якім ляжаць рукі мужчыны з зіхоткім дарагім пярсцёнкам. За лабавым шклом шаша падчас руху і зорка "Мерседэса" на капоце.*

**Голас** *з плазмы*: Фоткі атрымаў. Усё, як і дамаўляліся, Альбіначка, еду па цябе!
**Альбіна**: Чакаю, любы, чакаю.
**Голас**: Няўжо сапраўды – любы? Ты ж мяне ніколі не бачыла.
**Альбіна**: Затое ты бачыў мяне. А я і так ведаю, што ты самы прыгожы і імпазантны мужчына ва ўсім Еўразвязе. А яшчэ я ведаю, што ты там самы разумны. Якія пасты ў Фэйсбуку пішаш, проста сапраўдныя паэмы! Нарэшце, змагу свайго прыгажуна і разумніка расцалаваць!
**Голас:** А калі я не такі гжэчны, як ты сабе ўяўляеш?
**Альбіна**: Я чакаю цябе такім, які ты ёсць!
**Голас:** А калі я не такі заможны, як ты лічыш?
**Альбіна:** Багацце – пыл. З тваім розумам мільянерам можна стаць за які месяц!
**Голас:** А калі б я ехаў да цябе не на новым "Мерседэсе"...
**Альбіна** *падхоплівае*: ...а на старых "Жыгулях"? Ды хоць пешкі! Мне не трэба раскошных лімузінаў, шыкоўных віл і сукенак ад куцюр. Я ўсё аддам за каханне да цябе!
**Голас**: То пад'язджаю!

*На сцэну на ровары выязджае* **Генік.**

**Генік**: Сустракай!
**Альбіна**: Ты?..
**Генік**: Ён самы. Той, хто кахае цябе, і каго пакахала ты.
**Альбіна:** Ты... ты... ты... проста туябень !
**Генік:** Але ж пра мае пасты ў Фэйсбуку ты казала інакш.
**Альбіна:** Гэта не ты пісаў, гэта ён. Я яго прыдумала, а ты пад яго падрабіўся, – *паказвае на плазму, дзе машына працягвае рух.* – Яго і пакахала. Сволач, блюзнер, лузер, скаціна бязрогая!.. Ты разбурыў самае святое, ты знішчыў усё, чым я жыла!.. Яшчэ сяброўства яму прапаноўвала... Ты для мяне больш не існуеш!.. Ды каб цябе на могілкі звезлі!..
**Генік:** А я і так там працую.

## Сцэна пятая

Цвінтар за касцёлам. Генік, Маёр Калода. Марыя-Тарэза.

**Маёр Калода** *нецярпліва пазірае на гадзіннік. З'яўляецца* **Генік**.

**Маёр Калода**: Спазняешся, Генік.
**Генік**: На могілкі яшчэ ніхто не спазніўся.
**Маёр Калода**: Напісаў? – *працягвае руку.*
**Генік:** А нашто пакуль яшчэ жывому міліцыянту эпітафія?
**Маёр Калода**: Час цяпер такі. Ідзеш на службу і не ведаеш, чаго праз якую гадзіну чакаць. Ці інфаркт, ці пасадзяць... а то і проста: брык – і на той свет!..
**Генік**: Вось і я пра тое ж, –

Памёр маёр, нявольнік гонару,
У нашых сэрцах жаль і боль,
Нібы злачынцы ходзяць ходырам,
Якім на хвост ты ўсыпаў соль.
Ты пра стабільнасць годна дбаючы,
Закрыў спіною мужнай свет.
Цяпер спакойна спі, таварышу,
Падхопім твой мы пісталет!

**Маёр Калода** *пасля непрацяглага роздуму*: Супадае. Ухваляю, – *забірае паперу, мерыцца сысці.*

**Генік:** А грошы?
**Маёр Калода**: Слухай, Генік... Дзяржава цябе за свае грошы карміла-паіла, вучыла-выхоўвала... І як ты яе аддзячыў? Херам грушы абіваеш. Ты ж універсітэт скончыў, дзетак вучыў... Пакуль з працы не выперлі. І па справе! Усю акругу перакапаў! Я б яшчэ зразумеў, каб ты бульбу выбіраў...
**Генік**: Вы ведаеце, што я шукаю. І знайду. Іншым разам я нават чую, як з-пад зямлі б'юць бомы.
**Маёр Калода**: Ты мне пад дурня не касі! Можа, ты яшчэ мову птушак разумееш? Уладкуйся на працу, як усе нармальныя людзі. Тады і будзеш штомесяц свае грошы праз бухгалтэрыю атрымліваць.
**Генік:** То за эпітафію не заплаціце? Гэта ж цяпер мой хлеб!
**Маёр Калода**: Пасля смерці разрахуемся. Скажы “дзякуй”, што за тунеядства не пасадзіў, – *сыходзіць.*

*З'яўляецца* **Марыя-Тэрэза.**

**Марыя-Тэрэза** *ціха спявае:*

Już tam ojciec do swej córki
Mówi zapłakany:
«Słuchaj jeno, pono nasi
Biją w tarabany».

**Генік**: Дзень добры! Маю прапанаваць пані Марыі-Тэрэзе колькі эпітафій на выбар.

**Генік** *аддае* **Марыі-Тэрэзе** *паперу, тая чытае:*

Пайшла і нігды юж не вернешся, Тэрэза,
Над гробэм твоім ожэл бялый залунаў.
І ў дэшч, і ў снег анёлы граюць паланезы
Шапэн з Міцкевічам за спокуй п'юць да дна.

**Марыя-Тэрэза** *(жахаецца і жагнаецца)*: Esus Maria! Я ж прасіла эпітафію для змерлага прадзядка, а не для мяне!

**Генік:** Настрой такі. Паэты змагаюцца з вечнасцю, і вершы на могілкавым мармуры застаюцца назаўсёды. Можа, па хуткім часе і пані прыдасца. Можаце аплаціць авансам.

**Марыя-Тэрэза**: Юж дала пану паэту аванс за эпітафію для прадзядка.

**Генік**: То, калі ласка, – *працягвае аркуш.*

**Марыя-Тэрэза:**

Ён поляк быў з душой шырокай, быццам крэсы,
Дзе мешкал слаўны пшызвоіты длугі век,
Але пайшоў у дол смяртэльнай куламесы,
Цячэннем гнаны паспалітых шыбкіх жэк.

**Марыя-Тэрэза**: О, свенты Казімеж!

**Генік**: Думаеце, ён напіша лепш за мяне?

**Марыя-Тэрэза**: А дзе пра тое, што наш маёнтак був найлепшы ў цэлым воевудстве?

**Генік**: Але ж пані сама казала, што той маёнтак прадзед проста прафукаў!

**Марыя-Тэрэза**: То быў бардзо шляхетны ўчынак! Мусіў сплаціць картачную пазыку. Дарэчы, пра гэта тэж трэба згадаць у эпітафіі. Хаця вам, беларусам-калгаснікам, нашай польскай гжэчнасці не зразумець.

**Генік** *забірае аркушы ў* **Марыі Тэрэзы**, *дзярэ іх напалам і вяртае.*

**Генік**: То няхай пані пашукае сабе іншага паэта.

## Сцэна шостая

Там жа. Генік, Марыя-Тэрэза, Ваван, Эльбрус.

*Непадалёк з'яўляюцца* **Ваван** і **Эльбрус** *у бутафорскіх казацкіх апранахах,* **Ваван** *вешае на папярэчыну крыжа торбу.* **Эльбрус** *дастае вялікі "касяк".*

**Ваван** *жыццярадасна гарлае*: Любо, братцы, любо! Любо, братцы, жить!.. Эльбрус!.. Посмотри на могилах, может, закуску какую найдешь!..

**Эльбрус** *прыглядаецца да* **Марыі-Тэрэзы** і **Геніка**, *торгае за рукаў* **Вавана**, *паказвае.*

**Эльбрус**: Э-э-э...

**Ваван** – *да* **Марыі-Тэрэзы**: Бабушка! Советский Союз помнишь? Сталина видела? Ди сюда!

**Марыя-Тэрэза** *з жахам паглядае на казакаў, жагнаецца:* Matko boska Częstochowska, zmiłuj się nad nami, a nad Moskalami – jak sobi chcesz! – *уцякае.*

**Ваван** *да* **Геніка:** Братан! Тебе масть поперла! Одеколон уважаешь? – *дастае з торбы садовы апырсквальнік, пафарбаваны на золата.* – Во, "Москва златоглавая"!

**Генік**: Адчапіцеся...
**Эльбрус**: Ваван. Вай, эбель! – *паглядае пытальна на Вавана.*
**Ваван – Геніку:** Ты чё – типа, русофоб? По-человечески говорить не можешь?
**Генік**: Ды я па рознаму магу...
**Ваван**: Закрой глаза, открой рот. Эльбрус! – *мерыцца павесіць садовы распырсквальнік на Эльбруса.*

**Эльбрус** *паварочваецца да крыжа, нібыта расшпіляе нагавіцы.*
**Генік** *дае яму выспятка.* **Эльбрус** *падае на карачкі.* **Генік** *наводмаш б'е* **Вавана** *і ўцякае.*
**Ваван** і **Эльбрус** *глядзяць адзін на аднога.*

**Эльбрус:** Кізяк хана!
**Ваван:** Ты прав, братан: такое спускать нельзя!
**Ваван, Эльбрус** *бягуць следам за* **Генікам**. **Ваван** *на хаду распыляе адэкалон.*

## Сцэна сёмая

Санктуарый пры касцёле. Генік, Баляслаў, Лешэк, Голас з апарата-канвектара.

**Генік** *забягае ў санктуарый, дзе на плечыках вісіць літургічнае адзенне* **Пробашча***, кленчыць перад укрыжаваннем, моліцца.*

**Генік:** Магутны Божа, чуеш мяне?.. Цяпер ты разумееш, што такое наша мястэчка? Ну чаму ты нарабіў тут столькі паскудства?!.. Чаму замінаеш прыстойным людзям жыць, чаму плодзіш розную брыдоту, чаму насылаеш розную набрыдзь?!.. Ведаеш, Божа, прачынаюся я штораніцы і на цябе наракаю: і чаму я ў гэтай Беларусі нарадзіўся? Ну хіба ты не мог распарадзіцца, каб бацькі мае былі якімі амерыканцамі, ці французамі, ці ірландцамі?! А потым гляджу на нашу зямлю, згадваю велічны храм, што калісь тут стаяў, і думаю: дзякуй табе, Божа, што стварыў мяне тым, кім я ёсць. Але жыццё тут становіцца зусім невыноснае. Хоць уцякай... але ж чаму я мушу са сваёй зямлі ўцякаць? Божа, ты ж умееш цуды рабіць!.. То зрабі, каб уся гэтая навалач адсюль пасыходзіла, каб нам дыхалася лягчэй, каб...

*За сцэнай гучаць галасы* **Вавана** і **Эльбруса**.

*Голас* **Эльбруса**: Сэкир башка!..
*Голас* **Вавана**: Урою козла!..

*Гук крокаў.* **Генік** *азіраецца, мерыцца схавацца, не знаходзіць прыдатнага месца, бачыць літургічнае адзенне, пакінутае ксяндзом, паспешліва накідае.*
*У санктуарыі з'яўляюцца* **Баляслаў** з **Лешэкам***, асцярожна заносяць скрыню, заўважаюць* **Геніка** *ў літургічным адзенні.*

**Баляслаў**: Пан пробашч? Вітаю! Ані слова па-польску!
**Лешэк** *злякана азіраецца*: Тут паўсюль КГБ!
**Генік**: Ды я, панове...
**Баляслаў**: Ведаем, што пан – не іх таемны агент.
**Лешэк**: А вось мы з панам прафесарам антрапалогіі праўдзівыя агенты, але ж не КГБ, а...
**Баляслаў** *затуляе* **Лешэку** *рот далонню*: Пан пробашч, буду шчыры: наша арганізацыя настолькі сакрэтная, што нават не мае назвы.
**Лешэк**: Але мае мэту!
**Генік** *ачмурэла*: Прабачце...
**Баляслаў** *і* **Лешэк** *разам*: Карта паляка!

*Танец* **Баляслава** і **Лешэка** *вакол ачмурэлага* **Геніка**, *гучыць іх зонг-дуэт.*

Дзе паляк, там і касцёл.
Дзе касцёл – спрадвеку Польшча.

Што ж вы рады не дасцё
Тут, на крэсах, помніць больш, чым
Варта памятаць заўжды
Наўскасяк віхуры ўсякай?
Але ўсё ж – тае бяды!
Карта выручыць паляка!

Карта паляка – беларуская мара!
Карта паляка – будзьма ў касце абраных!
Карта паляка – еўрапейскасці метка!
Карта паляка – гэта твой выбар, дзетка!

Нашы людзі тут і там.
Што вас цягне да пальшчызны,
Нецікава сёння нам,
Нас цікавіць вынік існы:
Кожны пан эрзац-паляк –
Грош да скарбу ўплываў польскіх
Грош – сляза, пусты мядзяк,
Ды калі іх шмат, то слёзкі

Золатам статнуць. Выкшталцоная мара!
Золата ў стане далучыць да абраных!
Золата ў стане адамкнуць дзверы й сэрцы!
Золата ў стане людскай пыхай сагрэцца!

**Баляслаў**: А да каго тут, у мястэчку, звяртацца са сваёй прапановай, як не да ксяндза?..

**Генік** *глядзіць на скрыню:* А гэта...

**Баляслаў**: ...гэты апарат перавыхавае самага маргінальнага беларуса ў найпраўдзівейшага шляхотнага паляка!

**Лешэк** *распакоўвае скрыню*: ...можа аднаўляць з нябыту патрэбныя сведчанні і ўспаміны...

**Баляслаў**: ...умее бачыць, чуць, пераконваць, ствараць спакусы, ад якіх нельга адмовіцца і перайначваць гісторыю...

**Лешэк**: Нават прадказваць будучыню!..

**Генік:** І вы прапануеце мне... гэтым займацца? А ці не пайсці вам, шаноўнае паньства, разам з вашым апаратам самі ведаеце куды?!

**Бяласлаў**: Мэта заўсёды апраўдвае сродак!

**Лешэк**: Не ўсё так страшна, пан ксёнз! Вы ж яшчэ не бачылі, як той апарат працуе.

**Голас з апарата-канвектара**: Асцярожна, панове! За намі могуць сачыць...

**Баляслаў**: Мы яшчэ пабачымся!

**Лешэк**: Плёну!

**Лешэк** і **Баляслаў** *сыходзяць на дыбачках.*

## Сцэна восьмая

Мястэчка, плошча. Марыя-Тарэза, Валька-Валіза, Мяо Лінь, Альбіна, Маёр Калода, Блазан.

**Валька-Валіза** *з вялізнай клятчастай торбай, гандлюе трантамі. Каля яе –* **Марыя-Тэрэза, Мяо Лінь** і **Альбіна.**

**Альбіна**: Хачу такое ж самае, толькі са стразамі!

**Валька-Валіза**: Няма. Купляй беларускае!

**Марыя-Тэрэза**: У пані Валянціны ўсё такое нясціплае, маладзёжнае... Мне, пенсіянерцы, у такім не проста да касцёла – на вуліцы з'явіць се сорамна! Дый задрого...

**Валька-Валіза**: Сціплага захацелася? Задорага, кажаш? Ідзі, бабка, у краму “Рытуал” для нябожчыкаў – там ўсё і сціплае, і таннае!

**Мяо Лінь** *прыкладае да сябе вопратку*: Саўсем вялікі. А паменей няма?

**Валька-Валіза**: Ты, драбяза вузкавокая, замест свайго рысу лепш бы бульбу са шкваркамі наварочваў! Тады і вылюднееш!..

*На плазме з’яўляецца* **Блазан***: канфедэратка, мундзір Другой Рэчыпаспалітай, бутафорскія ўзнагароды, за спінай – гусарскія крылы. Раскідае ўлёткі. Паперкі сыплюцца з-пад штанкетаў. Усе іх ловяць і чытаюць.*

**Валька-Валіза**: Да жыхароў мястэчка...

**Марыя-Тэрэза**: ...адчыняецца “Школа паляка”...

**Альбіна**: ...усім выпускнікам гарантуецца атрыманне адпаведнай карты...

**Мяо Лінь**: ...якая дае шмат ільготаў, выгодаў і перавагаў...

**Валька-Валіза, Марыя-Тэрэза, Альбіна** і **Мяо Лінь** *спяшаюцца ў “Школу паляка”. З’яўляецца* **Маёр Калода***, падымае ўлётку, чытае.*

**Маёр Калода**: Дык гэта ж... экстрымізм!

## Сцэна дзявятая

Санктуарый пры касцёле. Г е н і к, А н ё л, В а л ь к а - В а л і з а, М а р ы я - Т э р э з а, А л ь б і н а, М я о Л і н ь.

**Генік** *каля скрыні, уважліва яе аглядае, потым падыходзіць да ўкрыжавання, глядзіць на яго запытальна.*

**Генік**: Магутны Божа, я цябе пра што прасіў? Каб ты распарадзіўся ўсю дрэнь з нашага мястэчка папрыбіраць. А ты што зрабіў? Новую брыдоту сюды наслаў! Ну, і што мне цяпер з гэтым апаратам рабіць? Выкіну я яго на хрэн! – *б’е нагой па апараце-канвектары.*

*У гэты момант уключаецца плазма. На ёй* **Блазан** *у анёльскім абліччы, падносіць да вуснаў саксафон, каротка грае нешта, падобнае да прамоўленай фразы.*

**Генік**: Што?.. Я мушу гэтым заняцца?..

**Блазан** *грае сцвярджальную музычную фразу.*

**Генік**: Ды ў нашым мястэчку ніякіх палякаў зроду не было!

**Блазан** *грае кароткую фразу.*

**Генік:** Але нашто тады іх штучна пладзіць?

**Блазан** *адказвае музычнай фразай.*

*У гэты момант дзверы санктуарыя адчыняюцца, і ў памяшканне ўвальваюцца* **Валька-Валіза, Марыя-Тэрэза, Альбіна** і **Мяо Лінь.**

**Валька-Валіза**: Карта паляка?

**Марыя-Тэрэза:** Карта паляка!

**Альбіна**: Карта паляка?

**Мяо Лінь**: Карта паляка!

*Гучаць зонгі.*

**Валька-Валіза**:

З гэтай картай кіну транты
І займуся кантрабандай.
Навару на цыгарэтах
На катэдж, раней апеты...

**Марыя-Тэрэза**:

В гловах прох і мешкавіна
Хамы ўсё бялорусіны.
Бэз гісторыі, культуры,
Тылко цёнг калхозных бздураў.

**Альбіна**:

У Варшаву я паеду –
Дакажу сабе і свету,
Што кахаць паляка варта,
Раз тут швах. Ратуй жа, карта!

**Мяо Лінь**:

Сёння тут, а заўтра ў Польшчы.
Будзе там заробак большы,
Бо не п'ю на цяжкай працы.
Час прыспеў валіць кітайцу!

**Валька-Валіза, Марыя-Тэрэза, Альбіна** і **Мяо Лінь** *абступаюць* **Геніка.**

**Валька-Валіза** – *да* **Геніка,** *з павагай*: Школа паляка – твой бізнэсовы праект?
**Марыя-Тэрэза** – *да* **Геніка**, *з пашанай*: Пан могілкавы паэт нарэшце адчуў свае польскія карані?
**Альбіна** – *да* **Геніка,** *з'едліва*: Вырашыў прамяняць беларускіх нябожчыкаў на жывых палякаў?
**Мяо Лінь** – *да* **Геніка**, *цікаўна:* А карміць у вашай школе будуць?
**Генік:** Заўтра – першы занятак. Пра ўсё і дазнаецеся...

## Сцэна дзясятая

Мястэчка, ноч. Ваван, Эльбрус, Любоў Францаўна, Генік.

*Санктуарый, на плазме выява шыльды "Szkoła podstawowa dla Polaków-neofitów". З'яўляюцца* **Ваван** *і* **Эльбрус**.

**Ваван** *глядзіць на шыльду, прамаўляе трагічна і пафасна*: И это – на нашей исконно земле... Значит, пока мы возрождали великую империю, за которую наши деды кровь проливали, эти неблагодарные белорусы без спросу в Европу намылились?
**Эльбрус**: Кызыл билять!
**Ваван**: Ты прав, Эльбрусик! Бензином их, русофобов, бензином... Спички есть?

**Ваван** *выцягвае каністру.*
*З'яўляецца* **Любоў Францаўна,** *падазрона глядзіць на* **Вавана** *з каністрай.*

**Любоў Францаўна**: Што тут абдываецца?
**Ваван**: Так, это... Типа гуляем. То есть патрулируем.
**Любоў Францаўна** *падазрона паглядае на каністру, прынюхваецца:* А там што?
**Эльбрус**: Шайтан-вада!..
**Любоў Францаўна** *цалкам задаволеная адказам*: А-а-а... Ну, у вас яшчэ і не такое п'юць!...
**Ваван** *і* **Эльбрус** *сыходзяць.*

*Дзверы санктуарыя адчыняюцца, на парозе з'яўляецца* **Генік.**

**Генік**: Што тут здарылася?
**Любоў Францаўна**: Нічога. Але, калі б я не прыйшла – тады б здарылася напэўна!
**Генік**: Вы прыйшлі прачытаць мне лекцыю пра дзяржаўную ідэалогію?
**Любоў Францаўна** *з нечаканай гарэзлівасцю адбымае* **Геніка**: Ах ты маё маладое

і брыдкае!.. Я прыйшла цябе ўратаваць... Ну, хто ж так робіць? – *паказвае на надпіс на плазме, відавочна заляцаецца.* – Усярэдзіну пусціш? – *праходзіць у санктуарый.*

*Зацямненне.*

## Сцэна адзінаццатая

Санктуарый, у якім месціцца "школа паляка". Блазан, Генік, Валька-Валіза, Мяо Лінь, Марыя Тэрэза.

*З цемры праяўляецца* **Блазан***, апрануты, нібы камандзір партызанскага атрада: "кубанка" з чырвонай паскай, кажух, перацяты кулямётнымі стужкамі, побач – аўтамат ППШ.* **Блазан** *каля Вечнага агню, побач – дзве кардонныя постаці піянераў аддаюць салют.*
*На плазме з'яўляюцца цітры: Адам Міцкевіч, "Дзяды", следам ідуць краявіды старых могілак з палётам начных птушак.*
*З плазмы гучыць хор:*

Ciemno wszędzie, głucho wszędzie,
Co to będzie, co to będzie?

**Блазан** *акампануе на гармоніку, на манер Гусляра з "Дзядоў" спявае:*

Zamknijcie drzwi od kaplicy
I stańcie dokoła truny;
Żadnej lampy, żadnej świécy,
W oknach zawieście całuny.

*З плазмы гучыць хор, рэфрэн:*

Ciemno wszędzie, głucho wszędzie,
Co to będzie, co to będzie?

*З гары спускаюцца на арэлях* **Мяо Лінь** *і* **Альбіна***, апранутыя як піянеры-героі з савецкіх школьных стэндаў "Ніхто не забыты, нішто не забытае". За спінамі іх белыя анёльскія крыльцы.*

**Мяо Лінь** *спявае:*

Do mamy lecim, do mamy.
Cóż to, mamo, nie znasz Józia?
Ja to Józio, ja ten samy,
A to siostra moja Rózia.

*Альбіна падхоплівае:*

Patrz, jakie główki w promieniu,
Ubiór z jutrzenki światełka,
A na oboim ramieniu
Jak u motylków skrzydełka.

*З супрацьлеглага боку сцэны падыходзіць* **Валька-Валіза***, апранутая партызанскай санітаркай: торбачка з чырвоным крыжам, кабура на баку.*

**Валька-Валіза** *спявае:*

Mąż mój już na tamtym świecie,
Córkę zabrałeś do dwora,
Matka w chacie leży chora,
Przy piersiach maleńkie dziecię.
З плазмы гучыць хор, рэфрэн:
Ciemno wszędzie, głucho wszędzie,
Co to będzie, co to będzie?

**Блазан** *спявае, акампануе на гармоніку:*

Wszelki duch! jakaż potwora!
Widzicie w oknie upiora?

Jak kość na polu wybladły;
Patrzcie! patrzcie, jakie lice!

*На сцэне з'яўляецца* **Маёр Калода** *з улёткай у руцэ. Музыка змаўкае.*

**Маёр Калода**: Та-а-ак... Несанкцыянаванае зборышча? – *аглядае прысутных.* – Гэта што за балаган?

*У светлавым коле пражэктара праяўляецца Генік, які сядзіць у фатэльчыку з выглядам рэжысёра.*

**Генік**: Ставім патрыятычную п'есу, прысвечаную юбілею вызвалення нашага мястэчка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Маёр Калода** *паказвае на пераапранутых партызанамі* **Мяо Ліня, Альбіну** *і* **Вальку-Валізу**: А гэта хто?

**Генік**: Душы герояў-партызан, якіх фашысты закатавалі.

**Маёр Калода:** А чаму ўсё па-польску?

**Генік**: Дык мы ж з палякамі цяпер сябруем! А неўзабаве – месячнік беларуска-польскай дружбы. Вось дазвол начальніцы ідэалагічнага аддзела, – *выцягвае з-пад шапкі паперку.*

**Маёр Калода** *ўважліва чытае, потым аглядае прысутных:* Супадае...

## Сцэна дванаццатая

Санктуарый, у якім месціцца "школа паляка". Генік, Мяо Лінь, Баляслаў, Лешэк, Голас з апарата-канвертара.

*На сцэне агрэгат-канвертар. З'яўляюцца* **Баляслаў і Лешэк**. *Спыняюцца перад уяўнымі дзвярыма.* **Лешэк** *мерыцца адразу іх адчыніць.* **Баляслаў** *спыняе яго.*

**Балялсаў**: Każdy porządny czlowik musi zapukać przy wejściu do sanktuarium, – *далікатна стукае ў дзверы.* – Puk, puk, puk.

*Адказу няма. Уваходзяць.* **Баляслаў** *з* **Лешэкам**. **Лешэк** *аглядаецца.*

**Лешэк**: Пан прафесар! Агентаў КГБ не выяўлена.

**Баляслаў** *выглядае гаспадара:* Пан пробашч!

**Лешэк**: Гэта мы!

*З-за агрэгата падымаецца* **Генік**.

**Баляслаў**: Як там наша справа?

**Генік**: Першы набор у школу палякаў-неафітаў паспяхова завершаны. Ідзе навучанне.

**Баляслаў**: Ці не будзем мы замінаць сваёй прысутнасцю на занятках?

**Генік** *кліча*: Następny!

*З'яўляецца* **Мяо Лінь.**

**Генік** *прадстаўляе:* Першым у палякі папнуўся. Аднак, поспехі навідавоку. Можаце праэкзаменаваць.

**Балясласлаў**: Kto ty jesteś?

**Мяо Лінь:** Polak mały.

**Лешэк**: Jaki znak twój?

**Мяо Лінь**: Orzeł biały.

**Баляслаў**: Gdzie ty mieszkasz?

**Мяо Лінь**: Między swemi.

**Лешэк**: A w co wierzysz?

**Мяо Лінь**: W Polskę wierzę.

**Баляслаў**: Wspaniale!

**Лешэк** *апладуе.*

**Баляслаў**: А цяпер няхай пан Мяо прамовіць сімвал веры праўдзівай – польска-каталіцкай.

**Мяо Лінь**: Веру ў польскую кельму, польскі адвес і ў польскія грошы.

**Баляслаў:** Пан Мяо не ест ешчэ католікем? То пан пробашч мусіць неадкладна ахрысціць новага польскага патрыёта.

**Баляслаў** *з* **Лешэкам** *удвох накідаюць на* **Геніка** *літургічнае адзенне.*

**Генік:** Хм, хм... – *паляпвае далонню па агрэгаце.*

**Голас**: Ён не можа.

**Генік:** Так. Не магу.

**Баляслаў**: Чаму?

**Голас:** Не мае права.

**Генік**: Так. Не маю.

**Баляслаў** *да* **Мяо Ліня**: А што пан такога зрабіў?

**Генік**: Нічога. Гэта я зрабіў, – *здымае літургічнае адзенне.* – Адбылося прыкрае непаразуменне. Ніякі я не ксёндз.

**Лешэк** *у жаху:* Агент КГБ!

**Баляслаў**: Здаемся.

*Абое выцягваюць рукі, нібыта падстаўляюць іх пад кайданкі.*
**Мяо Лінь** *паціху знікае.*

**Генік**: Супакойцеся. Я звычайны хлопец. Гэта вы першыя назвалі мяне ксяндзом. Забірайце свой апарат.

**Баляслаў** *хапаецца за галаву:* Справа ўсяго жыцця!..

**Лешэк**: І ўсё ў дупу!

**Баляслаў** з **Лешэкам** *абдымаюцца і рыдаюць, як малыя дзеці. Нечакана аджывае апарат-канвертар.*

**Голас**: Панове таемныя агенты. Якія праблемы? Пан прафесар антрапалогіі прагне навярнуць у пальшчызну гэтае мястэчка?

**Баляслаў**: Oczywiście!

**Голас:** Гэты цудоўны маладзён тым і займаецца, – *звяртаецца да* **Лешэка**. – Пан Лешэк марыць, каб тутэйшыя беларусы кінуліся па карту паляка?

**Лешэк:** Owszem!

**Голас**: Вашыя мары здзяйсняюцца самым найлепшым чынам.

**Лешэк** *радасна*: Kurwa!

**Баляслаў**: A on ma rację, pan Hienik, – *энергічна паціскае руку* **Геніку**. – Jeszcze Polska nie zginełam póki my żyjemy. Następny!

## Сцэна трынаццатая

Там жа. Генік, Баляслаў, Лешэк, Любоў Францаўна, Голас з апарата.

*Заходзіць* **Любоў Францаўна**.

**Любоў Францаўна**: Następna, proszę pana.

**Генік** *прадстаўляе*: Любоў Францаўна. Ідэйная палячка. А тое, што працуе загадчыцай ідэалагічнага аддзела – канспірацыя, вы ж самі разумееце.

**Любоў Францаўна**: Я свядома зрабіла свой выбар, – *заляцаецца да Геніка.* – Праўда, маё маладое і брыдкае?

**Генік**: А я яшчэ – не.

**Баляслаў**: Канспірацыя ў нашай справе перш за ўсё.

**Лешэк**: Час такі.

**Любоў Францаўна**: У дзяржаўнай ідэалогіі самае галоўнае – выдаць чорнае за

белае. Ці хаця б за зялёнае. Вось і я, як галоўны ідэолаг мястэчка, выдала дазвол на існаванне школы паляка-неафіта пад выглядам самадзейнага народнага тэатра.

**Генік**: Нават ваш апарат, пан прафесар, мы зарэгістравалі як прыстасаванне для вытворчасці тэатральнага рэквізіту.

**Голас**: Працую паводле праграмы.

*На плазме ўзнікае студыйны фотаздымак, на якім падмалоджаная* **Любоў Францаўна** *побач з мужчынам у савецкай ваеннай форме.*

**Любоў Францаўна**: Ой, гэта ж мы з таткам, калі ён служыў у Польскай Народнай Рэспубліцы! Тады акурат "Салідарнасць" супраць нас бунтавала...

**Лешэк**: З такім здымкам у консулят па карту паляка лепш нават і не пнуцца.

**Баляслаў** з **Лешэкам** *удаюць, што спрабуюць выцягнуць здымак з апарата.*

**Голас**: Хвілiначку цярпення, панове.

*На плазме са здымкам адбываецца трансфармацыя. Савецкая форма ператвараецца ў польскую міжваенных часоў. На падмалажанай* **Любові Францаўне** *з'яўляецца модны капялюшык з вэлюмам і карункавыя анталяжы. Праяўляецца штамп "Witaty z Nowogródku. 1936".*

**Голас**: Прадзед і бабуля Любові Францаўны.

**Баляслаў**: Палякі на ўсе сто адсоткаў!

**Лешэк**: І, што характэрна – аніякага шалберства, махлярства і адвядзення зроку!

**Генік**: Падробкі заўсёды лепшыя за арыгінал, бо ствараюцца па канкрэтных замовах для канкрэтных нагодаў.

**Любоў Францаўна:** І я, як загадчыца ідэалагічнага аддзела, гэта пацвярджаю.

**Баляслаў**: Працуем, панове. Następny!

**Любоў Францаўна** *сыходзіць.*

## Сцэна чатырнаццатая

Там жа. Генік, Альбіна, Баляслаў, Лешэк, Голас з апарата.

*Уваходзіць* **Альбіна.**

**Генік:** Наша наступная вучаніца. Верыць у незвычайнае. Кахае невядомае. Марыць пра цуд.

**Альбіна:** На сябе, туябень, паглядзі.

**Голас**: Дарэчы, нашто панне спатрэбілася карта паляка?

**Альбіна:** Як гэта нашто? Ён мяне ў Варшаве чакае. Я гэта ведаю дакладна.

**Генік:** Цяжкі выпадак.

**Альбіна**: Лузерам слова не давалі, – *і да апарата.* – Хоць вы мне верыце?

**Голас**: Каб падобны цуд спраўдзіўся, адной моўнай практыкі мала. Трэба валодаць і мовай цела. Пераходзім да наступнага ўроку. Уявіце сабе, што Генік і ёсць той самы каханы.

**Альбіна:** Што?! Вось гэты?

**Голас:** Я кажу, уявіце.

**Генік**: Я гатовы.

**Голас**: Вы на традыцыйным балі ў Лазенках, і ён запрасіў вас на танец. Танга!

**Генік** *падае руку* **Альбіне.** *Яны танчаць. Падчас танца Альбіна робіць здымкі-сэлфі. Гучыць зонг-дуэт.*

**Альбіна** *відавочна цвеліць* **Геніка:**

Герой маіх сноў –  
Пан заможны і гжэчны.  
Варшаваю зноў  
Трызню ў хвалях сардэчных.

**Генік**:

Навошта табе
Трэба тая Варшава?
Ці час не прыспеў,
Каб сабою ты стала?
Вяртайся дамоў,
О, гламурная козка!
Тынкоўку далоў –
Ты красуня й без лоску.

**Баляслаў** з **Лешэкам** *падпяваюць*:

А сонца смяецца з-за хмараў.
Якая цудоўная пара!

**Альбіна**:

Мяне не гані,
Не прыдумвай нагоды.
Ты нават не сніў
Маіх вуснаў лагодных.

**Генік**:

Здараюцца сны,
Абрынаецца ява.
Чым вусны адных
Лепш за іншых ласкавасць?
Ці ў вуснах тваіх
якаясь прынада?
Адзін хіба штрых –
Пошлы колер памады.

**Баляслаў** з **Лешэкам**:

А сонца смяецца з-за хмараў.
Якая цудоўная пара!

**Альбіна:**

А ты пакаштуй
І не зможаш забыцца
На губ смакату,
Што як мёд заіскрыцца.

**Генік:**

А што мне той мёд?
Мёд бывае і штучным.
І мноства гаркот
Ў яго смаку дакучных.
Фальшывая ты,
Несапраўдная цалкам.
Ад мараў сляды,
Што гарэлі так ярка...

**Баляслаў** з **Лешэкам:**

А сонца смяецца з-за хмараў.
Якая цудоўная пара!

**Альбіна** *пераканаўча*: Мілы. Табе не падабаецца мая касметыка? Я змыю яе. Толькі не праганяй. Я ўсё зраблю, як ты скажаш, бо я кахаю цябе, кахаю...

**Генік** *верыць пачутаму:* Альбіна, ды няўжо... – *імкнецца да дзяўчыны.*
**Альбіна**: Купіўся на надзвычайнае, лузер? – *кпліва смяецца і адштурхоўвае яго.*

## Сцэна пятнаццатая

Плошча ў мястэчку. В а в а н, Э л ь б р у с.

**Ваван** і **Эльбрус** *сядзяць на кукішках, як класічныя гопнікі, побач з лавачкай. Моўчкі лузаюць семкі. Раптоўна* **Ваван** *аджывае.*

**Ваван** *жыццярадасна гарлае*: Едут, едут по Берлину наши казаки... Алё, Эльбрусик, ты в Берлине был?
**Эльбрус**: Э-э-э... – *гучыць з адмоўнай інтанацыяй.*
**Ваван**: А в Варшаве?
**Эльбрус**: Э-э-э...
**Ваван**: Будем, Эльбрусик, будем. Сапог чудо-освободителя повсюду свой след оставит. И над Варшавой наш флаг водрузим, и на Рейхстаге распишемся, и с Эйфелевой башни поссым.
**Эльбрус** *з ухвальнымі інтанацыямі:* Э-э-э...

*Зноў моўчкі сядзяць, лузаюць семкі.*

**Ваван**: Эльбрус, ты в школу ходил?
**Эльбрус:** Э-э-э...
**Ваван:** Мел видел? – *падае Эльбрусу школьную крэйду.*

**Эльбрус** *нюхае крэйду, спрабуе яе на зуб.* **Ваван** *спыняе яго.*

**Ваван:** Идешь по улице. Видишь дверь. Ухо приложил, послушал. Если по-нашему говорят, дальше идешь. А если не по-русски, мелом отмечаешь.
**Эльбрус**: Э-э-э?..
**Ваван**: Это чтобы долго не искать, когда наши придут. Освободительный поход начинаем отсюда. Иначе они нам нож в спину воткнут. Задание понял? Выполняй, – *паказвае на ўмоўныя дзверы.*
**Эльбрус** падыходзіць да ўмоўных дзвярэй, прыкладае да іх вуха.
**Эльбрус:** Тарабар сарай! – *піша на дзвярах касы крыжык, рэфлекторна дадае да яго літару «У», мерыцца пісаць далей.*
**Ваван** *хапае яго за руку:* Только крестик, дальше не надо.
**Эльбрус**: Э-э-э?
**Ваван**: А то еще сотрут... – *спявае.* – Едут, едут по Берлину наши казаки...

**Ваван** з **Эльбрусам** *сыходзяць.*

## Сцэна шаснаццатая

Санктуарый, у якім месціцца “школа паляка”. Г е н і к на сцэне, Г е н і к на плазме, Б л а з а н у анёльскім абліччы

**Генік на сцэне** *круціць пустую шкляную пляшку на падлозе, у паўзах чытае сваю ўласную вершаваную эпітафію.*

Зірні, падарожнік, на гэты капец –
Тут Генік ляжыць-спачывае.
Той Генік быў чоткі тутэйшы хлапец,
Ды збэшчаны злёг да Кашчавай.

**Генік на плазме**: Ты дурны, ці што? Надумаўся... Магіла – чорныя вошы! Табе ж сам Анёл-абаронца сказаў, што ты мусіш той “Картай паляка” заняцца. Ты ж Боскую волю выконваеш! То што не так?

**Генік на сцэне:** Сам пачынаю верыць, што карта паляка можа змяніць жыццё да лепшага. Вядома ж, спакуса, але...

**Генік на плазме**: Пачакай, пачакай... А вось гэта добрая думка! Ты ж малады і разумны хлопец. Няма нічога немагчымага. З'едзеш адсюль, з цягам часу станеш заможным гжэчным варшавякам. І тады Альбіна – твая.

**Генік на сцэне**: Прапануеш мне здрадзіць...

**Генік на плазме**: Ат, якія мы пафасныя! У душу тваю ніхто не лезе – можаш заставацца самім сабою. Кавалак пластыка цябе ўсё адно не зменіць. Падумай. Хіба Альбіна гэтага не вартая?

**Генік на сцэне**: Ды валі ты сам ў сваю Польшчу.

**Генік на плазме**: І звалю. Вось толькі карту паляка атрымаю.

**Генік на сцэне**: Падлюка! Здраднік! А як жа храм, які пад зямлю сышоў? Як жа званы, якія ты штодня чуеш?

**Генік на плазме**: А нашто табе той храм? Не шукай таго, чаго не існуе – здаравейшым будзеш. Ну ўсё, я па карту паляка...

**Генік на сцэне**: Не пасмееш.

**Генік на плазме**: Я? Лёгка. Ты як хочаш, а я пайшоў.

*Плазма выключаецца.*

**Генік на сцэне**: Стой! – *бяжыць.*

*На сцэне праяўляецца* **Блазан** у анёльскім абліччы, *грае сумную мелодыю.*

## Сцэна сямнаццатая

Санктуарый, у якім месціцца "школа паляка". Б а л я с л а ў, Л е ш э к, Л ю б о ў Ф р а н ц а ў н а, М а р ы я - Т э р э з а, А л ь б і н а, В а л ь к а В а л і з а, М я о Л і н ь, П о с т а ц ь на плазме.

*Сцэна аздоблена польскай патрыятычнай атрыбутыкай. З'яўляюцца* **Баляслаў** *і* **Лешэк**. *У* **Лешэка** *на шыі барабан, як у харцара. У* **Баляслава** *пад пахай стос бутафорскіх вялікіх карт паляка. Збоку апушчаны памежны шлагбаўм.*

**Баляслаў** *выклікае*: Pani Lubou... Pani Maria Teresa... panna Albina... pani Walancina... pan Miao...

*Названыя выходзяць, становяцца ў шэраг. Выхад кожнага* **Лешэк** *суправаджае барабанным дробам, бы на страце.*

**Баляслаў**: Pani, panowie. Dziś jest najszczęśliwszy dzień w moim życiu. Wreszcie będę mógł mianować Państwa rodakami. Wszyscy zasługujecie na Kartę Polaka. Ale jest jeszcze mała formalność. Każdy z was musi uroczyście zrzec się Białorusi.

**Альбіна**: Czy to jest konieczne, Panie Profesorze?

**Баляслаў**: A czy to jest takie trudne?

**Баляслаў** *падыходзіць да* **Мяо Ліня.**

**Мяо Лінь** – *жвава:* Zrzekam się Białorusi. Zrzekam się Białorusi...

**Баляслаў**: Wystarczy.

**Мяо Лінь** *убок*: Gdzie jest Chińczyk, tam są Chiny.

**Баляслаў** *вешае яму на шыю карту паляка, пераходзіць да* **Марыі-Тарэзы**. *Зноў гучыць барабанны дроб.*

**Марыя-Тэрэза** *няўпэўнена*: Ja też zrzekam się Białorusi – *і ў бок.* – Jestem i bez tej karty Polką, tylko że kresową.

**Баляслаў** *вешае ёй на шыю карту паляка, пераходзіць да* **Любові Францаўны**.

**Любоў Францаўна**: Jak mus to mus. I ja się zrzekam. Але застаюся загадчыцай ідэалагічнага аддзела!

**Баляслаў** *вешае ёй на шыю карту паляка, пераходзіць да* **Альбіны.**

**Альбіна**: Ja też się zrze... ja zrze ... – *не ў стане прамовіць слова,* – прабачце, не магу, – *плача.*

**Баляслаў**: Swietnie rozumiem panny łzy radości, – *вешае* **Альбіне** *на шыю карту паляка.*

**Валька-Валіза**: Ха, знайшла з-за чаго перажываць!.. Ну, сказала бы “выракаюся”, карона не ўпадзе, дый беларускі пашпарт пры табе застаецца!.. Тым больш, што вашу Беларусь на хлеб не намажаш... Zrzekam się, zrzekam!..

**Баляслаў** *вешае ёй на шыю карту паляка.*

*Усе, хто атрымаў карты паляка, шнуруюцца, як вязні.* **Лешэк** *выбівае на барабане дроб, як перад стратай, дроб гучыць усё страшней. Далейшыя падзеі перадаюцца таксама праз пантаміму. На плазме з’яўляецца сілуэт у капюшоне, твару не відно, відны адно рукі. У кожнай руцэ – па крыжавіне з ніткамі, як у лялькавода ў тэатры марыянетак, прытым на нітках цяпер і рукі ўсіх прысутных, якія сінхронна торкаюцца, бы лялькі.*

*“Вязні” адзін за адным пачынаюць мычэць, усё мацней і мацней, нібы стараюцца перакрыць пошчак барабана. Нарэшце мычэнне пераходзіць у нямую мелодыю паланэза Агінскага “Развітанне з Радзімай”.*

**Лешэк** *падымае шлагбаўм, робіць запрашальны жэст. Усе сыходзяць са сцэны.*

### Сцэна васямнаццатая

Могілкі. Марыя-Тэрэза. Прадзед у плазме.

**Марыя-Тэрэза** *з рыдлёўкай у руках падымае шлагбаўм, выходзіць на могілкі, спыняецца перад магілай прадзеда, звяртаецца да фотаздымка* **Прадзеда** на плазме.

**Марыя-Тэрэза**: Дрогі прадзядэк, іле разоў у снах сваіх я біла турак пад Веднем поруч з Янам Сабескім!.. Дапамагала Шапэну пісаць яго паланэзы!.. І труцілася радыем замест Складоўскай-Кюры!.. А ты патшыл на мяне з нашэго польскего раю і цешыл се. І я цешыла се, як у Польшчу ехала. Толькі ў Варшаве сказалі мне, што і муй ензык польскі няправільны, і што такіх палячак, як я, венцэй не робяць. А таму, дрогі прадзядэк, я раскапаю тваю магілу, дастану твае косткі і прад’яўлю, як доказ пальшчызны, тым недаверлівым варшавякам. А потым перапахаваю ў роднай польскай зямельцы. Бо мы, чыстакроўныя поляцы, мусімы...

**Прадзед на плазме** *не вытрымлівае і ажывае, звяртаецца да* **Марыі-Тэрэзы.**

**Прадзед на плазме**: Старая ідыётка! Які я “polak”?! Наш род атрымаў шляхецтва за бітву пад Воршай. Сам я ў “Зялёным дубе” ваяваў і ў “Нашай Ніве” друкаваўся. Паўзі ты рачкі ў сваю Польшчу. І не турбуй мяне больш сваімі дурнымі енкамі, – зноў нерухомее, ператвараецца ў фотаздымак.

**Марыя-Тэрэза** *ачмурэла глядзіць на плазму.*

**Марыя-Тэрэза**: Магутны Божа – ўладар сусветаў... – *абапіраючыся на рыдлёўку, кульгае прэч.*

## АКТ ДРУГІ

### Сцэна першая

Сцэна перад заслонай, потым Плошча ў мястэчку. Блазан, Генік, Любоў Францаўна, Маёр Калода, Марыя-Тэрэза, Валька-Валіза, Мяо Лінь.

*Заслона, з-за яе выходзіць* **Блазан**. *Гучыць яго зонг:*

Мы чорнае ўсе прагнем успрымаць  
За белае ці там за іншы колер.  
Калі ж усведамляем, што дарма  
Падманвалі сябе – маўчым міжволі

І пнемся акуляры начапляць,
Ды мала быць для гэтага вучоным,
Тут трэба без віхляння ўпрызнаваць,
Што зрок, на жаль, твой кепскі апрычона.

Плошча, збоку апушчаны памежны шлагбаўм. Валька-Валіза, Любоў Францаўна, Альбіна.

**Валька-Валіза** падымае шлагбаўм, выходзіць на сцэну, галосіць, як на пахаванні: Ой, Божухна! Ой, бацюхна!.. Людзі добрыя, што ж гэта робіцца? За якія такія грахі на маю галаву ўсё гэта звалілася? Усё, прапала ваша Валька!.. Як ёсць, прапала!.. Хоць ты вяроўку бяры і ў лес падавайся, – *вытрасае з клятчастай валізы апошняе, што ў ёй засталося – вяроўку, бярэцца завязваць пятлю.* – Ой, задаўлюся на першай асіне.

*Да* **Валькі-Валізы** *кідаецца* **Любоў Францаўна**.

**Любоў Францаўна**: Валечка, даражэнькая, што здарылася?
**Валька-Валіза**: І не кажы, Францаўна. Напазычала я грошай, дзе можна і дзе няможна. Накупіла цыгарэт, перакінула ў Польшчу. Думала, пабагацею адразу ды катэдж на зайздрасць усім пабудую. А на мяжы мяне за кантрабанду адразу і павязалі. Мала таго, што ўсё адабралі, так яшчэ і шалёны штраф улупілі!.. А ўсё праз карту паляка, гары яна гарам!..
**Любоў Францаўна**: Толькі і ўсяго? Мне б твае праблемы. Давай сюды, – *забірае гатовую пятлю.* – Вось у мяне гора, дык гора. Праз гэтую сраную карту з працы выгналі. Там, – *паказвае на неба,* – так і сказалі: “Нам у ідэалагічным аддзеле агентаў НАТА не трэба”. І куды мне цяпер у нашым мястэчку падацца? Я ж толькі ідэалогіяй кіраваць магу і нічога іншага рабіць не ўмею!..

**Валька-Валіза** і **Любоў Францаўна** *тузаюцца, каму дастанецца вяроўка. З-за шлагбаўма з’яўляецца* **Альбіна**, *адчуджана глядзіць на цётак.*

**Альбіна**: Вешацца сабраліся, цётачкі? Ну, вешайцеся. Як вяроўка вызваліцца, то і я засілюся.
**Любоў Францаўна**: Таксама праз карту паляка?
**Альбіна**: А то!
**Валька-Валіза**: Нашто табе, Альбіначка, вешацца?..
**Любоў Францаўна**: Ты ж у нас каралеўна мястэчка!..
**Альбіна**: Гэта я сярод вас каралеўна. А ў Варшаве такіх, як я, тысячы. Пахадзіла, пабачыла. Ды і палякаў нармальных цяпер вобмаль засталося. Павывеліся ці з’ехалі. Калдыроў і гопнікаў не менш, чым у нас. І дзе ж мне цяпер шукаць таго абранага-каханага?
**Любоў Францаўна**: Столькі часу і нерваў... і ўсё кату пад хвост.
**Альбіна**: Ніхто нас у палякі пешшу не цягнуў. Самі на дурніцу і купіліся.
**Валька-Валіза** *з нядобрым выглядам скручвае вяроўку, бы ўдаўку*: Тут трэба яшчэ разабрацца, хто нам гэтую дурніцу падкінуў.

## Сцэна другая

Санктуарый, у якім месціцца “школа паляка”. Генік, Баляслаў, Лешэк, Маёр Калода.

**Баляслаў**: Маю гонар паведаміць, што кіраўніцтва нашай таемнай арганізацыі прадставіла пана да найвышэйшай узнагароды.
**Лешэк**: Ордэн ужо ў дарозе.
**Баляслаў**: Ale jednego nie mogę zrozumieć ... Każdy porządny kresowiak musi mieć Kartę Polaka!
**Лешэк**: A pan jak dotąd to nie dostał Karty.

**Генік**: Ciekaw jestem, czy panowie też mają te Karty?
**Баляслаў** і **Лешэк**: I bez tego jesteśmy rodowici Polacy!
**Генік**: Otóż to. Prawdziwego Polaka widać i bez karty.

*З'яўляецца* **Маёр Калода**. *Усе змаўкаюць.* **Маёр Калода** *ходзіць, падазрона аглядаецца.*

**Генік**: Таварыш маёр, мы зноў нешта парушаем?
**Маёр Калода**: Пакуль парушэнняў не выяўлена. Я вось прыйшоў ваш спектакль пра партызанаў паглядзець.
**Генік**: Тэатр з'ехаў на гастролі.
**Маёр Калода**: Супадае. А гэтыя двое хто? – *паказвае на Балялслава і Лешэка.*
**Баляслаў**: Мы?.. Драматургі!
**Лешэк**: "Дзяды" Адама Міцкевіча, які вы тут бачылі, мы і напісалі.
**Маёр Калода**: Супадае. Зычу далейшых поспехаў, – *казырае, мерыцца ісці, але спыняецца.* – А... ледзь не забыўся. Думаеце, калі маёр Калода ў міліцыі служыць, то ён зусім дэбіл? Усё мястэчка ведае, чым вы тут займаецеся. Значыцца, так. Мне трэба шаснаццаць картаў паляка для сваякоў. Зайдзі ў райаддзел, атрымаеш спіс, – *сыходзіць.*

## Сцэна трэцяя

Там жа. Генік, Валька-Валіза, Любоў Францаўна, Альбіна, Баляслаў, Лешэк.

*На сцэне* – **Генік**, **Баляслаў** і **Лешэк**. *З-за сцэны чуюцца галасы.*
*Голас* **Валькі-Валізы**: Гэта ён ва ўсім вінаваты!..
*Голас* **Любоў Францаўны**: Адшчапенец!..
*Голас* **Альбіны**: Зноў спакусіў маладую прыгажуню сваёй хлуснёю!

*З аднаго боку сцэны з'яўляецца* **Валька-Валіза**, *яна, як каўбой ласа, раскручвае над галавой вяроўку з пятлёй.*
*З другога боку сцэны з'яўляюцца* **Альбіна** і **Любоў Францаўна.**

**Альбіна**: Францаўна, трымайце!..
**Любоў Францаўна**: Не ўцячэ!..
**Альбіна** і **Любоў Францаўна** *хапаюць* **Геніка** *за рукі.*
**Баляслаў** *з* **Лешэкам** *у жаху распаўзаюцца ў розныя бакі.*
**Валька-Валіза** *накідае пятлю* **Геніку** *на шыю і зашморгвае яе.* **Генік** *можа адно хрыпець.*
**Валька-Валіза**: Ну што, даагітаваўся за сваю Польшчу?
**Любоў Францаўна**: Малады і брыдкі!..
**Альбіна**: А сам у палякі так і не запісаўся.

*Мерацца расправіцца з* **Генікам**. *З'яўляецца* **Марыя-Тэрэза** *з рыдлёўкай. Замахваецца на прысутных, тыя выпускаюць* **Геніка**.

*Гучыць зонг* **Марыі-Тэрэзы**:

Зракліся ўшчэнт Радзімы вы і продкавых магіл?
Я ахрышчу нанова вас! Страсу чужынскі пыл!
Ніхто не замінае вам самімі быць сабой.
Дык кіньце малпаванні ўжо, згадайце звычай свой.
Калі, аднак, не кінеце віхляць і малпаваць,
Навучыць вас рыдлёвачка Айчыну шанаваць!
Калі сям'я са школаю не выхавалі вас,
Займуся выхаваннем я! Рыдлёўка супер клас!

**Марыя Тэрэза** *ў залу – злавесна і з пагрозай*: Хто тут яшчэ хоча прадаць Бацькаўшчыну? – *праз паўзу сыходзіць праз праход у зале.*

## Сцэна чацвертая

Поле, курган. Генік, Блазан, Альбіна, Любоў Францаўна.

*На верхнім ярусе сцэнічных рыштаванняў з'яўляецца* **Блазан** у анёльскім аблiччы, *удае, што грае на нябачным аргане, б'е ў нябачны звон, грае на саксафоне. На гэтыя гукі выходзіць* **Генік**, *прыслухоўваецца.*

*Гучыць зонг* **Геніка**:

Некалі Бог, па зямлі паблукаўшы,
След свой пакінуў і сям, і там.
Ды не пазнаў яго люд ў землях нашых –
Бога ўзлаваў, і Той зрынуў храм,
Што пад зямлёй аж дагэтуль існуе –
бомы, малітвы, арган пяе.
Толькі пачуць з нетраў службу святую
Здольны той, хто не здрадзіў сабе.

*За сцэнай гучыць зонг* **Альбіны**, *ён успрымаецца як працяг зонгу* **Геніка.**

*Зонг* **Альбіны:**

Я затуляла ад бомаў тых вушы,
Гук іх глушыўшы, браўшы спакой.
Спрэс між тутэйшых – аблудныя душы.
Я ж не жадаю больш быць такой.
Выкінуць прэч ўсе берушы і маскі!
Ладу і шчасця не будзе з іх.
Без блазнавання, крыўляння, прымазкі!
Дыхаць вальней без звычак чужых.

*Падчас выканання зонгу* **Альбіна** *выходзіць, заўважае* **Геніка**.
**Генік** і **Альбіна** *ідуць насустрач адзін адной, спяваюць дуэтам:*

Зрынуты храм з нетраў выйсці гатовы,
Ўстаць на паверхні зможа тады,
Як паяснеюць ўжо нашы галовы,
Станем сабой, як я, так і ты.

**Альбіна**: Прабач, Генік!.. Я цябе ледзь не забіла..

**Генік**: У цябе было багата памагатых!..

**Альбіна**: Раней усё наша мястэчка ўважала цябе за скончанага лузера. Цяпер – за падступнага ашуканца. А ты як быў разумным і добрым хлопцам, так ім і застаўся.

**Генік**: Альбіначка, нарэшце! Цяпер ты зноў такая, якой я цябе памятаю!

*Бяруцца за рукі.* Анёл *нібыта іх благаслаўляе. Знянацку між імі з'яўляецца* **Любоў Францаўна**.

**Любоў Францаўна** – **Альбіне**: Сучка гламурная. Майго падапечнага зводзіш? – *звяртаецца да* **Геніка**. – А ты – проста гадзёныш. Мала таго, што я праз тваю карту паляка з працы вылецела... Дык ты яшчэ мяне – ладную, спелую і прыгожую жэншчыну, на гэтую прашмандоўку прамяняў. Я вас усіх знішчу... – *сыходзіць*.

## Сцэна пятая

Плошча. Баляслаў, Лешэк, Постаць на плазме.

**Лешэк**: Stracone...Wszystko stracone...

**Баляслаў**: Csss!... Zapomniałeś? Trzeba skontaktować się z kierownictwem, Leszek, pulpit.

**Лешэк** *пахапкам вешае ў паветры ўяўны таксафон.* **Баляслаў** *нібыта ціскае на ім кнопкі. Гучыць: "Пі... пі... пі..." Ідзе выклік. Загараецца плазма. На ёй – таямнічая* **Постаць**, *твару не відно.*

**Баляслаў**: Misja nie powiodła się. Tajne miejsca ujawnione. Szyfry odtajnione. Sieć agentów przerekrutowana.

**Лешэк**: Przecież nas nie rostrzelają, prawda?

**Постаць на плазме**: Każdy przyzwoity człowiek musi pamiętać, że nie jest konieczne aby umrzeć do rostrzału!

**Баляслаў**: Co mamy zrobić?

**Постаць на плазме**: Niezbędna jest szybka ewakuacja ze sprzętem. Ewakuacja.

**Баляслаў**: Gdzie?

**Постаць на плазме**: Do wszystkich diabłów, za Bóg.

*Выява знікае з плазмы.*

*Зацямненне.*

## Сцэна шостая

Санктуарый, у якім месціцца "школа паляка". Генік, Альбіна, Любоў Францаўна, Ваван, Эльбрус.

**Генік** і **Альбіна** *здымаюць атрыбутыку "Школы паляка".*

**Альбіна:** Генік, няўжо ні пра што не шкадуеш?

**Генік**: Што ні робіцца, усё да лепшага. Каб не гэтая школа паляка, мы б тут усе і надалей блазнавалі. На любую дурніцу павядземся, абы выглядала прывабна і не па-тутэйшаму.

**Альбіна:** Я іншым разам гляджу на наша мястэчка і думаю – сапраўдная вар'ятня.

**Генік**: Тваё танга з кійком для сэлфі ўпісваецца ў наш краявід проста цудоўна.

**Альбіна**: Я ж для гжэчнага варшавяка старалася. А ты яго і прыдумаў.

**Генік:** А ты купілася. Папсовай касметыкай намазюкалася, рыначныя транты напяліла. Вось і даблазнавалася... сцервачка гламурная.

**Альбіна**: Калі жывеш у казліным статку, лепш не вылучацца. Хіба што рогі крыху пазалаціць ды бліскучы званочак на шыю начапіць. Ды што я табе расказваю?! Ты ж сам могілкавым графаманам прыкідваўся.

**Генік**: Калі б у нашым мястэчку аб'явіўся Адам Міцкевіч, ён бы таксама такім прыкідваўся. А не – трапіў бы да вязніцы. Я нават ведаю, хто б яго туды запратурыў...

**Альбіна:** Але ж той Міцкевіч наўрад ці папнуўся б па карту паляка.

*На сцэне з'яўляюцца* **Любоў Францаўна**, *за ёй ідуць* **Ваван** *і* **Эльбрус**.

**Любоў Францаўна**: А я всегда говорила, что белорусы – те же русские люди! Только со знаком качества. Но есть еще в местечке отдельные отщепенцы, которые выступают против нашей общей матушки-России...

**Эльбрус** *перапыняе*: Тарабар сарай!.. – *паказвае на* **Геніка** і **Альбіну**, – *ставіць крэйдай крыжык.*

**Ваван**: Стоять, суки!.. Освободители пришли!.. – *працуе распырсквальнікам.*

**Любоў Францаўна** і **Эльбрус** *расцягнутай нагайкай абвязваюць* **Геніка** і **Альбіну**, *зводзяць са сцэны.*

## Сцэна сёмая

Там жа. Ваван.

**Ваван** *выходзіць на авансцэну, гаворыць проста ў залу.*

**Ваван**: Ну что уставились? Забыли, как освободитель выглядит?! Так вот он я! Думали, загнали русского медведя в берлогу? Думали, купили его разными пармезанами, педикюрами, бабскими прокладками по телевизору и прочим западным

бл...дством? Сами все это и жрите! Забыли, как портянки Суворова пахнут? Вспомните, еще как! И  нам глубоко по херу, что вы о нас будете думать. Русский медведь пока еще только чешется спросонья. Но знайте: не сегодня-завтра выберемся мы из берлог и поднимемся с колен. И тогда всех вас – бульбашей, полячишек, хохлов и прочих жидов в такой бараний рог скрутим, что только сок брызнет во все стороны!

*Падчас прамовы* **Вавана** *над сцэнай узнімаецца рускі імперскі сцяг з надпісам “Северо-западная народная республика”. Гучыць гімн СССР без словаў.*

**Ваван** *пырскае ў бок залы залу распырсквальнікам, прыкладае далонь да папахі і сыходзіць са сцэны.*

## Сцэна восьмая

Могілкі. Марыя-Тэрэза, Маёр Калода, Валька Валіза.

*На сцэне з’яўляецца* **Марыя Тэрэза** *з рыдлёўкай. Глядзіць на імперскі сцяг, мерыцца збіць яго рыдлёўкай. Не дастае. Азіраецца, капае зямлю.*

*З-за куліс выходзіць* **Маёр Калода**, *ён дэманстратыўна не заўважае сцяга.* **Марыя-Тэрэза** *адразу ж хавае рыдлёўку за спіну, перабірае ружанец.*

**Маёр Калода**: Молішся, цётачка?

**Марыя-Тэрэза**: Малюся, даражэнькі.

**Маёр Калода**: Маліся, старая, маліся. Самы час, – *сыходзіць*.

**Марыя-Тэрэза** *вышэптвае*: Цёмна людзі... Глуха людзі... Штосьці будзе... Штосьці будзе...

*Працягвае капаць зямлю. З’яўляецца* **Валька-Валіза.**

**Валька-Валіза**: Бульбу капаеш ці пахаваць каго вырашыла?

**Марыя-Тэрэза**: Не дуры галавы.

**Валька-Валіза**: А ты ў курсе, што ў нас яшчэ адзін сцяг вывесілі?

**Марыя-Тэрэза**: Таму і капаю, – *працягвае капаць*.

**Валька-Валіза**: Я вось думаю, браць мне расійскі пашпарт, не браць? З аднаго боку, рускія нам – самыя блізкія браты, а з другога – я на картцы братоў-палякаў ужо апяклася.

**Марыя-Тэрэза** *адкладае рыдлёўку, бярэцца выцягваць адкапаную скрыню.*

**Валька-Валіза**: А што там?

**Марыя-Тэрэза**: Ад прадзеда спакон вякоў мне засталася спадчына.

**Валька-Валіза**: Давай памагу.

**Мары-Тэрэза**: Ідзі, Валька, куды ішла. Не твая то справа. Сама ўпраўлюся.

*Выцягвае скрыню вайсковага ўзору, валачэ яе за кулісы.*

## Сцэна дзявятая

Санктуарый, дзе раней месцілася “школа паляка”. Генік, Альбіна, Ваван, Эльбрус, Баляслаў, Лешэк, Маёр Калода.

*Звязаныя нагайкамі* **Генік і Альбіна** *– спіна да спіны.*

**Ваван**: Ну что, нацики русофобские... Исполосовать бы вас нагайками до смерти. Но мы, освободители, люди гуманные. Даю последний шанс искупить вину.

**Генік**: Свае расейскія пашпарты можаце і без мяне раздаваць.

**Альбіна**: А я вам увогуле без дайпатрэбы.

**Ваван**: Ты чё, шмара, серьёзно так думаешь?

*Заходзіць* **Маёр Калода**. *Дэманстратыўна не заўважае звязаных* **Геніка** *і* **Альбіну.**

**Маёр Калода – да Вавана**: Значыцца, незарэгістраваны сцяг вывесілі, расійскія пашпарты раздаеце...

**Ваван**: А чё, типа нельзя? Мы же братья-славяне!..

*З'яўляецца* **Эльбрус**, *ён вядзе за сабою на вяроўцы звязаных* **Баляслава** і **Лешэка.**

**Эльбрус**: Рабы якшы, – *абсякаецца, заўважыўшы* **Маёра Калоду.**

**Маёр Калода** – *праз паўзу да* **Вавана:** Значыцца, так. Зробіш шаснаццаць пашпартоў для маіх сваякоў... І сямнаццаты для мяне. За расійскі пашпарт у нас са службы яшчэ нікога не выгналі.

**Ваван** *кідаецца абдымаць* **Маёра Калоду**: Молодец, братан! Респект и уважуха! Сразу видно – свой человек, – *і да* **Эльбруса**. – И это только начало. Короче, надо выпить! Я сейчас за бухлом и за бабами сгоняю. А ты, – *звяртаецца да* **Маёра Калоды**, – Эльбрусику какой-нибудь наркоты подгони.

**Эльбрус**: Э-э-э?.. – *паказвае на зляканых* **Баляслава** і **Лешэка**, *жэстам прапануе адрэзаць ім галовы.*

**Ваван**: Эльбрусик, ну сколько раз тебе говорить: мы ведь вежливые люди! – *і да* **Геніка**. – Умел ополячивать Северо-Западный край – сумеешь сделать из них, – *паказвае на* **Баляслава** і **Лешэка**, – истинно русских патриотов. К моему приходу пропустишь их через свой аппарат.

**Альбіна**: А калі не атрымаецца?

**Генік**: А калі я адмоўлюся?

**Ваван**: Тогда твою тёлку всей станицей отымеем, а тебя Эльбрусику в подарок отдадим.

**Ваван** і **Маёр Калода** сыходзяць.

## Сцэна дзясятая

Там жа. Г е н і к, А л ь б і н а, Э л ь б р у с, Б а л я с л а ў, Л е ш э к, Б л а з а н.

**Эльбрус** *вызваляе* **Геніка** і **Альбіну**, *паказвае на* **Баляслава** *з* **Лешэкам**, *а потым на агрэгат-канвектар.*

**Эльбрус**: Баран – казан.

**Баляслаў**: Nie pozwalam!..

**Лешэк**: Raczej my się nawzajem pozabijamy!

*Развітальна паціскаюць адзін адному рукі.*

**Баляслаў**: Umieramy...

**Лешэк**: Ale się nie poddajemy!..

**Баляслаў** і **Лешэк** *хапаюць адзін аднога за шыі, душаць.* **Альбіна** *з* **Эльбрусам** *спрабуюць расчапіць* **Баляслава** *і* **Лешэка**, *тыя працягваюць душыць адзін аднаго, адбіваюцца нагамі.*

*З'яўляецца* **Блазан,** *каротка грае на саксафоне мелодыю "Лезгінкі". Яго бачыць і чуе толькі* **Генік.**

**Генік**: Што... што ты сказаў?

**Блазан** *зноў грае "Лезгінку", але больш энергічна.*

**Генік**: Божачкі... Ды няўжо?.. – *рытмічна пляскае ў ладкі, падпявае матыў, заахвочвае рабіць гэта і* **Альбіну**. – Та-та-та...

**Баляслаў** і **Лешэк** *перастаюць адзін аднога душыць, глядзяць на* **Эльбруса. Эльбрус** *торгаецца, выхоплівае кінжал, зухавата, як вар'ят, танчыць лезгінку.*

**Эльбрус** *падчас танца*: Аса... Аса...

*Ачмурэлыя* **Баляслаў** і **Лешэк** *таксама пляскаюць у ладкі.*

**Баляслаў**: Кракавяк...

**Лешэк**: Па-дагестанску!

*Нарэшце* **Эльбрус** *эфектна падае на калені з раскінутымі рукамі, пры гэтым кінжал заціснуты ў зубах.*

## Сцэна адзінаццатая

Там жа. Тыя ж, Ваван, Маёр Калода, Валька-Валіза, Любоў Францаўна.

**Эльбрус** *усё яшчэ на каленях з кінжалам у зубах. З'яўляюцца* **Ваван**, *за ім* **Валька-Валіза** і **Любоў Францаўна**, *цягнуць клятчастую торбу, у якой выразна звіняць пляшкі. Ззаду –* **Маёр Калода** *з бутафорскім "касяком" анашы.*

**Ваван** *ачмурэла глядзіць на* **Эльбруса**: Россия, вставай с колен!

**Эльбрус**: Э-э-э... – *гучыць пагрозліва.*

**Маёр Калода**: Эльбрус, я табе смачнай марыхуаны прынёс, вось, глядзі, сам набіваў! – *прапануе касяк.*

**Эльбрус**: Э-э-э... – *гучыць яшчэ больш пагрозліва, вымае кінжал з зубоў, падымаецца.*

**Ваван**: Тьфу, чурка грёбаный.

**Эльбрус** *з кінжалам агрэсіўна наступае на* **Вавана**. **Валька-Валіза** і **Любоў Францаўна** *з пераляку ўпускаюць торбу.*

**Эльбрус**: Ваван ішак. Эльбрус гашыш. Аул душман. Ятаган батыр. Шакал-асвабадытэл кірдык.

*На плазме ідзе пераклад:*

*"Мой расейскі брат Владзімір не разумее нацыянальных традыцый і прыроднай ментальнасці горцаў. Наша родная вёсачка заўсёды брала ўдзел у нацыянальна-вызвольчым руху. Гэтым кінжалам мае землякі зарэзалі тры сотні расейскіх казакаў".*

**Баляслаў** *ухвальна:* Każdy porządny człowiek musi rozmawiać w języku ojczystym. Twierdzę to jako profesor antropologii!

**Лешэк**: Oczywiście.

**Альбіна**: Пабудзілі звера.

**Генік**: Яны ж яго самі і прыручылі.

**Ваван** *глядзіць на жахлівага* **Эльбруса**, *млее і валіцца.*

**Эльбрус** *падыходзіць да* **Маёра Калоды**, *забірае касяк, пасля чаго са зверскім выглядам пнецца да* **Валькі-Валізы** і **Любові Францаўны**, *нахабна да іх прыглядаецца.*

**Валька Валіза**: Што вы сабе дазваляеце?

**Любоў Францаўна**: Мы ж на сваёй зямлі.

**Эльбрус**: Свой земля вы уже продали.

## Сцэна дванаццатая

Там жа. Тыя ж, Марыя-Тэрэза, Пробашч, Блазан і Мяо Лінь на плазме.

*На сцэне з'яўляецца* **Марыя-Тэрэза**, *цягне вайсковага ўзору скрыню. Расчыняе яе, дастае ручны кулямёт, дае чаргу паверх галоў. Імперскі сцяг валіцца долу.*

**Марыя-Тэрэза**: Цяпер размова будзе кароткая. Здраднікі – да сцяны!..

**Любоў Францаўна, Валька-Валіза** і **Маёр Калода** *паслухмяна становяцца спінамі да залы, закладаюць рукі за галаву.*

**Марыя-Тэрэза** *наводзіць рулю на аджылага* **Вавана** *і* **Эльбруса**.

**Марыя-Тэрэза**: А вам, набрыдзь, асаблівае запрашэнне трэба?

**Ваван** і **Эльбрус** *таксама становяцца, закладаюць рукі за галовы.* **Баляслаў** з **Лешэкам** *нясмела падымаюць рукі.*

**Марыя-Тэрэза** *спыняе іх*: А вы – няшкодныя.

**Генік**: Адкуль у вас кулямёт, цётачка?

**Альбіна**: Няўжо сапраўдны?

**Марыя-Тэрэза**: А тож. Ад прадзеда. У трыццаць дзявятым годзе ён ім шмат рознай сволаты паклаў. І з Усходу, і з Захаду. А перад сконам на могілках закапаў.

**Альбіна**: Вось і прыдаўся!

**Генік**: Кожны беларус – прыхаваны партызан!

**Марыя-Тэрэза**: Толькі прыхадні пра гэта часам забываюцца, – *наводзіць рулю на агрэгат-канвертар*. – З яго ўсё пачалося – ім і скончыцца.

**Генік**: Хвіліначку, спадарыня Марыя-Тэрэза, – *далікатна грукае па агрэгаце*.

*Агрэгат развальваецца, з яго выбіраецца* **Пробашч**.

**Марыя-Тэрэза**: Матка Боска!.. Пан пробашч, што вы тут робіце?

**Пробашч**: Ад самага пачатку ўдаваў апарат-канвертар.

**Альбіна**: Значыцца, вы ўсё ведалі?

**Пробашч**: Не толькі ведаў, але ў пэўнай ступені і кіраваў падзеямі... Вядома ж, не адзін, а з дапамогай пана Геніка.

*Гучыць зонг* **Пробашча***:*

Душпастырскі мой абавязак
Усякаму дапамагчы:
Каб неадкладна ці з часам
Знайсці да ратунку ключы.
Апека над наскай вар'ятняй
Таксама нязводны мой доўг.
Хоць часта здаецца мне клятай
Псіхоўняй мястэчка разлог.
Мой позірк на двух пацыентах
Спыніўся з-за пэўных прычын
Ўдавалі сакрэтных агентаў,
Пальшчызнай заўжды трызнячы.
Лічылі, што нейкі там пластык
Ёсць сведчаннем польскіх асноў,
І кожны ўважаў сябе майстрам
Канвертара, што у паноў
Палякаў ахвочых аберне,
Хоць кававы той аўтамат
Зламаны, вар'яцкасці зерне
Ўзышло ў ім шалёнасцю мар.
І каб паглядзець, ці хто клюне
З тутэйшых на гэты падман,
Мы з доктарам далі тым дурням
З вар'ятні ўцячы за паркан.

**Баляслаў**:

Карта паляка не наша прыдумка, а вынаходка варшаўскіх паноў.
Дык хто з нас большы вар'ят – адкажыце непрадузята і без паўтаноў?!

**Лешэк:**

Перапрашаю, пан ксёндз, за турботы, у абвастрэння чарговы працяг –
Трэба нам зноў у вар'ятню вяртацца – з песняй і танцам, у рукі нам сцяг!

*Са штанкета спускаюцца дзве ўтаймавальныя кашулі.* **Баляслаў** *і* **Лешэк** *шляхетна дапамагаюць адзін аднаму апрануць іх. Чуецца гук сірэны санітарнай машыны.* **Баляслаў** *і* **Лешэк** *сыходзяць.*

**Альбіна**:

Ад гэтых збеглых псіхапатаў
Мястэчка ледзь не звар'яцела.
Каму ўспраглося польскай карты,
Каму ў міръ русскій закарцела.

**Генік**:

Заняцца гэтым я згадзіўся,
Бо карта – індыкатар здрады:
Хто Беларусі ўжо зракліся,
Прадаць і Польшчу дадуць рады.

**Эльбрус**:

Терем сарай, кабала для душман!
Беркут алтын, а ишак на аркан!

**Эльбрус**, *зухавата вытанцоўваючы лезгінку, гоніць перад сабой, як статак, са сцэны* **Вавана, Любоў Францаўну, Вальку-Валізу** і **Маёра Калоду.**

**Марыя-Тэрэза** *кладзе кулямёт у скрынку.*

Блаславіце, ойча, заканчэнне працы!
Закапаю штучку, мо яшчэ прыдасца...

**Пробашч:**

Хай Пан Бог ратуе ад пякельнай лавы!
Блаславляю ўсіх вас дзеля добрых справаў!

**Марыя-Тэрэза** *сыходзіць, цягне скрынку за сабой.*
**Блазан** *у анёльскім выглядзе на верхнім ярусе грае прасветленую светлую мелодыю.* **Генік** і **Альбіна** *бяруцца за рукі.*
*На плазме з'яўляецца* **Блазан**, *апрануты першабытным афрыканскім правадыром, з тварам, пафарбаваным у чорны колер.*

**Блазан**: Да жыхароў мястэчка! Адчыняецца "Школа папуаса"! Усім выпускнікам гарантуецца атрыманне адпаведнай карты, якая дае шмат ільготаў, выгадаў і перавагаў!.. *звяртаецца да залы:* – Ну што, папнемся?!.

*На плазме запальваецца цітр:* **"KONIEC KARTY POLAKA".**
*Цітры гаснуць, замест іх узнікае пазнавальны варшаўскі краявід і натоўп кітайцаў з будаўнічымі кельмамі (размножаны на кампутары* **Мяо Лінь**).

**Мяо Лінь** *з плазмы*: Czekaj, czekaj. Trochę reklamy. Sto czterdzieści pięć niepijących Polaków poszukują każdej pracy w Warszawie!

*З а с л о н а.*



Кабаясі Іса



...раструшчыў крумкач
рысавую смакотку
сыпле першы снег...

# Сляды ад лапак

## Кабаясі Іса і яго свет хайку

Кабаясі Іса (小林一茶/こばやし いっさ) (1763–1828) нарадзіўся ў вёсцы Касівабара правінцыі Сінай (прэфектура Нагана). Маці паэта памерла, калі яму было 2 гады. Бацька ажаніўся другі раз, і мачыха пасля нараджэння свайго сына была не вельмі лагоднай да пасынка. Ва ўзросце 14 гадоў Іса сыходзіць з дому і выпраўляецца ў сталіцу Эдо. Ён вывучае вершаскладанне і шмат вандруе. Аднак праз пэўны час вяртаецца ў сваю родную вёску і ва ўзросце 51 год бярэцца шлюбам з 27-гадовай дзяўчынай, дачкой фермера, якая нараджае 4 дзяцей. Усе яны, аднак, памруць у малалецтве, а потым памрэ і сама Кіку. Другі шлюб Ісы хутка распадзецца, трэцяя жонка стане апошняй. Іса памрэ ад другога інсульту, не даведаўшыся, што яна была цяжарнай. Менавіта дачка Ята зробіць так, каб імя яе бацькі як паэта не забылася.

Сапраўднае імя Кабаясі Іса – Кабаясі Ятара. Іса – гэта хайкаўскі псеўданім, які азначае кубак гарбаты. Будысцкія тэмы – часты матыў хайку Кабаясі Іса: рэінкарнацыя, спачуванне, хуткаплыннасць, міласэрнасць і ўслаўленне ўсяго простага і

звычайнага. Разам з Мацуа Басё і Ёса Бусон Кабаясі Іса лічыцца адным са “слупоў” традыцыі хайку.

Хайку і хоку часам ужываюцца як сінонімы, аднак тэрміналагічна паміж імі ёсць розніца. Спачатку хоку было *пачатковай страфой* (дарэчы, хоку так і перакладаецца) *рэнга* (форма ланцужковага вершаскладання). Аднак з часоў Мацуа Басё хоку стала з’яўляцца як асобны верш. Структурна хоку выдзеліўся з танкі і з’яўляецца яе скарочанай формай. Таму ў канцы 19 ст. Масаока Сікі прапанаваў новы тэрмін *хайку* для абазначэння асобнай формы верша, які не з’яўляецца часткай рэнга. Такім чынам, *хоку* слушна выкарыстоўваць для абазначэння пачатковай страфы рэнга, а хайку – для асобнага жанра. Звычайна хайку – гэта 17 *ондзі*, метрычна падзеленых як 5–7–5. Традыцыйна хайку запісваюцца ў адну вертыкальную лінію. Перакладчыкі ўжываюць трохрадковую форму са складовай сістэмай 5–7–5. Гэтай формай я і кіравалася, робячы свае пераклады. Абавязковым элементам хайку лічыцца *кіго* – г.зн. сезоннае слова, тое, што ўказвае на пару года, да якой стасуецца верш. Іншай асаблівасцю выступае *кірэджы,* або *падзельнае слова*, якое з’яўляецца ў канцы аднаго з трох метрычных элементаў і служыць свайго кшталту вербальнай пунктуацыяй.

Сутыкаючыся з побытам і матэрыяльнай культурай людзей, што жылі да нас, мы часта здзіўляемся, якімі розным былі нашыя ўмовы існавання. Чытаючы паэзію, мы часта здзіўляемся, якімі падобнымі ёсць нашыя эмоцыі і перажыванні. Спадзяюся, гэта здарыцца і з вамі падчас прачытання вершаў Кабаясі Іса.

## *ХАЙКУ*

* * *

птушка спявае
каб заквітнела сліва
няма пялёсткаў

* * *

як клапатліва
скручвае свежы лісток
маленькі жучок!

* * *

на кветках слівы
пакінуў салавейка
сляды ад лапак

* * *

дрэва каштана
на ім вусень пухнаты
як жа спякотна!

* * *

сонца сядае
падобныя – жарабя
і дробны слімак

* * *

хоць веер стары
закурэлы ў плямах
надзейны аднак

* * *

пані півоня
пагардліва не глядзі
на беднасць вакол

* * *

раструшчыў крумкач
рысавую смакотку
сыпле першы снег

* * *

шарыкі з рысу[1]
мне больш даспадобы за
прыгажосць кветак

* * *

салавей усім
чырвонаю ягадай
выхваляецца

* * *

калі ўжо цвыркун
гняздзечка спляце
з маіх валасоў

*Прадмова і пераклад з японскай Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

---

[1] У арыгінале ўжытая рэалія "данга" – шарыкі з моці (від рысавага цеста) на палачцы, якія падаюць з соусам. Гэтае хайку адсылае да прыказкі "данга лепей за кветкі", якая азначае, што людзі болей зацікаўленыя ў практычных, матэрыяльных рэчах, чым у эстэтыцы.

пераклады

## Стэйнар Упстад



...ноч толькі сваяк,
што памірае...

# Дзень усіх святых

***МАГУТНЫ***

Там, дзе ёсць двое
заўжды ёсць і трэці, сказаў ты
Я жадаў цябе
бо так шмат было прамоўлена
з таго, што не варта было прамаўляць

Я называў цябе “дэманам” ці “анёлам”
але, вымаўляючы словы
забываў іх значэнне
Я не мог сказаць, што кахаю
бо побач заўжды быў нехта трэці

Я стаў адным з трох, і нікога не кахаю
бо тыя двое, што сышлі ад мяне
прыхавалі аднаго
а той, каго хаваюць, маўчыць:
Яму няма чаго дадаць

*Пераклад з нарвежскай Дзмітрыя ПЛАКСА.*

### *ЗАВЕРШАНАСЦЬ*

Той, хто шэпча пра Бога
слепне, а той, хто
дае свой твар ночы
нараджаецца ў ноч
а той, хто дае свой твар сябру
ператвараецца ў сябра

Завяршыць верш
значыць завяршыць твар
але не той, каханы твар
бо пракаў больш не бачна
а ноч толькі сваяк, што памірае

* * *

Я не веру ў лагоду
але ў людзей
якія збіраюць сякеры вечарам
і кладуць іх пад паветку да раніцы

Таму і кажу з ціхамірнасцю
большай, чым ашаламляльныя нябёсы
і мова нацягваецца між дрэвамі, што стаяць
і дрэвамі, што валяцца

Перад сном мармычу імёны
тых, каго страціў, і пытаюся:
чаму так шмат імёнаў памерлых
і так мала жывых

* * *

У мяне няма словаў для смерці
але я не цураюся яе
Смерць мая сяброўка
ў найціхамірнейшым жыцці

бо як інакш здабыць мне адвагу
адстойваць свой выбар
ці ўваходзіць у нябачнае
дзе нехта кажа мне бачыць больш, чым раней

Я падпарадкоўваюся веры
але пазбягаю яе багоў
Сонца, што асвятляе нас
бязлюднае, як заўжды

* * *

Так шмат непрачытаных кніг
і так шмат бяссонных гадзін
бо страшуся сну
і слова, здольнага зруйнаваць жыццё

Але кнігі чакаюць
разгорнутыя ў ранішнім святле
бо толькі прачнуўшыся
бачу я сны і жыццё напаўняецца

І не ад паразы выбраў я адзіноту
але ад жадання, і ні на дзень
не забываю адзіноту
не здраджваю жаданню

* * *

Зразумець смерць
цяжэй за ўсё
Зразумець смерць як раку
ці сяброўства даўжынёю ў жыццё, прасцей

Вяслую ракою забыцця
бо Лета абдыме нас усіх
і ночы сцямнеюць
і рэкі паглыбеюць

І знойдзецца месца
для ўсяго чалавечага
І для любові
і для смерці

* * *

Я падзяляў цела з бязглуздымі і асвечанымі
з асуджанымі і адукаванымі
але ніколі не спрошчваў сваю душу
Бо ў дар атрымаў я простасць

І тое, што даем мы прыродзе, тое і атрымліваем ад яе
Для прыроды чалавек
меншы, чым пясчынка і большы за гару
І каханне – бы позірк жывёлы, на якую палююць

У простым кожны ці выйграе, ці гіне
Я ўздыхаю калі іншыя крычаць

Я смяюся калі іншыя спяць
Я цалую твае вочы і заплюшчваю свае

### КАСУЛЯ

У сонечным марыве, між дрэваў
спынілася касуля і глядзіць на мяне
нерухомым пільным позіркам
перад тым як уздрыгнуць і кінуцца наўцёкі

Я кладуся ў лагчынку, дзе трава
яшчэ цёплая ад звярынага цела
і чую стук свайго сэрца
а можа звярынага – перш, чым заснуць

### АСЛЕПЛЕНЫ ЗБОЖЖАМ

Вагоны цягніка адкідваюць цень на палі
але туга не такая бясконцая
як краявіды звонку

Цягнік хутчэйшы за тугу
і я думаю пра бацьку, які рупіцца
каб насенне трапляла штовесну ў зямлю

бо туга такая – больш верная нам
чым любое каханне
і, у адрозненне ад кахання, не адкідвае ценю
Праца і мара

Бо ўсё пачынаецца з нарога плуга
ды бліскучых у ранішнім сонцы баразнаў пасля
трактара
няма прыгажэйшай малітвы
чым марыць, гледзячы на чыюсьці працу
якая ёсць працай усіх

### ВЕРАСЕНЬ

Верасень пахне
цвілымі марамі
ды гнілаватым слодычам
о, вышні дзень, хутка ўсё пройдзе!

Стаю ў бляклым святле сонца
з успамінамі пра летні

смутак: толькі верш і лісце
у кішэнях, і ніводнага абяцання

## ДЗЕНЬ УСІХ СВЯТЫХ

У цемры, пад каронамі дрэваў
стаю перад агароджай і гляджу
        чуючы мармытанне
сваякоў памерлых

Колькі гадзін пазней ізноў праходжу паўз могілкі
сваякоў больш няма
        пах тытуню і парфумы
у паветры пасля іх

Мякка свецяцца ліхтарыкі
пад апалым лісцем
        і я думаю, што сёння нават душы
знайшлі шлях дадому

СЛОВЫ

Святлана Алексіевіч



...увесь час пісаць пра смерць –
гэта пісаць пра бессмяротнасць...

# Мінулае яшчэ наперадзе

***Дыялогі з Веніямінам Айзенштатам (Блажэнным)***

***Запісаныя Сяргеем Шапранам інтэрв'ю і дыялогі Святланы Алексіевіч пра час і пра сябе, пра Беларусь і сусвет, пра настаўнікаў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, пра свае кнігі і галоўнага іх героя – маленькага чалавека «чырвонай утопіі» стануць зместам новай кнігі «У пошуках сэнсу», якая пісалася-складвалася на працягу больш чым чвэрці стагоддзя і рыхтуецца да юбілею першага беларускага лаўрэата Нобелеўскай прэміі. «Дзеяслоў» друкуе адну з гутарак з будучай кнігі.***

1999 год. Веніяміну Міхайлавічу Айзенштату было 77. Ён жыў на вуліцы Караля ў Мінску. З прычыны нездароўя апошнія гады не мог выходзіць на вуліцу і вымушана жыў пустэльнікам. Хоць паэтычным талентам Веніяміна Айзенштата захапляліся Барыс Пастарнак, Віктар Шклоўскі, Арсеній Таркоўскі і Аляксандр Кушнер, аднак ягонае імя і па сёння застаецца малавядомым у Беларусі.

Па праўдзе сказаць, не прыгадаю цяпер, як узнікла гэтая ідэя – каб Святлана Алексіевіч і Веніямін Айзенштат пагутарылі пад запіс для «Белорусскай деловой газеты», дзе я тады працаваў. Мне здавалася важным падтрымаць Веніяміна Міхайлавіча, вырваць яго хоць на адзін вечар з амаль татальнай адзіноты (і таму раней прапанаваў наведаць паэта цудоўнай спявачцы Алене Камбуравай, адна з песень якой была на вершы Блажэннага). Святлана Алексіевіч гаварыла ў той час пра намер зрабіць заключнай кнігай свайго цыкла «Чалавек знаёмы» мастацка-дакументальны аповед пра людзей першых савецкіх пакаленняў. Прызнавалася, што, нягледзячы на тое, што героі будучай кнігі па ўзросце – раўеснікі яе бацькоў, але ёй вельмі складана знайсці асобнага чалавека ў гэтым пакаленні. Для таго ж, каб адшукаць дарогу да душ гэтых самых першых савецкіх пакаленняў, Святлана Аляксандраўна практычна адразу прыняла маю прапанову пагаварыць з Веніямінам Міхайлавічам. Так у лютым 1999-га і адбылася іх сустрэча.

Публікацыі гэтай гутаркі папярэднічала ўступнае слова, напісанае самой Святланай Алексіевіч:

«“Мінулае яшчэ наперадзе”, – сказаў нехта з палітыкаў. Пастаўлены дыягназ спачатку ашаламляе, а потым прымушае задумацца: што адбываецца з людзьмі? З-за чаго з рамантыкаў мы хутка ператвараемся ў стомленых і расчараваных людзей? Хтосьці адказвае: “Ад таго, што подлыя і цяжкія часы на двары”. А калі яны былі іншымі? Кожнае пакаленне знаходзіць свае адказы на падобныя пытанні...»

**Сяргей ШАПРАН**

*С. Алексіевіч:* Мне запомнілася, як аднойчы ў інтэрв’ю вы сказалі, што ніколі не марылі быць ні Чапаевым, ні Аляксандрам Матросавым, а заўсёды – параненым байцом, над якім схілілася жанчына ў белым. Уразіў гэты вобраз таму, што жылі вы зусім у іншую эпоху.

*В. Блажэнны:* Я жыў у сталінскую эпоху. З плакатаў на мяне заўсёды глядзеў ваяўнічы і, як тады здавалася, ідэальны мужчына. У ім было ўсё, апроч дабрыні. Дабрыня была рэдкім паняццем у мой час. У нас не былі папулярнымі кнігі пра каханне. Мы ж будавалі сацыялізм. А бестселерамі тады былі «Падпальшчыкі» Мікалая Шпанава, раман «Іван Іванавіч» Капцяевай, «У аблозе» Кетлінскай, «Кружыліха» і «Спадарожнікі» Веры Пановай. Цяпер гэта ўсё забыта. Нават дамы не пісалі пра каханне. Дзяўчат майго пакалення больш цікавіла, ці здаў яе знаёмы нормы на значок БГПА («Будзь гатовы да працы і абароны»). Усе нарошчвалі біцэпсы, насілі напульснікі, рабілі «сонца» на турніку. Хоць для мяне гэта было недарэчна і дзіка. Я ўсё жыццё разбіваюся аб гэтую каменную сцяну варварства ХХ стагоддзя. Ідэалам майго пакалення былі лётчыкі, камандзіры. «Мы парни бравые...»

Але гэта быў яшчэ не самы горшы ідэал. Рэвалюцыя ў гэтую адвечную варожасць людзей унесла рамантычны арэол. Прыгадайце фільм «Мы з Кранштадта». Вобраз самаахвярнага марака, камісара. Усевалад Вішнеўскі, Багрыцкі, Лугаўскі былі рамантыкамі рэвалюцыі і буйнымі асобамі...

Юнацкія фантазіі не разумеюць каштоўнасці чалавечага жыцця. Яны шукаюць подзвігу... У нейкім фільме камендант нямецкага канцлагера пасля выканання сваіх абавязкаў ката іграе Ліста, Шуберта... Занадта шырокі чалавек. Яго можна зрабіць і ідэальным катам.

*С.А.:* Як вы думаеце, гэтая сталінская эпоха скончылася?

*В.Б.:* Вы самі нядаўна дзесьці напісалі, што савецкі час працягваецца, ён у кожным з нас... У людзях робіцца ўсё менш дабрыні. Думаю, з часам яна ўвогуле стане рэдкай якасцю. А такое слова, як «этыка», трэба будзе шукаць у энцыкла-

педычным слоўніку. Я цяпер усё больш пераконваюся, што гэтыя паняцці людзьмі адмецены начыста.

Памятаю, як у піянерлагеры я прачытаў дзяўчыне Лермантава, і яна спытала: «А на што ён хварэў?» – «Чаму хварэў?» – не зразумеў я. «Ён жа ўвесь час скардзіцца, што ў ягоных грудзях баліць. Напэўна, нейкі сухотны». Разумееце, якая была свядомасць?! Каштоўным было толькі тое, што цялеснае, буйное, агрэсіўнае. Маска Гуінплена: усе вясёлыя і шчаслівыя. А асабістая нота ў паэзіі памерла: пятнаццаць гадоў не пісала Ахматава, Пастарнак не пісаў. Пра астатніх і казаць няма чаго. Узорамі паэзіі былі такія вось вершы:

Ты идешь, Серго, любимый нами,
Друг и брат в работе и в борьбе,
Несгибаемый, как боевое знамя,
И родной, как песня о тебе,
По фронтам своей страны широкой
Ты идешь, товарищ и нарком,
Ленинцем без страха и упрека,
Сталинским стальным большевиком.

Іх аўтар – Безыменскі. Паэт Аўруцін неяк спытаў у мяне: «Як вы гэта запомнілі?!» Я адказаў: «А нічога іншага не было».

Я да гэтага часу памятаю, як інстытуцкі выкладчык вучыў нас: «Марксізм – гэта навука навук. Вы можаце не ведаць нічога, але калі вы прачытаеце ўсё пра марксізм і засвоіце гэта, вы будзеце ведаць усё». Пісаў і Маякоўскі: «Я ведаў селяніна, ён быў непісьменны: не разжаваў нават соль азбукі. Але ён ведаў слова “Ленін” – і ён ведаў усё!»

Гэта як зомбі: было дастаткова ўкласці ў галаву адну толькі думку.

*С.А.:* Калі я вас зараз слухаю... або прыгадваю, што вядома мне пра тую эпоху і людзей таго часу, мне здаецца, што гэтаму пакаленню свет здаваўся надзвычай простым і зразумелым. Не існавала ніякіх таямніц: чалавек бачыўся вялікім і ўсёмагутным. Таму і на парадах твары былі вясёлыя, гучала радасная музыка...

*В.Б.:* Так, свет быў вельмі просты. Вы ўявіце: у піянерлагер, ідучы ў сталовую, мы кожнага разу спявалі такую песню:

Красин бережно торгуется –
Всё боится прогадать.
Англия с Францией целуется –
Хочет цену набавлять!

І такую лухту мы спявалі стройна і звонка...

Я яшчэ заспеў старых, ранейшых настаўнікаў – рускую інтэлігенцыю, што ацалела пасля прыходу савецкай улады. Гэтыя людзі баяліся літаральна ўсяго. Гэта былі людзі, асуджаныя на небыццё. Як бізоны, маманты... А маладыя настаўнікі, што скончылі рабфак... Я памятаю аднаго настаўніка гісторыі – ён увесь час пляваў на падлогу. Вакол яго пастаянна было цэлае сузор’е гэтых пляўкоў! Гэта значыла, што ён быў сваім хлопцам, гэткая «рабочая костачка».

*С.А.:* А што выратавала вас? Як вы ацалелі?

*В.Б.:* Майму духоўнаму адраджэнню дапамагла паэзія. У сёмым класе хлопец па прозвішчы Новікаў даў мне «Анталогію рускай паэзіі» – ад Салаўёва да Міхаіла Святлова, якую я цалкам перапісаў. Я ж нічога не ведаў. Мандэльштам, Белы – мы нават не чулі гэтыя імёны. Але, вядома, нешта ў душы ўжо было... вось гэтая ранімасць, жаль... Дырэктар школы, які добра да мяне ставіўся, даў мне мянушку «амерыканскі назіральнік» – за маю «сузіральнасць».

У паэта Барыса Карнілава, расстралянага ў 1938-м, ёсць такія радкі:

Видно, ты и впрямь была воловья
Сила жизни, жажда красоты,
Если и теперь еще готов я
Славить мир до слез и хрипоты.

Акрамя гэтага, шмат чаму вучаць нас страты. Калі мой старэйшы брат пакончыў з сабой (паколькі пасля забойства Кірава з'явілася разнарадачка на «ворагаў народа»), мяне зачынілі ў вар'яцкім доме...

*С.А.:* Вы і праз гэта прайшлі...

*В.Б.:* Не сам прайшоў, а лёс правёў.

Мой брат вучыўся ў КІЖы (Камуністычным інстытуце журналістыкі). Яму было дзевятнаццаць гадоў. Ён жыў у літаральным сэнсе ў галечы: хадзіў у драўляных чаравіках і называў іх «стук моды». І меў толькі касаваротку. Патрапіўшы ж у «чорны» спіс, пакончыў з сабой – павесіўся. Дома ад мяне гэта доўга хавалі...

Самагубства брата вельмі моцна паўплывала на мяне – нешта ўва мне надламалася. Мне ўсё стала абыякава. Я не хацеў жыць. І, уласна кажучы, і перастаў жыць... Потым ужо ўва мне ўзнікла супрацьстаянне, але не палітычнае, а супрацьстаянне ў тым сэнсе, што я адзін у гэтым свеце. Як мудра пісаў Юрый Алеша, «усмешка хлопчыка, які адчувае сябе не такім, як усе, паступова ператвараецца ў сабачы ашчэр загнанага дарослага чалавека».

Я нейкі час настаўнічаў у вёсцы – выкладаў гісторыю, геаграфію і канстытуцыю. І па абавязку настаўніка казаў, што савецкая канстытуцыя дала калгаснікам шчаслівае жыццё. На што дзеці рэагавалі наступным чынам: «Во дае!» І іншы разважлівы голас: «Чай, ён грошыкі атрымлівае за гэта!»

Але хоць я вельмі бедна жыў, ужо адчуваў: мне болей не трэба. Супрацьстаянне вось гэтай хлусні і стварыла маю творчасць. Гэтаксама пастаянная небяспека стварае выдатнага драпежнага звера: калі б у ваўка ці тыгра заўсёды было свежае мяса, яны проста вырадзіліся б! Няўдалае каханне таксама стварае вялікія творы.

*С.А.:* Але вар'яцкі дом – гэта, напэўна, яшчэ адзін свет, прычым значна больш страшны?

*В.Б.:* Няма больш бяскрыўднага народу, чым гэтыя няшчасныя людзі. Кожны з іх заняты толькі сабой. Калі і былі нейкія ўспышкі, санітары іх адразу па-варварску падаўлялі ўціхамірвальнымі кашулямі і ўколамі... Гэтыя людзі нават у шахматы гулялі, музыку слухалі, пра нешта адзін аднаму гаварылі, але пераважна сузіралі.

Прычым віды вар'яцтва вельмі арыгінальныя: адзін чалавек звар'яцеў ад таго, што яго прозвішча было Генералаў, і ён уяўляў сябе генералам. Былі няшчасныя людзі, якіх кінулі жонкі... Псіхіятрыя – навука вельмі цёмная. Лекары здольныя былі ператварыць нармальнага чалавека ў хворага. На маёй памяці лекар назваў аднаму «хвораму» прыкладна дванаццаць двухзначных лічбаў – паўтары! Той адказвае: «А калі я вам назаву такі шэраг лічбаў, вы здолееце паўтарыць?» – «Ты мне пагавары! У ізалятар патрапіш!» Я шмат што бачыў... Аднойчы ў бальніцы я сустрэў чалавека з налітымі крывёю вачыма, які крычаў: «Я ўсіх вас, гадаў, перастраляю! Перастраляю!!!» Ён быў у жаху ад уласнага катаўства, часта ляжаў на ложку і рыдаў. Мабыць, усё з прычыны таго, што простага вясковага хлопца прымусілі быць катам.

У псіхушцы мяне закормлівалі аміназінам. Яго даюць палітычным, каб чалавек не думаў, нічога не адчуваў. Гэта таксама трагічная гісторыя... Адзін лекар, кар'ерыст, наўмысна закормліваў мяне лекамі, каб зрабіць «хронікам». Ён стаў потым кандыдатам навук. Я цудам вырваўся з хранічнага аддзялення... Праўда, два гады потым не мог ні чытаць, ні пісаць.

*С.А.:* Але вы былі амаль дзіцем – трынаццаць-чатырнаццаць гадоў, – калі ўпершыню апынуліся ў вар'ятні!

*В.Б.:* Адна медсястра называла мяне «горкае дзіця». Я гадоў дванаццаць не ведаў, што такое кавалак хлеба дасыта. Галадаў страшна... Пастарнак аднойчы сказаў мне: «Вы свеціцеся ад голаду!» Я вось гэтымі тоненькімі ручкамі абдымаў сябе за талію. І калі стаяў на рэнтгене, свяціліся літаральна ўсе костачкі...



*Святлана АЛЕКСІЕВІЧ і Веніямін БЛАЖЭННЫ.*

Вы, Святлана Аляксандраўна, пытаецеся пра каханне? Яно можа быць паўсюль. Каханне само па сабе – гэта дзівоснае вар'яцтва. Інакш была б проста селекцыя: людзей падбіралі б па целаскладзе, росце...

Я не выключаю цудоўнага кахання ў любых выявах. Прыгадваецца выдатны аповед чэшскага пісьменніка Ашкеназі. У адной вядомай актрысы-яўрэйкі быў сабака пароды аўчарка. І калі немцы зняволілі актрысу ў канцлагеры, сабаку сталі навучаць прыёмам крыважэрнасці і жорсткасці. У выніку сабака трапіў у каманду канцлагера. Але аднойчы прывезлі эшалон з вязнямі, і гэты сабака, кідаючыся на людзей, валіў іх. Адной з першых з эшалона выйшла яго гаспадыня. Сабака, паваліўшы яе, стаў на яе лапамі... І раптам ён пазнаў... І пакутліва завыў... Ён выў ад жахлівага неразумення людской злосці. І немец застрэліў сабаку... Гэта таксама каханне...

Мне ўжо шмат гадоў. Я пішу вершы не таму, што займаюся вершаванай творчасцю, а таму што шукаю сябе ў гэтым свеце – навошта чалавек жыве? Я зноў адраджаю гэтыя вечныя каштоўнасці. Таму мне ёсць пра што пісаць. Чалавек вечны. Вечная душа. І вашая кніга пра Чарнобыль – гэта дзённік, гэта аголенае чалавечае сэрца. Вы задаяцеся тымі ж самымі пытаннямі: што з намі здарылася? чаму? што будзе далей?

*С.А.:* І ў вас ёсць адказы на гэтыя пытанні?

*В.Б.:* Адказаў няма. Гэта вялікая таямніца быцця.

*С.А.:* Ваш апошні паэтычны цыкл называецца «Боль дабра». Ці не падаецца вам, што наша культура эстэтызавала пакуты? Яны сталі нашым культам і нашым прытулкам. Я не аднойчы чула ад людзей вашага пакалення: «Мы – ахвяры, мы так пакутавалі!» І вельмі рэдка, амаль ніколі: «Мы самі вінаватыя ў тым, што адбывалася з намі. Дзесьці збаяліся, дзесьці зманілі». Усе былі ахвярамі. А хто ж каты? Хоць катамі на самай справе былі тысячы, мільёны, бо кат не толькі той, хто страляў, але і той, хто пісаў данос, хто прамаўчаў або прагаласаваў «за»... Я напісала пяць кніг, сустракалася з тысячамі людзей, і ніхто ні разу не сказаў: «Гэта я вінаваты. Я сам». Толькі «мы». Або «яны».

*В.Б.:* Страх быў паўсюдны. Паўлік Марозаў, які данёс на свайго бацьку, лічыўся нацыянальным героем. Вас магла выдаць вашая ж дзяўчына. І таму трэба было ведаць, што казаць. Над намі пастаянна навісала гэтая навальнічная хмара. Сталін жа казаў, што некаторыя таварышы пакутуюць на ідыёцкую хваробу – бестурботнасць. Здрады былі на ўсіх узроўнях... Вось у нас на кірмашы адзін кравец займаўся дробным рамонтам. І ў яго вісеў партрэт Кагановіча. Аднойчы падчас працы ён торкнуў яму ў вока іголку. Гэтага было дастаткова, каб чалавек знік.

Баяўся і мой бацька. Але як яму было не баяцца, калі аднойчы на яго фабрыцы дырэктар па прозвішчы Гінзбург, прыйшоўшы ў цэх з зацікаўленымі таварышамі, раптам паказаў пальцам на працоўных: «Гэты вораг народа, гэты і той». Адзін з тых «ворагаў» увогуле быў непісьменным чалавекам, а яго абвінавацілі ў трацкізме! Ён потым пытаўся: «Хто такі Троцкі, халера яго вазьмі?!» І «трубіў» дзесяць гадоў. Аднак выжыў. Двое іншых звар'яцелі.

*С.А.:* Гэтая ненадзейнасць, нетрываласць свету мяне проста агаломшвае!

*В.Б.:* Калі казаць яшчэ пра пакуты... Не памятаю, хто напісаў: «Якая пошлая і бязглуздая формула: "Чалавек народжаны для шчасця, як птушка для палёту". Чалавек народжаны для большага». «Чалавек – нешта большае, чым чалавек», – казаў Гётэ. Чалавек народжаны для духоўнага подзвігу, для пошуку, міласэрнасці і самаадданасці. Гэта аснова быцця. Калі малады Мераджкоўскі прынёс вершы Фёдару Міхайлавічу Дастаеўскаму (Дастаеўскі таксама, дарэчы, пісаў вершы, і даволі добрыя), Фёдар Міхайлавіч не стаў гаварыць яму пра вобразы або рытмы – ён сказаў: «Малады чалавек, навучыцеся пакутаваць, і вы навучыцеся пісаць». «Чтоб тайная струна страданья согрела холод бытия», як у Пастарнака. Пакуты Ахматавай, гнеўныя пакуты Цвятаевай, пакуты маладога Маякоўскага, які і хаміў, і грубіў, але ў той жа час быў далікатным і сарамлівым чалавекам... А інакш чаго вартае любое быццё?

*С.А.:* А што можа быць большым за самое жыццё? Чаму сэнс нашага жыцця нам трэба выносіць за межы саміх сябе? Чаму б нам, нарэшце, не навучыцца радавацца жыццю, прыгожаму дому, добраму настрою, букету кветак на стале? А не закрываць сабой амбразуры, падымацца на дах атамнага рэактара, стаяць са сцягам на барыкадах... У вас няма адчування пратэсту? Па-мойму, маладое пакаленне пратэстуе.

*В.Б.:* Безумоўна, ёсць. І заўсёды было. Я не пісаў выкрывальніцкія вершы пра Сталіна і сталіністаў. Інакш проста задыхнуўся б ад уласнай нянавісці. Для мяне найперш існуе гэтая сусветная трагедыя, што заключаецца ў вялікім супрацьстаянні Дабра і Зла. Прычым трагедыя гэтая існуе ў кожным учынку, бо здрада адбываецца заўсёды – дробная і буйная. Мы расчароўваемся, але потым зноў прагнем любіць увесь свет.

Уся гісторыя чалавецтва – гэта шлях чалавека ў самім сабе. Няма нацый, няма розных ідэалогій. Нічога гэтага няма. Мы ўсе блукаем у гэтых прывідных сценах. І толькі шукаем шлях да сябе. Знойдзем – свет выратуецца. Не знойдзем – свет загіне. І выбух атамнай бомбы – гэта проста маральнае падзенне чалавецтва, увасобленае тэхнічным інтэлектам. Бо забіваць нельга.

Мяркую, што людзі ў дахрысціянскія часы былі значна больш высакародныя... Я вось чытаў легенду пра галаў, што заваёўвалі правінцыі Рымскай імперыі. І калі гальскі правадыр, падняўшыся па вузкай сцежцы, убачыў дзівосную аголеную жанчыну, якая ляжала на камянях (асаджаныя аддалі яе ў ахвяру), ён загадаў войску павярнуць назад. Разумееце, ён быў ваяром, але не быў гвалтаўніком. Калі нават гэта і легенда, створаная, дарэчы, не сёння і не ўчора, то яна ўсё адно ўвасабляе ў сабе дух эпохі.

Часам кажуць, што Хрыста не было. Аднак людзі, якія стварылі вобраз Хрыста, існавалі! І яны ўвасобілі ў слове чалавечую мару пра ідэальнага чалавека, якая жыве ўжо дзве тысячы гадоў і будзе жыць вечна.

У юнацтве чалавек кожны дзень разважае над падобнымі пытаннямі. І, задаючы іх сабе, усё роўна заходзіць у тупік, але шукае, шукае, упрэцца ў сцяну і зноў шукае абходы – направа і налева...

Вось смерць – гэта заспакаенне? Часам нават прагнеш гэтай гармоніі небыцця, паколькі нябыт і быццё – гэта ўсё прывідныя паняцці, і паміж імі існуе зусім тонкая мяжа. Ды і як знайсці на ўсё адказ?! Калі ж усё раскладзена па паліцах,

нібы ва ўніверсаме, тады і жыць не трэба. «Я жить хочу, чтоб мыслить и страдать», – пісаў Пушкін, вялікі аптыміст і жыццялюб. Заўважце: жыць не для таго, каб танцаваць на балях і заляцацца да жанчын. Найвышэйшая радасць – гэта высокія пакуты.

*С.А.:* Слухаючы вас, я думаю, што мы асуджаныя: асуджаныя шукаць нейкі свой шлях, асобны ад чалавецтва. Нам заўсёды не хапае проста жыцця. І калі мы будзем выбіраць паміж сучасным аўтабанам і ідэяй, абярэм ідэю. Нам патрэбны нейкі метафізічны сімвал, нешта большае, чым жыццё.

*В.Б.:* Але ўжо ніколі не будзе такіх людзей, як наша пакаленне, – рэвалюцыйных аскетаў: «Дан приказ ему на Запад, ей – в другую сторону». Тое, як маё пакаленне разумела шчасце, запатрабавала занадта шмат крыві...

Вось вы пыталіся, як ратавалася мая душа...

*С.А.:* Мне здаецца, я здагадваюся. І здагадка мая заснавана на вашых вершах: я не адчуваю ў іх чалавека з іншага пакалення. Вы як быццам адсюль, з нашага свету. Як вы пішаце пра жывёл, пра тое, што мы – адзін жывы свет, што ўсе мы роўныя...

*В.Б.:* Тое ж самае я знайшоў у вашай кнізе «Чарнобыльская малітва». Пра тое ж пісаў і Гумілёў:

Я за то и люблю затеи
Грозовых военных забав,
Что людская кровь не святее
Изумрудного сока трав.

Пасля таго, як памерла наша кошка, я напісаў цыкл вершаў, адзін з якіх надрукаваў «Новый мир». І адзін паэт сказаў мне: «А я й не ведаў, што ў вас быў прыёмны сын...» Я плакаў, таму што гэтая кошка, паміраючы, глядзела на мае рукі, якія маглі зрабіць для яе літаральна ўсё... У яе вера была, што гэтыя рукі выратуюць яе!

*С.А.:* Пасля Чарнобыля там, на мёртвай зямлі, да мяне прыйшло адчуванне блізкасці ўсяго жывога. Я стала інакш глядзець на каня, птушку, мураша. Гэты свет наблізіўся да мяне. Памятаю, як стары пчаляр распавядаў пра першыя дні пасля аварыі: «У мяне дзесяць вулляў, – казаў ён. – У першы дзень не вылецела ніводная пчала, у другі... Ну, думаю, штосьці-небудзь здарылася ў прыродзе, калі пчолы баяцца пакідаць вулей. Яны даведаліся пра ўсё раней за нас, людзей».

Я яшчэ думаю пра гэта напісаць – пра чалавека, якога мы ведаем, пра чалавека, які нанава задумваецца пра свет і пра тое, што вакол яго, і хто ён ёсць.

*В.Б.:* Аднойчы, калі я быў у стаматалагічнай паліклініцы, туды зайшоў стары хворы сабака. Дамы з рэгістратуры тут жа закрычалі: «Трэба, каб яго забралі! Трэба патэлефанаваць!» Але я адказаў: «Не бойцеся – ён вас не ўкусіць!» Праўда, у той жа час падумаў: «Хутчэй вы яго ўкусіце». Сеўшы побач з сабакам, я абняў яго: «Ну што, сабака, не зразумелі нас тут». А адна дама сказала: «Не хапала сабакі, дык яшчэ і вар'ят прыйшоў!..»

Вось у мяне ў гасцях была спявачка Камбурава, яна пакланілася мне: «Дзякуй за вашых катоў і сабак». Вы разумееце, яна ўбачыла прыгажосць гэтых жывёл, іх высакароднасць, адданасць. Калі ты нармальны чалавек, то людзі больш за ўсё схільныя лічыць цябе вар'ятам. Не ўсе ж разумеюць твой язык. І калі пішу, што бачу Цвятаеву сабакам, што кульгае ля сцен Іерусаліма, гэта з маіх вуснаў гучыць пахвалой. Гэта маё захапленне. Але людзям цяжка гэта зразумець.

Увогуле, мой уласны дух пазірае на маю абалонку, як салдат на вош. Абалонка гэтая нікчэмная, якой бы ні была з'ява духу. Тое, што Гасподзь уклаў мне ў душу, ніяк не суадносіцца з маім нікчэмным жыццём. У рэчаіснасці гэта нейкае іншае, сапраўднае жыццё. І калі я прыйшоў з нейкага свету, то ў гэты свет і пайду...

Калі да мяне ў госці хацеў прыйсці паэт Фёдар Яфімаў, паэт Кіслік, цяпер нябожчык, адгаворваў яго: «Навошта ты да яго пойдзеш? Ён толькі пра мерцвякоў піша». Уяўляеце, якое неразуменне!.. Кушнер жа ўсё разумеў, таму што сказаў мне: увесь час пісаць пра смерць – гэта пісаць пра бессмяротнасць. Я ж пра памерлых пішу як пра жывых. Гэта вечнае жыццё, вечны карагод, неспасціжны для нас.

Пока я жив, никто не умирал,
Умершие живут со мною рядом.

*С.А.:* З гадамі ўсё больш знаёмых людзей там, наверсе. І ўжо не страшна пераходзіць у іншы свет, бо там ужо практычна ўсе. Ці гэта толькі нашае ўяўленне, наша фантазія...

*В.Б.:* Не, гэта не абстрактнае паняцце. Мой бацька памёр у 1953 годзе. І я толькі цяпер разумею падаплёку, каштоўнасць некаторых яго ўчынкаў. Справа ў тым, што, нешта страціўшы, мы нешта і знаходзім. Прычым прыгадваем усё тое станоўчае, што, уласна, і складала гэтага чалавека.

*С.А.:* А жывёл, што памерлі, таксама памятаеце?

*В.Б.:* Вядома, памятаю... Маё значэнне ў паэзіі не ў тым, што я нешта абнавіў, знайшоў новыя формы, а ва ўсёчалавечай узаемасувязі дабрыні. Хоць людзям цяжка гэта зразумець. Аднак яны гэта адчуваюць. І пішуць пра мае кнігі. Я ж не замаўляю рэцэнзіі. Людзі самі адносяць мае вершы ў рэдакцыі.

*С.А.:* У Бібліі напісана, што жывёлы – гэта «прах, які ходзіць»...

*В.Б.:* А чалавек? «Что ропщет мыслящий тростник?» – так Паскаль казаў пра чалавека. Хіба чалавек – гэта не прах?

*С.А.:* У Хаяма: глінай я быў і вярнуся ў гліну. Такое кола... Каханне – гэта, вядома, таемства. Але самая вялікая таямніца – смерць.

*В.Б.:* Гэта вялікая таямніца таемстваў. Але мяне гэта не палохае.

*С.А.:* Веніямін Міхайлавіч, сёння жыццё прыходзіць да вас з тэлевізара, але вам не хочацца выйсці на вуліцу і пагаварыць з людзьмі? Ці вы расчараваны ў людзях?

*В.Б.:* Ды не, я самотны чалавек. Выйсці хацелася. І часам я выходзіў... Тут па раніцах выгульваюць сабак. Я іх вельмі люблю. І сабакі, напэўна, нават на адлегласці адчуваюць гэта. Аднойчы я сядзеў на лаўцы, і велізарная сабачына ўтаропілася на мяне проста з непрыхаванай цікавасцю!..

Я памятаю шмат такіх каціна-сабачых гісторый... Неяк падчас вайны я праходзіў вясковай вуліцай і жаваў сухую скарынку. І раптам здаровы сабака накінуўся на мяне! Скарынка засела ў мяне ў горле, і калі, нарэшце, я праглынуў яе, сказаў: «Ты што?» І ўявіце сабе, сабака заматляў хвастом і вінавата сеў!..

*С.А.:* А чым увогуле ўзрушыў вас чалавек: усё-ткі сваёй нізасцю або, наадварот, узнёсласцю душы? Я сама ніяк не магу вырашыць гэтае пытанне...

*В.Б.:* І тым, і другім. Калі я развітваўся з Пастарнакам, ён сказаў: «А ўласна кажучы, навошта вы да мяне так часта хадзілі?» Але я з папрокам адказаў: «І вы яшчэ пытаецеся?» Ён усё зразумеў...

Мы бачыліся з ім так часта не таму, што ў мяне такі ўжо талент быў. Хоць талент у мяне, дапусцім, ёсць, але супрацьлеглы сістэме Пастарнака. У яго ж іншае выхаванне, іншае жыццё. Ён нават казаў мне: «Зацягнулі Лазара!» Але, мабыць, я так «зацягнуў», што гэта выклікала ў яго нейкую цікавасць. Ён жа сам запрашаў мяне. Я не хадзіў без дазволу.

*С.А.:* Але Пастарнак – гэта асобная духоўная арганізацыя. Тут усё зразумела: чалавечая прырода ў дадзеным выпадку папрацавала выдатна. Але якой думкі вы пра астатніх людзей?

*В.Б.:* У мяне было ідэальнае ўяўленне пра паэтаў. Але некаторыя з іх аказаліся і здраднікамі, і шкурамі. Не хачу называць іх імёны...

*С.А.:* Гэта значыць, што пытанне «Што такое чалавек?» засталося для вас адкрытым?

*В.Б.:* Жыццёвы досвед – гэта пустыя словы. Можа быць камерцыйны досвед, досвед рыбалова, паляўнічага або інжынера. Але што такое жыццёвы досвед, калі жыццё ставіць нас перад такімі катастрофамі?! Мы ж ведаем, што сканаем, што памрэ хто-небудзь з блізкіх людзей. Але хіба ўсведамленне гэтага дапамагае нам перажыць страты?..

Вось вы кажаце пра досвед. Віктар Барысавіч Шклоўскі (я бачыў яго, калі яму было амаль дзевяноста гадоў) сказаў: «Як у восем гадоў на нешта крыўдзіўся, так і цяпер крыўджуся. Усё як было, так і ёсць. Старэе цела, а душа вечная».

*С.А.:* Ці гаварылі вы калі-небудзь з Пастарнакам ці Шклоўскім пра смерць?

*В.Б.:* Ніколі, бо размова пра смерць – гэта не размова паэтаў.

*С.А.:* Думаю, што ў сапраўднай паэзіі абавязкова павінен быць заключаны нейкі патаемны дух рэчаў, фізіка і метафізіка тут заўсёды побач.

*В.Б.:* Вось паглядзіце, які атрымаўся цуд з зусім простых слоў:

В горнице моей светло.
Это от ночной звезды.
Матушка возьмет ведро,
Молча принесет воды.

Гэта – Рубцоў. Ну, што тут такога?.. А Пастарнаку спадабалася вось гэтае маё чатырохрадкоўе:

На дерево залезешь,
Глядишь в кудрявый лес:
Что чудищ, что поэзищ
И маленьких поэз!

Часам ты нібы маланку ловіш! І потым гэты радок ужо галінуецца, разгаліноўваецца...

У Пушкіна ёсць дзівосны радок: «Над вымыслом слезами обольюсь». Гэта значыць над веліччу чалавечай думкі. Гэтак жа плакаў Горкі, калі слухаў Ясеніна. Так плачу я ад некаторых вершаў – сваіх і чужых. Гэта найвялікшае шчасце – спасціжэнне прыгажосці. Рэлігія – прыступка да разумення прыгажосці чалавечай душы... У мяне адзін выпадковы чалавек убачыў слова «Бог» з вялікай літарай, ён сказаў: «Вы контррэвалюцыю пішаце!» Аднак, на шчасце, ужо пачалася перабудова, і ў часопісе «Новый мир» быў апублікаваны верш Арсенія Таркоўскага, дзе слова «Бог» было з вялікай літары... У савецкага чалавека проста анекдатычная свядомасць: калі так напісалі ў друкаваным органе, значыць, Бога і вялікую літару ўжо дазволілі...

*С.А.:* Застаецца толькі зрабіць выснову, што алхіміяй мы з вамі займаемся, Веніямін Міхайлавіч...

*В.Б.:* Таркоўскага называлі алхімікам слова. І якая была для мяне радасная нечаканасць, калі ён дасылаў мне такія цудоўныя лісты! І калі мне вельмі горка, я заўсёды ўзгадваю адну яго фразу: «Што б казала і пісала Марына Цвятаева пра вашы вершы...» Таму што суд Марыны Цвятаевай – гэта суд Божы.

*С.А.:* Часы сыходзяць. Чалавек застаецца. Усё тыя ж Адам і Ева. У аднаго ўсходняга чалавека ёсць верш, які заканчваецца такой думкай: памятай чалавек, што неба жадае.

Дзякуй, Веніямін Міхайлавіч, за гэтую сустрэчу. За яе радасць.



Ева Лявонава



…для нацыі, можа, небяспечней
паддацца духоўнаму заваяванню,
чым заваяванню сілай зброі…

# «Рух незавершаны і космас вершаваны…»

***Лёс і паэзія Гіёма Апалінэра***

*Апошнім часам у айчыннай культурнай прасторы рашуча, важка і грунтоўна заявіла пра сябе кніжная серыя **«Паэты планеты»** (Мінск: Выдавец Зміцер Колас). Здзяйсняецца праект надзіва шпаркімі тэмпамі: у серыі, заснаванай літаральна два гады таму, у 2016-м, ужо пабачылі свет выбраныя творы мастакоў слова розных эпох і народаў – Сапфо і Петраркі, П'ера дэ Рансара і Ўільяма Шэкспіра, Ёгана Вольфганга Гётэ і Фрыдрыха Гёльдэрліна, Умара Хаяма і Генрыха Гейнэ, Райнера Марыя Рыльке і Габрыэлы Містраль, Шарля Бадлера і Гіёма Апалінэра ды інш. Відавочна, творы названых паэтаў або наогул не выходзілі раней асобнымі выданнямі, або сталіся ў сваіх беларускіх прачытаннях на сёння вялікай рэдкасцю. Між тым патрэба ў беларускіх перакладах літаратур свету каласальная. Не адно дзесяцігоддзе выкладаючы гісторыю замежнай літаратуры па-беларуску, я адчуваю гэта, можа, як ніхто іншы. Праўда, дзякуй Богу і ўкладальніку Міхасю*

*Скоблу, ёсць магчымасць абаперціся на выдадзеную роўна дзесяць гадоў таму анталогію паэзіі свету ў беларускіх перакладах ХХ стагоддзя «Галасы з-за небакраю» (Мінск: Лімарыус, 2008), але па зразумелых прычынах яна не можа задаволіць усіх, агулам кажучы, філалагічных ды і проста пазнавальных і эстэтычных патрэбаў. Таму займець гожа выдадзеныя томікі замежнай паэзіі – сапраўдная раскоша.*

*Варта заўважыць, што Зміцер Колас не толькі апякуецца серыяй «Паэты свету» як выдавец, але і ўваходзіць у склад рэдакцыйнай калегіі – поруч з вядомымі перакладчыкамі Лявонам Баршчэўскім, Васілём Сёмухам, Андрэем Хадановічам, Ганнай Янкута; больш за тое, як таленавіты перакладчык з французскай мовы ён сам перастварае па-беларуску вершы асобных паэтаў.*

*Наперадзе – новыя жаданыя сустрэчы ў рэчышчы гэтай серыі; пакуль жа звернемся да асобы і творчасці Гіёма Апалінэра – аднаго з тых, што ўжо гавораць з намі па-беларуску ў надзеі на разуменне і душэўна-духоўнае суперажыванне. У свой час вершы французскага паэта выйшлі асобнай кнігай у беларускіх перакладах Эдзі Агняцвет. Новае выданне месціць у сабе пераклады, здзейсненыя Лявонам Баршчэўскім, Змітром Коласам, Уладзем Лянкевічам, Кацярынай Мацієўскай, Андрэем Стэфановічам, Андрэем Хадановічам, Ганнай Янкута.*

З пачаткам ХХ стагоддзя супадае і пачатак рашучага абнаўлення праблематыкі і мовы сусветнай літаратуры. Імкненне пісьменнікаў да эстэтычных змен, пошук новых сродкаў мастацкага адлюстравання рэчаіснасці былі цалкам заканамернымі. Нечуванымі тэмпамі мянялася жыццё, усё больш трагічныя падзеі ўзрушвалі чалавецтва, вялікія адкрыцці здзяйсняліся ў навуцы і тэхніцы, атрымалі развіццё новыя віды мастацтва. Усё гэта не магло не адбіцца на светабачанні чалавека і, адпаведна, на культуры і літаратуры. На выклікі часу розныя творцы адказвалі па-рознаму, шмат хто – катэгарычным непрыманнем (а часам і разбурэннем) традыцыі і гэткім жа катэгарычным сцвярджэннем новых мастацкіх напрамкаў і школ. Нямногім удавалася арганічна, таленавіта спалучаць у прыгожым пісьменстве старое і новае; паводле ж меркавання расійскай даследчыцы еўрапейскай літаратуры Т. Балашовай, толькі адзін пісьменнік здолеў «падпарадкаваць свайму генію розныя традыцыі і стаць прадвеснікам новых шляхоў – такіх жа шматстайных, супярэчлівых, як і традыцыі» (6, 23–24). Гэтым мастаком слова быў Гіём Апалінэр, 100-годдзе з дня смерці якога сёлета будзе адзначаць культурная грамадскасць свету.

Продкі вялікага французскага пісьменніка (насамрэч яго звалі Вільгельм Альбэр Уладзімір Аляксандр Апалінарый Кастравіцкі) па мацярынскай лініі паходзілі з Беларусі, з Наваградчыны (былая Мінская губерня), па гэтай версіі іх маёнтак знаходзіўся непадалёку ад родных мясцін Адама Міцкевіча. Як вядома, славуты паэт-рамантык быў закаханы ў прабабку Апалінэра Людвісю Кастравіцкую і прысвяціў ёй адзін са сваіх вершаў («Матрос»). Ёсць і іншая версія, паводле якой «род Кастравіцкіх, які даў сьвету слыннага Гіёма Апалінэра, жыў... у паўночна-заходняй Беларусі, у Дарашковічах (ці Дарожкавічах, як пазначана на сёньняшніх мапах) над Дзісной» (4, 9).

У 1863 г. браты Кастравіцкія ўзялі ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні, пасля паражэння якога ўлады канфіскавалі іх маёмасць, а саміх саслалі. Толькі аднаму з братоў, Міхалу, удалося эміграваць у Італію, на радзіму жонкі Джульеты Фларыяні. Ён пасяліўся з сям'ёй у Рыме, дзе ўладкаваўся на службу ў гвардыю. Магчыма, яму паспрыялі ў гэтым сваякі, былыя віленцы, якія ў свой час паспяхова служылі ў напалеонаўскім войску, а пасля апынуліся на чужыне – хто ў Італіі, хто ў Аўстрыі.

Дарэчы, з роду Кастравіцкіх паходзіў і беларускі пісьменнік і перакладчык Карусь Каганец (сапр. Кастравіцкі Казімір Карлавіч), чый бацька (таксама ўдзельнік паўстання, сасланы ў Сібір) быў, як сцвярджаюць біёграфы, стрыечным бра-

там Міхала Кастравіцкага. Што цікава, Карусь Каганец, як і Гіём Апалінэр, быў адораны талентам мастака, маляваў, афармляў кнігі, займаўся разьбой па дрэве. Памёр ён у тым жа, што і Апалінэр, годзе – 1918-м.

Дачка Міхала, шляхцянка расійскага падданства Анжаліка Кастравіцкая, па дакументах праходзіла то як руская, то як полька. Гіём, яе пазашлюбны сын, нарадзіўся 26 жніўня 1880 г. у Рыме. Паводле большасці біёграфаў, яго бацькам быў італьянскі афіцэр Франчэска д'Аспермон. (Існуе, аднак, версія, быццам па бацькоўскай лініі Апалінэр даводзіўся праўнукам Напалеону І. Ва ўсякім разе сам паэт ставіўся да гэтага сямейнага падання дастаткова сур'ёзна). Адразу пасля нараджэння хлопчык быў зарэгістраваны рымскай мэрыяй пад прозвішчам Дульчыні – як дзіця бацькоў, што не былі ўстаноўлены або не хацелі назвацца; толькі пазней яму было дадзена сапраўднае прозвішча.

Маці з дзецьмі (Гіём меў малодшага брата Альбэра) вандравала з краіны ў краіну, пакуль не апынулася ў Францыі. Тут Гіём у 1890–1899 гг. вучыцца ў каледжах Манака і Канаў, затым у ліцэі г. Ніцы. Ужо тады ён спрабуе пісаць і перакладаць з італьянскай мовы; свае вершы змяшчае ў рукапіснай газеце за подпісамі «Вільгельм Кастравіцкі» і «Гіём Макабр» («Гіём Змрочны»).

У 1899 г. сям'я пераязджае ў Парыж. У пошуках заробку Гіёму даводзіцца раз-пораз мяняць заняткі: ён працуе канторскім служачым, рэкламным агентам, сакратаром у рэдакцыі адной з парыжскіх газет, піша – усё дзеля таго ж заробку – шэраг раманаў на тэмы, папулярныя ў масавага і не надта пераборлівага чытача. Нарэшце ён прымае прапанову выкладаць французскую мову маленькай дачцэ графіні Мільгаў і накіроўваецца ў Германію, у мястэчка Конеф паблізу г. Кёльна. Асноўнай прычынай таго, што Апалінэр пагадзіўся стаць хатнім настаўнікам, было каханне да Анні Плейдэн, якая працавала ў доме Мільгаў гувернанткай і з якой ён пазнаёміўся яшчэ ў Парыжы. Моцнае пачуццё да Анні, а таксама ўражанні ад Германіі і іншых краін (Аўстрыі, Чэхаславакіі), па якіх ён падарожнічаў з сям'ёй графіні, знойдуць увасабленне ў паэтычным цыкле «Рэйнскія вершы». Створаны ў 1901 г., ён увойдзе пазней у зборнік «Алкаголі». У тым жа 1901 г. з'явяцца і першыя публікацыі паэта за подпісам «Вільгельм Кастравіцкі».

У 1902 г. Апалінэр адмаўляецца ад месца хатняга настаўніка і вяртаецца ў Парыж. Ён знаходзіць працу ў банку, а ў вольны час многа чытае. У гэтым жа годзе ён упершыню ставіць пад сваім апавяданнем подпіс «Гіём Апалінэр» (Guillaume Apollinaire), утвораны ад французскай формы імёнаў Вільгельм Апалінарый. Менавіта пад імем Гіёма Апалінэра паэт і ўвойдзе ў гісторыю французскай і сусветнай літаратуры.

З 1903 г. Апалінэр друкуецца вельмі актыўна. У 1904–1906 гг. ён знаёміцца з маладымі мастакамі і паэтамі Альфрэдам Жары, Максам Жакобам, Франсісам Карко, Хуанам Грысам, Жоржам Бракам, Андрэ Сальмонам, Анры Русо, Блэзам Сандрарам, Анры Мацісам, Андрэ Дэрэнам і іншымі; многія з іх сталі яго блізкімі сябрамі. Асабліва цеснае сяброўства звязвала Апалінэра з будучым славутым мастаком, выхадцам з Іспаніі Пабла Пікаса; яно не перапынялася да самай смерці паэта. Маючы на ўвазе першую іх сустрэчу ў 1904 г., польская даследчыца Юлія Хартвіг пісала: «Ніхто не здагадваўся, што ў тую ноч поціскам рук быў змацаваны саюз двух будучых правадыроў у паэзіі і жывапісе, асоб, якія... павінны былі стварыць новую школу каштоўнасцяў у еўрапейскім мастацтве» (15, 51). Яны моцна паўплывалі на эстэтычныя погляды і мастацкую практыку азін аднаго, часам нават звярталіся да адных і тых жа сюжэтаў (напрыклад, з вандроўнымі акрабатамі). Пікаса быў ілюстратарам кніг Апалінэра. Ён жа пазнаёміў паэта з мастачкай Мары Ларансэн, якая цягам некалькіх гадоў будзе спадарожніцай жыцця Апалінэра і пакіне заўважны след у яго творчасці.

Маладыя паэты і мастакі, што паходзілі як з самой Францыі, так і з іншых краін,

склалі своеасаблівае парыжскае багемнае брацтва. Многія з іх знайшлі прыстанак на Манмартры і Манпарнасе, дзе часта збіраліся, горача абмяркоўвалі новыя кнігі і тэатральныя прэм’еры, наладжвалі літаратурныя чытанні. Большасць з гэтых будучых знакамітасцяў на той час жылі ў вялікай нястачы; напрыклад, засталіся сведчанні, што Макс Жакоб з-за адсутнасці сродкаў на неабходныя матэрыялы часта маляваў, абмакнуўшы пэндзаль у рэшткі кавы ці гарбаты. Паводле ўспамінаў, Апалінэр быў надзвычай прыцягальнай істотай. «Паэты, мастакі, скульптары – усе тоўпяцца вакол яго... шукаюць яго падтрымкі» (15, 125), – пісала Ю. Хартвіг. Малодшы сябар паэта, будучы славуты пісьменнік і кінематаграфіст Жан Както заўважыў: «Усе любілі Апалінэра» (12, 32). Ж. Както ўзгадвае дзіўнае адчуванне, якое заўсёды з’яўлялася ў яго пры сустрэчы з Апалінэрам: нібы гэты чалавек валодаў здольнасцю чуць нешта нячутнае і недаступнае іншым, меў стасункі з загадкавымі светамі, адкуль ён атрымліваў таемныя пасланні, каб пасля перанесці іх у свае творы. Сапраўдны эрудыт, абаяльны і чулы, даверлівы і ранімы, з «тварам рымляніна» (Ж. Както), ён смяяўся ўсёй сваёй істотай, вельмі любіў дасціпныя жарты; мог, напрыклад, на званы вечар з’явіцца з намаляванай на бялюткай сарочцы чорнай бабачкай замест сапраўднага гальштука. Нават голасам ён валодаў адметным – адначасна іранічным і самотным. Ад прыроды ветлівы і элегантны, ён хутка сыходзіўся з людзьмі, пры тым што паміж ім і нават блізкімі сябрамі непазбежна захоўвалася нейкая нябачная мяжа. Нягледзячы на свой моцны целасклад, ён у многіх пакідаў уражанне дзіцячай непасрэднасці. Нездарма пасля смерці Апалінэра ўсё той жа Ж. Както напіша: «Смерць... павяла яго за руку, нібы дзіця» (12, 30).

Апалінэр быў вялікім знаўцам еўрапейскай літаратурнай спадчыны, яе даследчыкам і выдаўцом, збіральнікам старых і рэдкіх кніг. Валерый Брусаў, які наведаў французскага паэта ў 1909 г. у Парыжы, прыйшоў у захапленне ад яго цудоўнай бібліятэкі і літаратурных пазнанняў яе гаспадара.

Вызначальную ролю ў станаўленні Апалінэра як мастака слова адыграў Парыж з яго культурнай атмасферай, побытам, шматмоўем. Паэт ведаў Парыж так, як рэдкі парыжанін ведае свой родны горад. Між тым Апалінэр быў выхаваны ў павазе да радзімы продкаў і ніколі не забываўся на свае славянскія карані. Як каштоўныя рэліквіі захоўваліся ў сям’і нешматлікія рэчы, вывезеныя ў свой час з Дарашковічаў. Апалінэр сачыў за сацыяльна-палітычнымі падзеямі ў Расіі і Польшчы, развіццём рускай літаратуры, быў знаёмы з многімі расійскімі пісьменнікамі і мастакамі, пра некаторых з іх пісаў. Валодаючы ў пэўнай ступені рускай мовай, ён перакладаў для парыжскіх выданняў матэрыялы з расійскай прэсы. Некаторыя біёграфы славянскім паходжаннем тлумачаць абвостранае пачуццё гонару паэта і яго заўсёдную маркоту.

У Апалінэра было шмат сяброў сярод эмігрантаў з Расіі. Зблізіўся ён і з Сяргеем Дзягілевым, дзякуючы намаганням якога расійскае мастацтва перажывала ў Францыі пачатку XX ст. сапраўдны трыумф (з цягам часу С. Дзягілеў прыцягне да супрацоўніцтва і французскіх жывапісцаў, драматургаў, кампазітараў).

Сярод мастакоў, да якіх Апалінэр ставіўся з асаблівай прыязнасцю, быў Марк Шагал – выхадзец, як і маці паэта, з Беларусі. Жывапіс М. Шагала захапляў Апалінэра смелай вобразнасцю, тонкім лірызмам, непаўторнасцю фантастычнага, казачнай згодай мінуўшчыны і сучаснасці, памяці і ўяўлення. Шагал даволі выразна паўплываў на творчасць Апалінэра, яны часта бачыліся, пра мастацкую манеру і драматычныя абставіны жыцця Шагала Апалінэр нямала напісаў. Верш Апалінэра «Праз Еўропу» з прысвячэннем М. Шагалу, у якім ёсць такія шчымлівыя радкі:

...І ваша маленства згадваючы  
Я плакаць пачаў... (2, 64. Пер. Л. Баршчэўскага) –

змешчаны ў новым выданні.

Ніколі не было бясхмарным жыццё самога паэта. Неверагоднае непаразуменне надарылася з ім у 1911 г.: з Луўра скралі славутую карціну Леанарда да Вінчы «Джаконда»; па падазрэнні ў саўдзеле са злачынцамі Апалінэр быў арыштаваны і пасаджаны ў парыжскую вязніцу Сантэ. Хутка яго вызвалілі, усё ў рэшце рэшт высветлілася, але некалькі месяцаў турэмнага зняволення і допытаў дорага каштавалі Апалінэру. Пачалі з'яўляцца публікацыі аб небяспечнасці і непажаданасці для Францыі і яе культуры чужынцаў; гэта закранала гонар паэта і ўскладняла яго становішча, тым больш што французскае грамадзянства ён атрымае толькі ў час Першай сусветнай вайны, незадоўга да смерці.

Удзел у Першай сусветнай вайне – самая трагічная старонка ў нядоўгім жыцці Апалінэра. Як і многія яго равеснікі з розных краін (узгадайма хаця б будучых знакамітых пісьменнікаў – амерыканца Эрнеста Хэмінгуэя, немца Эрыха Марыя Рэмарка і іншых), паэт пайшоў на фронт добраахвотнікам. Магчыма, адыгралі ролю і рамантыка вайны, і жаданне даказаць адданасць Францыі, грамадзянства якой ён так доўга чакаў, і (як лічаць біёграфы) роспач ад непадзеленага кахання. У снежні 1914 г. ён быў залічаны ў артылерыйскі полк і пасля трох месяцаў казарменнай муштры апынуўся на перадавой. Яшчэ нейкі час рамантычна-ўзнёслыя настроі афарбоўваюць яго франтавыя вершы і лісты, але хутка саступяць месца цвярозасці – плёну асабістага непасрэднага сутыкнення з жудаснай паўсядзённасцю вайны, з яе крывёю, трупамі, акопным брудам, знявечанай выбухамі зямлёю.

17 сакавіка 1916 г. Апалінэр атрымаў цяжкае раненне: асколак снарада прабіў шлем і ўвайшоў у галаву дакладна ў тым месцы, якое ў свой час абвёў кружком на «прароцкім» партрэце паэта «Чалавек-мішэнь» мастак і сябар Апалінэра Джорджа дэ Кірыка. Па жорсткай іроніі лёсу літаральна за тыдзень да ранення Апалінэру паведамілі, што яго прашэнне аб французскім грамадзянстве ўладамі краіны задаволена. Якраз алюзію на гэтую падзею месціць у сабе верш-прысвячэнне Леаніда Дранько-Майсюка «Гіём Апалінэр»:

...На фронт паэт прыедзе халастым.
Вайне такія любы кавалеры.
Ад раны не ўратуе херувім
І нават блізкія сябры-жаўнеры.

Чым кроў паможа? Мусіць, што нічым,
Адно што здзейсніць даўнія намеры
Мець грамадзянства, каб сысці затым
З французскім пашпартам да Люцыфера (11, 297).

Паэт не загінуў на полі бою, некалькі складаных аперацый па трэпанацыі чэрапа выратавалі яго. Апалінэр зноў у Парыжы, дзе яму цяжка паразумецца з тылавікамі: «Усе месцы занятыя тымі, хто схаваўся ад мабілізацыі, і няшмат застаецца для былых франтавікоў... Я змучаны, а ў Парыжы я зараз сустракаю так мала спачування, што гэта прыводзіць мяне ў адчай. Эгаізм пануе паўсюль... Здаецца, усё загінула ў гэтай бясконцай катастрофе...» (цыт. па: 5, 276).

І ўсё ж пасля выхаду са шпіталя Апалінэр імкнецца да актыўнага ўдзелу ў парыжскім культурным і літаратурным жыцці, групуе вакол сябе маладзейшых паэтаў і мастакоў, найперш тых, хто ў хуткім часе будзе працаваць у рэчышчы сюррэалізму. Здзейснілася, нарэшце, мара пра асабістае шчасце – 2 мая 1918 г. Апалінэр узяў шлюб з рыжавалосай прыгажуняй Жаклін Кольб. Сведкам з яго боку быў усё той жа адданы Пабла Пікаса.

Між тым жыць паэту заставалася каля паўгода. Яго здароўе было настолькі падарвана, што не ўдалося адужаць грып (іспанку, як тады казалі). 9 лістапада 1918 г. Апалінэр памёр. У апошні раз лёс пасмяяўся з яго: пахаванне паэта, чыё жыццё забрала, па сутнасці, вайна, прыпала якраз на дзень падпісання міру.

Творчасць Апалінэра жанрава надзвычай разнастайная. Ён пісаў апавяданні і аповесці (увайшлі ў кнігі прозы «Загнілы чараўнік», 1909; «Ерэсіарх і К», 1910; «Забіты паэт», 1916; «Жанчына ў крэсле», апубл. 1920, і інш.), казкі, нататкі, рэцэнзіі, артыкулы. Асаблівае значэнне мела праца «Новая свядомасць і паэты» (1917), успрынятая сучаснікамі як маніфест новага мастацтва. У 1917 г. у Парыжы паставілі п'есу Апалінэра «Грудзі Тырэсія». Апалінэр пакінуў таксама літаратурныя партрэты Макса Жакоба, Джэйн Осцін, Поля Верлена і іншых. Арганічную частку яго творчасці склалі мастацтвазнаўчыя працы; сярод іх вылучаецца кніга «Мастакі-кубісты» (1913), у якой Апалінэр сцвярджаў неабходнасць канцэптуальнага жывапісу, звернутага да фантазіі і інтуіцыі гледача. Апалінэр напісаў пра многіх мастакоў – Поля Сезана, Агюста Рэнуара, Клода Манэ, Анры Маціса, Васіля Кандзінскага, Марка Шагала і інш.

Найважнейшае месца ў творчасці Апалінэра займаюць вершы і паэмы. У іх ён найбольш рэалізаваў свае эстэтычныя рэформы, абумоўленыя не толькі прыродай таленту паэта, але і, як ужо адзначалася, самім часам – эпохай інтэнсіўных змен сацыяльна-палітычнага і агульнакультурнага кшталту. Гэта быў перыяд вельмі супярэчлівых тэндэнцый. З аднаго боку, у прадчуванні Першай сусветнай вайны ўзмацняліся трагічныя настроі. З іншага, невыпадкова якраз тады ўвайшло ва ўжытак паняцце «belle epoque» – «залатая эпоха»: неймаверна ўзрастаюць хуткасці, дзякуючы развіццю авіяцыі «скарачаюцца» адлегласці паміж краінамі і народамі, у побыт і нават культуру ўсё больш пранікае механіка, з'яўляюцца фанограф, кінематограф, у розных відах мастацтва фарміруюцца новыя напрамкі.

Змянялася рэчаіснасць – змянялася паэзія. Апалінэра вабіла «проза жыцця», жыцця сучаснага, што віравала ў народжаным цывілізацыяй вялікім горадзе, які акунаў чалавека ў бязмежную адзіноту і адначасова ўсяляў у яго адчуванне шматлюддзя, далучанасці да сусвету. Мастак не шукае экзотыкі, ён сцвярджае паэтычнасць самых звычайных, добра знаёмых рэчаў, пераконвае, што падарожжа ў будні можа быць чароўна-захапляльным, абяцае дзіўныя адкрыцці на шляху ў гэты свет і спраўджвае чытацкія надзеі. «Усе свае невядома адкуль узятыя аметысты, ізумруды, сердалікі, агаты ён апраўляў проста на вуліцы, спрытна, як кашолачнік пляце кошык» (12, 28), – заўважыў Ж. Както.

З рэальнасці, са спалучэння-збліжэння звыклых прадметаў, з'яў, слоў стварае Апалінэр і свае незвычайныя, часам ашаламляльна-нечаканыя вобразы і метафары: «адвечны аэраплан сонца», «мокры твар Рэйна», «канат, сплецены з крыкаў», «чалавек, пакрыты попелам далёкіх продкаў», «статак пейзажаў», «артэрыі чыгунак», «скокі дамоў у нябёсах», «крыкі полымя», «людзі-машыны» і да т.п.

Пры ўсёй, аднак, незвычайнасці гэтыя вобразы і метафары застаюцца зразумелымі нават у тых выпадках, калі не зводзяцца да цалкам пэўнага сэнсу. Напрыклад, славуты вобраз сонца з «Зоны», якое «гіне на гільяціне» (у ранейшым перакладзе Э. Агняцвет – «сонца з перарэзаным горлам»), – гэта і прароцкі сімвал XX стагоддзя, у якім чалавецтва апынецца на мяжы існавання, і прадбачанне паэтам уласнага трагічнага лёсу. Неаднойчы мы будзем пазнаваць гэты вобраз у сусветнай паэзіі, у тым ліку беларускай (напрыклад, у «Паэме пагашаных люстэрак» Алеся Разанава, у «Баладзе дваіх» Віктара Шніпа).

Апалінэр часта выкарыстоўвае назыўныя сказы і пералічальныя рады, нібы робіць своеасаблівую інвентарызацыю сучаснасці з усімі яе старымі і новымі прыкметамі. У выніку рэальнасць пакідае, з аднаго боку, уражанне яе фрагментарнасці, з другога – максімальнай аўтарскай аб'ектыўнасці ва ўвасабленні жыцця.

Важную функцыю ў паэтычных творах Апалінэра выконвае гэтак званая сімультанная тэхніка, прызначаная адначасова адлюстроўваць падзеі, што адбываліся або адбываюцца ў розных месцах у розны або адзін і той жа час.

Жыццё малюецца паэтам ва ўсёй шматграннасці і настолькі пластычна, што

яго хада адчуваецца амаль фізічна, быццам не лірычны герой, а ты сам то спакойна прагульваешся па парыжскай вуліцы, то імчышся што ёсць моцы – не па Парыжы нават, а па ўсім белым свеце, праз дзівосна падатлівую прастору, у якой раптоўна сышліся-зляцеліся Бог, чалавек, аэрапланы, Эйфелева вежа... Вялікую ролю адыгрывае ў стварэнні такога эфекту мантаж – мастацкі прыём, прыўнесены ў паэзію Апалінэра і наогул у літаратуру XX ст. кінематографам. Вобразны рад манціруецца «з усяго, што ёсць», – фактаў, думак, эмоцый, раптоўных здымкаў-уражанняў. У выніку з мазаікі складваецца цэласная карціна, панарама жыцця чалавека і чалавецтва. Паэзія становіцца шматтэмнай, набывае ўласцівасць своеасаблівага мастацкага агляду, нават летапісу эпохі, вырастае ў лірычны эпас.

Асаблівую ўвагу Апалінэр надае рытмічнай арганізацыі вершаў. Іх рытм «жывы», часта нагадвае рытміку размоўную. Паводле трапнага выразу чэшскага паэта Віцезслава Нэзвала, радкі апалінэраўскіх твораў «спружыняць». Дамінуе свабодны верш, вольны ад строгай рыфмы, строфікі, памеру; адсюль – адчуванне непасрэднасці перажывання. Рытм становіцца сэнсаносьбітам, рэакцыяй на змены ў рэчаіснасці: спачатку ў ёй страцілася гармонія і парушыліся прапорцыі, і толькі пасля – у паэзіі.

У працяг літаратурнай традыцыі XIX ст. (ад рамантызму да сімвалізму) Апалінэр прапаноўвае сінтэзаваць слова, музыку, жывапіс, кіно. Згодна з яго меркаваннем, паэты «імкнуцца падрыхтаваць сябе да новага мастацтва (больш ёмістага ў параўнанні з чыста славесным), калі на чале нечуванага па маштабах аркестра яны атрымаюць у сваё веданне ўвесь свет, яго галасы і з'явы, думку і мову чалавечую, песню і танец, усе мастацтвы, усе сродкі... каб стварыць бачную і чутную кнігу будучага» (цыт. па: 15, 442).

Пры ўсёй глабальнасці праблем, якія Апалінэр распрацоўвае, стрыжнем кожнага яго твора застаецца «я» лірычнага героя, а агульначалавечае спалучаецца з аўтабіяграфічным, індывідуальна-інтымным. «Імкнуся да аднаго – выявіць тое, што неабходна і ўласціва асабіста мне. Дысцыпліна і індывідуальнасць – вось межы стылю, як я яго разумею, а ўсё іншае – толькі эпігонства, капіраванне нават не прыроды, а ўжо створанага ў мастацтве» (цыт. па: 15, 348). Іншымі словамі, паэт падпарадкоўвае свой талент уласнаму светабачанню, а не канонам і ўзорам, якімі б аўтарытэтнымі яны ні былі.

Апалінэр – пры ўсёй смеласці яго мастацкіх навацый – дастаткова памяркоўна ставіўся да традыцыі. У лісце да сябра, гісторыка літаратуры Андрэ Бійі, ён падкрэсліваў: «Я заўсёды лічыў сябе не разбуральнікам, а толькі будаўніком» (цыт. па: 15, 430). Ён звяртаўся да вобразаў і матываў з фальклору розных народаў, да міфаў і сярэднявечных легенд і паданняў, да эстэтыкі рамантыкаў і сімвалістаў.

Паказальна і павучальна (асабліва для нас, беларусаў), што Апалінэр сцвярджаў значэнне для кожнай літаратуры менавіта нацыянальнай традыцыі, нацыянальнай мовы; найперш яны забяспечваюць мастаку шматстайнасць літаратурных форм, багацце падзейнай і інтанацыйнай палітры. «Нельга забываць, – перасцерагаў паэт, – што для нацыі, можа, небяспечней паддацца духоўнаму заваяванню, чым заваяванню сілай зброі» (цыт. па: 15, 445). Усім самым здаровым і чыстым «паэзія абавязана ў першую чаргу народу, чыёй мовай яна гаворыць» (цыт. па: 15, 454), і апяваць веліч сваёй краіны, веліч сваёй мовы – адна з самых істотных задач мастака слова.

Многае з паэтычнай спадчыны Апалінэра было апублікавана толькі пасмяротна – у зборніках «Што ёсць» (1925), «Меланхалічны вартавы» (1952) і інш. Самымі ж значнымі прыжыццёвымі паэтычнымі кнігамі сталіся «Бестыярый, альбо Арфееў картэж», «Алкаголі», «Каліграмы. Вершы міру і вайны».

«Бестыярый», зборнік анімалістычных чатырох- і пяцірадкоўяў, выйшаў у 1911 г. накладам у 120 асобнікаў, кожны з якіх меў пергаментную вокладку, быў

пранумараваны і падпісаны аўтарам. Жанр бестыярыяў – казачных гісторый пра жывёл – быў вельмі пашыраны ў сярэднявечнай літаратуры. Іх аўтары кіраваліся пераважна рэлігійна-дыдактычнымі мэтамі: у апісаннях звяроў сімвалічна ўвасабляліся хрысціянскія пастулаты. Апалінэр задумаў напісаць «Бестыярый» яшчэ ў 1906 г., назіраючы за працай П. Пікаса над гравюрамі з выявамі звяроў. Паэт надаў бестыярнай традыцыі новае, уласна эстэтычнае аблічча, уключыў у мастацкую сістэму кнігі міфалагічны вобраз Арфея – музыкі, песняра, творцы, які нібыта вынайшаў усе мастацтвы і навукі, валодаў таямніцамі магіі і мог прадбачыць будучае, а іграў і спяваў так, што зачароўваў нават дзікіх звяроў і расліны. Паводле міфа, жонка Арфея Эўрыдыка загінула ад укусу змяі. Арфею ўдалося пранікнуць у царства мёртвых і ўгаварыць Аіда адпусціць Эўрыдыку, але з умовай, што цягам усяго зваротнага шляху Арфей не азірнецца на яе. Ён, аднак, не стрымаўся, азірнуўся і назаўсёды згубіў любую. Жахлівы канец чакаў і самога Арфея: нібыта з помсты за адданасць Эўрыдыцы яго разарвалі вакханкі, рэшткі ж Арфея былі сабраны і пахаваны музамі. Традыцыйна вобраз Арфея сімвалізуе моц і трагізм кахання і мастацтва. З Арфеем часта параўноўвалі і Апалінэра, які ў сваёй творчасці спускаўся ў апраметную памяці, мінуўшчыны, душэўных пакутаў. Дарэчы, у хрысціянскай мастацкай традыцыі Арфея-лірніка часта паказвалі якраз у атачэнні жывёл.

Сусветныя культура і літаратура – ад антычнасці да нашых дзён – неаднойчы інтэрпрэтавалі вобраз Арфея (літаратурныя творы Эсхіла, Авідзія, Р.М. Рыльке, Б. Пастарнака, М. Цвятаевай, Ж. Както, Ж. Ануя і інш.; жывапісныя – П. Рубенса, Н. Пусэна, К. Каро; скульптурныя – А. Радэна; музычныя – К. Мантэвердзі, К.В. Глюка, Ф. Ліста, Ж. Афенбаха, І. Стравінскага і інш.). Да вобраза Арфея звярталіся і беларускія пісьменнікі – М. Сяднёў, У. Караткевіч, У. Арлоў, Л. Рублеўская і іншыя, яшчэ раней арфічныя матывы выразна прагучалі ў творах П. Багрыма, З. Бядулі, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі і іншых.

«Бестыярый» – самая светлая кніга Апалінэра, цэласная, афарыстычная; мяккі гумар у ёй спалучаецца з глыбінёй сэнсу. Гэта «нешта накшталт кароткачасовай стаянкі ў ціхай гавані, дзе матрос, спакойны і вясёлы, цешыцца адпачынкам, хоць і ззаду і наперадзе ўсё яшчэ бачыць рыфы і бурлівае мора» (15, 191). На мінімальнай паэтычнай плошчы аўтар развівае пэўную ідэю, падказаную характарам або воблікам таго ці іншага прадстаўніка фаўны.

**ЧАРАПАХА**

Ляціць з фракійскага выраю
Мой спеў, святло несучы,
Бо панцыр зрабіўся ліраю,
І ўсе звяры – слухачы! (2, 18. Пер. А. Хадановіча)

Наяўнасць у кнізе вобраза Арфея ператварае яе ў хваласпеў не толькі прыродзе, але і мастакоўскай здольнасці пранікаць у таямніцы ўсяго існага. Асобныя радкі твораў прачытваюцца як эмблемы лёсу самога паэта і чалавека ўвогуле: «Усё, што нажыў, – боль і плач...» (Пугач; 2, 12); «Рух незавершаны і космас вершаваны...» (Конь; 2, 51. Пер. А. Хадановіча). Кожная мініяцюра суправаджалася малюнкамі Рауля Дзюфі. Многія вершы з «Бестыярыя» былі пакладзены на музыку французскім кампазітарам Франсісам Пуленкам.

У красавіку 1913 г. накладам у 600 асобнікаў выйшла кніга Гіёма Апалінэра «Алкаголі» з партрэтам аўтара работы Пабла Пікаса. Назва кнігі была нібыта падказана Блэзам Сандрарам і, паводле тлумачэння самога Апалінэра, змяшчала ў сабе думку пра палаючае, быццам спірт, XX стагоддзе з яго катаклізмамі, пра хмель існавання чалавека ў паяднанасці з сусветам. Блізка да аўтарскай задумы

зразумелі назву зборніка і даследчыкі, хаця амаль кожны дапаўняў яе сэнс пэўнымі нюансамі. Расійскі літаратуразнаўца М. Балашоў гаварыў, у прыватнасці, што «тут маецца на ўвазе ідэя глаголом жечь сердца людей» (5, 241). Паводле беларускага даследчыка літаратуры Б.П. Міцкевіча, «паэт хацеў сказаць, што жыццё XX стагоддзя пякучае... страшэннае, абпальваючае» (13, 142). Некаторыя ж літаратуразнаўцы лічаць, што праз назву «Алкаголі» праступае і алхімічная aqua vitae. Такі змест увасоблены ў многіх творах кнігі; напрыклад, адзін з радкоў паэмы «Зона» гучыць наступным чынам:

...Бо п'еш не разбаўляючы ніколі
Жыццё сваё нагбом як алкаголі (2, 20).

Зборнік «Алкаголі» склалі паэтычныя творы, напісаныя ў 1898–1913 гг. Сярод іх і «Рэйнскія вершы» («Май», «Звон», «Ларэлея» і інш.), і больш познія, у тым ліку выразна аўтабіяграфічныя (напрыклад, «Верш няшчаснага ў каханні», 1904; «У турме Сантэ», 1911). Кампазіцыя зборніка старанна прадумана; у пэўнай ступені яна ўзыходзіць да традыцыі Дантэ з яго «Боскай камедыяй». Кніга ўмоўна падзелена на тры часткі, і калі ў першай дамінуе матыў будучыні, то ў апошняй – мінуўшчыны, з якой лірычны герой развітваецца. У «тэхнічных» адносінах самая, бадай, складаная – другая частка: шматпланавыя вобразы тут нечаканым чынам лучацца паміж сабою, рытміка вершаў надзвычай дынамічная, канкрэтнасць у адлюстраванні жыцця суправаджаецца абстрагаванасцю, філасофска-сімвалічнай абагульненасцю, а іронія – узвышанасцю. Мэта такога мастацкага пісьма – стварэнне эфекту непасрэднага ўспрымання непасрэдных жа рэалій. Французскі літаратуразнаўца Мішэль Дэкадэн пісаў пра сутнасць апалінэраўскай паэзіі: «...рэч з гэтага часу не ў тым, каб твор задавальняў празмерныя патрабаванні фармальнай дасканаласці і мастацкія каноны: паэзія месціцца наўпрост у жыцці чалавека, у яго пачуццях, у яго падыходзе да акаляючага свету» (цыт. па: 5, 244).

У працэсе падрыхтоўкі «Алкаголяў» да выдання паэт адмовіўся ад пунктуацыі. Існуе версія, згодна з якой набраная ў друкарні кніга, дасланая аўтару для карэктуры, мела такое мноства памылак, найперш сінтаксічных, што ён, спачатку памкнуўшыся іх выправіць, урэшце наогул зняў знакі прыпынку. Цалкам магчыма, што Апалінэр, вялікі аматар розных містыфікацый, сам прыдумаў гэтую анекдатычную гісторыю.

Усур'ёз жа паэту даводзілася неаднойчы тлумачыць адсутнасць пунктуацыі, і ў прыватнасці тым, што «сам рытм і разбіўка вершаў паўзамі і ёсць сапраўдная пунктуацыя, ва ўсім астатнім ніякай неабходнасці няма» (цыт. па: 10; 8, 256). Да таго ж самі словы нясуць у сабе не толькі сэнс, але і рытм, музыку і патрабуюць максімальнага вызвалення з-пад дыктату правілаў і норм. Больш за тое, чытач мае права на ўласнае разуменне зместу прачытанага і, вядома, на ўласныя інтанацыі. Так давала аб сабе знаць адна з характэрных якасцяў багатай на навацыі авангардысцкай літаратуры: апошняя патрабуе ад чытача своеасаблівага суаўтарства, сутворчасці. Гэтая тэндэнцыя атрымае далейшае развіццё ва ўсіх сферах мастацтва XX ст. – ад літаратуры да жывапісу і кінематографу.

Зрэшты, Апалінэр быў не першым, хто вырашыў абысціся ў сваіх творах без знакаў прыпынку; у канцы XIX ст. тое ж спрабаваў рабіць французскі сімваліст Стэфан Малармэ, пазней – сучаснік Апалінэра Жорж Руо. Аднак менавіта ў апалінэраўскім «выкананні» гэты мастацкі эксперымент займеў гучны рэзананс і выклікаў супярэчлівае да сябе стаўленне. Варта заўважыць, што ў шэрагу пасмяротных выданняў зборніка пунктуацыя ўзнаўлялася ў адпаведнасці з першымі – часопіснымі – публікацыямі асобных вершаў, якія затым увайшлі ў «Алкаголі». Узнавіла яе ў свой час і Эдзі Агняцвет, праўда, патлумачыўшы, што адсутнасць знакаў прыпынку «неўласціва рускай, беларускай і наогул славянскай паэзіі» (1,

8). Між тым многія паэты XX ст., у тым ліку прадстаўнікі розных славянскіх (з беларускай уключна) літаратур, нярэдка будуць адмаўляцца ад знакаў прыпынку.

Увайшоў у зборнік «Алкаголі» і верш «Мост Мірабо» – сапраўдны паэтычны шэдэўр, паводле аднадушнага меркавання знаўцаў еўрапейскага мастацтва. Упершыню ён быў апублікаваны ў 1912 г. і яшчэ меў пунктуацыйнае афармленне. У кнізе «Алкаголі» ён размешчаны следам за паэмай «Зона» і працягвае распачатае ў ёй падарожжа лірычнага героя па ўласнай памяці, «плаванне па хвалях часу», развітанне з мінулым. Найперш гэта развітанне з былым каханнем, што прынесла яму радасць і боль, надзею і самоту. Горыч і туга, якія гэтак моцна прагучалі ў вершы, былі навеяны ўсімі папярэднімі расстаннямі паэта з каханымі, але ў першую чаргу сапсаванымі адносінамі з Мары Ларансэн. У лісце да Мадлен Пажэс ён прызнаваўся: «Мост Мірабо» – гэта сумная песенька пра шматгадовую і ўсё ж парваную сувязь з тою, што была натхняльніцай маёй «Зоны»... яна зразумела ўсю горыч гэтых вершаў і зразумела так добра, што, калі б яна гэтак жа добра ведала маё сэрца, усё пачалося б нанова» (цыт. па: 15, 359).

Менавіта «Мост Мірабо» сцвердзіў за яго аўтарам славу «паэта кахання»; па глыбіні і кранальнасці пачуццяў Апалінэра параўноўвалі з Полем Верленам.

Мары Ларансэн жыла з маці ў парыжскім раёне Атой, апетым у свой час П. Верленам у «Нататках удаўца». Па мосце Мірабо праз Сену шмат разоў спяшаўся і Апалінэр, каб наведаць каханую; магчыма, ён узгадваў пры гэтым менавіта Верлена, як пазней, на вайне, пад гарматным агнём, будзе ўспамінаць мілыя сэрцу ціхія вулачкі Атоя і ўваскрашаць іх у франтавых вершах. Аднак «Мост Мірабо» – не толькі трапяткі гімн каханню, гэта яшчэ і ўзор філасофскай лірыкі. Вытокі самоты лірычнага героя – не толькі ў драматызме адносінаў з каханай жанчынай, але і ў трагічнай рэчаіснасці пярэдадня вайны, і нават нашмат глыбей – ва ўсведамленні адвечнай зменлівасці лёсу, мінучасці шчаслівых імгненняў, няспыннасці хады часу і, нарэшце, хуткаплыннасці жыцця кожнага чалавека.

Разам з тым настраёва-інтанацыйная палітра верша не вычэрпваецца адно роспаччу і журбой. Дакладней, журба гэтая светлая, а адчай ідзе поруч з надзеяй на новую радасць. Учытаемся ж у радкі верша (прыводжу два яго пераклады на беларускую мову – ранейшы, прыналежны Э. Агняцвет, і новы, зроблены А. Хадановічам і апублікаваны ў серыі «Паэты свету», – дзеля таго, каб чытач меў магчымасць параўнаць іх).

**МОСТ МІРАБО**

Над мостам Мірабо струменіць Сена,
Нібы каханне наша.
Запомніць трэба, што бядзе на змену
Прыходзіць радасць вокамгненна.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Рука ў руцэ, мы твар у твар стаялі,
Глядзелі вочы ў вочы.
Пад мостам нашых рук рачныя хвалі
Ад позіркаў бясконцых стомлена змаўкалі.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Каханне, як рака, плыве далёка,
Мінае і сплывае.
О, як жыццё ідзе марудным крокам!
Адна надзея ўзнялася высока.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень.

Знікаюць дні і тыдні ўсе таемна.
Ні час і ні каханне
не вернуцца назад...
Пад мостам Мірабо адна нязменна
Струменіць Сена.

Гадзіннік выбіў: ноч ідзе.
Застаўся я, прамчаўся дзень (3, 40–41. Пер. Э. Агняцвет).

**МОСТ МІРАБО**

Пад мостам Мірабо сплывае Сена
Й каханне наша
Памятай на змену
Тузе прыходзіць радасць несумненна

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

Рука ў руцэ стаім мы ў хваляванні
Пакуль пад мостам
Нашых рук дазвання
Мінулага знікае люстраванне

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

Мілосць мінае хуткаю вадою
Жыццё ідзе
Маруднаю хадою
Адно надзеям дужацца з бядою

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне

Гады і дні сыходзяць вокамгненна
Мілосці не вярнуць
Адно нязменна
Пад мостам Мірабо сплывае Сена

Прабіў гадзіннік ноч імкне
Дні прамінаюць паўз мяне (2, 21–22. Пер. А. Хадановіча).

Крыніца жыцця невычэрпная, разумее лірычны герой, і таму следам за бядой, згубленым каханнем прыйдзе новае пачуццё, будуць новыя сустрэчы і спатканні.

«Мост Мірабо» няпросты ў стылёва-кампазіцыйных адносінах. Успаміны пра мінулае пераплятаюцца з адлюстраваннем таго, што «сплывае», «імкне» зараз, аўтабіяграфічнае – з філасофскім абагульненнем. Рознатэмныя і розначасовыя пласты арганізаваны ў адно цэлае праз мантаж. Апроч сімультаннай тэхнікі ў традыцыйным сэнсе, у вершы дае аб сабе знаць своеасаблівая псіхалагічная сімультаннасць: адначасова і вельмі арганічна ў ім, як вышэй адзначалася, увасабляюцца самыя розныя адчуванні, уражанні, перажыванні.

Верш пабудаваны на адзінстве процілегласцяў, на антыноміях «туга – радасць», «ноч – дзень», «знікнуць – застацца», «зменлівасць – нязменнасць», «хутка – марудна». Стварэнню стыхіі плыннасці чалавечага існавання садзейнічаюць і алюзіі на Біблію, на паэзію папярэднікаў. Прыкладам, у другім радку рэфрэна верша даследчыкі пазнаюць радок з «Вялікага Запавету» Франсуа Віёна: «Ён (час юнацтва. – *Е.Л.*)

прайшоў, а я працягваю жыць» (16, 20). Расійскі перакладчык і літаратуразнаўца М. Ясноў канстатуе таксама роднаснасць філасофска-эстэтычных пошукаў Гіёма Апалінэра і Шарля Бадлера, якіх насамрэч многае яднае: абодва цікавіліся сярэднявеччам, абодва пільна сачылі за зменамі ў жывапісе, менавіта ў творчасці Бадлера, лічыў Апалінэр, бярэ пачатак «дух сучаснай свядомасці», уласцівай XX стагоддзю. Нязменнай пакутай Бадлера было «адчуванне слізготнага часу», засведчанае і ў яго дзённіку, і ў вершах. Такім чынам, апалінэраўская ідэя хуткаплыннасці жыцця ёсць працягам і завастрэннем адвечных пачуванняў чалавека (дарэчы, матыў хуткаплыннасці – адзін з улюбёных у Апалінэра; ён гучыць у многіх яго творах).

М. Ясноў звярнуў увагу і на тое, што французскае «je demeure» (я ёсць / застаюся / жыву) – своеасаблівая анаграма «je meurs» (я знікаю / гіну / паміраю). «Гэтая гульня на антытэзе... удвайне важная і як жэст высокай тугі, і як сімвал высокай паэзіі» (16, 20).

«Мост Мірабо» адметны незвычайнай музычнасцю, меладычнасцю. Па сутнасці, ён напісаны ў форме песні, нездарма «песенькай» называў яго сам аўтар. Музыка ж, песенная традыцыя, асабліва народная, здаўна жывіла паэзію – тых жа, напрыклад, французскіх сімвалістаў, што свядома дэкларавалі значэнне гуку, гучання (як тут не ўзгадаць патрабаванне П. Верлена «Музыкі перш за ўсё» ў яго вершы-маніфесце «Мастацтва паэзіі» або дэманстратыўна-дзёрзкую назву яго паэтычнага зборніка «Рамансы без слоў»), імкнуліся следам за рамантыкамі і Бадлерам адшукаць і ўвасобіць адпаведнасці паміж гукамі, колерамі, пахамі, вобразамі (як, напрыклад, Арцюр Рэмбо ў санеце «Галосныя»).

Вядома, што ў сучасным Апалінэру Парыжы было шмат музычных салонаў, якія наведвалі і паэты. Ды і сама атмасфера горада была наскрозь прасякнута музыкай. Разам з сябрамі, паэтамі і мастакамі, любіў спяваць і Апалінэр, калі яны збіраліся ў якім-небудзь шынку на Манмартры. Цудоўным голасам валодала Мары Ларансэн, якая часта спявала пачутыя ад маці старадаўнія нармандскія песні. «Вялікі вясковы скрыпач. Так Ніцшэ сказаў пра Шуберта. Так я вызначыў бы Апалінэра, майстра Lied (нямецк. песня. – *Е.Л.*), поруч з Гейнэ і Рыльке, – пісаў Ж. Както. – Бо ён, ствараючы вершы, прывык напяваць» (12, 35).

Засталіся сведчанні, што Апалінэр цягам некалькіх дзён мог знаходзіцца пад уплывам выпадкова пачутай і падхопленай ім мелодыі і вызваляўся ад яе, толькі напісаўшы падказаны ёю верш. У адным з лістоў ён прызнаваўся: «Я пішу, напяваючы. Адзін мой знаёмы музыкант вылучыў нават дзве-тры мелодыі, якімі я інстынктыўна карыстаюся і якія з'яўляюцца выявай унутранага рытму» (цыт. па: 15, 258–259). Часам Апалінэр свядома стылізаваў пэўныя жанры музычнага мастацтва; напраклад, сваёй «Песні няшчаснага ў каханні» ён даў вызначэнне «сюіта».

Пішуць, што выпадкова пачутай мелодыяй нібыта быў навеяны і «Мост Мірабо», у якім транспануюцца (магчыма, міжволі) чароўная прастата і рытміка ткацкай песні XIII ст., яе дух, яе стрыманасць пры ўсёй глыбіні ўвасобленых у ёй пачуццяў. «У «Мосце Мірабо», – пісаў М. Балашоў, – няхітрыя словы і вобразы ў адзінстве з захапляльным рытмам ствараюць асабліва моцнае, на першы погляд невытлумачальнае, лірычнае ўздзеянне. Пасля народных песень, пасля Франсуа Віёна нямногія французскія паэты, Жэрар дэ Нэрваль напрыклад, пісалі песні гэткай лірычнай інтэнсіўнасці» (5, 247). Нядзіўна, што «Мост Мірабо» моцна паўплываў на наступнікаў (у тым ліку на паэзію французскага Супраціўлення).

Наследаванне народнай песні было асабліва адчувальным у першай часопіснай публікацыі верша. Пазней Апалінэр унёс у яго паэтыку змены, вынікам якіх пры чытанні сталі эфекты перарывістасці дыхання, парушэння рытму.

«Мост Мірабо» – адзін з самых вядомых, хрэстаматыйных твораў Апалінэра. Ён неаднойчы быў пакладзены на музыку, цытуецца і аналізуецца ўсімі даследчыкамі творчасці паэта, яго спяваюць і чытаюць з эстрады. Цалкам верагодна,

што і сам аўтар надаваў вершу асаблівае значэнне, нездарма адабраў яго – разам з вершамі «Вандроўнік» і «Мары» – для запісу на фанографе.

Апошняй прыжыццёвай кнігай Апалінэра стаў зборнік «Каліграмы. Вершы міру і вайны» (1918). Менавіта пра «Алкаголі» і «Каліграмы» расійскі даследчык французскай літаратуры С. Велікоўскі выказаўся як пра дзве вяршыні пакінутага паэтам нам у спадчыну айсберга твораў (гл.: 9, 27). У зборнік увайшлі вершы, напісаныя ў 1913–1916 гг. на фронце і ў шпіталі. Размешчаныя па храналагічным прынцыпе, яны склалі шэсць раздзелаў – «шэсць колаў пражытага і перажытага Апалінэрам за час пасля «Алкаголяў», а ў сваёй сукупнасці аўтабіяграфічны дзённік-споведзь» (5, 247). Зноў, такім чынам, дала аб сабе знаць кампазіцыйная традыцыя Дантэ. Строга прадуманая архітэктоніка, мастацкая стройнасць і цэласнасць кнігі дазволілі літаратуразнаўцам гаварыць пра яе «амаль санатную форму» (5, 260).

Раздзелы зборніка маюць назвы «Хвалі», «Штандары», «Скрыня на спіцах», «Артылерыйскія зарніцы», «Месяцовы бляск снарадаў», «Зорная галава»; у кожнай з частак кнігі знайшлі адлюстраванне падзеі з жыцця аўтара ад пярэдадня Першай сусветнай вайны да ранення і вяртання ў парыжскую рэчаіснасць.

Нямала ў кнізе вершаў пра каханне. Захопленасць жыццём і жанчынай у ёй, аднак, суправаджаюцца смуткам, паступова ўсё настойлівей гучаць развітальныя матывы, усё часцей рамантычныя настроі змяняюцца разважлівасцю, мудрым поглядам на свет і чалавека ў ім. Па сваім пафасе «Каліграмы» – кніга найперш антываенная. У адным з лістоў сам Апалінэр пісаў: «Такая, якой яна ёсць, гэта – кніга ваеннага часу... калі лёс будзе спрыяць маёй паэтычнай рэпутацыі, яна болей, чым «Алкаголі», закране чытачоў» (цыт. па: 5, 260).

Агульную назву зборніку даў змешчаны ў першым раздзеле цыкл вершаў-каліграм, або, як іх інакш вызначаюць, лірычных ідэаграм. Вышэй мы ўжо гаварылі, што вонкавае аблічча кнігі ў цэлым і асобнай яе старонкі, асобнага верша і нават яго фрагмента Апалінэр бачыў носьбітам аўтарскай задумы. Увага паэта да сэнсава-зместавага боку афармлення найбольш выразная якраз у «Каліграмах». Каліграмы – гэта вершы-малюнкі, радкамі і словамі ў якіх утвараюцца абрысы пэўнага прадмета. Заснаваныя на спалучэнні слоўных вобразаў і іх графічных выяў, яны ў значнай ступені разлічаны на зрокавае, візуальнае ўспрыманне.

Спробы паэтыка-графічных эксперыментаў мелі месца і ў антычнай літаратуры (у IV ст. да н. э.), і пазней, напрыклад – у рамане Франсуа Рабле «Гаргантюа і Пантагруэль». Як вядома, славуты мастак Ван Гог выкарыстоўваў літары непасрэдна ў сваіх жывапісных палотнах. Імя француза Армана Бургада мала што скажа сённяшняму чытачу, а між тым у 1899 г. ён стварыў верш у форме Эйфелевай вежы; верш меў 300 радкоў, даўжыня якіх адпавядала контуру малюнка (верш і называўся «300-метровая Эйфелева вежа, складзеная з 300 радкоў»). У 1914 г. Стэфан Малармэ выдаў паэму «Кідок ігральных касцей», у якой быў скарыстаны розны шрыфт. У рускай паэзіі набылі вядомасць «лесвічкі» Уладзіміра Маякоўскага і Веліміра Хлебнікава. Што да айчыннай славеснасці, то тут перш за ўсё варта ўзгадаць Сімяона Полацкага з яго віртуознымі фігурнымі вершамі – у форме зоркі або сэрца. У XX жа ст. гэтая традыцыя наогул эксплуатуецца вельмі шырока – футурыстамі, дадаістамі, сюррэалістамі, а таксама ў рэкламе і дызайне. Звяртаюцца да яе і сучасныя беларускія паэты.

Першыя вершы-каліграмы, падказаныя творамі С. Малармэ, Апалінэр апублікаваў яшчэ да вайны, у 1914 г. Іх з'яўленне было абумоўлена апантанасцю аўтара тэхнічным прагрэсам і абазнанасцю ў жывапісе. Апалінэр, як вядома, меў намер выдаць кнігу «І я таксама жывапісец», каб прадэманстраваць такім чынам сваю прыналежнасць не толькі да літаратуры, але і да выяўленчага мастацтва.

Форма каліграм, безумоўна, ускладняе спасціжэнне іх зместу, патрабуе ад чытача інтэнсіфікацыі ўяўлення, свайго роду дэшыфроўкі твораў, пошукаў

накірунку радкоў, слоў, літар. У той жа час нельга не падзівіцца арганічнасці, з якой спалучаны інтуітыўна-паэтычны і рацыянальна-канкрэтны пачаткі ў такіх вершах-каліграмах, як «Дождж ідзе», «Маленькае аўто» і іншыя, у тым ліку, вядома, «Зарэзаная галубка і фантан».

Верш «Зарэзаная галубка і фантан» (на жаль, у новым выданні ён не прадстаўлены, таму будзем адсылаць чытача да колішняга перакладу Э. Агняцвет) быў напісаны Апалінэрам у снежні 1914 г., калі ўжо ішла Першая сусветная вайна. Малюнак, утвораны словамі, змястоўны сам па сабе, калі нават ад слоў абстрагавацца; ён эстэтычна насычаны, пранікнёна-лірычны, вытанчаны і не можа не абуджаць глядацка-чытацкіх эмоцый. У гэтай каліграме аўтар «перадаў пакутлівыя пытанні, што ірвуцца з душы, як струмені вады з фантана» (15, 300), і струменямі ж вады акрэслены, а адказ у выглядзе разгорнутага па гарызанталі надпісу размешчаны ў самым нізе малюнка, на каменным падножжы фантана.

**ЗАРЭЗАНАЯ ГАЛУБКА І ФАНТАН**

Вобразы ласкавыя – зарэзаныя.
Дарагія вусны пунсовыя.
Мія, Марэя.
Іета, Лары.
Анні і ты, Марыя.
Дзе вы, дзяўчаты юныя?
Але
Каля фантана,
Што плача і літасці просіць,
Галубка трапеча белая.

Успаміны мяне пазбавілі сну.
О сябры мае, вы пайшлі на вайну.
Успаміны мае пад скляпеннем лунаюць,
А вашы позіркі ў спячай вадзе,
Тужлівыя, паміраюць.

Дзе вы – Брак, Макс Жакоб – маладосці сябры?
Дзе Дэрэн – з вачыма колеру шэрай зары?
Дзе Рэналь,
Даліз, душой шырокі?
Імёны іх гучаць далёка,
Нібы ў царкве халоднай крокі.
Дзе Крэмніц? Сам ён пайшоў у салдаты.
Магчыма, ўжо ніхто не вернецца жывы дахаты!

Я, поўны ўспамінаў, застаўся сам з сабой.
Фантан смуткуе-плача над маёй бядой.
Хто на вайну пайшоў апоўначы, –
Змагаецца цяпер на Поўначы.
Спусціўся вечар.
О, скрываўленае мора!
Крывёй сплывае ў садзе збіты алеандр,
Як здань вайны, людскога гора (3, 82–83).

«Хто на вайну пайшоў» – гэта ні ў чым не вінаватыя людзі, сярод якіх і зусім маладыя, знішчаныя сусветнай бойняй, – тое самае «страчанае пакаленне», пра якое пазней напішуць у сваіх раманах Максім Гарэцкі і Анры Барбюс, Эрнест Хэмінгуэй і Эрых Марыя Рэмарк, Рычард Олдынгтан і многія іншыя. Вайна адняла ў людзей фізічнае і маральнае здароўе, пазбавіла юнацтва, а вельмі многіх – і жыцця. З хваляваннем і пяшчотай узгадвае Апалінэр блізкіх сяброў. Пра тых, чые імёны і прозвішчы гучаць у вершы, варта сказаць падабязней. Мастак Жорж

Брак (1882–1963) быў цяжка паранены на фронце; як і Апалінэр, ён перанёс аперацыю па трэпанацыі чэрапа. Шмат перажылі, але вярнуліся з вайны жывымі паэт і мастак Макс Жакоб (1876–1944), мастак, ілюстратар твораў Апалінэра Андрэ Дэрэн (1880–1954), пісьменнік і мастацкі крытык Марыс Рэналь (1884–1954), пісьменнік Марыс Крэмніц (1875–1935). 7 мая 1917 г. будзе забіты на фронце Рэнэ Даліз (1879–1917; сапраўднае прозвішча Дзюпюі), марскі афіцэр, пісьменнік і журналіст; менавіта яго памяці прысвяціў Апалінэр сваю кнігу «Каліграмы». Даліз быў адной з самых балючых страт Апалінэра. Яны сябравалі з самага дзяцінства. На смерць Даліза, што ўзрушыла яго да глыбіні душы, ён адгукнецца вялікім артыкулам, неаднойчы ўзгадае сябра ў сваіх паэтычных творах.

Да слова, на фронце апынуліся многія мастакі і паэты з атачэння Апалінэра, чые імёны не ўпамінаюцца ў каліграме. У іх ліку Блэз Сандрар, якому была ампутавана рука, Франсіс Карко і іншыя. Іх кроў улілася ў агульнае «скрываўленае мора», іх раны і пакуты сталіся часткай вялікага «людскога гора», іх «вобразы ласкавыя – зарэзаныя» не давалі паэту спакою. Такімі былі адносіны Апалінэра і да ўсіх тых маладых, хто ваяваў побач з ім. Захаваліся ўспаміны відавочцаў аб тым, з якім жалем глядзеў ён на «гэтых салдат у куртках і фуражках, так груба і несправядліва асуджаных на смерць у пяшчотнай квецені іх дваццаці гадоў» (цыт. па: 5, 270).

Верш «Зарэзаная галубка і фантан» мае ў сваёй структуры шэраг надзвычай важных для разумення твора сімвалаў. Гэта найперш вобраз фантана, які традыцыйна сімвалізуе ўзлёты і падзенні, юнацкія летуценні і расчараванні, бязмежную скруху і слёзы па тых, каго ўжо няма сярод жывых («Фантан смуткуе-плача над маёй бядой»), але адначасова гэта і фантан крыві, пралітай бязвіннымі ахвярамі вайны. Яшчэ адзін з найважнейшых вобразаў – алеандр, сімвал небяспекі і зла, смерці і вынішчэння («Крывёй сплывае ў садзе збіты алеандр, / Як здань вайны, людскога гора»). Даследчыкі лічаць, што алеандр у Апалінэра мае такое ж сэнсавае напаўненне, як у вядомым вершы А. С. Пушкіна – анчар. Існуе паданне, паводле якога салдаты аднаго з напалеонаўскіх войскаў загінулі пасля таго, як засмажылі мяса на шампурах, зробленых з алеандра. У раманскіх народаў алеандр нярэдка ўпамінаўся поруч з іншым дрэвам – лаўрам як сімвалам вайны.

Сярод вызначальных сімвалаў верша – вобраз зарэзанай галубкі («Галубка трапеча белая»). Як і многія іншыя вобразы ў Апалінэра, ён мае біблейскае паходжанне. Напрыклад, у Кнізе Быцця чытаем: «Праз сорак дзён Ной... выпусьціў ад сябе голуба, каб бачыць, ці сышла вада з улоньня зямлі; але голуб не знайшоў месца спакою нагам сваім і вярнуўся да яго ў каўчэг; бо вада была яшчэ на паверхні ўсёй зямлі; і ён працягнуў руку сваю, і ўзяў яго, і прыняў да сябе ў каўчэг. І патрываў яшчэ сем дзён і зноў выпусьціў голуба з каўчэга. Голуб вярнуўся да яго вечаровай парою, і вось, сьвежы аліўкавы ліст у дзюбе ў яго: і Ной даведаўся, што вада сышла зь зямлі. Ён патрываў яшчэ сем дзён далей і выпусьціў голуба; і ён ужо не вярнуўся да яго» (7; 8: 6–12). Вобраз голуба сустракаецца ў Бібліі неаднойчы і, што паказальна, часта мае сэнс ахвярны; шматразова інтэрпрэтаваўся ён сусветнай літаратурнай традыцыяй. Сам Апалінэр звяртаўся да вобраза галубкі (голуба) у многіх творах. У «Бестыярыі» ёсць мініяцюра «Голуб»:

Найцудоўнейшы з галубоў,
Што Марыі прынёс любоў,
Я прашу, памажы мне згары
Споўніць мары з маёй Мары! (2, 11. Пер. А. Хадановіча).

Сярод іншых птушак упамінаецца голуб і ў паэме «Зона»:

Птушка – ліра і сімвал Духу Святога голуб... (2, 15).

У каліграме зарэзаная галубка – сімвал ахвярнасці, чысціні, загубленага жыцця; як і верш у цэлым, гэты вобраз выклікае бязмежную, шчымлівую журбу. Варта нагадаць, што менавіта апалінэраўская галубка паслужыла прататыпам вядомага ўсяму свету голуба міру Пабла Пікаса.

Атмасфера часу Першай сусветнай вайны паўстае і ў вядомым вершы-каліграме Апалінэра «Маленькае аўто», змешчаным у новым выданні; верш мае шмат перазоваў з экспрэсіянісцкай паэзіяй немцаў Готфрыда Бена, Георга Гейма, аўстрыйцаў Георга Тракля, Франца Вэрфеля:

...Мы развіталіся з цэлай эпохай
Злосныя волаты ўставалі над Еўропай
Арлы чакаючы сонца пакідалі гнёзды
Ненажэрныя рыбіны выплывалі з віроў
Народы сыходзіліся каб спазнаць адзін аднаго дарэшты
Трупы трымцелі ад страху ў змрочных прытулках...
(2, 67. Пер. У. Лянкевіча)

Прааналізаваныя творы паэта, як і ўсё ім напісанае, сведчаць пра сапраўдны талент і істотныя этыка-эстэтычныя рэформы, здзейсненыя Апалінэрам. Па сутнасці, ён вызначыў асноўныя літаратурныя тэндэнцыі ўсяго XX стагоддзя: апошняму ў пэўным сэнсе толькі тое і заставалася, што працягваць і развіваць распачатае Апалінэрам абнаўленне жанраў і стыляў. «Пачынаю я справу наступных вякоў...» (3, 96), – меў усе падставы абвесціць паэт. Прадстаўнікі розных пакаленняў пісьменнікаў з розных нацыянальных літаратур падпісаліся б пад словамі ўдзячнасці В. Нэзвала «вялікаму Апалінэру, без якога наша стагоддзе тапталася б на месцы і адно жабравала б» (цыт. па: 10; 8, 257). Навацыям паэта ў рознай ступені абавязаны сваім існаваннем дадаізм, тэатр абсурду, новы раман, канкрэтная паэзія, фэнтэзі. Але найбольш – сюррэалізм, адзін з самых значных авангардысцкіх напрамкаў XX ст., найменне якога было запазычана з аўтарскай прадмовы да п’есы «Грудзі Тырэсія». Тэарэтык і практык новага напрамку Андрэ Брэтон пісаў у сваім першым «Маніфесце сюррэалізму» (1924): «У гонар Гіёма Апалінэра, які нядаўна памёр... мы назвалі сюррэалізмам новы метад чыстай выразнасці, які мы атрымалі ў наша распараджэнне і якім нам карцела падзяліцца са сваімі сябрамі» (8, 614).

Сярод паслядоўнікаў Апалінэра былі яго суайчыннікі Поль Элюар, Луі Арагон, Жан Както, П’ер Рэвердзі, Рабэр Дэснос і многія іншыя, а таксама іспанец Федэрыка Гарсія Лорка, чэшскі паэт Віцезслаў Нэзвал, польскі – Юльян Тувім, венгры Міклаш Раднаці і Лаёш Кашак... Спіс гэты можна доўжыць і доўжыць, уключаючы ў яго і мастакоў слова другой паловы XX ст., для якіх творчасць Апалінэра стала сапраўднай школай паэтычнага майстэрства. «Калі, нарэшце, прабіў час славы Апалінэра, стала зразумела, што не «эквілібрыст» ён і не «празаік», а надзвычай эмацыянальны лірык, які шырока захопліваў у паэзію самыя празаічныя матэрыі, менавіта таму, што напоўніцу адчуваў сувязь з жыццём, таму, што імкнуўся, спяшаўся адлюстраваць у паэзіі праблемы стагоддзя. Паэт з рэпутацыяй «цёмнага» ясна выразіў... ашаламляльную складанасць праблем, пастаўленых перад чалавецтвам XX стагоддзем» (5, 204).

Асоба і творчасць Апалінэра добра вядомыя ў Беларусі. У 1973 г., як ужо было сказана, выйшла кніга перастворaных па-беларуску Эдзі Агняцвет яго вершаў «Зямны акіян». «Паэзія Апалінэра і само жыццё паэта захапілі мяне незвычайна. Багата душэўных сіл было аддадзена рабоце над перакладамі» (1, 8), – прызнавалася Э. Агняцвет. Пра творчасць Апалінэра пісалі Б. Міцкевіч, У. Івашка, паэт і літаратуразнаўца К. Міхееў і іншыя. «Глыбокі і палымяны след у гісторыі сусветнай літаратуры пакінуў сваім нядоўгім, але поўным драматызму і ўнутранага змагання жыццём выдатны французскі паэт Гіём Апалінэр» (13, 140), – падкрэсліваў, у прыватнасці, Б.П. Міцкевіч. Артыкулы пра творчасць Апалінэра і яго дачыненні

да беларускай зямлі змешчаны ў 5-томнай «Беларускай энцыклапедыі літаратуры і мастацтва», у 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі», выходзілі ў беларускіх часопісах і газетах.

Дастаткова выразна паўплываў Апалінэр на беларускую літаратуру. Яго эстэтычныя адкрыцці пазнаюцца, апроч твораў А. Разанава і В. Шніпа, у паэзіі Л. Дранько-Майсюка, М. Скоблы і інш. Многія нашыя паэты прысвяцілі Апалінэру свае вершы (М. Скобла, Л. Дранько-Майсюк, Алесь Туровіч), у кожным з якіх па-свойму адбіты трагічны лёс вялікага мастака, гучыць захапленне яго словам. Роздум пра абставіны жыцця Апалінэра, тэмы і матывы яго паэзіі праходзіць скрозь усё эсэ Л. Дранько-Майсюка «Стомленасць Парыжам». Думаецца, адно з прысвячэнняў, верш М. Скоблы, дарэчы падаць на завяршэнне гэтага артыкула.

**КАСКА АПАЛІНЭРА**

Месье Кастравіцкі, вас любіць Парыж.
Хвалу уздае вам бяседа.
А ў небе лятак – нібы Юраўскі крыж
на фрэнчы вайсковым
у дзеда.

Накідвае лёс трапяткое ласо.
Вайна. Прышпітальная сьвіта.
І сябра, як шэйха, пісаў Пікасо –
чало, бы чалмою, спавіта.

Да ложкаў казённых і мулкіх прывык –
трымалі надзейна, як прывязь.
А там, у шпіталі, прысьніў пухавік,
што дзед з Наваградчыны вывез.

Над ім сам Гасподзь парасон распасьцёр –
махрыстага неба валокі.
З аблíччам смуткім міласэрных сясьцёр
над ім навісалі аблокі (14, 57).

Л і т а р а т у р а :

1. Агняцвет Э. Зорка Апалінэра // Апалінэр Г. Зямны акіян: Выбранае. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1973.
2. Апалінэр Г. Выбраная паэзія. Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016.
3. Апалінэр Г. Зямны акіян: Выбранае. Пер. Э. Агняцвет. – Мн.: Мастацкая літаратура, 1973.
4. Аркуш А., Бартосік З. Дзісна, радзіма Апалінэра // Наша Ніва. № 41. 4 лістапада 2005 г.
5. Балашов Н.И. Аполлинер и его место во французской поэзии // Аполлинер Г. Стихи. – Москва: Наука, 1967.
6. Балашова Т.В. Французская поэзия XX века. – Москва: Наука, 1982.
7. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе. Пер. В. Сёмухі. – Duncanville, USA, 2002.
8. Брэтон А. Маніфест сюррэалізму. Пер. Л. Баршчэўскага // Літаратура народаў свету: XX стагоддзе: Хрэстаматыя. Склад. Лявонава Е.А., Баршчэўскі Л.П. – Мн.: Рэд. часоп. «Крыніца», 1999.
9. Великовский С. Книги лирики Аполлинера // Аполлинер Г. Избранная лирика. – Москва: Наука, 1985.
10. Дранько-Майсюк Л. Вершы. Каханне. Проза: Выбранае. Мінск: Харвест, 2003.
11. Великовский С. Французская литература: Поэзия // История всемирной литературы: В 9 т. Т. 8. – Москва, 1994.
12. Кокто Ж. Портреты-воспоминания: Эссе. – Москва: Известия, 1985.
13. Мицкевич Б.П. Неподвластные времени: Очерки по зарубежной литературе. – Минск: Университетское, 1986.
14. Скобла М. Нашэсьце поўні: Вершы. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001.
15. Хартвиг Ю. Аполлинер. Пер. с польск. – Москва: Прогресс, 1971.
16. Яснов М. Страсти по Аполлинеру // Аполлинер Г. Мост Мирабо. – Санкт-Петербург: Азбука, 2000.

Аксана Данільчык



...пішу з чуцця я,
не з навукі...

# “Жменя асенніх думак”

***Слова пра рукапісны паэтычны зборнік Ганны Новік***

***У заходнебеларускай паэзіі другой паловы 1930-х гадоў можна вылучыць трох аўтарак, чыя творчасць вызначаецца большай ці меншай працягласцю і рэгулярнымі публікацыямі: Наталля Арсеннева, Ніна Тарас і Ганна Новік (Ларыса Геніюш апублікавала свой першы верш у 1939 г.). З іх, бадай, толькі больш старэйшая Наталля Арсеннева змагла рэалізаваць свой паэтычны талент, які стаў заўважным яшчэ ў пачатку 20-х гадоў. На долю яшчэ зусім маладых Ніны Тарас і Ганны Новік, што пачалі друкавацца амаль адначасова ў другой палове 30-х (Ніна Тарас на год раней) і мелі ўсе падставы вырасці ў яркія творчыя індывідуальнасці, выпалі цяжкія выпрабаванні, звязаныя з пачаткам Другой сусветнай вайны. Але не толькі. Лёс Ганны Новік быў вельмі трагічны ад самага пачатку, у яе выпадку, на нашую думку, перашкодай да поўнага творчага самараскрыцця стала і адсутнасць грунтоўнай адукацыі. Тым не менш тое, што было створана паэткай, несумненна заслугоўвае ўвагі літаратуразнаўцаў.***




*Тытульны аркуш кнігі Ганны НОВІК.*

Трэба адзначыць, што названыя аўтаркі прадстаўляюць розныя пласты тагачаснага беларускага грамадства і, адпаведна, тэматыка іх твораў адлюстроўвае, хоць і ў рознай ступені, гэты аспект, які можна лічыць сацыяльным. Калі параўнаць тэмы, да якіх звярталіся паэткі, то зноў жа, сялянскія дзеці Ніна Тарас і Ганна Новік пісалі ў большасці выпадкаў пра жыццё беларускай вёскі, у той час, як забяспечаная жонка афіцэра польскай арміі Наталля Арсеннева засяроджвала ўвагу на ўнутраным свеце гераіні і яго сувязі з метафізічнай прыродай, якая з'яўляецца суразмоўцай лірычнай гераіні, а ў вершах Н. Тарас і Г. Новік застаецца хутчэй толькі фонам. Пры гэтым паэзія Н. Тарас і Г. Новік канца 30-х гадоў бліжэй да рэальнага жыцця і цікавая з гэтага пункту гледжання, асабліва творчасць Ганны Новік.

Ганна Аляксееўна Новік нарадзілася ў 1914 годзе, першыя вершы надрукавала ў 1937-м. У 1938 годзе падрыхтавала зборнік "Жменя асенніх думак", які не быў выдадзены (рукапіс захоўваецца ў БДАМЛМ у фондзе Івана Луцкевіча[1], быў перададзены туды ў 1961 годзе). Аўтарка кніг паэзіі "Мае вёсны" (1961), "Мая Вілейшчына: Выбранае" (1996), "Барвовае лісце" (2005), аповесці "Другая сустрэча" (фрагменты апублікаваны ў часопісе "Полымя", 1979). Памерла ў 1997 годзе ў Вілейцы. Памяць Ганны Новік шануюць яе землякі: у 2014 годзе Вілейскай цэнтральнай раённай бібліятэцы было нададзена яе імя, а на сайце бібліятэкі можна знайсці шмат матэрыялаў, прысвечаных паэтцы.

Свае першыя творы Ганна Новік дасылае ў беларускія перыядычныя выданні і – атрымлівае адказы. На яе вершы адгукаецца, напрыклад, паэт Максім Танк. У часопісе "Беларускі летапіс", 1937, № 6-7, у "Паштовай скрынцы" ён піша: "Новік Ганна. З вялікім задавальненнем вітаем Вас на літаратурным грунце. Маеце ўсе задаткі быць паэтам – арыгінальнасць, шчырасць, вобразнасць і яснасць думкі чуваць у вашых вершах, а гэта найважнейшае. Людзі з меншымі задаткамі бяруцца за працу, а тым больш мусіце ўзяцца вы; але адначасна пазбыцца трэба тых недахопаў тэхнічных, як слабая апрацоўка, мейсцамі русіцызмы, паланізмы і інш., каб даць поўнавартасныя мастацкія творы. Толькі смялей ідзеце ў гэтым напрамку. М. Т-к"[1]. (У далейшым, ужо ў савецкі час, Ганна Новік будзе падтрымліваць стасункі з Максімам Танкам, неаднаразова звяртацца да яго па дапамогу.)

А ў №9 "Беларускага летапісу" чытаем наступнае: "Паштовая скрынка: Новік Ганна. Некаторыя вершы з папраўкамі друкуем. Чакаем карэспандэнцыі з жыцця вашай вёскі. Бяручы пад увагу Вашы сяняшнія абставіны, – часапіс і далей рэгулярна будзе высылацца на ваш адрас"[2], без подпісу. Наколькі вядома, у 1937 г. былі апублікаваныя наступныя творы Ганны Новік: "Маё сонца" (Бел. летапіс, № 6-7), "Песнярам" (Бел. летапіс, № 8), "Не таму я стаў" (Бел. летапіс, № 9), і яшчэ адзін верш, "У дарозе", быў надрукаваны ў 3-м нумары часопіса "Калоссе".

За публікацыю гэтых твораў Ганна Новік дзякуе ў зборніку "Жменя асенніх думак", які ўяўляе сабой невялічкі нататнік фармату прыкладна А6. На першай старонцы напісана імя аўтаркі, назва кнігі і пазначана "Варонічы 1937". На "тытульным лісце" ўсе гэтыя надпісы паўтараюцца, але да іх дададзены невялікі малюнак вясковага краявіду з сялянскай хатай. Зварот (да рэдакцыі "Беларускага летапісу"?)

---

[1] Новік Г. Жменя асенніх думак (рукапіс). – БДАМЛМ, Ф. 3, воп. 2, адз. зах. 3. *(Тут і далей спасылкі на кнігу даюцца па гэтым рукапісе з указаннем старонкі. Заўвага – А. Данільчык).*

[2] "Беларускі летапіс", 1937, № 6-7. – С. 152.

[3] "Беларускі летапіс", 1937, № 9. – С. 208.

мы сустракаем у канцы рукапіса: “Колькі слоў: “Месяца са два таму назад – пасылала я колькі рукапісных вершаў, як:

Каваль,

Наракання рэч благая,

Кіслыя бліны і колькі іншых, але не ведаю, ці яны трапілі ў рэд. “Бел. Лет.”, куды былі кіраваны.

За змяшчэння колькі вершаў у нумарах Бел. Лет. – шчыра дзякую. Мо’ у прышласці будзе крыху болей часу... мо’ думкі ня будуць так пільнаваныя... Мо’ вясна прынясе штось весялейшае і мілейшае... Сяння, аднак, ня гледзячы, на ўсё – шчыра зычу ўсім Вам, Якія мяне знаеце – Вясёлага свята і шчаслівага Новага году!!

Новік Ганна 26.12.37 году (ст. ст.)” (с. 41 аб.).

На падставе гэтага запісу можна прыйсці да высновы, што зборнік быў дасланы ў рэдакцыю “Беларускага летапісу”. Аднак вершы, якія называе Ганна Новік, не ўвайшлі ў зборнік “Жменя асенніх думак”. Зноў жа, не ўвайшлі яны і ў значна больш позні зборнік “Мае вёсны” (дзе друкаваліся наступныя вершы 30-х гадоў: “Паўторны арышт” (1937), “Развітанне” (1937), “Ліст маладой падпольшчыцы” (1937), “Мы засеем” (1938), якія па стылістыцы вельмі адрозніваюцца ад іншых твораў паэткі дадзенага перыяду, што дазваляе дапускаць думку наконт іх больш позняга напісання або рэдагавання).

Яшчэ адно меркаванне наконт творчасці Ганны Новік сустракаецца непасрэдна ў рукапісе кнігі “Жменя асенніх промняў”: “Аўтарка піша вельмі шмат – аж лішне. “Prędko byle jak i dużo”. I якраз дзеля гэтага мала што мажліва друкаваць – ўсё патрабуе апрацоўкі. Рада – зменьшыць гуртовую прадукцыю вершаў і звярнуць увагу на іх якасць” (с. 44 аб.). Падпісана *МС*? (почырк №1).

Тым не менш сам зборнік заслугоўвае ўвагі. Яго змест наступны: “Каму сумна”, “Разам снілі”, “Ткала восень...”, “Артай”, “Ці ж мне хадзіць?..”; “Лянок”; “У свет”; “Ня плач матка!..”; паэма (паводле вызначэння Г. Новік) “Мая матура”, якая складаецца з наступных частак, выпісаных у слупок і крыху ўправа:

Прадмова

Куранец

Восень

На корэпэтыцыю

Бацька Ірэны

Вялікім касай дараваць

Корэпэтыцыя

Мая кватэра

Раніца

У школу

“Матура”.

Наступныя творы, аддзеленыя ад папярэдніх гарызантальнай рысай: “Снег”; “Бездарожжа”; “Бык” (басня); “Мая рада”; “Мужыцкая доля”; “Ізноў мяне гоніш”; “Як змірыцца?”; “Зімовай дарогай”; “Сабакі” (Басня); “Што ля мяне...”; “Кравец”; “Не свішчы, як даўно”; “Восень”; “Жаўцее лес...”. Гэтыя вершы датуюцца 1937-м годам і складаюць змест кнігі, змешчаны на с. 46.

Далей ідзе аўтарскі зварот “Колькі слоў...”. Пасля яго запісаны яшчэ тры вершы, датаваныя ўжо 1938 годам: “Над ракой”; “Ці гэта пух?”, “Чакаць”. Падаецца, што крайнія даты напісання вершаў зборніка – 10/IX-37 па 8/I-38.

Некаторыя вершы, пазначаныя асадкай, абведзеным крыжыкам. Гэта вершы “Разам снілі”, “Ткала восень...”, “Артай”, “Ці ж мне хадзіць?..”, “Не плач матка!”, “Мая матура”, “Прадмова”. Верш “Артай” друкаваўся ў газеце “Шлях моладзі”, 1938 г. № 15, таму падаецца магчымым, што і іншыя вершы былі адабраныя для далейшых публікацый ці, прынамсі, рэдактар палічыў іх найбольш удалымі. Больш за тое, праўкі, унесеныя



*Нарада маладых пісьменнікаў Беларусі. Мінск, 1940 г.*
*1-шы рад, злева направа (сядзяць): Р. Шынкоўская, К. Цітоў, П. Глебка, А. Стаховіч, М. Клімковіч, М. Лынькоў, К. Крапіва, Р. Мурашка.*
*2-гі рад, злева направа: Ю. Равіч, І. Баруховіч, М. Сурначоў, П. Самцоў, М. Засім, П. Бінецкі, Я. Замерфельд, І. Дзенісенка, В. Барташэвіч, Ю. Багушэвіч, П. Прануза, У. Коўчар.*
*3-ці рад, злева направа: Ш. Бурштэйн, Д. Кавалёў, Пракуда, А. Чарнышэвіч,* ***Г. Новік****, невядомы, Русееў, А. Іверс, С. Селівёрстаў.*

кімсьці алоўкам у верш “Артай” (почырк №2), былі перанесены і ў публікацыю. Таму на гэтай падставе можна зрабіць выснову, што праўкі належаць аднаму з рэдактараў “Шляху моладзі”, а можа і “Беларускага летапісу”, і былі зроблены ў 1938 годзе.

Напрыклад, у рукапісе Г. Новік радкі 17-20 гучаць наступным чынам: “Лічыш лепшай тую долю, / Што цябе не запрагу, / Што не пойдзеш араць болей, / Гуляць будзеш на лугу”. У публікацыі: “Лічыш лепшай тую долю, / Каб цябе не запрагаць, / Каб гуляць сабе у волю, / А ня поркацца-араць...” (с. 6), што адпавядае ўнесеным праўкам, хоць наконт таго, наколькі ўдалым стала заканчэнне верша можна паспрачацца.

На сямнаццатай старонцы рукапісу тым самым почыркам на палях каля верша «Восень» (с. 17 рукапісу) пазначана: «Што за пераліва колераў! Асьвятляючыя!», аднак дадзены каментар выглядае саркастычным, бо насамрэч, ніякіх асаблівых пераліваў колераў у вершы Ганны Новік не заўважаецца:

Снегу няма. Зямля мерзлая,
Груды усюды, разак.
Вуліца як бы жалезная,
Просіцца бот і хадак.

У вершах Ганны Новік можна пачуць і знаёмыя інтанацыі. Напрыклад, верш “Як змірыцца”: “Што батрак я – кажан знае” (с. 33) нагадвае пачатак купалаўскага твора, а верш “Мужыцкая доля” пачынаецца з цікавай заўвагі, якая нагадвае вядомую прымаўку “бабіна дарога – ад печы да парога”: “Ціж ня досіць, што ў нас цёмна / Што ня свеце сонца нам? / Свет – ад печы да услона / Ад услона ды – к дзвярам” (с. 31 аб.). Аднак у інтэрпрэтацыі Ганны Новік, як бачым, яна набывае нейтральнае значэнне і распаўсюджваецца на ўсё сялянства, незалежна ад полавай прыналежнасці.

Вершы, напісаныя Ганнай Новік у канцы 30-х гг. XX стагоддзя, выдзяляюцца на фоне многіх твораў 30-х гадоў сваёй тэматыкай, вызначаюцца імкненнем зразу-

мець і месца творчай жанчыны ў рэаліях Заходняй Беларусі, дзе жыццё паэткі праходзіла ў вёсцы з усімі складанасцямі і радасцямі сялянскай працы. Паэтка імкнецца асэнсаваць сябе і сваю ролю ў грамадстве, канстатуе адсутнасць выбару жыццёвага шляху для жанчыны, але цяжкія абставіны існавання не забіваюць прагу самарэалізацыі ў творчасці. Аднак пытанне ўзаемадзеяння творчай жанчыны з навакольным асяроддзем застаецца адкрытым: "А пры гэтым не хапае / у мяне ўсяго, / ды ці прымуць думы-песні / вырабу майго?.. // І пісаць я ледзь умею, / бо не з школ сваіх, / толькі сэрцам разумею / голас ніў вузкіх" (верш "Песнярам" (1937). Верш "Кравец" са зборніка "Жменя асенніх думак" зноў жа адлюстроўвае імкненне лірычнага героя (гераіні?) вырвацца са звыклага быцця:

Сяджу над машынай маркотна
Над роткай сівога сукна
Круга мяне куча палотнаў
Ад покуця аж да акна.
А думкі? – дзе думкі ўцякаюць?
На свеце шырокім лятуць.
А гэта сярмяга сівая
К сабе хоча іх прыцягнуць (с. 38).

Побач з гэтымі вершамі можна паставіць і прадмову з "паэмы" "Мая матура" са зборніка "Жменя асенніх думак":

Пішу з чуцця я, не з навукі,
Ад працы пахнуць мае рукі.
Запалі грудзі, гнуцца плечы,
І ногі босыя калеча
        Жарства дарог.
Мая кашуля – адны латы,
Мой кій – дарожны-сукаваты.
І насупроць іду віхру я,
Што гэтак ісці душай чую –
        Ісці – мой доўг (с. 10).

Тэмы гендэрнага характару, пазней раскрытыя ў вершах "Дзяўчыне" (1938) і "Жаноцкая доля" (1939), гучаць і ў зборніку "Жменя асенніх думак", у прыватнасці, у "паэме" "Мая матура", напрыклад, у частцы "На корэпэтыцыю", вельмі незвычайнай, як на наш погляд, выбарам лірычнай гераіні, нетыповай для свайго часу, відавочнага альтэр эга самой аўтаркі.

Выходжу на вецер асенні і брук.
І з кніжкай, цетрадкай пад пахай.
Я служка наняты, памоцнік навук,
Пад стрэхамі крытымі бляхай (с. 13 аб.).

Пры гэтым лірычная гераіня мае нязвыклы для яе асяроддзя знешні выгляд:

Ці гэта дзяўчына, ці гэта хлапец?
Падковы у ботах, спадніца,
І школьная шапка, ідзе, як купец,
Нікога зусім не баіцца (с. 14 аб.).

А таксама вядзе нязвыклы лад жыцця, бо не ходзіць на танцы, не бавіць час з іншымі дзяўчатамі, а прысвячае сябе навуцы:

І што зарабляе (бо вуча другіх),
Усё аддае на навукі.
Бач – плечы падобны яе да дугі,
Якраз – вярблюдова унука.

Яна мае кніжкі з вышэйшых навук,
Начамі ўсё вісніць над імі;
Пяро, карандаш ня адходзяць ад рук,
Вачэй ад паперы ня прыме (с. 14 аб.).

Хоць навука не прыносіць грошай, лірычная гераіня працягвае ісці сваім шляхам. Канцоўка верша нам падаецца вельмі ўдалай, бо вобраз дзяўчыны, апранутай па-хлапечаму, якая ідзе далей праз непагадзь да сваёй лепшай будучыні, пакідае даволі моцнае ўражанне:

Цяжкімі шагамі ад ганку пайшла –
Падковы ізноў зазвінелі...
Ў паветры вісела якаясь імгла,
Ці можа пачатак мяцелі (с. 14 аб.).

І тут немагчыма не адзначыць паэтычнае майстэрства Ганны Новік і сапраўды запамінальны вобраз, які яна стварыла, не зважаючы на пэўныя стылёвыя і граматычныя хібы твора.

Адзначым, што зборнік “Жменя сонечных промняў” ужо прыцягнуў увагу даследчыкаў. Чатыры вершы з яго – “Снег”, “Жаўцее лес”, “Ці гэта пух?”, “Ткала восень” – былі апублікаваныя ў Анталогіі жаночай паэзіі міжваеннага перыяду “Бліскавіцы” (2017), дзякуючы намаганням Віктара Жыбуля. Думаецца, што далейшае даследаванне творчасці Ганны Новік дазволіць вярнуць гэтай аўтарцы тое пачэснае месца ў гісторыі беларускай літаратуры, якое яна заслугоўвае.

*Фотаздымак з асабістага фонду паэта і журналіста Івана Дзенісенкі (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 16, воп. 1, адз. зах. 6).*

Юлія Бібіла



...І ў час, калі гадзінай шарай,
Сярод бязлюддзя пустаты,
Нуда абляжэць чорнай хмарай,
Праменнем сонца будзеш ты...

# “...Прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!”

***Успаміны***

*Працяг. Пачатак у №6(91) за 2017 год, №1(92) за 2018 год.*

*Падрыхтоўка да друку і каментары Таццяны КЕКЕЛЕВАЙ і Арсеня ЛІСА.*

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

## *Сшытак 9*

## Курсы

*Перайшло – мінула,*
*як і не было.*
*Jeszczeć pół biedy, gdy mocna w kim dusza,*
*A głowa górą na życia głębinie;*
*Taki nie tonie, choć fala nim rusza,*
*Da nura, strząchnie się i znów wypłynie.*

Konopnicka

Вельмі шкада, што ніякага “пісьменніцкага” дару не маю. Знайшлося б нямала цікавага матэрыялу аб маім пакаленні, хаця б і на прыкладзе ўласных турбот, роздуму і пошукаў свайго месца ў жыцці.

А час быў бурлівы – рэвалюцыі, войны... У муках эпоха змяняла эпоху. Столькі ўплываў і плыняў! Як у іх разабрацца, якой

дарогай пайсці? Ад народнай школы, якая старалася трымацца на трох “кітах” – “православие, самодержавие и народность”, праз сярэднюю школу з тымі самымі “кітамі”, толькі пасля рэвалюцыі 1905 г. трохі аслабелымі. Далей – імперыялістычная вайна, рэвалюцыя, акупацыі, грамадзянская вайна...

У мяне захаваліся кароткія запісы з 1915–1916 гг., але яны вельмі агульныя і шмат якіх цікавых эпізодаў, на жаль, не занатавана. Усё ж ад іх павеяла тым паветрам, якім дыхала столькі дзесяцігоддзяў таму назад, і многае паўстала перад вачыма. Хочацца ўспомніць сябе таго часу. Што хвалявала? Да чаго імкнулася?

Перш за ўсё, палкае намаганне атрымаць вышэйшую асвету не пакідала мяне і кіравала ўсімі маімі жаданнямі. Трэба было рыхтавацца да працоўнага жыцця, я адчувала сябе такой непадрыхтаванай. Мне здавалася, што я нічога не ведаю. Гімназію я скончыла, нават 8 клас (педагагічны), які даваў правы “дамашняй настаўніцы”, але гэтага мала.

Хачу вучыцца далей. Але адкуль узяць грошы? Хоць для пачатку трэба мець нейкі мінімум! Раней дзядзька ўсё абяцаў, што трохі дапаможа, а калі надышоў час, ён сказаў, што я такая яшчэ маладая і трэба пачакаць. Хатнія яго ўзаемаадносіны былі такія, што і сапраўды гэта было немагчыма.

Вучыцца, вучыцца! На курсы, на курсы! Выхад са становішча быў: звязаць свой лёс з тым харошым чалавекам, які з юнацкіх гадоў меў сімпатыю да мяне, быў маім лепшым сябрам, ён дапамог бы мне. Не! Гэта не для мяне. Не хачу быць няроўнай! Ён здаваўся мне такім адукаваным, сталым (быў старэйшы на 7 гадоў), а я ... дзяўчо. Нашто мне такая дапамога? Буду працаваць і свайго даб’юся! Зараблю грошай і паеду. Матка падтрымлівала маё жаданне, але дапамагчы нічым не магла. Добра, што сама неяк уладкавалася і мела сякі-такі кавалак хлеба.

Мае падружкі, з якімі вучылася ў адным класе, у якіх былі заможныя бацькі, пасля школы адразу паехалі ў Пецярбург, а я засталася ў вялікім засмучэнні.

Мой былы настаўнік, К.Х. Бабарыкін, вядомы ў горадзе чалавек, дапамог мне атрымаць месца настаўніцы ў Яўрэйскай прагімназіі. Я мела яшчэ некалькі прыватных урокаў. 35 р. штомесяц у школе і за ўрокі яшчэ некалькі рублёў, да і лета я папрацавала, – гэта склала для мяне нейкі “капітал”, з якім можна было адважыцца пусціцца ў “свет”. Мне справілі такую-сякую скромную вопратку, а шыць умела матка сама, і я пачала сваё студэнцкае жыццё.

Дзве сяброўкі Зіны – чорная і бялявая – выглядалі сапраўднымі студэнткамі. Зіна бялявая нават пашыла сабе сінюю хлапечую касаваротку з бліскучымі гузікамі, якая ёй вельмі была да твару. На вакацыях яны мне столькі парасказвалі аб горадзе і курсах! І гэта мяне падмывала яшчэ больш упарта дабівацца свайго. Ноткі суму гучаць у маіх лістах, чытаю Надсана, нават пачынаю пісаць элегіі, але гэта не аддаляла мяне ад пастаўленай мэты.

Бачу я перад сабою Зіну белую – тонкую, зграбную, у меру вясёлую, з косамі да пояса колеру расплаўленага золата. Ах, гэтыя косы! Прыгажосць!

Другая Зіна была чорная: валасы, вочы, твар смуглявы, задуменны, не такая зграбная, як першая, але мела сваю прывабнасць. Захаплялася матэматыкай.

Першая была дачкой паважанага доктара, а другая – ваеннага, які меў адну камяніцу і два дзеравянных дамы. Дзе ж мне, сіраціне, было з імі цягацца? У нас ні капіталаў, ні маёмасці, толькі дзёрзкія жаданні. Але калі паставіш перад сабою пэўную мэту і будзеш за яе змагацца, здолееш шмат чаго дасягнуць.

Калі я пазнаёмілася з мілымі Зінамі (у 8 класе, бо 7 класаў канчала ў іншым горадзе), то аднеслася да іх з насцярожанасцю. Ці мне, санкюлоту, быць роўнай з панамі? Але дарэмная была мая насцярожанасць. Яны так шчыра да мяне паставіліся, што мой гонар нічым не быў пакрыўджаны, і я стала адчуваць сябе, асабліва ў сям’і доктара, сваёй, тым больш, што доктар не паходзіў з паноў, а выбіўся ў людзі, зазнаўшы нямала нягод.

Былі яшчэ ў мяне падружкі, што марылі аб далейшай вучобе, іх становішча было таксама незайздроснае. Вера Р. жыла з сястрой, братам і маткай, якая атрымлівала невялікую пенсію за мужа вайсковага. Як яна заўсёды чакала ад мяне вестак! Прыходзіла да мамы і старалася яе неяк разважыць, калі я паехала на курсы. Мела яна пару вучняў пасля заканчэння гімназіі ды ўладкавалася ў школу настаўніцай, і гэтым старалася дапамагчы сваёй матцы, але пра курсы магла толькі марыць. Школа пайшла пад нейкую канцылярыю: Вера засталася без месца. Скора яны выехалі ў Тамбоў. Мая Вера толькі і думала, каб як-небудзь вярнуцца назад у Бабруйск, а курсы – гэта светлая мара яе падтрымлівала ў цяжкія хвіліны жыцця. Яна стала настаўніцай у народнай школе Тамбоўшчыны, але імкнулася вырвацца з тэй твані, у якую трапіла: плёткі, пераліванне з пустога ў парожняе...

На курсы, на курсы! Так мала дала школа, хочацца знаць больш, хочацца працаваць!

Каб скарэй жанчыны атрымалі правы! Жанчыны – працаўніцы, а не пустыя "франціхі". Калі прыйдзе час, што жанчыну будуць паважаць як чалавека, здольнага да працы, не будуць глядзець, як на нявольніцу, якая можа толькі дагаджаць мужчыне? Мілая мая "фліртовая" Вера! Апошні ліст я атрымала ад яе, калі яна пяць гадоў прабыла ў Тамбове (у 1920? 1921?), так і не трапіўшы ў Бабруйск. У школе ўжо не магла працаваць: лёгкія слабыя (часта харкала кроўю) ды і сэрца нікуды нявартае: трохі хвалявання – і кладзіся ў ложак. А курсы засталіся толькі ў марах. Усю сваю вялікую энергію ўклала ў сакратарскую працу і розныя выбарныя пасады. Пра сябе гаварыла, што засталася па-ранейшаму прыхільніцай флірту, а замуж не выйшла, бо прызнае толькі грамадзянскі шлюб, але гэта вельмі ўсхвалявала б матку, якая стала ўжо вельмі слабенькай.

---

Час быў трывожны і няпэўны, але ці гэта магло мяне затрымаць? Паехалі мы ўвосень 1915 г. з Зінамі ў Петраград. Пачаўся новы этап у маім жыцці. Нарэшце, я дасягнула жаданага! І акунулася я ў студэнцкае жыццё. Жылі мы разам з беленькай Зінай у невялічкім пакоіку (плацілі, здаецца, 20 р.) з двумя ложкамі, сталом пасярэдзіне, этажэркай, двумя "самаварамі" – раніцай і ўвечары. Акно пазірала на сцяну, і таму ў пакоіку было цемнавата, але мы ўвесь дзень праводзілі на курсах і не заўважалі гэтага. Пазней я перабралася ў інтэрнат.

Свой "капітал" я надзейна захоўвала пры сабе. "Sna mea mecum porto"[1].

На снеданне мы з'ядалі па французскай булцы коштам 3 кап. і куску чайнай кілбасы. Абед у курсавой сталовай (касы ўзаемадапамогі). Сталовай загадвалі курсісткі, кармілі без выкрутасаў, але галоднымі мы не былі за свае капейкі. Памятаю, што катлета каштавала 7 кап., талерка кашы – 3 кап., талерка кісялю – 3 кап. Мне надта падабалася невядомая мне раней страва – вараная бульба з чырвонай тлустай сёмгай.

Былі недалёка ад курсаў прыватныя недарагія сталовыя, куды мы скопам з землякамі-студэнтамі хадзілі абедаць па нядзелях. Памятаю сталовую вусатага, не без гумару, паляка, мы называлі яго панам. У яго сталовай былі надпісы: "Чужие галоши брать необязательно" і на скрынцы, прымацаванай да дзвярэй: "И копейка – деньги ... для швейцара". Адчувалі мы сябе там вельмі добра, і вусаты пан нямала гэтаму садзейнічаў.

Трэба было і з горадам пазнаёміцца, музеі наведаць ды ў тэатры схадзіць. Ад свайго абмежаванага бюджэта ўрываліся капейкі, каб у "Музыкальнай драме" на галёрцы паслухаць Ліпкоўскую ў "Аідзе" ці Мазжухіна ў "Барысе Гадунове". Шаляпін таксама выступаў і тут, і ў Народным доме, але мне не ўдалося паслухаць яго.

---

[1] Omnia mea mecum porto (*лац.*) – усё сваё нашу з сабой.

Неяк на курсах разыгрывалі ў латарэі білеты, ды мне не пашанцавала. Адзін раз дзяжурылі шмат гадзін на дварэ, каб трапіць на дармовыя месцы ў Народным доме. Уваход каштаваў 10 кап., а там трэба было спяшацца займаць месцы на верхатур'і. Было халаднавата, але ў кампаніі весела. Калі адчыняліся запаветныя дзверы, то хлопцы, паскідаўшы галёшы і польты, сігалі праз некалькі сходкаў наверх, каб заняць лепшыя месцы. Убачыўшы гэта, я ад рогату не магла ісці і спынялася на прыступках, пакуль не сціхне гэты рогат. А месцы для мяне і кампаніі ўжо былі заняты шапкамі, польтамі, галёшамі. Асабліва смешны выгляд быў у М. – акуляры, сурдут і лысаватая галава, а выгляд прафесарскі. Пасля мне з Зінай па чарзе ён спяваў арыі, ды яшчэ стоячы на адным калене і з адпаведнымі жэстамі.

У дні адпачынку, калі не было вельмі холадна, я любіла паблукаць па гораду. Мая адзёжа не вельмі была цёплай, і я надта зябла ў дні, калі паветра напоўнена было марознай парай, і яна асядала на вопратку, пранізвала да касцей. Я знаёмілася з планам горада, выбірала маршрут і ехала. На жаль, мае сяброўкі не вельмі ўхвалялі мае падарожжы, і я прымушана была падарожнічаць у адзіноце. Не любіла я ніякіх знаёмстваў, больш слухала, назірала.

То трапляю я на востраў, дзе змешчан Батанічны сад. Колькі новага я там нагледала. То, стоячы на Тучковым мосце, захапляюся своеасаблівым пейзажам. Вось як ён у мяне апісаны: "Дзіўны выгляд Нявы з Тучкова маста. Сёння ён асабліва быў прыгожы. Далячынь ахінута туманамі. Ледзь вызначаюцца расплыўчатыя сілуэты будынкаў на ўзбярэжжы. Свінцовыя воды ракі, баржы з дравамі, дымок парахода. Белы тонкі вэлюм нібы пакрывае ўсё. Дзіўны горад! Нібы нейкі прывід, галюцынацыя... Толькі званкі трамваеў варочаюць да рэальнага жыцця"... Я так была паглыблена ў назіранне, што ледзь не трапіла пад колы ізвозчыка.

Трапіла я на Нарвскую заставу. Тут саўсім іншы выгляд. Карпусы заводаў, сталёвыя рэйкі пуцей. Вось ідуць хлопцы, абняўшыся, шапкі набакір. "Маруся-я отравилась, в больницу повезли..." – зацягваюць песню.

Неяк у трамваі я назірала цікавую сцэнку. Стаіць рабочы, трохі відаць "пад мухай". Паліто латанае, рыжае, каўнер падняты (халаднавата). Спераду стаіць дама ў каракулевым паліто. Чалавек нейкі час на яе глядзеў, потым сказаў, паказваючы на сябе і на яе:

– Вось паліто, і вось паліто! Вось чалавек, і вось чалавек!

Нейкая жанчына, засмяяўшыся, сказала:

– Ну, надумаўся сябе раўняць!

– А будзе час, калі мы і зраўняемся!..

Прыпамінаецца мне паездка на ўзмор'е з кампаніяй студэнтаў. Гэта было ў белую ноч. Узялі мы лодку і паехалі. Было шумна і весела. Песня за песняй. На небе не гасла зара, і ясная палоска адбівалася на вадзе. Заехалі мы далёка. Горад патануў у лёгкай смузе. Навокал вада і вада. Трэба варочацца назад, відаць, ня рана. Ужо ў другім месцы неба пасвятлела – зара з зарой сышлася. Мы павярнулі лодку і ... сталі: плытка селі на мель. Доўга мы круціліся, не маглі ніяк знайсці фарватар. Убачылі чалавека ў лодцы і давай яго прасіць, каб паказаў, куды плыць. Мы ўжо скінулі чаравікі і лодку пхалі. Чалавек паслаў нас да ўсіх чартоў. Гэта быў паляўнічы, якому мы перашкодзілі. Толькі калі добра паднялося сонца, мы, мокрыя, змораныя, расчухраныя і без гумору, вярнуліся назад. У такім выглядзе нам няёмка было праз увесь горад ехаць, і, як маглі, давай прыхарошвацца. А потым расказвалі, як мы пехатою па моры хадзілі.

А на курсах столькі было цікавага! Трэба ж было паслухаць і гісторыкаў, і філолагаў, і філосафаў, і не толькі тых, каго рэкамендавалі. Варта зайсці да юрыстаў, яны паблізу, па дарозе. Там "свивает словеса" П.Н. Сперанскі, цікавіць і М.І. Туган-Бараноўскі, які не грэбуе перасыпаць свае лекцыі прыкладамі з літаратуры.

Як прамінуць аўдыторыю, дзе чытае прафесар С.В. Платонаў! Даволі нязграбная

груvастая фігура з кароткімі, не па росту рукамі і маленькім носікам. Па яго сухаватаму падручніку ў старэйшых класах гімназіі мы вывучалі гісторыю. Як мастак малюе эпоху Кацярыны ІІ. Вытрымкі з дакументаў чытае напамяць, без паперак. Не лекцыя, а мастацкі твор. Якая розніца паміж падручнікам і жывым аўтарам!

Вось па калідоры прасунулася невялікая фігура В.В. Сіпоўскага, па яго падручніку літаратуры вучыліся ў школе. Высокі лінгвіст Л.В. Шчэрба з чубам, які звешваўся на лоб, трохі нагадваў Гогаля. Сівая грыва Н.І. Карэева. А вось хударлявы, лысы, у кароткім піджачку, з гузам на патыліцы Іван (Ян) Аляксандравіч Бадуэн дэ Куртэнэ, акадэмік, прафесар, накіраваўся ў аудыторыю. Трэба ісці слухаць яго, хаця першакурсніку гэта не так лёгка. Ён стараецца давесці, расцягваючы склады, што такое фа-нэ-ма і гра-фэ-ма. Вялікі спецыяліст-лінгвіст, ён прываблівае тым, што, паводле чутак, меў немалыя непрыемнасці з уладамі. Цікавы, выданыя на курсах яго дапаможнікі, надрукаваныя па яго ўласнай арфаграфіі.

Між іншым, хадзіць на лекцыі было неабавязкова, і прафесары, якія не ўмелі прывабіць слухачоў, не маглі пахваліцца шматлікімі наведвальнікамі. Затое такія, як акадэмік Нестар Ал. Катлярэўскі, які прыязджаў з Масквы, і па аўторках чытаў вечарамі лекцыі на курсах, збіраў паўнюткую залу або самую вялікую аўдыторыю. Былі заняты ўсе праходы, падваконнікі. Прыходзілі з розных курсаў, нават з іншых факультэтаў. Не ведаю, ці чытаў ён ва Універсітэце, але аднойчы на курсы з'явіўся пераапрануты ў жаночую вопратку студэнт. У белым каптуры, чорнай сукенцы і гаржэтцы з пер'я. Калі яго заўважылі – было рогату!

Чытаў К[атлярэўскі] пра рускую літаратуру XIX ст. – Талстой, Дастаеўскі, Чэхаў... Зварот "милостивые государыни" спакойным, прыемным голасам ужо настройваў да ўдумлівага ўспрымання яго лекцыі. Чытаў без шпаргалак. Ціха, толькі часам зашалпоча папера – запісваюць. У мяне доўга захоўваліся запісы яго цікавых лекцый. Чакалі аўторкаў і вечароў, як свята, і заране стараліся займаць месцы ў аудыторыі.

На кафедры – Сямён Афанасьевіч Вянгераў... Так вось які ён – рэдактар знаёмай серыі "Библиотека великих писателей", выданняў Бракгаўза і Ефрона! Невысокі, з сіваватай барадой, у акулярах. Лекцыі па рускай літаратуры. Адносіны да яе "благоговейные". Калі загаворыць аб Пушкіне, увесь неяк асвятляецца, і мова становіцца ўзнёслай. У такт яго ўсхваляваным словам пагойдваецца сіваватая барада на сурдуце. Даведваюся, што існуюць "пушкіністы", да якіх, відаць, і ён належыць.

Аляксандр Іванавіч Увядзенскі. Логіка, псіхалогія "без всякой метафизики", гісторыя філасофіі. Прыемна і зразумела чытаў. Вучыў лагічна выслаўляцца. Голас нейкі трохі рыпучы. Памятаецца яго заключнае "а поетому..." . На кафедры стаяла шклянка чаю, і часта ён, пастукваючы лыжачкай, памешваў. Чытаў седзячы, без усякіх лісткоў. Нам здавалася, што ў яго ўжо адсутнічае ўсякая метафізіка, але гэта толькі здавалася.

Па філасофіі лекцыі Н.О. Лоскага ў галаве пакідалі блытаніну. Гэта не Увядзенскі. Успрыняць кантаўскія ўяўленні аб рэчах і "рэчы ў сабе" было лягчэй, а вось Бёрклі з яго сцвярджэннямі, што рэч існуе, пакуль мы яе ўспрыймаем – цяжкавата.

Выкладчык французскай мовы мосье А.А. Лярonд праводзіў заняткі цікава. Мэта – навучыць разбірацца і чытаць навуковыя тэксты. Замест традыцыйнай граматыкі – тоненькі яго даведнік (так ён называў). Тэксты: Сен-Сімон, Фур'е. Нявысокі, чарнявы. Калі выгаварваў словы, неяк асабліва прычмокваў губамі. Выкладаў па-руску, у вымаўленні адчувалася, што ён француз. Гаварылі, што ён – рэспубліканец, а для нас гэта нешта азначала. На заліках без жалю "рэзаў", асабліва самаўпэўненых інстытутак, якія добра ўладалі размоўнай мовай, а заняткі наведвалі неакуратна і Сен-Сімон a livre ouvert[1] не прыносіў ім асалоды. На маіх вачах з 25 асоб залічыў толькі 5-м.

[1] A livre ouvert (*франц.*) – "па адкрытай кнізе", без падрыхтоўкі (чытаць, перакладаць).

Лекцыі Д.В. Айналава па стара-рускаму мастацтву ў цёмнай аудыторыі (ілюстраваліся на экране малюнкі на эпідыяскопе). Голас прыемны, ціхі, умеў зацікавіць, слухаць прыемна. Закрыеш вочы і думаеш, што нікога няма, а гэты павольны, пранікнёны голас гучыць недзе глыбока ў душы.

Запісалася я на семінарскія заняткі да прафесара П.Н. Сакуліна па народнай казцы. Ён цікава праводзіў іх. Слухачкі былі з розных куткоў Расіі, кожная старалася браць казкі свайго краю. Памятаю рэферат адной аб казках поўначы (па Анчукову). Мне ён дужа спадабаўся. Я папрасіла прафесара параіць мне зборы беларускіх казак, я шмат іх чула ў дзяцінстве, на іх гадавалася. Адразу ён не здолеў мне параіць, і толькі на наступным паседжанні назваў Е. Раманава і тэму даў: “Перажыткі старадаўных поглядаў на прыроду на беларускіх казках”. У курсавой бібліятэцы не знайшлося. Ён даў мне запіску ў б[ібліятэ]ку Акад[эміі] навук, якую я і стала наведваць, хадзіла і ў Публ[ічную] б[ібліятэ]ку. Толькі шмат гадоў пасля я напаткала на гэтую тэму кнігу А.Я. Багдановіча (выд. у 1897 г.).

Я нічога не ведала аб тым, што ў Петраградзе існавалі нейкія культурныя беларускія арганізацыі. Не спатыкала твораў ні Купалы, ні Коласа. У дзяцінстве слухала шмат казак, прымавак, нават ведала “Панскае ігрышча”. Матка ўспамінала вершы знаёмага самавука, жартаўлівае яго прывітанне на “Валоссе” і дагэтуль памятую. Ніводнай беларускай друкаванай кнігі не бачыла.

І якое маё было здзіўленне, калі ў канцы 1916 ці студзені 1917 г. адна з маіх сябровак аднекуль прынесла некалькі тоненькіх кніжачак “Лучынкі”. Я была захоплена вершамі Цёткі – “Ой, кабеткі, ой вясковы, ой вы, кветкі прызавяты!” Гэтыя кніжачкі я абсмактала ад вокладкі да вокладкі. Шкада, што не засталося ў памяці, адкуль яны з’явіліся. Ды і шукаць канцоў было ўжо некалі, бо насоўваліся вялікія падзеі, якія цалкам захапілі.

На курсах існавала “Общество вспомоществования слушательницам ВЖК”, а таксама каса студэнцкай узаемадапамогі. Яны займаліся справамі харчавання студэнтак (сталовай, буфетам), уносілі плату за слуханне лекцый за тых, хто меў у гэтым патрэбу (я таксама атрымала пазыку 50 р. за сяместр). Так, пазыку, бо звычайна, хто атрымліваў пасля сканчэння курсаў пасаду, лічыў сябе маральна абавязаным з цягам часу вярнуць грошы, хаця гэта і не лічылася абавязковым.

Каса наладжвала таксама розныя лекцыі, канцэрты, спатканні, запрашаючы артыстаў, пісьменнікаў, крытыкаў, нават грамадскіх дзеячоў.

Памятаю выступленні М. Горкага, Я. Чырыкава, К. Бальманта.

Горкі не зрабіў на мяне моцнага ўражання. Чытаў свае творы неяк невыразна і ціха. Хваляванне сярод слухачак было вялікае, што, відаць, і перашкаджала. Наогул, вечар быў нейкі сумбурны, мітуслівы.

Я. Чырыкаў – аўтар “Юности”, “Изгнания” і “Возвращения” з жыцця моладзі – быў у той час папулярны. Па выгляду нагадваў чэхаўскіх інтэлігентаў.

К. Бальмант. Яго пявучыя вершы мне вельмі падабаліся яшчэ ў школьныя гады (“Паміраючы лебедзь”, “Чайка”...). Апошні верш я нават чытала пад музыку на вечарыне ў гімназіі, і таму я з цікавасцю чакала яго выступлення. І вось ён з шапкай валасоў, якія пры электрычным святле адлівалі бронзай, з высока паднятай галавой, завываючы, чытае. Ён вярнуўся з падарожжа па Інданезіі. Месяц, агонь, зоры, яго Я і... няма людзей. Я запісала асобныя сказы.

Творимый творец творимого творенья...
Я для ветра нашел зацепленье...
Средь обезьян властитель благородный...
Я – око всеобъемлющее..
Ресничные для ока борозды...
Свой мозг пронзил я солнечным лучом...
Мой дух влюблен, он упоён...

Я царствую, блаженствую, горю...
Огонь бесшумный в мерцаньи церковной свечи...
О, красный огонь! Я тебе посвятил все мечты...
Ты в хрустальности звезд...
Солнце – огонь, луна – свет,
Звезды – сиянье...
Звезды – неумолчное пасхальное благовестие,
Звезды – ночные ипостаси солнца,
Красная страсть, кончающаяся белым созерцанием...
Безбрежное рыдание с луны излило жемчуга...
Новолуние серпом прорезало мне сердце...
Из пропасти вулканной вышины...
Поющую луну мы слушаем глазами...
В душе звездозлатится...

Вельмі красамоўна і лаканічна мая рэзалюцыя: “Тэкс”. Бальмант мяне расчараваў. Я была занята такімі зямнымі пытаннямі, як вайна, шуканне сцежак жыцця, а ён запрашаў мяне ў космас, накіраваў увагу на сваё ўспрыйманне стыхій. Нічога мне не даў, апроч “свития словес”. На тым сшытку, дзе быў зроблен запіс яго славатворчасці, у якасці эпіграфа напісаны былі словы:

От ликующих, праздно болтающих,
Обагряющих руки в крови,
Уведи меня в стан погибающих
За великое дело любви.[1]

Надзвычайнае ўражанне зрабіў этнаграфічны вечар (6 (19).I.1916 г.), на якім спяваў сляпы бандурыст з Харкаўшчыны – Грыцко Сямёнавіч Кажушка. У вышыванай кашулі, шырокіх штанах з поясам. Бандура на каленях. І тэнар, што за душу хапае. Шмат песень і дум спяваў ён. Народныя і на словы Шаўчэнкі. І пра Хмяльніцкага, пра Маразенку, у якога татары выразалі сэрца:

Гэй, Морозе, Морозеньку, ти славний
Козаче, за тобою, Морозенко, вся
Вкраіна плаче!..

“На смерць Шаўчэнкі”, “Ой, тры шляхі шырокія”, “Пападэнька”, “Варэнікі”, “Бярозка” і г.д. Слухалі і плакалі, не хаваючы слёз. На вечары былі і прафесары. Успамінаецца прафесар Ф.Ф. Зялінскі, высокі, сівы (ён чытаў антычную літаратуру), і ён плакаў. Праўда, ён не мог стрымаць слёз кожны раз, калі даводзілася на лекцыі чытаць развітанне Гектара з Андрамахай. Толькі дойдзе да гэтага месца, і ўжо рука цягнецца ў кішэнь сурдута па хустку (так гаварылі курсісткі).

Успамінаецца Максім Максімавіч Кавалеўскі – сацыёлаг. Выступаў ён на вечары, прысвечаным Соф'і Кавалеўскай, першай жанчыне-прафесару ў Швецыі. Мажны, пажылы, ён успамінаў свае спатканні з ёю за межамі. Праз шмат гадоў я даведалася, што С.К. збіралася звязаць сваё жыццё з ім, але ён хацеў, каб яна кінула сваё “прафесарства”, і яны разышліся. Мы з хваляваннем слухалі аб жанчыне, якая ў ліку піянераў пракладала шляхі жанчынам да вышэйшай асветы, да навукі. Нялёгкая гэта была дарога! Нават прафесару-жанчыне, прызнанаму за межамі, не знайшлося месца ў тагачаснай Расіі. Моцна трымаліся традыцыйныя погляды на няроўнасць жанчыны з мужчынамі.

Пытанне раўнапраўя жанчын мяне хвалявала са школьных гадоў. Я імкнулася паказаць на справе, што нічым не горшая за тых хлапчукоў, сыноў нашай добрай знаёмай, у якой мяне ўладкавалі на кватэру. Яны мяне і лічылі не паненачкай, а сваім

[1] Цытата з верша М. Някрасава “Рыцарь на час”.

таварышам, які можа дапамагчы і задачку рашыць, і растлумачыць незразумелае (вучылася я на пяцёрках, а ім навука давалася нялёгка).

Так званае "жаночае" пытанне хвалявала вучнёўскую моладзь у тыя часы і выклікала шмат спрэчак. Жыла я ўжо на іншай кватэры сярод дзяўчат, таварышак па гімназіі. Да іх наведваліся знаёмыя хлопцы – тэлеграфісты, пісарчукі, дробныя канцылярысты. І пачыналіся "прынцыповыя" спрэчкі! Ад бедных хлопцаў пух ляцеў! Чай астываў на стале. Забываліся пра песні, а дзяўчаты былі галасістыя. Цяжка было адбівацца ад згоднага націску сямікласніц, якія ўмелі падмацаваць свае доказы літаратурнымі і гістарычнымі прыкладамі.

Са студэнтамі цяжэй было змагацца: у іх быў больш грунтоўны багаж, але, бывала, і яны траплялі ў нялёгкае становішча. Памятаю адзін жарт, які збянтэжыў харошага хлопца.

У знаёмай дзяўчыны быў жаніх, пецярбургскі студэнт (палітэхнік ці гарняк). Ведаючы маю "струнку", пачаў іграць на ёй. Ці ўспомніш, з чаго пачалося? Але гутарка жартам зайшла і пра біблейскіх Адама і Еву. Я сказала, ці справядліва вінаваціць Еву, што яна спакусіла Адама, проста яблыкі былі прыгожыя, і без спакусы тут абышлося. Спрачаліся заўзята. І вось мы з дзяўчынай умовіліся падстроіць хлопцу "спакусу". Набылі вельмі прыгожых яблыкаў, палажылі на стол і нават прыкрылі газетаю. Сталі чакаць хлопца. Калі ён з'явіўся і заўважыў яблыкі, адразу, не пытаючыся, схапіў адно і з хрустам куснуў. Мы зарагаталі.

Была і іншая плынь, якая захапляла юнацтва (вядома, не дзяцей працоўных) у часы рэакцыі пасля рэвалюцыйнага ўздыму 1905 году. Ведаю толькі па чутках. Гэта так званыя гурткі "агаркаў". Начытаўшыся "Санина", раманаў Вярбіцкай і іншай таму падобнай літаратуры, яны на практыцы ажыццяўлялі ўсе іх тэорыі.

Мы не былі звязаны з рабочым асяроддзем. Дзе ўзяць было фабрычных рабочых, калі фабрык не было? Былі дробныя майстэрні, было сялянства, больш знаёмае і блізкае. І круціліся мы ў асяроддзі інтэлігенцыі, дробнага чыноўніцтва. Але шмат якія пытанні ўжо ставілі насуперак агульна прынятым поглядам.

На курсах было шмат аднадумцаў, тут былі свае традыцыі, пашана да жанчын-піянераў, жанчын шасцідзесятых гадоў. Але нельга сказаць, каб склад слухачак быў аднастайны. Шмат было такіх, якія разлічвалі толькі на свае працоўныя рукі, але былі і дочкі заможных, якія не вельмі клапаціліся пра заўтрашні дзень. І пастаноўка "жаночага" пытання ў іх мела свае асаблівасці.

Вайна ўнесла карэктывы ў гэтае пытанне. Практыка патрэбавала замены мужчын, якія пайшлі на фронт, жанчынамі. І тут ужо было не да спрэчак аб здольнасці жанчын выконваць тую ці іншую працу.

На курсах былі студэнцкія арганізацыі, якія ядналі студэнтаў адной губэрні або горада – "зямляцтвы", яны лягальна існавалі, мэта – узаемадапамога. Бабруйскага не было, бо мала дзяўчат з горада на курсах, затое ў іншых вышэйшых установах Петраграда студэнтаў хапала, усе хлопцы. Магчыма, у іх былі і свае арганізацыі па ўстановах – не ведаю. Афіцыйна не дазвалялася аб'яднання "зямляцтваў" па горадзе, але неафіцыйна...

Восень 1916 года была насычана ўсякімі хваляваннямі, забастоўкамі. "Зямляцтвы" пачалі адгукацца на бягучыя падзеі.

4 снежня бабруйчане наладзілі сход студэнтаў на прыватнай кватэры, безумоўна. Тут былі мы, студэнты ўніверсітэта, палітэхнічнага ін-та, псіханеўралагічнага і інш. Абмяркоўвалася рэзалюцыя саюза "зямляцкіх арганізацый":

1. Пратэст супраць паводзін большасці Дзяржаўнай Думы на паседжанні 19 лістапада;

2. Адмова ад дабрачыннасці і прынцып самадзейнасці ў жыцці студэнцтва.

Недысцыплінаваныя "псіхі" паводзілі сябе шумна. Вярнуліся дадому з сільнай болю галавы – учадзелі.

Памятаю, адбыўся сход бабруйчан 29 студзеня 1917 г., на якім было ўзнята пытанне аб наладжванні чытанняў і рэфератаў на тэмы, якія нас цікавяць, нават выбралі камісію для распрацоўкі праграмы, але добрым пажаданням і намерам не суджана было аформіцца – час быў не такі. Былі яшчэ сходы. На іх прысутнічаў і выступаў С.Я. Вальфсон, студэнт універсітэта (ён заканчваў курс), Н.В. Азбукін, палітэхнікі, “псіхі” і інш.

Узмацніліся на заводах забастоўкі, 28.X.16 баставалі на ваенным Трубачным заводзе. Аб прычынах хадзілі розныя чуткі. Для ўціхамірання хваляванняў рабочых накіравалі салдат і загадалі страляць у рабочых, але яны адмовіліся. Умяшалася паліцыя, яе пакалашмацілі. Салдат аддалі пад ваенна-палявы суд. Рабочыя яшчэ больш усхваляваліся, забастоўка ахапіла многія заводы.

Я магла назіраць, што рабілася на малым праспекце Васільеўскага вострава і на 10 лініі, дзе знаходзіліся курсы і насупраць іх тытунёвая фабрыка Лаферм. Было відаць, як людна рабілася на вуліцы і каля зачыненых варот дамоў і фабрыкі. Парадныя дзверы замыкаюцца, магазіны таксама. Чуюцца крыкі – відаць, паліцыя разганяе натоўп.

Сціхла. Нейкая жудасная цішыня. Цокаюць падковы коней па апусцелай вуліцы. Гэта праехаў патруль. Праляцела машына, і зноў цішыня. Што гэта дзеецца?

Увага прыкавана да Думы. Цікавімся выступленнямі дэпутатаў. У перапынках паміж лекцыямі чытаюцца прамовы думцаў. Некаторыя курсісткі наведалі Думу і расказвалі, што яны там чулі. Штурмер падкуплен немцамі... Са згоды Пратапопава вызвален з турмы Сухамлінаў... Ці праўда? Хвалюемся.

Надумалася я сагітаваць сваю кампанію наведаць Думу. Іншыя могуць, а мы – горшыя? У вольныя хвіліны я любіла паблукаць па горадзе. Куды мяне не заносіла! І мне здалося, што Дума недалека ад Васільеўскага вострава. Я памылкова іншы будынак прыняла за Думу. Цікава прайсціся пехатой! І мы пайшлі з Васільеўскага вострава, я – за павадыра. Ідзем, ідзем, а Думы ўсё не відаць. Давай распытваць дарогу. Нас усё далей і далей пасылаюць. Я ўжо зразумела, што памылілася, але маўчу. Засапліся добра, пакуль дайшлі. У Думе я выклікала з залы пасяджэнняў дэпутата – земляка з Гродзеншчыны, і мы атрымалі білеты на галярэю для публікі. Бачылі думскіх “слупоў”. Мажны Радзянка на старшынскім месцы. Выступаў чарнасоценец Маркаў 2-гі, які лічыў, што падобны да Пятра І і вельмі ганарыўся гэтым. Хацелася паглядзець на Пурышкевіча, але яго не было на пасяджэнні.

Нашы “курсачыя” дзеячы ўлічылі цікавасць да думскіх выказванняў і запрасілі выступіць на курсах дэпутатаў Шынгарова, а потым і П.Н. Мілюкова. Гэта былі жывыя ўдзельнікі думскіх “словопрений”, і нямала цікавага мы пачулі, але шмат у каго заклікі кадэта Мілюкова “Вайна да перамогі” і мары аб нейкіх Дарданелах не выклікалі ніякага спачування, а абурэнне. Хопіць! Даволі вайны!

Чуткі, чуткі... Колькі іх! На Мілюкова напад быў... Германія просіць міру... Часам газеты не дастаць ні раніцай, ні ўвечары.

Адчувалася, што існуюць таемныя плыні, якія ўлічваюць нездаваленне вайной (за што ваюем?), абурэнне казнакрадствам, здрадай, гаспадарчай разрухай (каля магазінаў усё павялічваліся натоўпы жанчын) і накіроўваюць у пэўным напрамку гэта нездаваленне. Часам на дзвярах сталовай або аўдыторый курсаў з'яўляліся лістоўкі. Чыталі і аглядаліся, ці няма “служителя”, які ўважліва сачыў за тымі, хто чытаў. Толькі яго фігура здаля з'явіцца, лістоўка знікала.

Якія партыі распаўсюджвалі? Для мяне і падобных да мяне назіральнікаў розніца паміж партыямі падполля не была яснай. Бальшавікі, меншавікі, эсэры... Яны ж супраць цара, сядзяць у турмах. Ну, і хвала ім!

Існавалі, пэўна, падпольныя арганізацыі і на курсах, але ні з кім мне не давялося сутыкнуцца, ды я, шчыра кажучы, і не шукала іх. Тыя, каго арыштоўвалі, судзілі, былі абкружаны арэоламі герояў.

На шматлюдных лекцыях (напрыклад, на лекцыях П. Катлярэўскага) па руках

хадзілі папяровыя скарбонкі з надпісам “Чырвоны крыж”. Мы ведалі, што гэта збор на карысць палітзняволеных, і яны папаўняліся нашымі капейкамі. Школа, царква рыхтавалі вернападданых. Не атрымаліся з нас яны, але і свядомых партыйных змагароў не выйшла. Былі супраць падгніўшага ладу, хацелася працы на культурнай ніве, але будучыня паўставала ў марах вельмі невыразна. Не хапала палітычнай свядомасці. Цяпер піянеры больш падрыхтаваны, чым былі мы. “Новыя формы самі напрошваюцца, іх зацiскаюць, а за старое руляцца рэшткі былой велічы, учапіліся і рукамі, і зубамі” (1916).

Вось які невыразны пратэст! Ніякай класавай свядомасці!

Недзе я вычытала, што не кожны можа насіць “ярмо партыйнасці”. Цікава. Трэба пашукаць гэту цытату.

На сходзе бабруйчан-землякоў мы даведаліся, што 14-га лютага (ст.ст.) 1917 г., магчыма, адбудзецца выступленне рэвалюцыйных сіл. У гэты дзень яно не адбылося. А на курсах быў наладжан агульны сход, які я надта добра памятаю. У вялікай зале было цесна. Каб лепш чуць і бачыць, я ўлезла на падваконнік. Выступала студэнтка Конанава, невысокая, сур’ёзная. Ведаю, што яна мела адносіны да студэнцкіх арганізацый (каса ўзаемадапамогі). Прапанавала рэзалюцыю аб падтрыманні рабочых. Там быў пункт, які я з захапленнем успрыняла: “Прэч вайну!” Гэта рэзалюцыя, запісаная скорапісам, у мяне доўга захоўвалася. Я не разбіралася ў адценнях розных партый і праграм, абы супраць вайны і супраць цара. Сталі галасаваць. І паднялася бура! Большасць – за, меньшасць абуралася, яны ішлі за тымі, хто за “вайну да перамогі”.

Прыйшоў на сход рэктар, прафесар С.К. Буліч і папрасіў слова (мы яго называлі “Дядя Ваня” – ён нагадваў чэхаўскіх герояў):

– Пашкадуйце курсы! Успомніце 1905 г.! Паліцыя на двары!

Падняўся шум, не далі яму гаварыць. Доўга крычалі, размахвалі рукамі, збіраліся невялікімі групамі. Нарэшце студэнтка В. Пакацілава (яна працавала ў семінары прафесара В.В. Сіпоўскага), паклікала ўсіх, хто за вайну, у малы зал, дзе яны абмяркоўвалі сваю рэзалюцыю. Тут была невялікая група (я пацікавілася). На панадворку курсаў стаялі шпалерамі паліцэйскія (“фараоны”), позіркі якіх і праводзілі нас да варот.

Колькі спрэчак было! А галоўнае, што-та будзе?

Дзяўчаты больш пасіўна адносіліся, але сярод хлопцаў, нашых таварышоў з універсітэта, палітэхнікума, былі прыхільнікі вайны да перамогі.

23 лютага (ст.ст. – 8 сакавіка) прыйшлі мы на курсы. Здзівіла, што надта мала верхняй вопраткі на вешалках. Ідзем далей. Пуста, толькі ў некалькіх аўдыторыях нешматлікія слухачкі. Глядзім – падыходзіць група да дзвярэй, адчыняе і прапануе ісці на дэманстрацыю на Неўскі. Мы з сяброўкамі, не чакаючы іншых, пабеглі апранацца і праз пару хвілін былі на вуліцы. Насупраць, каля тытунёвай фабрыкі “Лаферм”, ужо стаялі жанчыны-работніцы ў цёмных хустках (на фабрыцы працавалі галоўным чынам жанчыны). Мы прыстроіліся ў “хвост” і пайшлі на праспект праз Мікалаеўскі мост.

На Неўскім было ўжо людна. Ішлі дэманстранты і рабочыя, работніцы, студэнты ў форменных шынелях, курсісткі. Над галовамі запалаў чырвоны сцяг. Песні, песні... Нешта крычаць. Ідзе трамвай, яго спыняюць, пасажыраў просяць выйсці.

А сонца, рэдкі госць, так ясна свеціць у сінім небе. Снег пераліваецца іскрамі. Сінія цені. А ў небе – галубы. Я іх так добра памятаю можа таму, што падумалася: “Голуб – сімвал міру. Можа так і будзе?”

Раптам з папярочных вуліц выехалі коннікі – казакі па чатыры ў рад – і накіраваліся на дэманстрантаў. Народ рассыпаўся. Вунь пажылая жанчына крычыць маладому казаку:

– Ты на каго руку падымаеш? На сясцёр, братоў, матак?..

Казак пацiху (твар сур’ёзны): “Да мы-та што? Мы – нічаво, а вот...” – вачамі паказвае на афіцэра, што ўперадзе.

Я апынулася на панелі каля Казанскага сабору. Сваіх таварышак пагубляла. Казакі ехалі ўжо не толькі па праспекту, але і па панелях. Я нешта крычала, махала рукамі і не заўважала, што морда каня ўжо блізка маёй галавы. Раптам адчуваю, што мае ногі аддзяляюцца ад зямлі, і я ўжо ў гурбе снега за агарожаю (дворнікі назмяталі). Перада мной стаіць дзядзька і так сувора і трохі іранічна на мяне пазірае. "Таксама рэвалюцыю рабіць сабралася...", – мабыць думае. Я была збянтэжана. Занялася росшукамі згубленага галёша. На гэтым маё "выступленне" і закончылася. У інтэрнаце шмат было апавяданняў.

Дума распушчана... Пратапопаў прызначан дыктатарам і ўзброіў паліцыю кулямётамі... З акраін войска не дапусціла рабочых на Неўскі. Ужо на Неўскім страляюць уздоўж праспекта. Хваляванні ў войску... Асабліва памятна ноч з 27 на 28 лютага. Усе нечага чакалі. Ніхто нічога дакладна не ведаў. Няма газет. Пераказвалі, што ў адной вайсковай школе салдаты спынілі заняткі юнкераў.

Інтэрнат на Вялікім праспекце Петраградскай стараны. Па праспекту насіліся грузавікі. Дзіўна было бачыць на іх узброеных салдат і рабочых з чырвонымі сцягамі. Натоўпы людзей з захапленнем крычалі "ура". Але вось пачуліся стрэлы, туканне кулямёта. Чутно, як кулі недзе блізка падаюць каля вуліцы. Крык замаўкае, але не надоўга. Зноў паказаліся грузавікі, зноў "ура". Мы кідаемся да фортак, высоўваем галовы. Забыліся пра сон. Ляжым да першага "ура" у нярвовым напружанні.

Позна ўночы даведаліся, што прызначан часовы ўрад, што некалькі палкоў прыйшлі к Думе. Доўга абмяркоўвалі, седзячы на ложках, падзеі, і было неяк светла і лёгка на душы. А далей? Узнёсласць, захапленне... і галадоўка.

Дзіўныя імгненні! Ідзеш па вуліцы, углядаешся ў твары і не пазнаеш, адкуль радасць у хмурных заўсёды вачах. Некаторыя цалаваліся і плакалі. Вуліца жыла. Хто сядзеў у хаце? Лавілі навіны. Вось праехаў грузавік, і пад крыкі "ура" у паветры разляцеліся лістоўкі. Штурхаючы адзін аднаго, кінуліся лавіць іх. Нехта ўжо чытае ўголас. А там двое спрачаюцца да хрыпаты. Адзін у цывільным, другі салдат. Бальшавікі, меньшавікі, эсэры... Хто іх разбярэ! Галоўнае: прэч цара і яго паплечнікаў, за дэмакратычную рэспубліку! Усё іншае – у тумане.

Хацелася прыняць нейкі ўдзел у гэтай завірусе. Нельга заставацца толькі сузіральнікам. Але што рабіць? На курсах імкнулася запісацца ў санатрад – не бяруць, бо нічога ня ведаю. Усё ж такі апынулася неяк у мяне стужка марлі з чырвоным крыжам. Доўга я захоўвала яе, як памятку аб незабыўных падзеях.

Нехта дасведчаны падаў думку ісці збіраць грошы на харчаванне для салдат (а гэта была ў той час праблема). Я з сяброўкай вырашыла неадкладна заняцца гэтым. З пустымі рукамі няёмка збіраць грошы, трэба мець хоць якую-небудзь скрынку. Ішлі мы па Васільеўскаму востраву і думалі, дзе бы што дастаць. Раптам убачылі праз адчыненыя вароты вогнішча – гарэлі нейкія паперы. Пацікавіліся. Гэта быў паліцэйскі вучастак. Людзей на дварэ – нікога, а недалёка ляжыць сярод іншага гурба скрынак з папіроснымі гільзамі. Нам гэта і трэба. Узялі мы дзве, высыпалі гільзы, начапілі на рукавы марлю з чырвоным крыжам і пайшлі. Упрошваць не трэба было, грошы сыпалі і не пыталі, хто мы і адкуль. Некаторыя абдымалі, цалавалі, гаварылі харошыя словы. Настрой вясёлы, радасны. Неяк цяпер не верыцца, што магло так быць.

Накіраваліся праз Тучкоў мост на Петраградскую старану, дзе мы жылі. Трэба знайсці памяшканне, абсталявацца. Дапамога прыйшла ў асобе жвавага хлапчука ў старой салдацкай шапцы з чырвонаю стужкаю на ёй. Гэты Гаўрош таксама шукаў, куды прылажыць свае сілы. Неўзабаве ён прывалок пажылага дворніка з ключамі, і той, хоць і бурчаў, але адчыніў парожнюю краму на рагу Вялікага праспекта (відаць, тут прадавалі мяса). Зьявіўся самавар, сякія-такія кубкі. А мы пайшлі ў крамы купляць прадукты. Чарга. Нас бяз спрэчак прапускаюць уперад. І не адна бабуля спачувальна ўздыхнула.

Дзве тоненькія, худзенькія дзяўчаткі скора абраслі актывам. "Питательный

пункт” для салдат пачаў сваю працу. Няголеныя, недаспаўшыя салдаты маглі пагрэцца гарачым чаем. Часам шумна было, спрэчкі, спрэчкі гарачыя.

Раптам застракатаў кулямёт – і блізка. Схапіліся, павыбягалі, рассыпаліся ланцугом – і пачалася страляніна. Недалёка, налева, стаяла званніца, адтуль стралялі. Я падняла каўнер свайго паліто і сіганула далей ад дзвярэй. Раптам па дарозе – трась вялікая шыбіна – і мяне ўсю абсыпала шклом. Са страху прытулілася да сцяны паміж вялікіх вокнаў. Вось добра, што каўнер падняла! Гляджу – пад лаўкаю ляжыць мая сяброўка, таксама ратавалася.

Потым перанеслі свой “пункт” на другі бок праспекта ў больш утульнае памяшканне. Нават наладзілі варыва – юшку з бульбы. Самі таўкліся тут цалюсенькі дзень, і міска гарачага нас таксама ратавала ад знясілення, бо ў інтэрнаце не было чаго есці, а купіць не так лёгка, да курсавой сталоўкі далёка і няма калі.

Хадзілі ўсякія гутаркі. Палкі ідуць з фронта на дапамогу рэакцыі, арыштавалі міністраў, поначы ездзіць “чорны” аўтамабіль, з якога страляюць у прахожых. І калі мы позна варочаліся ў інтэрнат (ён недалёка знаходзіўся), пільна прыслухоўваліся, ці не чуваць машыны. Аднойчы нейкая без агню пранеслася, і мы спалохана прытуліліся да варот.

Жылі мы на апошнім паверху будынка, дзе знаходзілася Уладзімірскае юнкерскае вучылішча, пад намі – ваенны шпіталь. На нашых вачах узброеныя рабочыя з чырвонымі павязкамі на рукавах і салдаты займалі вучылішча. Юнкеры з кулямётамі на плячах пад крыкі сабраўшыхся адзін за адным праходзілі і складалі зброю. Найбольш галасістымі былі падлеткі-хлапчукі. Мы павысоўваліся ў форткі і таксама крычалі і махалі хусткамі, хоць нам і раілі знізу не высоўвацца, бо могуць страляць.

Паліцэйскія былі ўзброены кулямётамі і хаваліся на гарышчы і адтуль з-пад дахаў стралялі. Узброены патруль правяраў і наш будынак, ці няма там якога-небудзь “фараона”.

Пахаванне забітых у час рэвалюцыйных падзей. Гэта была дэманстрацыя! Помніцца, дзень быў хмарны, снег пачарнелы, хлюпала. Бясконцыя ланцугі людзей у цёмным адзенні запрудзілі вуліцы. Стройнымі шэрагамі, узяўшыся пад рукі, ідуць і ідуць. Твары засяроджаныя, ні гамонкі, ні смеху. Вось Тучкоў мост. Глянеш налева і бачыш гэтыя ланцугі аж на набярэжнай, і далей яны ўжо накіраваліся праз другі мост. Дамы маўклівыя, вароты зачынены. Вось і Зімовы палац. Вокны завешаны. Песня “Мы жертвою пали...” І так гэта грозна гучала на пляцу, напоенаму крывёю ахвяр цяпер пераможанага ладу. Незабыўныя хвіліны...

На сэрцы скрабло. А ну, які недабіты прыхвасцень зверху пальне кулямі! Усё магло здарыцца! Але такая моц была ў гэтай маўклівай, бяззбройнай дэманстрацыі, што ніякі злыдзень не адважыўся парушыць парадак. Праз цэлы горад – на Марсава поле. Чырвоныя труны загінуўшых. Чырвоныя сцягі. Апошняе развітанне. “Мы жертвою пали...”

---

Што далі мне курсы? Праз гады я задавала сабе такое пытанне не раз. Прабыла я там няпоўных чатыры семестры, бо выехала ў пачатку красавіка 1917 г. і ўжо вярнуцца не мела магчымасці.

Пасля сканчэння школы і 8-га педагагічнага класа я рыхтавалася да настаўніцкай працы, але адчувала сябе вельмі непадрыхтаванай. Вучылася я добра (скончыла з залатым медалём). Настаўнікі лічылі, што ў мяне ёсць сякія-такія педагагічныя здольнасці, але я вельмі крытычна ставілася да сваіх ведаў. Каб быць добрым настаўнікам, трэба нямала ведаць. Трэба вучыцца! А грошай няма, каб падацца ў шырокі свет. Атрымала месца ў школе, набрала прыватных лекцый, зарабляю, і думка адна: паеду на курсы. Каб не траціць дарма часу, надумалася заняцца самаадукацыяй, напісала ў Маскву ў нейкае т[аварыст]ва, што складала праграмы для

самаадукацыі. Прыслалі мне праграму, хаця час быў не такі, каб аб нейкіх праграмах думаць – ішла вайна. Перагарнула я гэту праграму і адчула, што мне цяжка нешта самой без кіраўніцтва рабіць. Тут гэтулькі ўсялякіх назваў кніг! Ды дзе іх дастаць? Выпісваць? Мой заробак прызначаўся для пэўнай мэты – курсы, і не хацелася яго чапаць нават на кнігі. Дарваўшыся да гэтых курсаў, я старалася трапіць усюды, дзе можна было пачуць што цікавае і карыснае. Адчувала сябе такой шчаслівай. Такая розніца паміж школай і курсамі! Куды мяне не насіла! Цікавілася ўсім, аднак не было якой-небудзь галіны, якая мяне асабліва захапіла.

Перада мной адчынілася акно ў шырокі свет. Хаця я ўвесь час адчувала, што ведаю мала, і гэтулькі яшчэ трэба спазнаць, але здавалася, што нейкія бясспрэчныя асновы я набыла ў школе. Што напісана ў падручніках, відаць, трэба прыймаць за аксіому. А тут з першых крокаў нас заклікалі да крытычнага падыходу шмат да якіх ісцін.

Нас, першакурсніц, сабралі ў аўдыторыі, і дэкан параіў уважліва праслухаць лекцыі прафесара Бадуэна дэ Куртэнэ, які да школьных граматык адносіўся вельмі непрыхільна. Нам параілі забыць, што мы ведалі па граматыцы. А калі мы здолеем зразумець па-сапраўднаму яго лекцыі, гэта як бы будзе служыць адзнакай, што мы ўжо студэнты.

І колькі знайшлося ўсякіх гіпотэз у тым, што мы прыймалі за аксіомы. Шмат неразвязаных праблем, і трэба было знайсці сярод многіх пунктаў гледжання свае адносіны, няхай памылковыя, але прадуманыя самастойна.

## *Сшытак 10*

### Людзі

Людзі, людзі... Цені мінулага.

Матка ўспамінала Забароўскага, таленавітага ўмельца, які з вялікім майстэрствам рабіў з дрэва розныя рэчы. У бабулі захавалася вісячая з разьбой палічка яго работы. Яна была размалёвана ў некалькі колераў з кутасамі, па-мастацку выразанымі. Была і валкаўніца для валкавання бялізны з тонкім арнаментам.

Чула я і пра самадзейнага паэта, які на кожны выпадак меў свае прыказкі і нават вершы.

**Прывітанне на Валоссе**

*(запісваю паводле слоў маткі)*

Каб вам на Валоссе
Жылося і вялося:
У чаросе – калоссе, а ў ячмені – струк.
Каб вам раі раіліся, за каўняром садзіліся,
Каля паясніцы, як брушніцы,
Каля каўняра, як жамяра,
Што хваць – то пяць.
Каб у вас цяляткі, як кляшчаткі,
А хвасты, як бічы,
Каб лягчэй было за плот валачы.

**Паразоўскі фальклор**

А караляў поўна шыя,
А кашулі не пашые,
А рубчыка не зарубіць,
А хлопчыкаў добра любіць.

---

Андрэй, не дурэй, не дзяры сарочкі:
Не ты праў, не ты ткаў і не твае дочкі.

---

Баба Ксюта, дзед Талаш
Паехалі на кірмаш.
Як паехалі учора
Дый сягоння нямаш.

---

Куды едзеш? – На кірмаш-ш-ш.
А што купіш? – Капялюш-ш-ш.
Ну-у-у-у!

---

Люлі, сынку, люлі...
Пайшоў кот па дулі,
Памарозіў лапкі,
Узлез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца...

## Местачковая інтэлігенцыя

Паўстае перада мною лысая галава пажылага чалавека з ветлівай ухмылкай, у бліскучых акулярах. Ходзіць, нізка апусціўшы галаву, нібы шукае чаго-небудзь у сябе пад крываватымі нагамі і памахвае ў такт кійком. Калі ў добрым гуморы, нешта бурчыць сабе пад нос. Гэты акцызны чыноўнік у той час, відаць, ужо не працаваў. Мікалай Усеваладавіч Капішчаў, чалавек адукаваны, бывалы. Шмат чаго мог расказаць аб сваіх падарожжах і сустрэчах. Паходзіў ён з казакоў і неяк асеў у нашым мястэчку. Жыў ён адзінока, без сям'і, і таму часта вечарамі заходзіў на агеньчык то да адных, то да другіх. Любіў сябраваць з дзяцьмі, асабліва вылучаў мяне, бо ведаў ад нараджэння. Ён мог і казу рагатую паказаць, і расказаць што-небудзь цікавае, а то заахвоціць садзіць кветкі, бо і сам імі захапляўся. Выпісваў насенне невядомых раслін з розных гадавальнікаў, і квятнік у яго быў на дзіва. Асабліва помніцца мне пахучая тубяроза, якую я выгадавала, дзякуючы яму. Іграў ён на маленькім шасцікутным гармоніку, які называў "концертино". Неяк захапіўся сцэнаграфіяй, навыпісваў падручнікаў і мяне пачаў вучыць.

З цеплынёю ўспамінаю гэтага чалавека. Нашы "дамы" над ім падсмейваліся, але ён не абражаўся.

Памятаю вечары, калі ён наведваў нас, захапіўшы з сабою кніжку апавяданняў Станюковіча, Чэхава, Лейкіна... Чытаў ён уголас вельмі добра, выразна. На стале ўтульна гарыць лямпа пад зялёным абажурам, асвятляе твар М.У., перад ім шклянка моцнага чаю без цукру, акуляры і папяросы. Матка нешта шые, а я лаўлю кожнае слова.

Настаўнікі... У тыя гады ў мястэчку народная школа была двухкласная (відаць, толькі з 1908 г.), працавала два настаўнікі. Малодшы А.М. толькі скончыў настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы і ў 1908 г. атрымаў сюды прызначэнне. Мы тады ўжо жылі ў мястэчку.

Матка ўспамінала настаўніка, які раней шмат гадоў працаваў тут: Бельскі Васіль Адамавіч (з 1883 г., у 1905 яго ўжо ў школе не было). Ён часта бываў у бабулі, нават, здаецца, сталаваўся. Яго я бачыла не раз, успамінаецца слова, якое ён часта ўжываў – "значыцца". Матка над ім падсмейвалася і лічыла, што ён невысока лётае.

Малады ж настаўнік (яму было гадоў 19) быў начытаны, жвавы, а разам з тым, як на свае гады, вельмі сталы. У яго была нядрэнная бібліятэчка харошых кніг, якія ахвотна ён прыносіў мне і матцы. Мы з ім пасябравалі – настаўнік і вучаніца. Шмат чым я яму абавязана, ён для мяне значыў больш, чым сам думаў. Я любіла пакпіць, не згаджацца, гэта бянтэжыла яго. Юны рамантык, перапоўнены ўзнёслымі імкненнямі і пачуццямі. Школе аддаваў шмат маладога запалу і энергіі, працаваў,

не гледзячы на гадзіны, да знясілення. Вечарамі, калі прыходзіў да нас, расказваў аб сваіх вучнях: выбраў некалькі, каб падрыхтаваць да выпускных экзаменаў і дабіўся добрых поспехаў.

Сярэдняга росту, круглатвары, з чорным густым чубам. Пасярод ілба валасы спускаліся трохі мыском над пераноссем. Улетку насіў шырачэнную пелярыну, модную ў тыя часы, з бліскучымі жоўтымі зашпількамі на ланцужку. Нейкі прыяцель сфатаграфаваў яго на могілках каля пышнага помніка пана Булгарына (здаецца так) у гэтай адзежыне. Вочы летуценныя ў далі глядзяць, у руках – кніга. Я зрабіла заўвагу, што на кнізе павінен быць надпіс “Надсан” або “Бедная Ліза” – гэта вельмі пасавала б да ўсёй постаці.

Другі настаўнік школы Ніканові́ч неяк стаяў убаку. Доктара ў той час ў мястэчку не было, застаўся толькі фельчар – сціплы чалавек, жыў з жонкаю і сястрою жонкі, маёй аднагодкай.

Сям’я свяшчэнніка была немалая. Дзве старэйшыя дачкі пасля сканчэння епархіяльнага вучылішча былі настаўніцамі, дзве малодшыя – Шура і Аня – яшчэ вучыліся. Па ўзросту яны якраз падыходзілі для мяне. Два сыны дарослых яшчэ не скончылі духоўнай школы ці акадэміі. На вакацыях яны зляталіся дамоў, і рабілася шумна і весела. Да іх прыязджала моладзь з ваколіц.

Думная, паважнага выгляду дама працавала ў манапольцы (за вочы яе называлі багіняй). Жыла яна з сынам, дашкольнікам Сяргеем. Мажная яе фігура, бывала, плыве па мястэчку, а наперадзе бяжыць Сяргей. Яна не жыла з мужам, прычыны мне невядомы. Голас у яе глухаваты, ураханне такое, што нешта няладна з горлам.

Наязджалі часам ляснічы Шмакаў з пушчы з сястрою.

У святочныя дні збіраліся па чарзе адны ў другіх: частаваліся, гулялі ў фанты, шарады. Мы, падлеткі, прыймалі ў гэтых гульнях дзейны ўдзел, а так то больш трымаліся асобна і ў размовах не ўдзельнічалі. Цяжка мне цяпер сказаць, што гэтых людзей хвалявала, якія адносіны былі да грамадскіх падзей тых змрочных часоў. Улетку вечарамі ў блізкім гаі ці ляску на другім канцы мястэчка чуваць былі песні: моладзь гуляла.

Успамінаючы гэтыя часы праз многа год, мой прыяцель, настаўнік А.М., мне сказаў, што можа б ён і закруціўся ў гэтым бяздумным віры або спіўся, каб не выпадак, калі ён застаўся сам-на-сам і другімі вачамі глянуў на свае паводзіны. І вінавата ў гэтым была скула, якая выстрыкнулася на шыі і была вельмі балючай. Замкнуўся ён у школе і не адгукаўся ні на якія спробы парушыць яго адзіноту. Сядзеў, нібы яго ў хаце не было, а сам пачаў рыхтавацца да паступлення ў настаўніцкі інстытут. Ён даўно аб гэтым думаў, але праз усякія гулі ніяк не мог узяцца. І скула памагла: увосень здаў экзамены і выехаў у віцебскі інстытут.

## *Сшытак 11*

### Сябры

Маімі харошымі сябрамі, як гэта ні дзіўна, былі ў гэты час не дзяўчаты. Адна мая Зіна (беленькая) адышла ад кампаніі ў сувязі з цяжкімі асабістымі драмамі. Другая Зіна (чорная) працавала ў аднэй школе, але перажывала перыяд смутку; захаплялася матэматыкай і не менш сур’ёзна разумным сталым матэматыкам, які лічыў гэта захапленне несур’ёзным, і яна пераключылася на не саўсім разумнага не матэматыка.

Мае сябры ведалі, што я не пераношу пошлага флірту, а пагаварыць і паслухаць прыемных мне людзей люблю. Яны ведалі, што язык у мяне востры, і я магу з імі скрыжаваць сваю зброю.

Вось В.Р. з адкрытым позіркам светлых вачэй, фізік, скончыў універсітэт і марыць,

калі дазволяць абставіны, ехаць у другі вуз. Я таксама думаю аб заканчэнні сваёй асветы, а цяпер працую і чакаю. Быў блізкім суседам і забягаў або паведаміць якуюнебудзь навіну, або проста пагаварыць. Вось разважанні аб вялікіх магчымасцях фізікі, аб энергіі і яе размеркаванні, аб псіхічных з'явах, да якіх фізікі яшчэ рук не прыклалі, а трэба. Тут я толькі слухала і навучалася, а калі гутарка зачапляла палітычныя з'явы, я прабавала і свае думкі вылажыць. У часы польскай акупацыі В. папрасіў мяне навучыць чытаць па-польску. Мы бралі газеты, чыталі і абмяркоўвалі іх змест. Пападала панам! У 1921 годзе ён паехаў у Петраград і паступіў у нейкі інстытут (політэхнічны?), а я – у Мінск у БДУ. Зіны таксама раз'ехаліся.

А.Н.З. паспеў нямала чаго бачыць. Хударлявы, імклівы, усё некуды спяшаецца, бяжыць. Гаворачы, нервова пацягвае каўнер кашулі. Ураажанне такое, што не ўсё гладка ў яго жыцці, і ён часта аглядаецца назад. Цікава паслухаць пра яго падарожжы, ён многа ведае, многа чытаў. На правах старэйшага можа зрабіць заўвагу. Яго ў калектыве паважалі, а яму хацелася нейкіх больш цёплых адносін. Часты наведвальнік нашай "камуны". Выкладаў літаратуру.

Вершы ж пісаў не літаратар, а чалавек з вострым розумам, тонкі назіральнік – матэматык У.К.Ф. Яго "оды", сціслыя вершаваныя характарыстыкі сяброў, былі трапныя і характэрныя. Залескі і Усціновіч – антыподы. Мітуслівасць першага, спакой у другога. Адзін гаварыў многа, другі коратка, але важка. У аднаго не-не ды і вылезуць слязлівыя ноткі, у другога іх не заўважыш.

Залескага акупанты-палякі арыштавалі і некуды вывезлі, нічога аб ім не ўдалося даведацца.

Гартаю старонкі сваёй памяці. Перада мною ажывае вобраз дзівака-географа, нібы паўстаў жывы герой з раманаў Жуля Верна. Вёрткі, імклівы, з лысай галавою, як у бацькі, а малады ж яшчэ – толькі скончыў універсітэт. Ажаніўся і меў дачку, а паважнай сталасці ніякай. Мог з вучнямі ў даганялкі пабегаць ці ў чэхарду пагуляць. Закаханы ў сваю геаграфію і ў родны край. Колькі раз мне гаварыў: "Што я за географ, што сяджу на месцы?" Я яму адказваю, што час такі цяпер, трэба рабіць тое, што ў гэтых умовах магчыма, трэба чакаць. "Чакаць? Колькі ж чакаць? Давай пойдзем пехатою... у Парыж!" Такое забурэнне ў свеце (1919 г.), а тут... Смяяцца нават не выпадала, бо гэта была мара, нездавальненне навакольным, а Парыж меў сімвалічнае значэнне. Я ў сябе на сшытку напісала: "У кожнага свой Парыж, да якога рвецца душа; у кожнага свая Галгофа, куды ён у знямозе цягне свой крыж".

Быў ён жвавы, жыццярадасны, калі ў гуморы, мог праспяваць табе раманс або арыю з оперы ды яшчэ стаць на адно калена. У настаўніцкай на перапынках сваім чытэльным дробным почыркам выпісваў слупкі лічбаў – ён паважаў статыстыку. Цікава было слухаць яго вучоныя геаграфічныя разважанні, але былі ў нас пункты разыходжання, і мы счапляліся, як пеўні, аж пер'е ляцела, аднак гэта не перашкаджала нам быць добрымі сябрамі.

Адарваны ад роднага краю з 30-га году, ён так і не вярнуўся, а скончыў сваё жыццё ў Сярэдняй Азіі, куды паехаў дабрахвотна, каб лепш пазнаць гэты невядомы для яго край. Ён працаваў у школе, а ўвесь свой вольны час аддаваў пошукам раслін і збіранню гербарыя, гойсаў па гарах і падраў не адны чаравікі і штаны. У выніку выявіў некалькі невядомых раслін і вельмі ганарыўся гэтым.

Умовы жыцця ў 1939 – 40 гг. там былі вельмі нялёгкія: цяжка было з хлебам (з ночы займалі чаргу), не было свету (чарга па газу) і г.д., толькі фруктамі і жылі. Да таго ж затрымлівалі зарплату. Я добра пра гэта ведаю таму, што яго жонка мне часта пісала, а яна была маёй лепшай сяброўкай. Што датычыць самога М., то ён гаспадарчыя справы ставіў за нішто, быў паглыблены ў сваю навуку. Ведаючы гэта, я старалася яго трохі "прызямліць", рэкамендавала заняцца практычнай батанікай. Калі ён з захапленнем пісаў пра свае экскурсіі ў горы, я наўмысна ставіла пытанне, ці звязаны ён з якой-небудзь экспедыцыяй Ак[адэміі] навук, бо мяне палохалі гэтыя

падарожжы ў прыгранічных гарах. Часы вельмі няпэўныя, трывожныя, і не трэба было лезці на ражон. Але ці гэта яго затрымала? На мае дылетанцкія рэкамендацыі ён адказваў навуковым трактатам (ліст ад 16.VI.40 г.).

У памяці паўстае постаць юнака-энтузіяста культурнага адраджэння Кастуся Шч. Калі я пазнаёмілася з ім? У 1919 – 1920 гг.? Ён працаваў у 1920-21 гг. настаўнікам у Бацэвічах, вёрст за 30 ад Бабруйска, а ў горадзе жылі яго сваякі. Сястра вучылася ў школе на Мінскім фарштаце ў 1920-21 гг. Яна з дэлегацыяй вучняў ездзіла да Янкі Купалы прасіць у яго даць згоду на прысваенне школе яго імя.

У хлопца былі вельмі прыгожыя вочы з доўгімі вейкамі – пазайздросціла б любая дзяўчына. З вялікай энергіяй ён узяўся ладзіць у школе вечарыны. Улетку 1921 г. я працавала на летняй дзіцячай пляцоўцы ў Бацэвічах, гаспадарчыя клопаты ён вёў. У палацы пана размяшчаўся клуб, тут ставіліся спектаклі. Нават мне давялося выконваць нейкую ролю ў п'есе "Каліcь" Аляхновіча, а навокал было неспакойна: трывожылі бандыцкія налёты. Ён час ад часу наведваў Мінск і, вярнуўшыся адтуль, аглушаў навінамі. Недзе дастаў шмат беларускіх кніжак і мне падараваў вялікую пачку. Увосень 1921 года я выехала ў Мінск. Ён паехаў на вучобу на Украіну.

Памятаю яго фатаграфію, надпіс з верша А. Гаруна. Па памяці цытую:

Ці ж будзе час, што нам спаткацца
Яшчэ раз здарыцца калі?
І струны сэрца разбрымяцца
У тыя песні, што былі.
Ніхто не скажа! Толькі знаю
І не ўтаюся ад цябе:
Няхай цябе я не спаткаю –
Пакінеш след ты па сабе.
І ў час, калі гадзінай шарай,
Сярод бязлюддзя пустаты,
Нуда абляжэць чорнай хмарай,
Праменнем сонца будзеш ты.[1]

Цікавы лёс гэтай фатаграфіі. Шкада, што не захавалася. Вось глянуць бы на яе цяпер!

*(Працяг будзе).*

[1] Верш А. Гаруна "Дзяўчацi".

Яўген Рагін



…гэта дарунак Божы,
што сяброў можна выбіраць…

# Я ў вас свой картузік не пакідаў?

*Была ў сабакі хата, а ў Рагіна – палата №6...*

З нагоды пахадзіў па калідорах Смольнага. Сумны занятак, трэба прызнацца. І страшнаваты. Мемарыяльны палітончык прастрэлены (хто цябе, Фані, страляць вучыў?), картузік зашмальцаваны. (Расказвалі скульптары знаёмыя, што недзе на Беларусі быў помнік Леніну з дзвюма кепкамі; адну правадыр у руцэ трымаў, а другая на галаве знаходзілася.) Вось там, у цьмяным калідорчыку, Кірава забілі. А тут, дзе мэбля ў чахлах, Уладзімір Ільіч думкі свае песціў. Чахлы бялюткія. І кожнаму карціць сфатаграфавацца ў тых крэслах, прымерыць сваю долю да долі правадыра. А мяне, хоць памірай, на волю цягне. Такое ўражанне, што смярдзіць у тых кабінетах ды калідорах бінтамі, лекамі, хваравітай прагай мець усё ды ўсіх. Словам, смерцю патыхае. А побач са Смольным – плошча Дыктатуры пралетарыяту. Гэта ж зусім іншая справа! Вось тут вольна дыхаецца! І дзіўная Нява побач... Якая файная назва – “Дыктатура пралетарыяту”. Шкада, нічога агульнага з рэальнасцю! Аксюмаран. Кшталту “Жывы труп”.

Дзесьці пачуў (ці вычытаў?), што час баіцца пірамід. Якая лухта! Я, да прыкладу, перакананы, што час – Бог. А піраміды – каменьчыкі ружанца ў ягоных руках. Час калі і баіцца, дык толькі сябе. Людзі пастаянна спасцігаюць вечнасць. Нават нядаўні альбом Deep Purple называецца "Бясконцасць". Астап Бэндэр не захацеў купляць вечную іголку для прымуса, бо не жадаў жыць вечна. Я таксама не жадаю, але на адну вечную рэч усё ж спакусіўся... У амерыканскім Брэдфардзе жыве ўсяго толькі восем тысяч чалавек. Усе яны ганарацца сваім горадам, бо тут вырабляецца Zippo. Знакамітая запальнічка робіцца за 90 хвілін і прадаецца ў 120 краінах свету. Адну з іх набыў і я, калі было вельмі пагана на душы. Дык вось, Zippo мае вечную гарантыю. Я нашу яе ў правай кішэні джынсаў, і мне прыемна адчуваць сябе часовым дадаткам да неабмежаванага часу. Гэта, напэўна, разнавіднасць разбэшчанасці. Мае сыны не паляць. Не забыцца б пазначыць у завяшчанні, хто стане чарговым гаспадаром маёй кішэннай стальной вечнасці. Пакуль не выбраў такога. Кастынг працягваецца.

Неўтаймоўны Уорхал – гэта мастацкі вэрхал.

На Беларусі, кажуць, мужчын у параўнанні з жанчынамі – болей. Аднак прыгожых мужчын, па назіраннях зацікаўленых, менш, чым прыгожых жанчын. З нагоды гэтай сур'ёзнай сацыяльнай акалічнасці – вясновая карцінка з жыцця (анічога не прыдумаў!). Міма прыпынку нетаропка крочыць маладзіца, даўгалыгая і ў міні-спадніцы (як Сяргей Верацiла пісаў, прыйшла вясна, дасталі дзеўкі ногі): цок-цок-цок. Няголены ды стомлены дзядзька на лаве так каментуе сітуацыю: "Гэтымі нагамі ды табе б па мордзе!" А яна: цок-цок-цок. Поўнае ігнараванне пачутага. Вясна! Пры дробнасці ды нецвярозасці нашых мужыкоў адкуль толькі бяруцца гэтыя нахабна прыгожыя, ветраныя і недасягальныя? Цок-цок-цок. Варта, спадарове, урэшце разабрацца з гэтым пытаннем!

– Ты калі прыехаў? – пытаецца ля пад'езда Санька. Калі ён нападпітку, заўжды пачынае гутарку менавіта так. І абавязкова трэба яму адказаць: "Заўтра". Але, як і заўжды, іду насуперак, кажу, што ўвогуле не прыязджаў, што няма мяне тут і ніколі не будзе. Саньку такая спрэчная філасофія таксама не задавальняе, і ён хвілю збіраецца з сіламі, каб потым паведаміць мне, хто я такі і чаму свет невыносна пакутуе ад майго нахабнага ды бессэнсоўнага існавання... Мы сябруем паўвека і трошкі яшчэ. У дзіцячым садку нас вучылі хадзіць строем і гэтак жа думаць. А ў школе я пастаянна спісваў у яго арыфметыку з алгебрай. Санька некалькі разоў паступаў у радыётэхнічны інстытут, паступіў, але неўзабаве быў адлічаны за прагулы, бо ўжо тады любіў вясёлае жыццё. Але і сёння з лёгкасцю робіць для ахвотных кантрольныя па вышэйшай матэматыцы. Словам, мазгоў у яго шмат і прапіць іх ён не баіцца. Працуе будаўніком, толькі што вярнуўся з-пад Ханты-Мансійска. Сёння мы будзем піць з ім моцную гарбату на маёй кухні і разважаць пра асаблівасці жывапісу Чурлёніса. А яшчэ з Санькам можна памаўчаць, і ён зразумее, пра што мы маўчым. Гэта дарунак Божы, што сяброў можна выбіраць.

Я – істота аналагавая. І кнігі ў маёй хатняй бібліятэцы – папяровыя. І пошта прыходзіць у звычайную скрыню, а не ў электронную. І дыктафон у мяне плёначны, а не лічбавы. І жыццё – не інфернальнае. Словам, ніякай метафізікі. Таму да маладых і кампутарна развітых стаўлюся паблажліва і спагадліва. Маўляў, нічога-нічога, і вас калі-небудзь не абыдзе шчасце.

Калі вынік гарантаваны, цікавіць толькі працэс. Максімальны кайф дасягаецца пры скасаванні прамежкавых этапаў гэтага працэсу. Уявіце: з дваццаці крокаў

вам трэба патрапіць з пнеўматычнай вінтоўкі ў пяцікапейкавую манету (не сённяшнюю, а савецкую). І вось вы на агнявым рубяжы, трымаеце ў разняволеных руках зброю. Вам неабходна яе ўскінуць, сумясціць цэлік з мушкай, дачакацца прамежку паміж ударамі сэрца і плаўна націснуць спускавы кручок. На ўсё гэта, калі глядзець збоку, патрэбна ў сярэднім ад двух да трох хвілін. Аднак калі талент стралка пастаянна падтрымліваецца арыфметыкай бясконцых трэніровак, увесь згаданы вышэй працэс займае тры секунды, не больш. Прынамсі, так мяне вучыў бацька. Трэба не бачыць, а адчуваць. Менавіта арыфметыкай ён называў штодзённыя практыкаванні ў стральбе, калі колькасць непазбежна пераходзіць у якасць.. Драўляныя вароты на нашым падворку былі літаральна нашпігаваныя мяккімі свінцовымі кулькамі. Бацька запрашаў сяброў і спрачаўся на рубель, што я, шасцікласнік, з першага разу патраплю ў пятак. Не памятаю, каб я прамахваўся... Бацька займаўся спартыўнай стральбой мэтанакіравана, таму я і вырас сярод пісталетаў Марголіна. Недзе ў пятым класе я атрымаў ад бацькі ў падарунак першую пнеўматычную вінтоўку, з драўляным ложам. З гэтага моманту і пачалася арыфметыка. Калі гэта робіш па асабістым жаданні і ў форме гульні, першых станоўчых вынікаў дасягаеш адносна хутка. Потым была другая вінтоўка, з пластмасавым ложам, але такая ж цэлкая, лёгкая, звыклая, як працяг рукі. Бацькі не стала, а я ўжо студэнтам, напэўна, быў, рыхтаваўся ў садзе да сесіі, а вінтоўка на каленях адпачывала. (Дзе ёй яшчэ быць, калі гаспадар іншай справай заняты?) І раптам ў веснавой лістоце майго клёна заспяваў салавейка. Я яго не бачыў, толькі чуў. Не думаючы, стрэліў на гук. Усё неяк само па сабе атрымалася. Ён зваліўся з галіны на грады, як шэрая грушка. Ніколі не думаў, што салавейка такі дробны. І так пагана стала на душы. Стралок хрэнаў. Я вінтоўку закінуў. Сыны, гуляючыся, зламалі ёй ложа. Яна цяпер іржавее недзе на балконе. І мяне не цягне да ўлюбёнай калісьці "арыфметыкі". На фестывалі ў Паставах натрапіў на цір. Купіў некалькі кулек. Узяў у рукі вінтоўку. Таксама "тозаўка", але дызайн абсалютна іншы і спускавы кручок тугі, нераспрацаваны. Запэўніў сябе, што рукі ж памятаюць, і стрэліў... Я нават у "малако" не патрапіў, а кудысьці ў сценку ціра. Талент без арыфметыкі, як сала без цыбулі.

Які стралок загінуў ува мне!

Па начах у апусцелых рэдакцыях збіраюцца прывіды герояў журналісцкіх даследаванняў. Збіраюцца і ціха мацюкаюцца ад бездапаможнага жадання абвергнуць і патлумачыць, як усё было насамрэч. А рэдакцыйныя хохлікі, напалоханыя грамадзянскай актыўнасцю прывідаў, збіваюцца ў чароды, хаваюцца пад плінтусы і згадваюць выгоды сацыялістычнага рэалізму ды празрыстасць планавай эканомікі, калі журналісты хадзілі сытыя і не збузаваныя бытавухай.

Пад раніцу па мне пракраліся коткі. Так разведчыкі мінаюць лінію фронту. Спачатку праз ложак і мяне прашкрэблася старэйшая – чорная: *black magic woman*, Зося; потым малая – пярэстая, беспародная, любімая, Дуся. Апошняя пакінула на маім плячы прыязны адбітак халоднага і вільготнага носа. Традыцыйная (і будзільнік не патрэбны!) акцыя пад назовам "Пайшлі есці". Ідзём, ядзім. Я адпраўляюся ў рэдакцыю, яны застаюцца на гаспадарцы. Ні молі, ні мух, ні павукоў у кватэры няма. Гэта ў котак праца такая. Цікуюць і за тым, каб не боўталася па кутах нядобрая сіла. Словам, адчуваю сябе аблашчаным ды абароненым, і чорных котак на вуліцах не баюся. Шкада толькі бадзяжных.

Аднаго вельмі важнага чалавека, які працуе персанальным вадзіцелем другога вельмі важнага чалавека, мужыкі з нашага двара называюць "Перс Анальны". Як справядліва пісалі браты Стругацкія, "народ – шэры, але мудры".

Як мы, раённыя газетчыкі, бралі за савецкім часам інтэрв'ю ў даярак! Гэта трэба было чуць ды бачыць.

– Марыя Іванаўна, а як вы столькі надойваеце?
– Э-э-э... Ну-у-у...
– Напэўна, да кожнай кароўкі індывідуальны падыход маеце?
– Так, даражэнькі!
– І рацыён кармлення жывёлы – таксама дыферэнцаваны?
– А-а-а...
– А што б вы маладым даяркам пажадалі?
– Хлопцы, а можа вы выпіць хочаце?
– Э-э-э... Ну-у-у...

Матэрыял ішоў на паласу з колаў, дзелавы, надзённы, галоўнае – жывы. Мы адчувалі сябе глыбокімі знаўцамі таямнічай вясковай душы. А даяркі любілі нас, нібы родных. Адна казала: "У нашай справе рукі павінны быць, як у мужыка". Вы б пабачылі тыя рукі, шурпатыя, перакручаныя ды ўшчэнт знявечаныя штодзённымі ручнымі дойкамі. Тая ж Марыя Іванаўна плакала, што ўнучка па галоўцы пагладзіць не можа, бо той палохаецца. Дзякуй вам, кабеты, за тое, што кармілі нас ды яшчэ паспявалі ўласных дзяцей на ногі ставіць ды мужыкоў-п'яніц даглядаць. Я і цяпер пазнаю гэтых бабуль. Па спрацаваных мёртвых руках.

Філалагічныя "далікатэсы" ў стасунках з рэдакцыйным карэктарам.

– Мілачка, а слова "бля...ь", калі гэта не зваротак, на пісьме коскамі адасабляецца?
– Канечне, Яўген Мікалаевіч! Як пабочнае слова.
– Дзякуй, родненькая.

Пабочнае слова заўсёды самае патрэбнае.

Яшчэ пра патрэбныя словы. Балазе, я паспеў запытацца ў дзядзькі Піліпа, пяхотнага капітана, што прамаўлялі салдаты, калі ішлі ў штыкавую. "За Сталіна!" толькі палітрукі крычалі", – казаў ён. "А "За Радзіму!"? – упарта пытаўся я. Аказваецца, нават "Ура!" на полі бою вельмі рэдка гучала. Збольшага стаяў кандовы мат, не пяшчотны, не для звязкі слоў, а нутраны, злы, нібыта апошні стогн. "Вось і бяжыш па краі жыцця, праз мацюкі прадзіраешся, кончык штыка ўжо сам шукае, каго прылашчыць. А постаць таго, абранага, усё павялічваецца, ужо і вачыма з ім сустракаешся. І з гэтага моманту повязь з супернікам настолькі трывалая, што ўбок ужо не звярнуць. Тады ўсё наўкола сціхае і знікае, застаёмся мы ўдвох ды смерць паміж намі... Заколваеш фрыца. І штыком адчуваеш, як душа варожая трымціць ды адлятае. Першага – цяжка. Потым – толькі давай". Вось прыкладна так адказваў дзядзька Піліп, а потым абавязкова пляшку выстаўляў, паліў ды мацюкаўся шэптам.

Зноў пра вайну, але гэта ўжо – з маміных згадак. Першым фашыстам, які зайшоў у іх вясковую хату, быў не надта малады высокі салдат. Падышоў адразу да сцяны, дзе, па завядзёнцы, былі сабраныя пад адным шклом сямейныя фотаздымкі. Убачыў выяву майго дзеда ў будзёнаўцы і неяк жэстамі ды мімікай давёў, што здымак трэба прыбраць, бо расстраляюць, як сям'ю камандзіра. Дзіўныя характары былі ў некаторых заваёўнікаў. Нязменна ж смяшыла дзяцей тое, што амаль кожны нямецкі "госць" крычаў, ледзь ступіўшы на падворак: "Матка – курка, яйка!" Мая бабуля казала, што няма "яйка", не знеслі яшчэ куры. І амаль кожны новы фашыст, адклаўшы карабін ды заплечнік, прысядаў дзе-небудзь і мог чакаць таго яйка гадзінамі. А што паробіш? Нямецкі парадак!

Мой першы, пяцьдзясят сёмы снег (жах, каб напісаць гэты сказ, спатрэбілася пражыць 57 гадоў!). Не надта каб якасны – з дажджом. А ў мяне па людскім снезе яшчэ леташняя нядоімка. Ну, не дадалі мне. Няўжо не заслужыў? І сёлета, па ўсім бачна, абдураць. Кепска. Відаць, ёсць такая хвароба – снегазалежнасць (можна – снеганедастанія). І лячыць яе варта завеямі, сумётамі, коўзанкамі, стылым хлебным самагонам і гарачай бульбай з салёным гуркам.

Мая цётка Маруся – анёл. Здагадаўся пра гэта, калі ў раннім дзяцінстве паглядзеў наш фільм "Горад майстроў". У яе, як і ў кіношнага мяцельшчыка, не горб, а складзеныя крылы. Цудоўным чалавекам была цётка Маруся. Час ішоў, а яна не мянялася. Заставалася ўсё такой жа жвавай, хударлявай, па твары – падобнай да маёй мамы, а яшчэ – глухаватай. Заўжды гаварыла павышаных голасам. Яна жыла ў Купрэеўцы, мы – у Ветцы. Але ці не штотыднёва хадзіла з вёскі ў горад па кніжкі ў бібліятэку. (Хваробай чытання маці "заразіла" ўсіх на кіламетр вакол сябе.) Заходзіла цётка да нас, махала рукамі, штосьці распавядала. Ад гэтага, памятаю, я і прачынаўся. А яшчэ цётухна рэгулярна вандравала ў Гомель. Па крупы ды макароны, па абаранкі ды цыгарэты, па вучнёўскія сшыткі ды алоўкі, па... І амаль нічога – сабе. У вёсцы, як вядома, амаль усе родзічы ды сваякі. Па дабрыні душы збірала ад усіх заказы, пешшу дабіралася да веткаўскага парома, фарсіравала Сож, потым сядала на гомельскі аўтобус. Назад ехала з двума клункамі, перавязанымі матузком, перакінутымі праз плячо. А з веткаўскага боку, ля парома яе ўжо чакаў нехта купрэеўскі на матацыкле ці легкавіку. Для гэтага нават падворны графік існаваў. Добрым чалавекам была адзінокая цётка Маруся. Калі памерла, на пахаванне з'ехаліся з усіх канцоў краіны, нават, па-мойму, з-за мяжы... Усе звалі яе чамусьці Марускай.

Як я магу любіць савецкую ўладу, калі яна абвінавачціла маю маму, як і тысячы іншых падлеткаў, у тым, што ў Вялікай Айчыннай засталася яна на акупаванай тэрыторыі? Што не абараніла краіну ад ганьбы. Што не знішчыла навалу яшчэ на мяжы... І змушана яна была пісаць ва ўсіх анкетах, што знаходзілася на акупаванай тэрыторыі. Маўляў, чалавек падазроны і далёка не першага гатунку. Ці была яшчэ такая ўлада ў свеце?

Чатырох злавесных вершнікаў не было. Прынамсі, ніхто іх не заўважыў тым летнім адвячоркам. Хто верыць цяпер нябесным знакам? Проста над райцэнтрам хмарылася. І проста ў тую пятніцу першага паслячарнобыльскага лета высокае начальства вырашыла накіраваць усіх жанок з малымі дзецьмі на аздараўленне, падаецца, у Кустанай. Цягнікі адышлі зранку. А ўвечары, калі мужыкі вярнуліся з працы, здарылася нечаканае. Спачатку над мястэчкам панавала ціша. Хлопцы і дзядзькі паціху ўсведамлялі, што, бадай, упершыню засталіся бескантрольнымі. Да такой вольніцы трэба было прызвычаіцца. Потым на вуліцу выйшаў першы, другі... Па завулках пачалі збірацца купкі. У такія стыхійныя купкі пасля абвяшчэння гітлераўскага нападу збіраліся жанчыны, а мужчыны ішлі ў ваенкаматы. Але ў 1986-м усё кульнулася з ног на галаву. (Падаецца ў такой позе мы засталіся і па сёння.) Дык вось, што робіць мужчына, калі не ведае, што рабіць, а на душы шчымліва? Правільна! Праз паўгадзіны купкі агучыліся п'яным енкам. Палохала тое, што не было смеху, не чулася бязглуздых спрэчак і лаянкі, з якіх заўжды пачыналася бойка. І купкі не спяшаліся аб'ядноўвацца ў шэрагі і калоны. Наадварот, хаваліся ў засені прысадаў ды паркавых алей. Усведамленне рэчаіснасці патрабавала камернага ды ціхага паразумення. Так на кухнях добра знаёмыя людзі ўпотай абмяркоўваюць ганебную палітыку ўладаў. Вы ўявілі карцінку той душнай ночы? Босх адпачывае. Райцэнтр сцішыўся, схаваўся і, сцяўшы зубы,

працягваў адкаркоўваць і разліваць. І не было ў гэтым ні кроплі радасці, спрэс толькі адчай загнанай у кут жывёліны мужчынскага полу. Ветка ціха плакала па мінулым жыцці, якое так і не вярнулася. Ці зразумее мяне той, хто не адчуў тады гэтай жудасці?

Калі ў цябе пачынае расці там, дзе не трэба, і не тое, што хочаш, а тое, што хочаш, каб прырастала, пачынае спакваля знікаць разам з сумленнем, памяццю і адказнасцю, значыць у лядашчыя дзверы твайго спрацаванага арганізму пастукалася старасць. І як ні лямантуй "Няма нікога дома!", сусвет, які мы называем Богам, не паверыць, не злітуецца. І колькі не збірай вакол родзічаў ды сваякоў, а паміраць давядзецца ў адзіноце. Даўно да гэтага рыхтуюся. І не магу не агучыць нахабнае беспадстаўнае жаданне. Паколькі гора ўелася да карэння валасоў, дык памерці хачу ад неабдымнага шчасця. Ці ёсць у мяне такі прывілей? Пабачым.

Мая любімая веткаўская трасянка! Лексічныя наватворы, народжаныя радасным спасціжэннем вольнага юнацкага жыцця, дзе моўныя зносіны даведзены да ўзроўню эксперыментальнага доследу. "Пойдам, вніца ўзянам", – казаў Сэр. Пыса нямытая, пярэдняга зуба няма, ну дакладна – Сэр. Скажыце, як можна было не ўзяць на лексічнае ўзбраенне гэткую смакату?

І гэта ён, вытанчаны ў моўнай фантазіі Сэр, загадваў нам ветраным летнім вечарам: "Ахапцэн свежае паветра!" Толькі філалагічна разбэшчаны чалавек можа дазволіць сабе такую красацень! І разбэшчанасць гэтая – не ад вялікай адукацыі. Ад радасці, што Сож цячэ побач, што людзі яшчэ не зваўчэлі, а ўсё жыццё – наперадзе. Сэр купаўся ў словах, як верабей у пыле, – зграбаў да кучы польскія, цыганскія, даўно забытыя беларускія найменні. Урэшце менавіта ад Сэра я даведаўся ўпершыню, што азначаюць нашыя словы "цаля", "пранцы"... Гэта потым ужо сумныя навукоўцы падвядуць базу і патлумачаць, што мова, нібыта той Сож, не спыняецца ў сваім вірлівым жыцці і выкідае на паваротах і перакатах такія конікі, што толькі паспявай, славеснік, асэнсоўваць. Носьбіт нясе, а філолаг падбірае.

Мне шаснаццаць гадоў, і я працую грузчыкам на Веткаўскім маслазаводзе. Раскоша мускульнага разняволення. Доўгачаканая магчымасць прыдбаць неўзабаве сапраўдныя амерыканскія порткі. Скрыня масла важыць прыкладна дваццаць кіло. "Калхіда" з прычэпам бярэ іх пад дзве сотні. Уявіце: у кузаў да мяне транспарцёр без стомы шпурляе вялікія кардонныя "цагліны". Я іх спрытна "лаваю" (гэта зноў Сэр!) і будую ў кузаве "вялікую кітайскую сцяну". Над галавой – бясконцае беларускае неба, высціранае жніўнем да джынсавай сівізны, а ў галаве – бітлоўская песенька ды ўсё магчымыя варыянты сённяшняга вячэрняга спаткання з той, якую ніяк не разгадаю. І больш нічога за душой, уяўляеце, ні-чо-гень-кі больш. Я многа сёння даў бы, каб на хвілю сустрэцца з сабою, з тым, бязважкім ад безразважлівасці, грывастым, хударлявым, яшчэ без акуляраў юнаком, у якога за Бога – толькі Рычы Блэкмар. У мяне ёсць для гэтага грузчыка-ёлупня некалькі парадаў. Ды толькі, па сабе ведаю, не будзе ён мяне слухаць. Нават не спыніцца! І, відаць, правільна, падшыванец, зробіць... Слухай свае песенькі, кахай сваіх дзевак, а мы тут ужо як-небудзь без цябе абыдземся. Хто мы? Я ды мая сталасць, якую ніяк не разгадаю.

Як тэхнік-тэхнолаг лесанарыхтовак пераддыпломную практыку праходзіў пад Архангельскам. Нават і не памятаю, як тое сяло называлася. Але горад Котлас быў непадалёк, хвілінаў сорак язды на цягніку. Ведаў цудоўна, што менавіта праз Котлас гналі "беларускіх ворагаў народа" па этапе аж да Варкуты. У адзін з вы-

ходных і зрабіў сабе экскурсію. Карцела яшчэ і на Паўночную Дзвіну глянуць, параўнаць яе з нашай, Заходняй. Але больш важнай падавалася ўсё ж зэкаўская тэма. Добра ўжо ведаў, што нават з маім пасёлкам побач лясныя кварталы так і называліся: “Зона №3”, “Зона №5”. Ад тых зон толькі калючы дрот застаўся ды бясконцыя лясныя могілкі, а назвы прыжыліся. А колькі зон яшчэ засталося ў “рабочым стане”! Да Ухты, Інты ды Варкуты... Дык вось, Котлас. Вельмі прыстойны гарадок з рэгулярным рухам грамадскага транспарту і дагледжанымі бульварамі, засыпанымі восеньскай лістотай. Вось толькі людзі на ўскраінах ды на рачным вакзале падаліся мне нейкімі камечанымі. Чорная ватоўка і няголены твар у мужчын – пераважалі. Ці мне падалося гэта пасля зусім не лірычных вершаў Сяргея Грахоўскага ды Варлама Шаламава, якіх вельмі шанаваў тады. Лірыкі не надавала і Паўночная Дзвіна, свінцовая, халодная, не надта гасцінная. Уздоўж такой ракі толькі ў ватоўцы і шпацыраваць. Вельмі хутка экскурсія надакучыла. Пашыбаваў да чыгуначнага вакзала. Трэба было ўлезці ў любы вагон (усе цягнікі ішлі праз мой пасёлак) і дамовіцца з правадніцай, колькі капеек будзе каштаваць такі ваяж. Вось я і папёрся ў любы. А насустрач – аўчарка. Каб не нацягнуты павадок, парвала б ушчэнт. А нацягваў яго сяржант-“чырвонапагоннік” з калашом. Куды, маўляў, сука, шкрабешся. Толькі тады я дацяміў, што шкрабуся ў вагонзак. Вельмі лагічнае завяршэнне экскурсіі ў Котлас атрымалася б, затапчы яго камар. Вельмі няўлоўная мяжа бывае часам паміж учарашнім і сённяшнім.

Рэзкі (як смачна ўжываў гэтае слова слаўны музейшчык-коласавец Іван Курбека!) успамін ля роднага Сожа. Нашыя веткаўскія кароўкі ўмелі пераплываць яго, каб пакарміцца і пад высокім хальчанскім берагам. Сумна ім, барыням, было на нашым балонні! Ла-Манш бы не адолелі, а Сож – з лёгкасцю надзвычайнай. Ну дзе такое знойдзеш? Толькі ў нас! Гусей таксама хапала. Менавіта на балонні мы, галапупыя, без цяжкасцяў знаходзілі прыдатныя гусіныя пёркі і рабілі з іх класныя паплаўкі. І вось што дзіўна, зніклі каровы з гусямі – і балонне за нейкія дваццаць гадоў паступова ператварылася ў хмызняковы гушчар. Ды такі, што партызанскае злучэнне можна схаваць. У кожнага часу – свае функцыянальныя пейзажы.

І зноў з маміных успамінаў. Вясковае вяселле, згадвала неяк яна, доўжылася звычайна два дні, спачатку – у маладой, потым – у маладога. Але і на трэці хтосьці з адчайных мог зайсці з хату, дзе ўчора ўсё стагнала ды енчыла, і запытацца нібыта нясмела: “Э-э-э, гэта... Я свой картузік у вас не забываў?” Маладыя, натуральна, падносілі яму чаканую чарку, але ўважліва адсочвалі, каб картузік застаўся ўрэшце пры гаспадары. Такі “абрад” называўся “Па шапку”. Як па мне, дык недаравальна забытая традыцыя... Я ў вас свой картузік не забываў?

Котка Дуся, якая драмала пад маім бокам, спалохалася першай у яе жыцці начной восеньскай навальніцы. Супакоіў, як мог, але яна доўга ўздрыгвала ад кожнага заваконнага выбуху... Мой гераічны дзед Сцяпан, які ніколі ні перад кім не скараўся, таксама баяўся маланак, нават пад ложак залазіў. А мяне маці нарадзіла пад кастрычніцкі гром. Мне толькі давай тую навальніцу. Яна ў мяне – за хросную... Старанна захутаў котку ў коўдру, выйшаў на гаўбец папаліць. Божанька засаджваў у Мінск маланку за маланкай, нібы асінавым колам за нешта караў. Безнадзейныя нябесныя шчыраванні. Ваўкалакаў менш не стане. Да слова, Дуся мая пастаянна кагосьці высочвае па кутах пакояў. Не дае пярэваратням ходу. Нам з ёй утульна бясконцымі ды ваўкаватымі лістападаўскімі вечарамі. Яна ўключае “бурчалку”, я ўладкоўваю на котчынай спіне якога-небудзь разгорнутага Даўлатава ці Галіча. І няхай за вакном хоць ляснецца ўсё.

Даўно сонца ў маё аконца не заглядвала. Да гэтага паціху прызвычайваешся. Раз-пораз нават думка ўзнікае, што такая стабільнасць нявызначанасці для маіх гадоў – шчасце. Галоўнае – рэзкіх рухаў не рабіць. І ўвогуле, бабулькі ў нашым двары кажуць, што стары ды хворы той, хто з кійком ходзіць. Я яшчэ не прыдбаў. Жыву, як этнахарэограф Мікола Козенка кажа, то бокам, то скокам.

Я ўжо ў некалькі месяцаў ад нараджэння пачаў праяўляць нездаровы інтарэс да газет. Калі трапляліся пад рукі, рваў іх ды шкуматаў проста ў калысцы. Ужо тады, напэўна, было прадвызначана, што стану журналістам і адчую невылечную ды пастаянную алергію да газет, апрача той адзінай, дзе працую.

Заўжды баюся, што слова ў слова напішу пра тое, пра што хтосьці калісьці ўжо напісаў. А мо так яно і ёсць, мо так яно і бывае? І не толькі ў аднаго мяне, у кожнага, у каго так і засталася на сярэднім пальцы ямка ад асадкі, хоць рукі даўно прызвычаіліся да клавіятуры? І вякамі мяшаюцца па крузе адны і тыя ж словы, падпарадкоўваючыся нейкаму неўміручаму найвышэйшаму Закону Паўтарэння Ісціны. Вечны рухавік нейкага вялізнага сіта, дзе сапраўдныя празаікі і паэты як боб з гарохам, а графаманы як макуха на алей... У Веткаўскай рэдакцыі Віця Стрыжак адказваў за паэзію пазаштатнікаў. На папцы, куды складваліся графаманскія экзерсісы, ягонай рукой было катэгарычна напісана: “Дрысня”. Вельмі баюся патрапіць калісьці ў такую ж пульхную папку з зашмальцаванымі ад частага карыстання завязкамі. Як мне не стае цяпер, Віцька, і тваёй крытыкі, і тваёй хвальбы!.. А гэта ж мы з табой прыдумалі (памятаеш?), што словы ў сказ, сказы ў абзацы, абзацы ў тэксты, тэксты ў твор ці артыкул складаюцца нетаропка і па-гаспадарску, як сена ў стажок. І стажок той пасля ўкладкі трэба абгрэбсці акуратненька, старанна зрабіць годнае навершша, каб стаяў на беларускім полі, як лялька, як звон, зграбны ды непадуладны ні дажджу, ні ветру.

Пасля вяселля было паяднанне адной сям’ёй, ці не імгненны сыход ад бацькоў, мацаванне сваёй гаспадаркі і... аб’яднанне бібліятэк. У першы ж адпачынак мяне ўразілі апавяданні Аляксандра Грына (у мяне іх раней не было), а дакладней тое, што аўтар многія свае творы заканчваў адным і тым жа сказам: “Яны жылі доўга і памерлі ў адзін і той жа дзень”. Мне тады такая акалічнасць падалася найвялікшай і шчаслівай справядлівасцю для закаханых. Цяпер я разумею, што паміраць ім трэба не ў адзін дзень, а ў адно імгненне. Інакш рэшта дня ў адзіноце падасца аднаму з іх бясконцым векам вар’яцкай безнадзейнай адзіноты.

Ліхалецце: мана ды шэрасць. Калі выганяць з рэдакцыі за бязвер’е, напрашуся званаром у самую аддаленую вясковую царкву. За веру! Вядома, падвучыцца трэба. Але ж справа знаёмая: хоць не рукапісным знакам, не языком і паднябеннем, але ж – рукой і паднябессем... Божухна, злітуйся і падтрымай!

Цудоўная назва для карціны алеем – “Мара пра касінера”. Паспрабаваў намаляваць. Атрымаўся аўтапартрэт. А на другім плане яны, неакрэсленыя, касамі ўзброеныя, І невядома, хто ў каго пытаецца: “Дык ўзаемна?” І невядома, хто каго чакае і хто за кім ідзе. Не атрымалася, карацей. Чарговая творчая параза. Пахадзіў вакол, папаліў, схаваў далей ад вачэй. Сам сябе супакойваць пачаў. Сённяшняя параза, маўляў, зародак заўтрашняй перамогі. Досыць лагічна. Але галоўнае тое, што мне ёсць яшчэ чым займацца ў гэтым жыцці.

Якім быў бы мой лёс, калі б мой бацька (я пасля тэхнікума безнадзейна шукаў працу – размеркаванне было вольным), не зайшоў у рэдакцыю раённай

газеты і не даведаўся б у сябра-рэдактара, што патрэбны яму карэспандэнт? Я дагэтуль і не ведаў, што ў нас рэдакцыя ёсць. А прыйшлося даведацца. Вось з 1980-га ўсё і пачалося. Дзесьці на другім годзе журналісцкай працы (я ўжо сельгасаддзелам загадваў) разам з фотакарам Валодзем Ялько, паматляўшыся па палях, збочылі ў нейкі гай. Валодзю трэба было наведаць лесніка, каб замовіць машыну дроў. А восень была ў самым адчайным колеры. Выехалі на паляну да леснічоўкі – і нібыта ў казку патрапілі. На жоўтай коўдры бярозавай апалай лістоты стаяла маленькая хацінка. Ды такая маляўнічая, што падавалася: не можа быць у рэальнасці падобнай прыгажосці. І думка нечаканая: “Гэта ж я, тэхнік-тэхнолаг лесанарыхтовак, тут павінен жыць і працаваць!” І пасля выпаленай цыгарэты думка больш абдуманая: “Пісаць тут цудоўна, а машыны дроў прадаваць – не”. Інакш кажучы, мой бацька для мяне – мой бог. Зрабіў для мяне ўсё, што мог. А на пераадоленне смяротнай хваробы сілаў ужо бракавала. Праз пяць гадоў я дасягну бацькавага ўзросту. Што лёсавызначальнага я паспею зрабіць сваім сынам?

Віктар Жыбуль



...біяграфія і спадчына Уладзіміра Дубоўкі хаваюць у сабе яшчэ шмат неадкрытага...

# Валун у мур дубоўказнаўства

***Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго / уклад., прадм., камент. Ганны Севярынец. – Мінск: Лімарыус, 2017. – (Беларуская мемуарная бібліятэка). – 540 с.***

Такая справа, як выданне кніг успамінаў пра пісьменнікаў, вядзецца ў нас даўно. Калі пералічыць гэтыя мемуарныя зборнікі ў храналагічнай паслядоўнасці, атрымаем даволі ўражвальны спіс: у розны час убачылі свет успаміны пра Янку Купалу ("Такі ён быў", 1975; 1982), Міхася Лынькова ("Святло яго душы", 1979), Уладзіслава Галубка ("Адхінуўшы заслону часу...", 1979), Якуба Коласа (1982), Івана Мележа (1982), Цішку Гартнага (1984), Ілью Гурскага (1985), Петруся Броўку (1986), Змітрака Бядулю (1988), Уладзіміра Карпава (1991), Яна Скрыгана (2005; 2010), Васіля Івашына ("Жыццё не песціла мяне...", 2013), Юльяна Пшыркова ("Дарыў святло сваёй душы людзям і Айчыне", 2015), Івана Навуменку ("Летуценнасць і вялікія здзяйсненні", 2017). Прыкладна чагосьці падобнага, напэўна, многія чакалі і ад кнігі "Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго", якая ўбачыла свет летась у серыі "Беларуская мемуарная бібліятэка". Але гэтае выданне істотна

адрозніваецца ад усіх пералічаных вышэй. Укладальніца Ганна Севярынец вырашыла арыентавалася на традыцыю, якую распачаў Вікенці Верасаеў сваёй кнігай “Пушкін у жыцці” – у тым ліку і таму, што наш Дубоўка, як вынікае з кнігі, – асоба, супастаўная з Пушкіным: “Ты Пушкін, я перад табой толькі Дзяржавін”, – так сказаў маладому Уладзіміру Дубоўку Янка Купала...




Верасаеўская традыцыя чамусьці не атрымала належнага развіцця ў беларускай літаратурнай практыцы, і на фоне выдадзеных на сёння зборнікаў мемуарыстыкі, прысвечанай стваральнікам прыгожага пісьменства, кніга “Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго” выглядае як свайго кшталту эксперымент.

Па-першае, у новай кнізе даецца слова не толькі сябрам, родным, сучаснікам паэта, але і самому Дубоўку – адсюль і падзагаловак “Ён і пра яго”. Па-другое, увайшлі ў кнігу не толькі ўласна ўспаміны, але і матэрыялы асабістай перапіскі, і архіўныя дакументы самага рознага кшталту: анкеты, пасведчанні, заявы, службовыя характарыстыкі, запісы ў працоўным спісе, дакладныя запіскі, даверанасці, пратаколы, паказанні па справе “Саюза вызвалення Беларусі” і г.д. І ўсё гэта змешчана паводле храналогіі, утвараючы летапіс жыцця і творчасці паэта. Але адрозніваецца кніга і ад традыцыйных летапісаў жыцця і творчасці, дзе кожная вядомая дата жыцця галоўнага героя калі і дапаўняецца вытрымкай з дакумента, то звычайна мінімальнай. Тут жа строгіх дат як такіх няма, а дакументы цытуюцца ў разгорнутым выглядзе ці нават прыводзяцца цалкам – як у хрэстаматыі ці ў іншым падобным зборы тэкстаў. Жыццяпіс паэта быццам бы тчэцца, склейваецца з рознакаляровых лапікаў у адно цэлае, утвараючы сабой своеасаблівы мантаж з дакументаў.

Што да апошніх – іх тут скарыстана ўражвальная колькасць: задзейнічаны фонды Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Расійскага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (Масква), Архіва МУС Грузіі (Тбілісі), Чэбаксарскага гістарычнага архіва (Чувашыя), Музея народнай славы ў Мядзелі, прыватных архіваў Т.Ю. Пшырковай і Р.Г. Гарэцкага. Плюс, вядома ж, публікацыі ў друку – і ранейшым (часоў Дубоўкі), і сучасным. Мала таго, *“таксама наладжана перапіска і праведзены пошук дакументаў у гістарычных архівах Масквы, Яранска, Бірабіджана, Вільнюса”*. Словам, праароблена сапраўды аб’ёмная праца.

І біяграфія Уладзіміра Дубоўкі напраўду вартая такога грунтоўнага падыходу, а яго дакументы выступаюць як “удзячны матэрыял”. У 1920-х У. Дубоўка прайшоў праз Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава, апынуўся ў цэнтры літаратурнага працэсу, а разам з ім – літаратурнай барацьбы. Ён быў сярод заснавальнікаў усебеларускага аб’яднання паэтаў і пісьменнікаў “Маладняк”, а потым стаў адным з ініцыятараў суполкі “Узвышша” і – разам з Адамам Бабарэкам – распрацоўваў яе эстэтычную канцэпцыю. Уладзімір Дубоўка – адначасова і дзейная асоба, і відавочца многіх знакавых падзей.

У кнізе адлюстраваны ўсе этапы жыцця У. Дубоўкі: служба ў Чырвонай арміі, навучанне ў згаданым брусаўскім інстытуце, праца ў Маскве, арышт, турма, шматгадовая ссылка, лагер, рэабілітацыя, асцярожнае вяртанне ў літаратуру, нарэшце апошнія гады... Кожнаму раздзелу папярэднічаюць напісаныя ўкладальніцай тэксты-ўводзіны – своеасаблівыя экскурсіі па Дубоўкавых адрасах, раскіданых не толькі па Беларусі, але і па розных кутках Расіі і Грузіі. Бо, як слушна яна зазначыла, *“у жыцці кожнага чалавека ёсць месцы, абмінуць якія немагчыма”*.

Ганна Севярынец шчыра дзеліцца ўражаннямі ад наведвання родных мясцінаў паэта, калі ёй пашчасціла там пабываць. Калі не – яна звяртаецца да расповедаў тых, хто там быў (напрыклад, паездка студэнта-журналіста Арамаіса Міракяна да бацькоў будучай жонкі ў Кіраўскую вобласць), альбо цытуе краязнаўчыя нарысы і гістарычныя дакументы. Такія ўступныя тэксты дапамагаюць аднавіць агульную атмасферу, у якой праходзілі розныя перыяды жыцця паэта. Напрыклад, экскурс, прысвечаны родным вёскам У. Дубоўкі, Агароднікам і Манькавічам, сягае ажно ў XVI стагоддзе. І гэта зроблена нездарма, бо далей і сам Дубоўка пачынае расповед не з сябе, а са свайго прадзеда. Атмасфера інстытута імя В. Брусава перададзена праз успаміны літаратараў, якія, таксама, як і Дубоўка, спасцігалі там навуку прыгожага пісьменства. Шмат увагі надаецца апісанню мясцінаў, будынкаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю У. Дубоўкі. Сярод іх і Бутырка, і менская турма, і Бамлаг, і суровая сібірская глушэча – такую сумную "адысею" паэту давялося прарабіць зусім не па сваёй волі... Апошняму раздзелу папярэднічае спіс кніг з асабістай бібліятэкі У. Дубоўкі, які дае нам уяўленне пра кола і шырыню яго літаратурных зацікаўленасцяў.

Укладальніца ўводзіць у навуковы і проста чытацкі ўжытак новыя матэрыялы і дакументы, якія дагэтуль не публікаваліся. Прычым сярод іх вылучаецца корпус успамінаў самога У. Дубоўкі: пра сустрэчу з А. Чарвяковым у Маскве і пра выданне першага нумара часопіса "Беларускі піянер", пра першы прыезд Кузьмы Чорнага ў Маскву, пра У. Жылку С. Злобіна, У. Сасюру. Не друкаваліся раней таксама і "Кароткая гісторыя доўгай барады" Васіля Віткі, асобныя тэксты Алесі Бабарэкі, Марыі Дубоўкі, некаторыя лісты паэта да жонкі, К. Кірэенкі, Е. Лось, Ю. Пшыркова, М. Ткачова, І. Шамякіна, У. Шахаўца, С. Шушкевіча, паштоўкі Марыі Дубоўкі да Ганны Бабарэкі, дакументальныя сведчанні знаёмых і калегаў У. Дубоўкі з Яранска і Пачата, вершы Налі Маркавай, адрасаваныя У. Дубоўку ў 1970 годзе, дзённікавыя запісы Элеаноры Бабарэкі пра смерць і пахаванне паэта...

Да ўжо друкаваных калісьці тэкстаў Дзмітрыя Бугаёва, Ванкарэма Нікіфаровіча, Генадзя Шупенькі і іншых дадаюцца невядомыя раней успаміны, якія дапамагаюць уявіць нам, які быў паэт у жыцці, дадаюць да яго псіхалагічнага і знешняга патртэта новыя рысы і дэталі. Яркія эпізоды з жыцця У. Дубоўкі ў Маскве сустракаем, напрыклад, у Ісака Цыральсона, яго суседа па доме па вул. Цурупы:

*«Мы часта разам з Уладзімірам Мікалаевічам хадзілі па вуліцах, у магазіны, на базар. Усе, у каго хоць раз паэт што-небудзь купляў, запаміналі яго і потым сустракалі як старога знаёмага. Дубоўка лёгка запамінаў імя і імя па бацьку прадаўшчыц, і, бывала, калі заходзіў у малочны рад на базары, то ўсе ласкава з ім віталіся, а ён адказваў з такой жа цеплынёй на прывітанні і кожную малочніцу называў па імені. Каб не пакрыўдзіць якую з іх, купляў па чарзе ў розных прадаўшчыц, а потым зноў вяртаўся да першай. Ніколі не таргаваўся. Жанчыны, заўважыўшы яго, казалі: "Вось ідзе наш мілы Дзед Мароз". Малочніцы самі падказвалі яму, у якой з іх найбольш свежы тавар»* (с. 434).

Вядома ж, неацэннай біяграфічнай крыніцай з'яўляюцца ўспаміны жонкі паэта Марыі Дубоўкі, якая засталася яму вернай на ўсё жыццё, падзяліўшы разам з ім цяжкі выгнанніцкі лёс. З усімі падрабязнасцямі апісала яна побыт сям'і Дубовак у ссылцы – тое, пра што сам паэт лічыў за лепшае маўчаць. Такім чынам, Марыля Пятроўна – не толькі каханая, спадарожніца і памочніца У. Дубоўкі, але яшчэ і летапісец яго жыцця.

Дарэчы, публікуючы тэксты, здавалася б, вядомыя, Ганна Севярынец часам аддае перавагу не часопісным публікацыям, дзе маглі быць рэдактарскія праўкі, скароты і цэнзурныя купюры, а архіўным арыгіналам. Гэта датычыць, напрыклад, самага аб'ёмнага аўтабіяграфічнага тэксту У. Дубоўкі, які друкаваўся пад назвамі "Сярод людзей добрых" ("Полымя", 1963, № 1) і "Мой жыццяпіс" ("Пяцьдзесят чатыры дарогі". Мінск: Дзяржвыд, 1963). У згаданых публікацыях адсутнічаюць фрагменты,

якія датычаць канфліктных адносінаў паміж У. Дубоўкам і Ц. Гартным або некаторых падрабязнасцяў навучання ў Мядзельскім двухкласным вучылішчы (пра тое, як адзін з настаўнікаў даў вінаватаму вучню поўху). Гэтыя адсутныя фрагменты Г. Севярынец аднавіла, як і апошні абзац ліста У. Дубоўкі Галіне Жылуновіч, змешчанага ёю ў зборніку "Успаміны пра Цішку Гартнага": *«Пачынаючы з 1926 году, калі арганізавалася літаратурнае згуртаванне "Узвышша", ваш тата павёў супроць гэтага згуртавання і нашага часопіса барацьбу, у якой часам пераходзіў мяжу прыстойнасці»* (с. 64).

Працытаванае сцвярджэнне У. Дубоўкі можа падацца катэгарычным, але яно сапраўды мае пад сабой падставы. Мне давялося ў гэтым пераканацца падчас падрыхтоўкі да выдання збору твораў Адама Бабарэкі. Сябар і паплечнік У. Дубоўкі па "Узвышшы" імкнуўся даць іх агульнаму літаратурнаму апаненту Ц. Гартнаму крытычны адпор, але так і не здолеў апублікаваць свае палемічныя артыкулы. Бабарэка неаднойчы падлавіў Гартнага на неаб'ектыўнасці, наўмысным скажэнні фактаў, імкненні ўсімі праўдамі і няпраўдамі давесці, што "Узвышша" – шкодная арганізацыя... Пры гэтым, дзякуючы выкарыстанню некалькіх псеўданімаў, Ц. Гартны спрабаваў ствараць уражанне "масавай" незадаволенасці "Узвышшам" і адначасова выступаць у абарону самога сябе. Карацей, ішло змаганне па непісаных законах літаратурнай барацьбы, і ўзвышэнцы таксама ў даўгу не заставаліся. Напэўна, расставіць тут усе акцэнты дапамагло б хіба выданне нейкай хрэстаматыі, дзе былі б у поўным аб'ёме прадстаўлены крытычныя і палемічныя тэксты прадстаўнікоў усіх бакоў гэтай барацьбы. І ўсё ж цяжкавата зразумець, чаму крыўда У. Дубоўкі расцягнулася на ўсё жыццё і ён працягваў згадваць Ц. Гартнага нядобрым словам нават тады, калі апошняга ўжо шмат гадоў не было ў жывых? Супраць Дубоўкі і "Узвышша" выступалі з несправядлівымі абвінавачаннямі Т. Глыбоцкі (А. Дудар), А. Сянкевіч, Л. Бэндэ, А. Канакоцін, А. Звонак, П. Галавач і іншыя. Аднак больш за ўсіх у лістах і выказваннях паэта даставалася менавіта Гартнаму. У чым тут рэч? У тым, што Гартны "ўсё гэта распачаў"? Ці, можа, у асабістых сімпатыях і антыпатыях? Да свайго гонару, у 1930 г., калі небяспека навісла і над Ц. Гартным, арыштаваны па справе СВБ У. Дубоўка адмовіўся ад прапановы следчых *"даць аб'ектыўна-адмоўную характарыстыку на гэтага чалавека"* (с. 67).

Кніга "Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго" забяспечана звесткамі пра аўтараў лістоў і ўспамінаў, а таксама каментарамі, якія ў такім выданні, безумоўна, неабходныя. У цэлым яны зроблены на добрым узроўні, з веданнем культурна-гістарычнага кантэксту. Дзякуючы ім можна даведацца пра згаданых у тэкстах асобаў, геаграфічныя аб'екты, гістарычныя падзеі і нават пра падрабязнасці асабістага жыцця У. Дубоўкі: калі пазнаёміўся з Наляй Маркавай (якой прысвяціў кнігу "Наля"), а калі – з Марыляй Кляўс (якая зрабілася яго жонкай) і г.д.

Каментуючы сабраныя ў кнізе тэксты, Ганна Севярынец адначасова вырашае некаторыя літаратуразнаўчыя пытанні, звяртае ўвагу на асобныя малавядомыя бакі Дубоўкавай творчасці – скажам, цыкл апавяданняў "Верацёны" (1925), які "праз тэхнічны недагляд" выйшаў без подпісу. Ці распавядае, што Дубоўка быў не толькі таленавітым паэтам, але і прататыпам персанажаў сваіх сучаснікаў (Цеснавок у "Кіпарысах" Максіма Гарэцкага, Ваця Бранілавец у "Сястры" Кузьмы Чорнага).

Укладальніца спрабуе таксама адшукаць адказы на пытанні, якія і раней цікавілі, напэўна, многіх даследчыкаў жыцця і творчасці паэта. Ці сапраўды У. Дубоўка нічога не пісаў ў турме і высылцы, як гэта часам сцвярджалася? Бачым, што вядомыя прынамсі чатыры яго вершы, пераклад паэмы "Шыльёнскі вязень" Дж.Г. Байрана, жартоўныя вершаваныя цыдулкі да жонкі, ёсць і ўскосная інфармацыя ва ўспамінах і лістах сяброў па няшчасці, у пратаколе вобшуку. Ці згадваў паэт хоць як-небудзь пра гэты трагічны перыяд свайго жыцця ў пазнейшых творах? Так, але на ўзроўні фрагментарных эпізодаў, чарнавых накідаў, або пішучы так, каб у тэксце не было

непасрэдных згадак, што падзеі адбываюцца менавіта ў лагеры ці ссылцы (аднак чытач, знаёмы з біяграфіяй аўтара, адразу ўсё зразумее). Увогуле, эзопава мова У. Дубоўкі – асобная тэма, якую закранае ў кнізе і Г. Севярынец, адзначаючы схаваныя падтэксты ў некаторых вершах, паэмах, апавяданнях і нават у прамове з крытыкай Б. Пастарнака.

Падобна, што некаторыя пытанні пакуль што так і застануцца без адказаў. Напрыклад, як менавіта У. Дубоўка і А. Александровіч "пераступілі межы этыкі" на сходзе "Маладняка" 20 снежня 1924 г., што іх нават часова выключылі з арганізацыі? (Гл. "Ліст у рэдакцыю", змешчаны ў "Савецкай Беларусі" ад 23.12.1924.) Або каму ўсё ж такі адрасаваны апошні верш У. Дубоўкі "Падобны з твару да машчэй..."? Акрамя версій, што ўжо выказваліся раней рознымі даследчыкамі (К. Крапіве, П. Броўку, М. Лужаніну), Ганна Севярынец, спасылаючыся на "ўспамін, аўтар якога не пажадаў быць названым", прапануе яшчэ адну: П. Глебку. Хоць, напрыклад, мне найбольш пераканаўчай падаецца версія Анатоля Сідарэвіча наконт П. Броўкі.

На жаль, у каментарах укладальніца таксама не пазбегнула пэўных недакладнасцяў – пераважна дробных, але за іх усё адно робіцца трохі крыўдна. Пералічу тыя, на якіх спатыкнуўся, – з адпаведным парадкавым нумарам кожнага каментара:

*103.* Дакладны год нараджэння Хмаркі (Наталлі Панамаровай) – не 1898, а 1897.

*111. «У перадсмяротнай паэме "Розстріляне безсмертя" (1988)...»* Тут варта было б уставіць удакладненне: "(апубл. 1988)", бо У. Сасюра памёр у 1965 г.

*118. "**Ізраілевіч Якаў (Жак)** – адзін з паклоннікаў Лілі Брык, яе сусед па доме".* Так, паміж Уладзімірам Маякоўскім і Жакам Ізраілевічам аднойчы сапраўды адбылася вулічная бойка на глебе рэўнасці. Але, здаецца ж, у лісце У. Дубоўкі згадана дастаткова дэталяў, якія сведчаць пра тое, што маецца на ўвазе іншы Ізраілевіч. Узяць хоць бы нават такое азначэнне: *"Наш студэнт (таго часу) Ізраілевіч..."*. У 1923 – 1925 гг. у Літаратурным Інстытуце імя Брусава (які У. Дубоўка закончыў у 1924 г.) вучыўся паэт Ізраілевіч Іосіф Саламонавіч (1895 – 1943), які выступаў пад псеўданімам Альвэк і пазней набыў вядомасць як аўтар словаў да песні "Утомлённое солнце". Ён сапраўды быў блізкі з Велімірам Хлебнікавым у апошнія гады яго жыцця і нават лічыў сябе ягоным душапрыказчыкам. Прэтэнзіі да У. Маякоўскага як да "плагіятара" В. Хлебнікава знайшлі адлюстраванне ў памфлеце Альвэка "Нахлебники Хлебникова" (1927). Сцэна канфлікту І. Ізраілевіча (Альвэка) і У. Маякоўскага апісана таксама, напрыклад, ва ўспамінах Варлама Шаламава. А Якава Ізраілевіча, народжанага ў 1872 ці 1887 г., пераблытаць са студэнтам было цяжка...

*135. "**Бабарэка Адам Антонавіч**...* [...] *Першыя публікацыі ў друку – пачатак 1920-х..."* Першае апавяданне А. Бабарэкі "То толькі сон" выйшла ў газеце "Звон" пад псеўданімам Янка Кужаль яшчэ ў 1919 г.

*155. "З чальцоў Маскоўскай філіі вядома пра наступных..."*. Далей укладальніца падае звесткі пра М. Брыта, А. Ляжневіча і Л. Родзевіча (названы *Радзевічам*). Пра астатніх сапраўды звесткі мінімальныя. Напрыклад, М. Карповіч (але не *Каповіч*, як у кнізе) друкаваў ва "Узвышшы" мовазнаўчыя артыкулы, а Янка (Іван Сямёнавіч) Лыскавец-Чарнецкі (1904–1938) працаваў настаўнікам у Віцебску, быў рэпрэсаваны. Пра Ар. Кахановіча, Янку Паўлоўскага і Алеся Напорку (але толькі не *Найорку*!) увогуле амаль нічога невядома. А вось звесткі пра Міколу Міцкевіча (1901–1954) – рэжысёра, акцёра, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР – можна было б і дадаць.

*187. "**Пфляўмбаўм Яўгенія Карлаўна**..."* Бацьку Яўгеніі Пфляўмбаўм звалі Эргардам, а Карлам – дзеда.

*189. "**Валайціс Сігізмунд Восіпавіч** (?)..."* Гады жыцця С. Валайціса: 1892 – 1942.

*199. "**Гольдберг Міхась** – псеўданім, пад якім ў 1929 – 1932 выходзілі беларускамоўныя творы пісьменніка Міхаіла Лейбавіча Златагорава (1908 – 1968)".*

Усё наадварот: Златагораў – псеўданім, а Гольдберг – сапраўднае прозвішча, пад якім пісьменнік, між іншым, падпісваў раннія творы, напісаныя на абедзвюх мовах.

*200. "**Дукор Арон Мендзялеевіч** (1905 – ?) – як літаратар не друкаваўся, працаваў бібліёграфам (пасля старшым бібліёграфам) бібліятэкі імя У. Леніна ў Мінску".* Маецца на ўвазе іншы Дукор – Ілья Шоламавіч (1896 – 1955) – паэт, літаратурны крытык, лекар-псіхіятр, які ў 1924 – 1927 гг. жыў у Мінску, кіраваў літаратурнай студыяй пры клубе "Чырвоны прафінтэрн".

*215. "**Тэсен Сяргей** (1898 – ?)..."* Сяргей Гесен быў расстраляны ў 1937 г.

*245. "**Садоўскі Яўхім** (1908 – пасля 1991)".* Можна было пазначыць і дакладны год смерці: 1993.

*341. "Ліст напісаны з выкарыстаннем літар, прапанаваным Дубоўкам для беларускага алфавіта: ціўлам над падоўжанымі зычнымі".* Крыху дзіўна, што каментар змешчаны менавіта да гэтага ліста (ад 16.12.1934): і ва ўсіх іншых лістах, напісаных па-беларуску ў перыяд з красавіка 1929 да канца 1930-х гг., У. Дубоўка выкарыстоўвае прапанаваныя ім літары.

*344. "...асуджаны да высылкі, спярша ў в. Кацельнічы...".* Кацельніч – не вёска, а горад у тагачаснай Вяцкай вобласці.

Дачка Кузьмы Чорнага Рагнеда Раманоўская ў звестках пра аўтараў лістоў і ўспамінаў пазначана як жывая (с. 479), хоць яна памерла ў 2010 г.

Ёсць недакладнасці і ў подпісах пад ілюстрацыямі. Напрыклад: *"У. Дубоўка ў групе літаратараў з А. Вольным, М. Чаротам, У. Тэраўскім. 27.06.1929. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 1. Спр. 16. Л. 001".* Тут я дазволю сабе працытаваць ліст У. Дубоўкі, дасланы пісьменніцы Лідзіі Арабей 6 кастрычніка 1959 г. разам з гэтым фота: "Як абяцаў Вам, пасылаю фота групы беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў (Харкаў, 1925 год).

Першы, ніжэйшы рад (злева направа): А. Вольны (Ажгірэй), П.Г. Тычына, М. Чарот, Пятро Панч, кутні – я.

Верхні рад. Першы злева (забыта прозвішча), другі – Дніпроўскі" (гл.: ЛіМ. 1988, 5 лют., с. 7).

Асобу ўладальніка "забытага прозвішча", на жаль, устанавіць пакуль не атрымалася, але гэта яўна хтосьці з украінскіх пісьменнікаў, а не У. Тэраўскі, якога У. Дубоўка ведаў асабіста і памыліцца тут не мог бы.

Ніжэй – здымак з подпісам: *"А. Дудар, У. Дубоўка, М. Чарот. 1926".* У "Зборы твораў" У. Дубоўкі ў 2 тамах, які выйшаў незадоўга да разгляданай кнігі, гэты здымак таксама ёсць. Прычым прыведзены і дароўны надпіс на яго адвароце – паводле асобніка ў БДАМЛМ: "Будівничому Білоруської культури дорогому Дубовці. В. Воруський. Київ. 30.VI-1926 г.". Такім чынам, з Дубоўкам і Чаротам на здымку – не Дудар, а ўкраінскі пісьменнік Васіль Варускі (1902–1938).

Фота побач – *"Іларый Барашка, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча разам з музыкамі Нічыпарам і Сымонам Жыхаўцамі. 1925. БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 1. Спр. 14. Л. 002".* У вартай даверу першапублікацыі здымка (часопіс "Малады араты", 1925, №7) прозвішча музыкаў пададзена інакш: *Шыхавец*.

Здымак дома Дубовак у Почаце (БДАМЛМ, Ф. 27. Воп. 2. Спр. 28. Л. 002) друкуецца не ўпершыню (як пазначана), а ўжо публікаваўся ў "Arche" (2009, №11-12, с. 520).

У астатнім жа ілюстрацыйная падборка пакідае добрае ўражанне: іншыя здымкі з пазнакай "упершыню" сапраўды раней не друкаваліся, і ўкладальніца імкнулася змясціць такіх фота паболей. Сярод іх ёсць і даволі каларытыя. Вось Дубоўка "пасьля шашлыкоў" ляжыць у гамаку разам з украінскім паэтам Гео Калядой. Вось ён у высылцы, сядзіць разам з калегамі па почацкіх майстэрнях. А вось невядомая дзяўчына, уладкаваўшыся разам з ужо немаладым, сівабародым Дубоўкам на канапе, слухае ягоныя вершы...

Што яшчэ кінулася ў вочы? У некаторых дакументах сям-там трапляюцца

пазнакі *[Нрзб]* – то бок, укладальніцы не ўдалося расчытаць не заўсёды разборлівы почырк арыгінала. Часам пра гэта вельмі шкадуеш, асабліва калі чытаеш дакументы кшталту “Пераліку прафесій (і не толькі), якімі валодаў паэт” (с. 54):

*“Лесаруб*
*Агароднік*
[Нрзб]
*Няўдалы муж*
*Балбатун*
*Цясляр*
[Нрзб]*”*

Так і думаеш: а раптам на месцы гэтага [*нрзб*] – якія-небудзь трапныя самахарактарыстыкі, істотныя для большага разумення асобы паэта?

Вырашыў праверыць, ці сапраўды словы ў першакрыніцах напісаныя настолькі неразборліва, што іх нават немагчыма прачытаць. Далёка не ідучы, замовіў у сябе на працы – у Беларускім дзяржаўным архіве і музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ) – адпаведныя справы. Аказалася, усё зусім не так страшна, як магло падацца:

*“...а наши хлопцы еще очевидно не занесены в списки* [нрзб] *денег не приняли.* [...] *Знаю, что Стася приехала* [нрзб] *Язэпу* [нрзб]. *Целую. Марыля”* (с. 229). Хоць тэкст на паштоўцы напісаны даволі бляклым алоўкам, асабіста я расчытаў яго без праблем. У сапраўднасці ён выглядае наступным чынам: “...а наши хлопцы еще очевидно не занесены в списки, поэтому на них денег не приняли. [...] Деньги, что Стася прислала на туфли, пойдут Язепу. Целую. Марыля” (БДАМЛМ. Ф. 407. Воп. 1. Спр. 244. Л. 2). Можна разабраць і дату на штэмпелі, не абвяшчаючы яе “неразборлівай”: *1.5.31* (1 траўня 1931 г.). А на наступнай прыведзенай у кнізе паштоўцы (Ф. 407. Воп. 1. Спр. 244. Л. 12) дата – *9.4.31* (9 красавіка).

*“Питались молоком и яйцами, благо это было дешево, потому что далеко от* [нрзб] *и железной дороги”* (с. 237). У арыгінале: “...от пристани и железной дороги”. Тут, дарэчы, у спасылцы на крыніцу недакладнасць: успаміны Марылі Дубоўкі – у ф. 27, воп. 3 гэта справа не 27, а 57.

*“А то, в случае какого* [нрзб] *оно может пропасть за ничто”* (с. 325). Што ж меў на ўвазе У. Дубоўка, пішучы жонцы пра сваё паліто? Глядзім арыгінал: “А то, в случае какой аварии, оно может пропасть за ничто” (Ф. 27. Воп. 3. Спр. 15. Л. 1).

*“Туды яна паслала – а мне* [нрзб]*, я іх вазьму, як буду ехаць сам”* (с. 369). Арыгінал: “Туды яна паслала, а мне напісала – што я іх вазьму, як буду ехаць сам” (Ф. 26. Воп. 1. Спр. 56. Л. 2 адв.).

*“Але ўсё неяк дзіўна: прыедуць на ўласных машынах з Менску пісьменнікі, прыйдзе з* [нрзб] *аўтобус”* (с. 407). Каб чытачы не падумалі, што тут Дубоўка як-небудзь вылаяўся, прывядзем арыгінал: “Але ўсё неяк дзіўна: прыедуць на ўласных машынах з Менску пісьменнікі, прыйдзе з імі і адзін аўтобус” (Ф. 407. Воп. 1. Спр. 242. Л. 3).

*“А калі* [нрзб] *ты будзеш у Маскве...”* (с. 412) – “А калі можа ты будзеш у Маскве...” (Ф. 25. Воп. 2. Спр. 58. Л. 18). Дарэчы, заадно праверыў, ці сапраўды звычайна ўважлівы да мовы У. Дубоўка ў гэтым лісце да М. Танка напісаў: *“Цяпер я хачу сказаць цябе вось пра што...”*. Не, у Дубоўкі ўсё правільна: “...хачу сказаць табе...”.

Зазначу, што над расчытваннем словаў я асабліва не напружваўся: большасць з іх распазнаў літаральна за некалькі секунд... Гэта толькі матэрыялы БДАМЛМ. Падазраю, што і рукапісы, якія захоўваюцца ў ЦНБ НАН РБ, архіве МУС Грузіі, РДАЛМ, НАРБ і архіве Т. Пшырковай таксама можна было расчытаць больш дасканала...

Але куды больш дзіўна выглядае, калі свой уласны почырк не здолеў разабраць... сам Дубоўка. На с. 182 у лісце да А. Бабарэкі чытаем: *“Не папушчайцеся ні на ёту, бо заўтра будзе рэд. Узв. які-небудзь Функ ці Скандарчук які”*. Арыгінал ліста захоўваецца ў БДАМЛМ, але Ганна Севярынец вырашыла скарыстацца

машынапіснай копіяй, якая захоўваецца ў прыватным архіве Т. Пшырковай. Чаму? Таму што пры першапублікацыі ў літаратурна-навуковым гадавіку “Скарыніч” (1999, № 4) “у друкаваны варыянт трапілі памылкі”. Але ж была і пазнейшая публікацыя ў часопісе “Arche” (2009, № 11-12), дзе колькасць памылак была зведзена да мінімуму. Тады мы з Таццянай Кекелевай, рыхтуючы Дубоўкавы лісты да друку, расчыталі перадапошняе слова ў прыведзеным сказе як “жандарчук” – і ў гэтым была логіка: жандарчук – сын жандара, а жандарскім паходжаннем у той час апаненты папікалі Петруся Броўку, з якім Дубоўка быў таксама ў далёка не ідэальных адносінах. Што да машынапісных копій у архіве Т. Пшырковай – рабіў іх нібыта сам У. Дубоўка. Застаецца толькі здагадвацца, як і чаму “жандарчук” у ягоным машынапісе ператварыўся ў “Скандарчука”. Ніводнага чалавека з такім прозвішчам не ведае не толькі гісторыя, але нават google...

Напэўна, падчас працы над кнігай такога аб’ёму і заснаванай на такой колькасці крыніц зусім пазбегнуць памылак, недакладнасцяў і “[*нрзб*]”, бадай, немагчыма. Асабліва, калі даследчык/укладальнік бярэцца за справу адзін. І шкада, што ўсе гэтыя хібы мне давялося пералічваць тут, у часопіснай рэцэнзіі. Гэтую справу яшчэ на стадыі падрыхтоўкі кнігі павінен быў зрабіць навуковы рэдактар, які ў ідэале мусіць быць у падобных кніг. Пажадана, каб гэта быў прафесійны архівіст ці літаратуразнаўца (а лепей і тое, і другое) з багатым вопытам расчытвання почыркаў. Акрамя ўсяго пералічанага, ён, напрыклад, падказаў бы, што верш “Задрыжала зара...”, прысвечаны У. Дубоўку (с. 146 – 147), у свой час быў прыпісаны П. Трусу памылкова, а насамрэч належыць П. Глебку...

Памылкі робім мы ўсе. Што прапусціць адзін – заўважыць іншы. Напрыклад, я, каментуючы лісты Фелікса Купцэвіча да Ганны Бабарэкі, неяк заблытаўся і напісаў, што дом Бабарэкаў стаяў на месцы цяперашняга дома № 6 па вул. Кастрычніцкай (“Роднае слова”, 2011, № 3, с. 18). А вось Ганна Севярынец у сваёй кнізе падала якраз слушнае месцазнаходжанне: *“Вул. Гарбарная (за нямецкім часам – Берагавая, сёння – Ульянаўская) месцілася насупраць берага Свіслачы. Дом № 18* [...] *цягнуўся ўздоўж трамвайных рэек...”* (с. 504).

Прoста яны, памылкі, не павінны тыражавацца. І я надаў столькі ўвагі пералічэнням сустрэтых хібаў зусім не для таго, каб у чымсьці папікнуць Ганну Севярынец ці прынізіць вартасць яе безумоўна значнай і каштоўнай працы. Мая задача тут – найперш паведаміць чытачам і ўсім, хто яшчэ будзе звяртацца да асобы У. Дубоўкі і кнігі Г. Севярынец, больш дакладную інфармацыю. Бо адчуваю, што вытрымкі з кнігі будуць неаднойчы цытаваць, на яе будуць спасылацца даследчыкі і студэнты. А хацелася б, каб у далейшых працах пра жыццё і творчасць У. Дубоўкі старыя памылкі не паўтараліся, дый новых было паменей. Але – мяркую, што асабліва цікава будзе даведацца пра ўсё вышэй адзначанае самой укладальніцы.

І нягледзячы ні на што, кнігу можна лічыць сапраўднай літаратурнай падзеяй. Беларускае дубоўказнаўства, распачатае некалі крытычна-біяграфічным нарысам “Уладзімір Дубоўка” Дзмітрыя Бугаёва, папоўнілася яшчэ адным грунтоўным томам. Томам, якога не было б, калі б не шчырае захапленне Ганны Севярынец героем сваіх даследаванняў, яе зачараванасць магнетычнымі радкамі Дубоўкавай творчасці. І падобна, што гэта не апошняя кніга, прысвечаная паэту: біяграфія і спадчына Уладзіміра Дубоўкі хаваюць у сабе яшчэ шмат неадкрытага...

Леанід Галубовіч



...была асоба, быў талент –

і засталася паэзія...

# “Вось кніга на стале...”

***Андрэй Пяткевіч. Шчасьлівым сканаць. – Гародня: ЮрСаПрынт, 2017. – 52 с.***

Не так даўно з’явілася ў чытацкі свет невялікая кніжка вершаў паэта Андрэя Пяткевіча. Называецца яна “Шчаслівым сканаць”. Складзеная самім аўтарам яшчэ ў 1991 годзе. А да ўсяго выдрукаваная ў аўтарскім арыгінале гэтак, як Андрэй і запаветаваў будучым мажлівым публікатарам (дарэчы, адцемлю, што ў кніжцы сабраныя ў асноўным вершы 1990–1991 гадоў напісання). Рукапіс кніжкі захоўваўся ажно 24 гады ў тадышняга сябра і калегі Андрэя, сёння вядомага паэта і літаратара Юрася Пацюпы. Сам паэт памёр, не дажыўшы нават да трыццаці (1995) ад пароку сэрца.

У рэшце рэшт агульнымі намаганнямі памятлівых сяброў і спагадных людзей кніга выйшла. І гэта першая кніжка паэта ўвогуле. На жаль, яна пасмяротная.

Нарадзіўся Андрэй Пяткевіч у 1966 годзе ў вёсцы Усе-




люб Навагрудскага раёна. І кім толькі не працаваў – і пажарнікам, і дрывасекам, і меліяратарам, і качагарам, і паляводам у калгасе... Вучыўся з перапынкамі ў Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы (да 1989 года, як пазначана ў біяграфічнай даведцы). Быў ініцыятарам стварэння літсуполкі «Верш-гурт «Дыяген», друкаваўся ў калектыўных зборніках студэнцкага літаратурнага аб'яднання "Шлях" і "Кола". Дэбютная і найбольш заўважная публікацыя паэта ў рэспубліканскім друку з'явілася ў першым нумары часопіса "Маладосць" за 1990 год. Вершы Андрэя падкуплялі сваёй натуральнасцю, нязмушанасцю і характэрнай асабовасцю. Яны наўпрост, шчыра і ярка, выяўлялі эмоцыі, думкі і памкненні аўтара, аднак у сваёй адпрыроднай каструбаватасці яшчэ не былі самадастатковымі творамі паэтычнага мастацтва. Ю. Пацюпа ва ўступным слове да гэтай кніжкі ("Замест анатацыі") як бы прагаворваецца, прадчуваючы мажлівыя чытацкія прыдзіркі, што *"пры жыцьці Андрэя шмат гучала ад сяброў і рэдактараў парад: "Гэта ня трэба, гэта папраўць, гэта ня так!" Ён усім адказваў аднолькава: "Мне дух дыктуе!" Праўда, было і такое, зь 1990 г. паэт даў мне эксклюзіўнае права правіць яго вершы, але ў канцы жыцьця забараніў гэта рабіць".* Шчыра скажу, тое, што друкавалася ў дзяржаўных выданнях і, па ўсім відаць усё ж сям-там правілася рэдактарамі, чытаецца чысцей, мілагучней і лагічней, нават маючы на ўвазе метафарычную *лагічнасць* яго вершаў. У кніжцы ж (аўтарскім арыгінале) шмат якія вершы падаюцца (прынамсі, мне) недастаткова дагледжанымі і дапрацаванымі. Мяркую, калі б паэт быў жывы, то большасць іх паэтычных хібаў сёння была б ім выпраўлена, а некалькі вершаў і ўвогуле зnative з друку. Бо нават пры сваім супярэчлівым і непадатлівым характары Андрэй унутры сябе быў чалавекам адэкватным нават у невытлумачальных мастацкіх рэчах. Я пра гэта кажу, каб раптам людзі, да якіх выпадкова патрапіць кніжка, не бурчэлі, не строілі пыхі ды іроніі, чытаючы яе.

Бо як знакавая праява свайго часу кніжка ўсё ж вартая, а да ўсяго яна толькі пачатак таго мажлівага мастацкага плёну, які вымалёўваўся паэтам на будучыню, сыходзячы з яго творчага паэтычнага патэнцыялу і таленту...

Паспрабую аддалена-дыстанцыйна паразважаць як пра асобу паэта, так і пра яго творчы набытак. Два ці тры разы мне давялося коратка сустракацца з Андрэем Пяткевічам у Мінску, у Доме літаратара, куды ён заглядваў, завітваючы ў рэдакцыю "Першацвета", ды ў лімаўскіх калідорах. Дробны фігурай, але катэгарычны і яршысты. З ім не выпадала спрачацца, бо нейкая ўнутраная спагада да яго пераважвала ўсе твае аргументы супраць яго... Памятаю, ён даволі жорстка раскрытыкаваў адзін з маіх вершаў, што з'явіліся ў нейкім выданні. А я тады якраз быў у паэтычным фаворы, і ён тое ведаў. Але як чалавек даволі самакрытычны я не даў разгуляцца ягонаму напору, адразу ж з ім пагадзіўшыся: маўляў, так, так, схібіў, халера... Увогуле, пра Андрэя гаварылі больш як пра неардынарную асобу, а не як пра выбітнага творцу. Гэта яго, безумоўна, чапляла. Здаецца, вось тады недзе і распавялі мне (ці не Ю. Гумянюк) пра выдрукаваны яшчэ ў 1990 годзе ў адной з райгазет на Гарадзеншчыне верш А. Пяткевіча. Просты лірычны вершык. Але, як аказалася пасля, насамрэч – дысідэнцкі акравеш. Ды які!

**К**алі вясёлы гоман птушак
**П**ачне вітаць свой новы дзень,
**С**амоты пазбягаць я мушу,
**С**паткаўшы сонечны прамень.

**Н**ад наваколлем уздымуся,
**А**дчуўшы вольную душу.
**Ш**укаць пайду свой лёс у скрусе,
**В**азьму ды вершык напішу.
**О** новы дзень, ты зноў вярнуўся,
**Р**ассыпаў промні на раллі.
**А** там далёка ў завірусе
**Г**арацъ пакінутыя дні.

Нехта даймеўся прачытаць яго: КПСС НАШ ВОРАГ, – і пайшло-паехала. Розгалас быў вялікі. Калі б тое здарылася на некалькі гадоў раней, то рэдактара, само сабой, звольнілі б, а аўтар сядзеў бы ў турме ці ў псіхушцы. Ды і падчас вучобы ва ўніверсітэце ён, як кажуць, паказваў свой характар. Чытаў са сцэны вершы антыбальшавіцкага кшталту, выводзіў на чыстую ваду некаторых партыйных выкладчыкаў. Былі ў яго "стасункі" і з КДБ. Кінуўшы вучобу, Андрэй з'ехаў назад у вёску, жыў на інвалідную пенсію, зрэдку зарабляў капейчыну зборам зёлак для аптэкі. Ды што казаць, нярэдка бываў ён адчайным чалавекам. І пры гэтым справядлівым, вядома, на свой погляд і разуменне, хоць апаненты былі іншай думкі. (Ю. Пацюпа пісаў аднойчы, што *"Для Андрэя Пяткевіча кінізм быў пэрманэнтным палітычным бунтам супраць таталітарнае дзяржавы, патаптаньнем нормаў філістэрскага грамадзтва. Ён, пісьменьнік, не цаніў пісанага слова, калі трэба было выбіраць паміж словам і ўчынкам... Ягоны кінізм уяўляў бунтарскі стыль паводзінаў і філязофскі лад жыцьця")*. Не зважаючы ні на што, іншым разам мне хочацца казаць пра яго, як пра своеасаблівы дыямент: *невялікі, але каштоўны.*

А зараз сама пагаварыць пра Андрэя Пяткевіча як пра паэта. Ну вядома, найперш спасылаючыся на яго пасмяротную кніжку "Шчаслівым сканаць". Адразу пра назву (яна таксама аўтарская). Гэта глыбока філасофскі выраз. Бо шчасце і скон, як кажуць, рэчы несумяшчальныя. Але ў сваёй безвыходнасці (ведаючы пра непапраўную хваробу сэрца) нашаму паэту нічога іншага не заставалася, як найхутчэй зблізіць гэтыя несумяшчальнасці, калі не фізічна, дык духоўна. Каб бязлітасная смерць не заспела яго непадрыхтаваным – у поўным бязладдзі і роспачы жыцця... Хацелася гармоніі... вечных слоў і жыватворнай музыкі, якія дадуць яму шанц на творчае выжыванне... у будучыні... Хоць, чытаючы загалоўны верш кнігі "Gredo", нельга не адчуць і тое выспяваючае ў свядомасці паэта дэмакратычнае "противление злу" і патрыятычную рыторыку перабудоўчага часу:

На каленях перад грамадствам стаяць,
Пакланяцца абсурдным канонам.
Вобзем грымну пакоры карону,
Каб шчаслівым сканаць.

Асаблівасць натуры накладвалася на ідэйныя павевы ў грамадстве і падвойвала моц ягоных творчых памкненняў. Андрэй быў няшчадны да камуністычнай ідэалогіі і яе антычалавечнай спадчыны, што выявілася са страшнай сілай падчас публікацый некаторых дакументаў з дзяржаўных архіваў і асабістых мемуараў, што прыхоўваліся да пэўнай пары. Ды і на свае вочы як выходзец з вясковай правінцыі, сам чалец калгаса, ён сутыкаўся з тым савецкім ладам жыцця, што грунтаваўся на "маральным кодэксе будаўніка камунізму". І што цікава, пры гэтым не адасабляў сябе ад савецкай гаротнай і "светла-камуністычнай" агульшчыны:

Я прыехаў у светлае заўтра
На галодным калгасным кані.
На падмостках пустога тэатра
Зорны промень збіраў камяні.
Я прыехаў. Адкуль? І навошта?

Гэта скажуць пустыя тамы.
Заўтра светлае – голад і вошы.
Гэта мы, камуняцкія мы.

Ён вельмі любіў сваю малую радзіму, бацькаўшчыну, як бы між іншым пішучы: *“Ну й няхай пайдуркі ходзяць па свеце, /Мне яны не перашкодзяць нюхаць суквецці”*, таму што *“Навасады... Куточак самы лепшы /Для стомленай прыгодамі душы”...* Традыцыйна-класічная беларуская лірыка, якая раптам напаўнялася авангарднымі, смелымі метафарычнымі адкрыццямі:

Цьвік забіў у неба,
Падвесіў на ім трусы.
Прыйдзе сюды Ева,
Мокрая ад расы.

І сам жа здзіўляўся такому, маўляў, *“цікава, а як будуць далей /каметы з травой размаўляць?”*, падразумяваючы і закладваючы ў падтэкст верша лагічна выцякальнае пытанне: а як у будучыні будуць размаўляць паэты з чытачамі?..

У творчасці А. Пяткевіча заўважна яго паслядоўная прага пазбегнуць паэтычнага застою, паўтараючыся і ўпісваючыся ў шэрыя шэрагі членаў саюза, што працягваюць прапісі савецкай літаратуры. Ён шукаў іншасці, не забываючы пра асабовасць. Іншым разам гэта выглядала наіўна і прымітыўна:

Калейдаскоп гукаў і сэнсу –
Мой мадэрновы верш.

Зрэшты, ён і сам тое разумеў, бо, счакаўшы, разгублена пытаўся: *“Ізноў пішу свае вершы. /Навошта пішу?”*, а пасля ўсё ж падпарадкаваўся свайму таленту: *“Няхай нараджаюцца словы, /Ад іх не ўцячэш. /Схаваю ў кішэні свой новы / Бязьлітасны верш”*. У мяне як у чытача нярэдка ствараўся ўражанне, што верш для Пяткевіча рэч амаль фізічная, напраўду – як тое ўласнае дзіця, якое можна пагладзіць па галоўцы ці гулліва пляснуць па ружовай попе. Можна ў яго вершах знайсці і прыцярушаныя, аднак дарэшты не прыхаваныя сляды паэтычнай вучобы ў нашых класікаў, блізкіх Пяткевічу сваім жыццёвым вопытам.

Падаюць сьняжынкі
На радкі-памеры.
У чырвоным жыце
Васількі памерлі.

Тут адразу пазнаецца асацыяцыя з М. Багдановічам (“Апокрыф”) пра жыта і васількі – сілу і красу, а стылістыка і памер верша нагадвае помную яшчэ са школы паэтыку Паўлюка Труса, зямны век якога Пяткевіч перажыў на чатыры гады. Вось яшчэ адзін прыклад трусавай паэтыкі:

Ачапілі хмаркі кволыя дажджынкі,
І упалі кроплі на мае сьляды,
На палі сухія, і на хаты-скрынкі,
І на пыл чырвоны Чорнае бяды.
..............................................
Адпусьці на волю мары-летуценьні,
Хай ляцяць у край той, дзе бяды няма.
Сам жа заставайся спажываць праменьні.
Палыном зачахне Беларусь-турма.

Але ў гэтым вершы мы ўжо вычуваем боль ад нядаўняй аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Як бачым, паэт адгукаўся на любую трагічную падзею ці

то грамадскага, ці то ўласнага жыцця. Відаць, адсюль і спроба стварыць карціну магчымага апакаліпсісу ці Армагедона, як у наступным вершы:

Доўгая цягне да неба дарога,
А па дарозе нікога-нікога –
Косьці людзей і глухія сьляды,
А ля дарогі квітнеюць сады,
Дзе узыходзяць радамі гады.
А на дарозе вартуюць шкілеты
Тайну сьвятую, і ў велічы гэтай
Столькі чароўнай, няўладнай красы.
Сонца у кроплях крывавай расы.
Дыбам ад жаху ўстаюць валасы.

Лірыка, альбо скажам, *паэзія чыстай красы* займае ў творчасці паэта не так шмат месца, асабліва што тычыцца інтымнай тэматыкі, прынамсі, у гэтым зборніку. Але калі яна ўсё ж вымыкае вонкі з элегічнай душы паэта, то пранізвае сваімі мілажальнымі флюідамі чытацкія сэрцы:

Вусны да вуснаў. І зноў на Зямлі
Лета маленькае ў нашым пакоі.
Пахне твой цень васількамі і хвояй.
Мы гэты дзень нияк проста знайшлі.
Час непрыкметна спаўзае ў пясок.
Цела адчуе чаканы прытулак.
Ты прынясеш ад натхненьня ратунак.
Час адзіноты у вусны уцёк.

А якія малюнкі прыроды, хоць таксама нячаста, выяўляюцца з-пад пяра А. Пяткевіча: *“Узлесак разьліўся зялёным чарнілам. /Зубастая цемра зьядае траву”,* забіраюць увагу і новаадроджаныя словы ў некаторых вершах: *“ламарня”, “транткі”, “пабуднік”*...

Нельга абысці й пытанні эўрыстыкі, альбо, назавём тое больш спрошчана, богашукальніцтва. Шчыра кажучы, стаўленне да Бога ў Андрэя Пяткевіча неаднaзначнае. Ён – не безумоўны вернік, але, безумоўна, ён – *сын* Божы, які спрабуе весці дыялог з *Бацькам*, маючы свае прэтэнзіі не толькі на словы, але і да самога Слова... І нават сатана ў гэтым не апошні яго калега і... супернік...

Сатана ператворыцца ў Бога.
Бог пяройдзе мяжу сатаны.
І адзіная ў свеце дарога
Не да Неба вядзе – да маны.

Гэта можна было б назваць блюзнерствам, калі б не было іншых вершаў і іншых версій і палемічных пошукаў зямной ісціны і паднебнай існасці. Як у гэтай страфе:

А зьверху, там дзе зоры Бога,
Мігне агідны нейкі твар.
І больш нікога, больш нічога:
Ні добрых слоў, ні Духа злога –
Адзін зьнявечаны сьвятар.

Чытаеш адчайныя радкі: *“І неба – такая ж турма”*, бо *“На каленях наканавана Богу служыць”*. Але: *“Рабом Бога глухога ня буду”* (а вось чулага Бога, які адгукаецца на стомлены стук чалавечага сэрца – так; і Бог усё ж паўсюль у Андрэя пішацца з вялікай літары), пакуль не выкажа канчатковага сцвярджэння: “*Тут*

*Божы рай”* (на бацькаўшчыне). Ну і сам акорд завяршальнага верша кнігі дае нам падставы для несумненнасці ў Вышняй веры паэта, бо ў што і ў каго яшчэ можна верыць, застыўшы над бяздоннем вечнасці?! – *“У полымі /Недасягальны Бог”.*

Але менавіта на “боскай несправядлівасці” грунтуецца экзістэнцыя паэзіі А. Пяткевіча. Бо ён як чалавек, які дачасна ведаў пра трагічнасць свайго жыцця і які штодня адчуваў прахалодна-таемны подых смерці, не мог не мысліць сябе закладнікам зямнога часу:

Ізноў на зямлю падае дождж.
Ноч уся мокрая ад вады.
Ты мне мінулае не прароч,
Лёс, поўны радасьці і бяды.
Дажджынкі ціхую песьню пяюць.
Толькі самота стаіць над душой.
Хіба для гэтага жыў, каб адчуць –
У сьвеце адна рэчаіснасьць – боль.

Калі чытаеш такія радкі, як *“У зіму мой прытулак пабег. / Там жыву я, і ў лета ня веру”, “Дабяжы да мяжы /І ўпадзі на мяжы”, “Тут забілі нашы душы”, “Вось ізноў сустрэнемся /Ля таго крыжа”, “І самае лепшае выйсце – у змрок”*, то адназначна адчуваеш вусцішнасць унутранага жыцця трагічнага па сваёй сутнасці паэта. І яго нязбытнае запаветнае жаданне:

І няхай украдуць ад мяне ніткі вобразных думаў
Тыя малпы, якія заўсёды плююць на падлогу.
Я шукаю ў кнігарнях сьляды адзічэлага Духа,
Каб навюткім ключом адамкнуць залатую дарогу.

Хочацца спытаць: куды? Але – няма ў каго...

На вялікі жаль, паэт адышоў так рана і пакінуў не так многа літаратурнай спадчыны. Да таго ж яна (і далёка не ўся) пакуль вядомая не надта шырокаму колу чытачоў. Аднак жа не выпадае казаць, што гэта проста выпадковыя запісы на палях беларускага літаратурнага працэсу. Не. Была асоба, быў талент – і засталася паэзія. Трэба толькі сабраць рассеянае і адвеяць зерне ад паловы – пакінуць ужо згаданыя мною вышэй васількі ў жыце...

Такія вось суб’ектыўныя развагі выклікала гэтая пасмяротная кніжка паэта. І хацелася б усё ж некалі пачытаць зборнік выбраных і прафесійна адрэдагаваных вершаў Андрэя Пяткевіча (і тых, якія друкаваліся ў свой час у розных выданнях, і тых, якія, спадзяюся, захаваліся ў шуфлядах яго блізкіх, сяброў і калег). Юрась Пацюпа паабяцаў гэта чытачам у сваёй уступнай нататцы – выбранае і нават поўны збор твораў і лістоў. Хацелася б верыць, не зважаючы на тое, колькі часу ішла ў свет абгавораная тут пасмяротная кніжка. Бадай, толькі тады – пасля поўнага творчага ўваскрашэння – і можна будзе сказаць, што паэту ў нейкай меры ўсё-ткі ўдалося сканаць шчаслівым...

А скончыць сваю гаворку хачу шчымліва-развітальнай страфой з безназоўнага верша Андрэя Пяткевіча, які не ўвайшоў у гэтую кніжку, хоць таксама датаваны 1990 годам:

А вершы аддам толькі рэху,
Мне часам іх так не стае.
Бывайце, сябры. Я паехаў.
Сляды пацалуйце мае.

# Замова ад рабства

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. Выпуск 5. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 240 с.**

Пабачыў свет новы выпуск выдання, якое прадстаўляе літаратурнае жыццё Магілёўшчыны і выдаецца Магілёўскай абласной філіяй Саюза беларускіх пісьменнікаў. Проза, паэзія, пераклады, мініяцюры, запісы, успаміны, крытыка і літаратуразнаўства, матэрыялы да юбілеяў Міхася Булавацкага, Івана Бурсава, – гэты нумар “Брамы” выяўляе самы шырокі жанравы і тэматычны дыяпазон, рэпрэзентуе аўтараў розных пакаленняў – ад пачаткоўцаў да старэйшын рэгіянальнага друку. На вокладцы пазначаныя імёны 26 аўтараў, чые творы размешчаныя ў зборніку. Прадмову да выдання напісаў сябар рэдакцыйнай рады, паэт, даследчык Сяргей Украінка.




**Васіль Жуковіч. Замова ад рабства. – Мінск: Каўчэг, 2017. – 152 с.**

Новая кніга Васіля Жуковіча яшчэ ёсць чарговым пацверджаннем той дзівоснай якасці добрай паэзіі, калі ў адным зборніку вершаў можа быць такая канцэнтрацыя самых розных, вострых, часам балючых праблемаў жыцця. Найбольш хвалюе аўтара будучыня роднай краіны. Шмат старонак кнігі прысвечана “мужным і мудрым сынам Бацькаўшчыны” – ад Касцюшкі і Каліноўскага да Пісьмянкова і Гілевіча. Асобная нізка мае назву “Ніне Мацяш – у іншасвет”.

*...Ты не маркоць душу трывогай,*
*За дзень пражыты дзяку Богу,*
*Зашмат назаўтра не прасі,*
*Спакойна кроч сваёй дарогай*
*І радасць бліжняму нясі.*




**Алег Мінкін. Мяне тут не было... / уклад. М. Скоблы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 102). – 276 с.**

Новая кніга віленскага беларуса Алега Мінкіна – збор найлепшых ягоных твораў у лірыцы, кароткай прозе і перакладах. Сёлета спадар Алег стаў першым лаўрэатам літаратурнай прэміі Міхася Стральцова – “за метафарычнае багацце паэтычнай мовы, за тэматычную і метрычную разнастайнасць радка, за захаванне чысціні стылю і

класічных традыцый літаратуры”. Віншуем аўтара і беларускага чытача з выдатным выданнем!



**Пітэр Пэн / Джэймс Мэцью Бары; пер. з англю Уладзь Лянкевіч; маст. Кацярына Дубовік. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. Падсерыя “Каляровы ровар”; вып. 20. Бібліятэка часопіса “ПрайдзіСвет” “PostScriptum”). – 192 с.**

Гэта першы пераклад на беларускую мову самага знакамітага твора англійскага пісьменніка Джэймса Мэцью Бары пра хлопчыка Пітэра і чароўную краіну Неверляндыю, у якой ён жыве, пра тое, як туды трапілі Вэндзі, Джон і Майкл — дзеці з нашага свету, — і пра прыгоды, якія іх там напаткалі. Кніга аздоблена аўтарскімі ілюстрацыямі мастачкі Кацярыны Дубовік. “Пітэр Пэн” — не з тых кніг, якія збіраюць пыл на паліцах. Яе пачынаеш любіць у дзяцінстве, але з цягам часу разумееш усё глыбей. Як адзначыў перакладчык кнігі Уладзь Лянкевіч, гэта гісторыя, вартая таго, каб пераасэнсоўваць яе дарослым. Менавіта таму яна настолькі прыдатная да чытання ўголас – і дзеці будуць рады, і бацькі не засумуюць.




**Усевалад Сцебурака. Сны дарог. Мінск: Медысонт, 2017. – 64 с.**

Густоўна выдадзены і невялікі аб‘ёмам, гэта трэці зборнік вершаў Усевалада Сцебуракі. Зборнік мае два раздзелы – “Вуліцы сталіцы” і “Сцяжыны правінцыі”. Пейзажныя замалёўкі суседнічаюць з творамі іранічнай скіраванасці. Асобнае важкае месца займаюць патрыятычныя вершы. Скрозь увесь зборнік праходзіць тэма любові – да жанчыны, да сяброў, да роднага краю. Кніга мае прысвячэнне: “Родным па духу і крыві”.

*...Дарэмна Пётр стаіць ля брамкі ў Раі,*
*ніхто з нас не паверне й галавы.*
*Мы застаемся прывідамі ў краі,*
*ў добраахвотных вечных вартавых.*
*І калі зноў падымуцца шыхтамі*
*паны, мяшчане, шляхта, мужыкі –*
*апошні застанецца бой за намі,*
*як воля у Айчыны на вякі!*

# Нашыя аўтары

**Алексіевіч Святлана** — празаік, драматург, публіцыст. Аўтарка дакументальна-мастацкіх раманаў «У вайны не жаночы твар», «Цынкавыя хлопчыкі», «Зачараваныя смерцю», «Чарнобыльская малітва», «Час сэканд-хэнд (Канец чырвонага чалавека)» і інш. Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры (2015). Нарадзілася ў 1948 годзе ў Івана-Франкоўску (Украіна). Жыве ў Мінску.

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Ахроменка Уладзіслаў** – празаік, драматург. Аўтар кніг «Здані і пачвары Беларусі», «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве», «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (усе – у суаўтарстве з Максімам Клімковічам), «Тэорыя змовы», «Музы і свінні» і інш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску і Чарнігаве.

**Бібіла Юлія** – бібліёграф. Склала бібліяграфію твораў Ц. Гартнага. Апублікавала матэрыялы да біяграфіі Цёткі. У 1930-я гады была рэпрэсаваная і высланая за межы Беларусі. У 1937—59 гг. была галоўным бібліёграфам бібліятэкі Саратаўскага ўніверсітэта. Вярнулася ў Мінск у 1959 годзе. Працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. Нарадзілася ў 1897 годзе ў мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл.). Памерла ў 1974 годзе ў Мінску.

**Вішнёў Зміцер** – празаік, паэт, мастак. Аўтар кніг «Штабкавы тамтам», «Тамбурны маскіт», «Трап для сусліка, альбо Некрафілічнае даследаванне аднаго віду грызуноў», «Верыфікацыя нараджэння», «Фараон у заапарку», «Замак пабудаваны з крапівы», «Шоргат жукоў», «Спітыя баркасы». Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Дэбрацэне (Вугоршчына). Жыве ў Мінску.

**Вольская Янка** – празаік, паэтка. Скончыла ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці менеджмент міжнародных культурных сувязяў. Лаўрэатка конкурсу Беларускага ПЭН-цэнтру да 100-годдзя Л. Геніюш (2010). Выдала аздоблены музычна альбом вершаў «Год за годам». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** – паэтка, перакладчыца, лінгвістка. Аўтарка кніг «Няголены ранак», «Прысак і пожня», «Сумны суп», «(в)ядомыя гісторыі» і інш. Стыпендыятка міжнародных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў (Аўстрыя, Нямеччына, Латвія, Швейцарыя), удзельніца шматлікіх міжнародных канферэнцый і літаратурных фестываляў (Славенія, Германія, Чэхія, Швейцарыя, Польшча і інш.). Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гарачка Усевалад** – паэт. Адзін са стваральнікаў літаратурнага руху «Бум-Бам-Літ». Аўтар кніг «Пралетарскія песні», «Даты», «Багі і героі». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў вёсцы Юцкі на Дзяржыншчыне. Жыве ў Фаніпалі.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг паэзіі «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які немагчыма забараніць». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі», «Дзяцел і дупло» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Кабаясі Іса** (яп. 小林一茶) — японскі паэт, майстар хайку (1763–1828). Паэзія Іса вызначаецца скарыстаннем асабістых матываў, дзіцячай простасцю, ужываннем мясцовых дыялектаў. Аўтар больш як 20 000 вершаў і вялікай колькасці малюнкаў *хайга*. Найбольш вядомыя зборнікі яго твораў – «Дзённік смерці майго бацькі» і «Мая вясна».

**Качаткова Паліна** – празаік, публіцыст, журналіст. Даследчыца творчасці Максіма Багдановіча. Апавяданні друкаваліся ў «ЛіМе»,

«Нашай ніве» і іншых выданнях. Аўтарка кніг «Матылі», «Гняздо-2». Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы, дзе і жыве.

**Клімковіч Максім** – празаік, драматург. Аўтар кніг «Здані і пачвары Беларусі», «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве», «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (усе – у суаўтарстве з Уладзіславам Ахроменкам). Аўтар п'ес «Віта Брэвіс, ці Нагавіцы Святога Георгія», «Вольная сцэна», «Чорны квадрат», (у суаўтарстве з Міраславам Адамчыкам) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годдзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Корань Вадзім** – філолаг, паэт. Скончыў факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка, аспірантуру пры Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Асноўная сфера інтарэсаў – літаратура Беларусі XVII–XVIII стст. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кудасава Наста** – паэтка. Аўтарка кніг «Лісце маіх рук», «Рыбы», «Маё невымаўля». Лаўрэатка прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра «Кніга году–2016». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове, дзе і жыве.

**Лявонава Ева** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка больш за 500 навуковых публікацый, у тым ліку кніг «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў», «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт», «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры», «История австрийской литературы XX века: В 2 т.», «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия», «Беларускае мастацтва слова XX ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце» і інш. Нарадзілася ў 1953 г. у вёсцы Ноўкі на Крычаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Міхно Уладзімір** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Горкі зефір», «Азартныя гульні». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Чэрцы на Лепельшчыне. Жыве на Лепельшчыне.

**Наркевіч Алесь** – паэт, бард. Аўтар кнігі вершаў «Аднойчы перажыць жыццё». Браў удзел у фэсце бардаўскай песні «Аршанская Бітва», дзе ў 2004 годзе атрымаў галоўны прыз. У тым жа годзе ўдзельнічаў у конкурсе «Бардаўская восень» у Бельску-Падляшскім. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Вілейцы, дзе і жыве.

**Паўлавец Вячаслаў** – мастак. Лаўрэат прэміі прафасаюзаў Беларусі (2001). Працы знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Гісторыка-археалагічнага музей (Гародня), Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаруры, у прыватных коалекцыях Беларусі, Германіі, Італіі, Латвіі, Вялікабрытаніі, Расеі, ЗША. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў горадзе Бійску (Алтайскі край). Жыве ў Мінску.

**Плакс Дзмітрый** – паэт, перакладчык, мастак. Аўтар кніг «Жара», «Трыццаць тэкстаў», «ОМ», «Если бы я был», «Трыццаць тэкстаў» і інш. Лаўрэат прэміі шведскай акадэміі за распаўсюд шведскай культуры ў замежжы. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Стакгольме.

**Рагін Яўген** – журналіст, публіцыст. Супрацоўнік тыднёвіка «Культура». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў горадзе Ветка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўскі Сяргей** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «Ў, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца», «Мамін шэпт пад абразамі». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Сідарук Ігар** — паэт, драматург, празаік. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Жыве ў Кобрыне.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Упстад Стэйнар** – нарвежскі паэт. Першы зборнік вершаў выйшаў у 1996 годзе і адразу быў уганараваны прэміяй Тар'ея Весаса за найлепшы дэбют. Лаўрэат больш як дзесяці скандынаўскіх літаратурных прэмій, сярод якіх Прэмія Аскехё, Прэмія імя Германа Вілдэнвэя, Прэмія Дублуга Шведскай Акадэміі і інш. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў Стуке (Нарвегія). Жыве ў Осла.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

### Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2017 годзе:

***<u>«Проза».</u>*** **Андрэй ФЕДАРЭНКА. За Апавяданне “Вандроўка“, №90.**

***<u>«Паэзія».</u>*** **Анатоль БРУСЕВІЧ. За нізку вершаў “Апошні паэт”, №90.**

***<u>«Дэбют».</u>*** **Марына БУЛАТОЎСКАЯ. За два апавяданні “Бедная Марына”, №86.**

***<u>Прэмію «За высокі ўклад у развіццё сучаснай беларускай літаратуры»</u>*** **атрымаў Алесь РАЗАНАЎ.**






**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў!**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» выкарыстоўваюцца фотаздымкі:

Рольфа М. Аагарда, Івана Бесера, Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова,
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі,
Віктара Стралкоўскага, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.